Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



2 (72)

Люты.

1959.

Год выдання VII.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 16,25. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 02728. Здадзена ў набор 31.XII.58 г. Падпісана да друку 4.II.59 г. Заказ 711.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# НОВЫЯ, СВЕТЛЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

27 студзеня 1959 года...

Гэта дзень, якога ўсе чакалі, да якога з натхненнем рыхтаваліся ўсе савецкія людзі. Ён увойдзе ў гісторыю, як прадвесне шчаслівай будучыні чалавецтва.

27 студзеня ў Маскве, у Крамлі, адкрыўся нечарговы XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — з'езд будаўнікоў камунізма. У светлай зале Вялікага Крамлёўскага палаца сабраліся дэлегаты, якія прыбылі з усіх канцоў нашай неабсяжнай Радзімы,— цвет партыі і народа, людзі вялікай школы бессмяротнага Леніна, аб'яднаныя адзінай мэтай — пабудаваць на савецкай зямлі камунізм, пра які марылі лепшыя розумы чалавецтва.

На з'ездзе прысутнічалі шматлікія зарубежныя госці — прадстаўнікі 70 братніх марксісцка-ленінскіх камуністычных і рабочых партый. Яны прыбылі ў Маскву з усіх канцоў свету,— пасланцы вялікага Народнага Кітая і іншых сацыялістычных краін, госці з Азіі і Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі.

З'езд абмеркаваў і зацвердзіў кантрольныя лічбы развіцця народнай гаспадаркі Савецкага Саюза на 1959—1965 гады, выкладзеныя ў дакладзе Першага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова, прыняў велічную праграму разгорнутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне.

Грандыёзныя планы новай сямігодкі, якую зацвердзіў з'езд, — гэта новае яркае выражэнне ленінскай генеральнай лініі партыі на сучасным этапе камуністычнага будаўніцтва. У бліжэйшыя сем год яшчэ багацейшай і магутнейшай стане наша краіна — радзіма камунізма, непазнавальна вырасце матэрыяльны і культурны ўзровень савецкіх людзей.

«Сямігоддзе, у якое мы ўступілі, — гаварыў на XXI з'ездзе КПСС Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, — гэта новы важны, можна сказаць, рашаючы рубеж на шляху гістарычнага развіцця нашай краіны. Камуністычная партыя, увесь савецкі народ поўныя цвёрдай упэўненасці, што яны возьмуць і гэты рубеж і выйдуць на шырокае плато, і тады адкрыюцца новыя прасторы, тады будзе лягчэй ісці ўперад. Перад намі ясная і высокародная мэта. Для дасягнення гэтай мэты трэба добра папрацаваць. Такая праца ўзвышае чалавека, прыносіць яму задавальненне і шчасце».

Мы жывем у цудоўны час. Самааддана, натхнёнай працай савецкіх людзей, пад мудрым кіраўніцтвам роднай Камуністычнай партыі ператвараюцца ў жыццё самыя смелыя мары чалавецтва. Многія пакаленні людзей марылі аб шчаслівай будучыні, аб такім грамадстве, дзе не будзе багатых і бедных, дзе не будзе прыгнёту,— аб камунізме.

У нашай краіне цяпер камунізм стаў практычнай справай, надзённай задачай сённяшняга дня. Савецкія людзі, узброеныя велічнымі лічбамі новага сямігоддзя, баявой праграмай, якую выпрацаваў XXI з'езд КПСС, пад кіраўніцтвам свайго выпрабаванага і бясстрашнага руляво-



Група дэлегатаў XXI з'езда КПСС ад партыйнай арганізацыі Беларусі. На здымку (злева направа): электразваршчыца вагоннага дэпо Гомель А. Д. Панькова, сталявар Мінскага аўтазавода Д. І. Барашкін, старшыня калгаса «За Радзіму» Гомельскага раёна П. Н. Кавалёва старшыня калгаса імя Чапаева Лепельскага раёна І. Ф. Шкацёнак, брыгадзір муляраў будтрэста № 1 г. Мінска Герой Сацыялістычнай Працы М. К. Макарэвіч.

га — слаўнай ленінскай партыі камуністаў, смела і ўпэўнена, пераадольваючы ўсе перашкоды, крочаць наперад, да яснай мэты.

У першых радах разведчыкаў будучыні, як заўсёды, наша цудоўная моладзь, загартаваны ў баях і працы камсамол. Маладое пакаленне нашых сучаснікаў, якім выпала шчасце жыць і працаваць па-камуністычнаму, з гонарам апраўдаюць давер'е сваёй роднай маці — Камуністычнай партыі, зробяць усё, каб здзейсніць вялікія планы.

Не пашкадуем сіл і працы, каб хутчэй наблізіць цудоўную будучыню чалавецтва шчасця — камунізм!

# Гары, камсамольскі агеньчык!



Генадзі Сушко.

## ЧАС — НАПЕРАД!

Радасныя, хвалюючыя дні перажываюць савецкія людзі. Толькі што ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве закончыў сваю работу гістарычны XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Велічныя, сапраўды цудоўныя перспектывы адкрываюцца перад нашай краінай, дзівосныя далягляды наперадзе! Сэрца напаўняецца пачуццём гордасці за сваю вялікую Радзіму, сыноўняй любоўю да роднай Камуністычнай партыі, якая адкрыла нам гэтыя цудоўныя далягляды, дала нам гэтыя магутныя крыллі...

Два месяцы таму назад у невялікі пакойчык, так званы мой кабінет, не ўвайшоў, а ўбег камсорг нашага цэха Уладзімір Літвінаў. У руках ён трымаў «Комсомольскую правду». У яго быў

Камсамольскае жыццё

### ШАСЦЁРА З АДНОЙ СЯМ'І

Неяк сыны звярнуліся да бацькі.

— Тата! — сказаў старэйшы, Леанід, — надумалі і мы пайсці на будаўніцтва электрастанцыі. Рукі ў нас моцныя, сілы хапае...

Павел Цімафеевіч уважліва паглядзеў на сыноў — Леаніда, Уладзіміра, Змітрака і Піліпа, правёў рукою па хударлявым твары, быццам хацеў разгладзіць на ім глыбокія маршчынкі, і кіўнуў галавою. А потым коратка сказаў:

— Ідзіце. Будоўля пад бокам, чаму не папрацаваць!..

— А чаму пра нас забылі? — умяшалася раптам у размову адна з дачок — Ірынка. — Мы таксама пойдзем.

Яе падтрымала старэйшая сястра, Алеся. І бацька, здзіўлена развёўшы рукамі, здаўся.

Так з сям'і калгасніка сельгасарцелі «Новы свет» Паўла Ражкова выйшла шэсць маладых будаўнікоў Васілевіцкай ДРЭС.

Цяпер іншы раз Павел Цімафеевіч, управіўшыся са сваімі справамі на канюшні, тупае паціху ў Шацілкі. Зойдзе спачатку да электразваршчыкаў Уладзіміра і Леаніда, пастаіць, паглядзіць, як яны ўвішна арудуюць апаратамі, і скажа: «Бач ты, такая тэхніка! Раз-два і гатова!..»

Потым загляне да Аляксандры з Ірынкай. І яны

сярод лепшых! Арматуршчык Ірына Ражкова атрымала некалькі пахвальных грамат за сваю працу. Не адстае ад яе і мантажніца Алеся, і слесары Піліп і Змітро. Яны ўсе выконваюць па дзве нормы.

Ганарыцца бацька, што яго дзеці такія выдатныя будаўнікі, але стаіць на сваім, не хоча, каб дзеці яго забылі пра вёску.

— Вось пабудуеце электрастанцыю і зноў у калгас вернецеся,—выказвае думку Павел Цімафеевіч. — Нам цяпер таксама спецыялісты-электрыкі спатрэбяцца...

— А як жа, тата, вернемся, — згаджаюцца дзеці.

Над Палессем успыхнулі яркія агні Васілевіцкай ДРЭС. У гэтых агеньчыках ёсць і энергія шасцярых сыноў і дачок палескага калгасніка Паўла Цімафеевіча Ражкова.

## ВЯСНЕ НАСУСТРАЧ

У 1957 годзе Аня Рыбачонак скончыла сярэднюю школу з медалем. Перш, чым ехаць на вучобу ў інстытут, яна рашыла папрацаваць у родным калгасе «Палітаддзелец». Ёй дaручылі адказную, нялёгкую справу — кукурузаводчае звяно.

Першая заяўка на працоўную сталасць вытрымана: звяно Ані ў першы год атрымала рэкордны ўраджай кукурузы па 900 цэнтнераў з кожнага гектара.

Цяпер Анна Рыбачонак і яе сябры-камсамольцы пабаявому рыхтуюцца да новай вясны. У іх шмат клопатаў: трэба і ўгнаенні вывезці, і насенне падрыхтаваць, і падмацаваць свае веды ў агратэхніцы.

Камсамольцы ўзялі і сёлета высокія абавязацельствы — вырасціць не менш, як па 1 000 цэнтнераў кукурузы з кожнага гектара. У маладых кукурузаводаў цвёрдае рашэнне — утрымаць пераходны чырвоны сцяг Лепельскага райкома камсамола, які яны заваявалі ў мінулым годзе.

На ўчастку зроблена снегазатрыманне. Усё поле застаўлена высокімі штабелямі торфагнойвага кампосту. Угнаенні яшчэ вывозяцца. Насенне ўжо ачышчана і праверана на ўсходжасць.

Дзяўчаты звяна Ані Рыбачонак рыхтуюць вясне дружную, камсамольскую сустрэчу.

## ТРЫНАЦЦАЦЬ ДРУЖНЫХ

Астраўно—маленькі населены пункт на захадзе Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці. Тут у школе была створана вытворчая брыгада: трынаццаць дружных рабят узяліся за работу на калгасным полі. Аб тым, што пасеяць, спрэчак не было, — кукурузу.

— Які ж будзе ўраджай?.. Надвор'е стаіць не вельмі добрае,..— хваляваліся ўсё лета рабяты.

І вось прыйшла восень. Многа сакавітага сіласу для калгаснай жывёлы было на-

таки ўзрушаны выгляд, што я ўсхапіўся і хутка запытаў:

— Здарылася што-небудзь?

— А ты нічога не ведаеш? Дык вось, пачытай, — працягнуў Уладзімір свежы нумар «Камсамолкі». Людзі важную справу робяць, а мы сядзім, склаўшы рукі...

— Пачакай, — перабіў я Уладзіміра. — Як гэта нічога не робім? Толькі сёння рапартавалі аб датэрміновым выкананні плана, першынство ў цэху заваявалі, а ты кажаш, «склаўшы рукі»...

— Ды я не пра гэта, — перапыніў мяне камсорг. — Людзі пачалі спаборніцтва за права называцца брыгадамі камуністычнай працы. На маю думку, трэба і нам падумаць аб гэтым...

Падышоў групкамсорг участка наладчык Генадзі Дорфман, а таксама прафгрупорг Раман Герасімаў, аператар-камуніст Уладзімір Іваноў. Пасля кароткага абмену думкамі рашылі — мне ісці ў камітэт камсамола і партком, а астатнім пагаварыць з кожным рабочым, параіцца з людзьмі.

Так і зрабілі. У камітэце камсамола і ў парткоме горача падтрымалі наша імкненне ўключыцца ў спаборніцтва за права насіць ганаровае імя калектыву камуністычнай працы. Толькі папярэдзілі:

— Справа вялікая, сур'ёзная. З усімі рабочымі пагутарыце, парайцеся, а потым і рашайце...

І вось у абедзенны перапынак у маім «кабінеце» павярнуцца не было дзе. А людзі ўсё падыходзілі.

Сход быў бурны. Гаварылі аб поспехах. Але некаторым прыйшлося пачырванець. Асабліва дасталася наладчыку Уладзіміру Кокараву. І было за што. Не так даўно ён зрабіў прагул, а затым прыйшоў у цэх, як кажуць, «пад мухай». Прыйшлося не дапусціць да работы. Праўда, пасля размовы больш гэтага не паўтаралася.

— Мы наважылі спаборнічаць за ўчастак камуністычнай працы, — сказаў камуніст Іваноў. — Таму павінны рашуча змагацца з ганебнымі перажыткамі мінулага—п'янствам, марнатраўствам, хуліганствам, брыдкаслоўем!..

Дасталася і наладчыку Віктару Сціцло і яшчэ таму-сяму, хто спазняўся на работу.

На тым сходзе мы прынялі аднадушнае рашэнне — па прыкладу маскоўскіх камуністаў і камсамольцаў уключыцца ў спаборніцтва за права насіць імя калектыву камуністычнай працы. Наш дэвіз — заўсёды і ва ўсім апраўдваць ганаровае званне члена ўчастка камуністычнай працы, свядома аддаваць усе свае сілы, веды і энергію справе будаўніцтва камунізма, выхоўваць у сабе і сваіх таварышаў якасці членаў камуністычнага грамадства.



Мы ўзялі новыя абавязацельствы. Вось некаторыя з іх. Удвая павысіць прадукцыйнасць працы. Выпрацоўваць прадукцыю толькі выдатнай якасці, ліквідаваць брак. Беражліва адносіцца да абсталявання. Весці строгую эканомію металу і дапаможных матэрыялаў. Усім вучыцца, павышаць свой палітычны, тэхнічны і агульнаадукацыйны ўзровень. Быць прыкладам паводзін на вытворчасці і ў быту, весці рашучую барацьбу з перажыткамі мінулага. Акрамя таго, рашылі ў першым годзе сямігодкі ўнесці 10 рацыяналізатарскіх прапаноў. І нарэшце — кожны дзень здымаць з аўтаматаў звыш плана 5 тысяч штук дэталей.

Назаўтра я прыйшоў на работу за паўгадзіны да змены. Хоць і быў упэўнены, што ўсё будзе добра, што хлопцы не падвядуць, але трывожыўся. Не прайшло і пяці мінут, як пачалі збірацца рабочыя і наладчыкі.

— Ну як, майстар, не падвядзем? — ні то запытаўся, ні то прамовіў Юры Куркоў, зменны майстар, і дадаў: — Я спадзяюся, што мая змена дасць звыш плана шэсць тысяч дэталей...

За дзесяць мінут да пачатку змены ўсе былі на месцы. Абышоў я ўчастак, агледзеў рабочыя месцы — і на сэрцы стала спакойна. Такія хлопцы, як у нас, не падвядуць: як вырашылі, так і зробяць!

На наступны дзень падводзілі вынікі работы ўчастка. Усе былі радасна здзіўлены — замест пяці тысяч звышпланавых дэталей мы вырабілі 18 тысяч.

Першы поспех акрыліў, надаў упэўненасці ў свае сілы. Экзамен быў вытрыманы з гонарам.

У дні перадз'ездаўскай працоўнай вахты яшчэ больш узрасла творчая актыўнасць нашых наватараў вытворчасці. Яны далі шэраг цікавых і каштоўных удасканаленняў, накіраваных на павышэнне прадукцыйнасці працы, эканомію металу, аблягчэнне працы рабочых. Наладчык Генадзі Самсонаў прапанаваў сумясціць дзве аперацыі ў адну. Гэта дало значную эканомію часу. Наладчык Пётр Самец прапанаваў адну з дэталей апрацоўваць не прахадным, а фасонным разцом. Гэта не толькі ў паўтара раза павысіла прадукцыйнасць працы, але дае значную эканомію інструменту — замест трох прахадных разцоў наватар прымяняе адзін фасонны.

Укараненне ў вытворчасць адной маёй рацыяналізатарскай прапановы дае каля дзвюх тон эканоміі каштоўнага металу ў год. Сумесна з наладчыкам Аляксандрам Задорам мы надумаліся

Галя Маргоўцава.



рыхтавана на ўчастку брыгады. Кожны гектар даў у сярэднім па 940 цэнтнераў зялёнай масы.

За выдатную работу брыгада была ўзнагароджана Ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ. Атрымаць яе ў Мінску даверылі Галі Маргоўцавай.

Атрымаўшы Грамату, Галя, радасная і вясёлая, расказвала пра тое, як цікава прайшло лета.

— Нас жа было трынаццаць, — гаварыла яна. — Тыя, хто верыць у забабоны, лічаць гэты лік нешчаслівым. Смешныя людзі!..— І яна звонка засмяялася.

У гэты час і быў зроблены здымак, які змешчаны тут.

## КАМСАМОЛЬСКАЯ ЗМЕНА

Яны сядзелі за адным сталом, разам рыхтаваліся да заняткаў, і ў кожнай была аднолькавая мара — разам паехаць працаваць. Хоць куды, абы толькі іх не разлучылі.

І іх не разлучылі. Людміла Алексяёнак, Соня Шалуха, Галя Скопа і Маргарыта Кацельнікава пасля заканчэння Гродзенскай гандлёвай школы атрымалі накіраванне ў Віцебск.

— Вось каб яшчэ ўсім у адзін магазін трапіць... — непакоілася Галя.

Іх паслалі на працу ў адзін магазін.

З першага ж дня камсамолкі рашылі працаваць так, каб кожны пакупнік пакідаў магазін з задавальненнем. Аднойчы Маргарыта Кацельнікава выказала такую думку:

— Давайце, дзяўчаткі, назавем сваю змену камсамольскай.

Сяброўкі згадзіліся. І пачалося змаганне за права

скарачаць аперацыю пры апрацоўцы дэталей, што зберагае каштоўны час.

Цяпер наш участак трымае першынство ў цэху. Мы змагаемся за тое, каб быць першымі сярод другіх камсамольска-маладзёжных брыгад завода.

Працаваць па-камуністычнаму можна толькі пры ўмове, калі кожны рабочы, кожны член калектыву будзе вучыцца, удасканальваць сваё майстэрства. Гэта разумее кожны наш рабочы. Вось чаму няма цяпер на ўчастку ніводнага чалавека, які б не вучыўся. Адны ў вячэрніх, завочных інстытутах і тэхнікумах, другія ў школе рабочай моладзі, трэція ў гуртку па павышэнню тэхнічных ведаў. Скажам, я вучуся на вячэрнім аддзяленні ў машынабудаўнічым тэхнікуме, Уладзімір Жораў — у політэхнічным інстытуце, майстар Юры Куркоў — у політэхнікуме і г. д.

Законам нашага жыцця з'яўляецца дружба, таварыская ўзаемадапамога. Прыпамінаецца такі выпадак: некалькі месяцаў таму назад прышоў да нас на ўчастак дэмабілізаваны афіцэр Васіль Іваноў. Спецыяльнасці ў чалавека няма, а жаданне набыць яе — вялікае. Паставілі яго аператарам да аўтамата, дзе наладчыкам працаваў вопытны спецыяліст Кокараў.

Хутка паміж настаўнікам і вучнем завязалася дружба. Іваноў за кароткі час авалодаў спецыяльнасцю аператара. Але не толькі вучыўся дэмабілізаваны афіцэр камуніст Іваноў. Сваімі сціплымі паводзінамі, стараннасцю, прагнасцю да ведаў, культурай ён стаў прыкладам для многіх юнакоў і дзяўчат, а таксама і для таго ж Кокарава.

Наш участак вельмі адказны. Дастаткова сказаць, што на ім вырабляецца 195 назваў самых разнастайных дэталей да трактара «Беларусь». І недахоп хоць адной з іх можа затрымаць зборку. Раней часта то тая, то іншая дэталь аказвалася ў «дэфіцыце», з-за яе затрымлівалася зборка. Ды і паліцы ў кладоўцы былі амаль пустыя. Цяпер у нас па большасці дэталей амаль месячны запас, а па галоўных — тыднёвы. Гэта вынік творчай, самаадданай працы ўсяго калектыву.

Мы ўступілі ў спаборніцтва за права насіць ганаровае званне ўчастка камуністычнай працы. Мы добра разумеем, што зрабілі толькі першыя крокі па шляху да пастаўленай мэты. Наперадзе — шмат работы. Ёсць у нас і цяжкасці, будуць яны і ў будучым. Але мы смела будзем змагацца з імі, смела пойдзем насустрач будучыні, будзем старацца, каб сваёй самаадданай працай наблізіць яе прыход.

Натхнёныя гістарычнымі рашэннямі XXI з'езда КПСС, які намеціў велічную праграму будаўніцтва камунізма ў нашай краіне, мы не пашкадуем сваіх сіл, ведаў і здольнасцей для здзяйснення вялікай мэты.

**Генадзі СУШКО,**

**старшы майстар участка аднашпіндэльных аўтаматаў 3-га механічнага цэха Мінскага трактарнага завода.**





Алеся Мікалайчык.

# ВЯЛІКІ РАЗГОН

Заўсёды, калі ўпершыню ідзеш па новай, яшчэ няходжанай дарозе, яна здаецца табе доўгай, а хада — нялёгкай.

Памятаю, як некалькі год назад ішла я на жывёлагадоўчую ферму. Ішла, а на мяне глядзелі аднавяскоўцы і, здавалася мне, кожны з іх думаў: «Глядзі ты, Хвядосава дачка на кароўнік пайшла. Яшчэ ўчора ў школьнай форме

называцца лепшай зменай: змаганне за чысціню і парадак, за хуткасць і зладжанасць у рабоце. Калі Маргарыта бачыць, што ля аддзела Галі сабралася чарга, а ў яе нікога няма, яна хуценька бяжыць дапамагае ёй...

Камсамольская змена прадаўцоў з магазіна № 34, які знаходзіцца на ўскраіне Віцебска, з'яўляецца лепшай у гандлёвай сетцы горада. Дзяўчаты з месяца ў месяц выконваюць план, не маюць ніякіх заўваг у рабоце.

У гэты магазін пакупнікі ідуць ахвотна. Тут знойдзеш не толькі багаты выбар тавараў, але і ветлівае, культурнае абслугоўванне.

## У ПАХОД ЗА «ЖАЛЕЗНЫМ СКАРБАМ»

У заключным слове на снежаньскім Пленуме ЦК КПСС таварыш М. С. Хрушчоў заклікаў камсамол разгарнуць паход за збор новых мільёнаў тон металічнага лому для стварэння меліярацыйных машын, неабходных для асушэння і асваення забалочаных зямель.

Камсамольцы і моладзь Мінскага тонкасуконнага камбіната выступілі ініцыятарамі паходу за «жалезным скарбам». Яны вырашылі сабраць металалому на шэсць канавакапальнікаў. Сіламі маладых рабочых за кароткі час ужо сабрана 5 тон металалому.

У збор металалому ўключыліся камсамольцы і моладзь мотавелазавода, падшыпнікавага завода, завода «Ударнік», вучні 54-й і 31-й сярэдніх школ і іншых прадпрыемстваў і навучальных устаноў Мінска.

Камсамольцы і моладзь сталіцы абавязаліся прыняць актыўны ўдзел у паходзе за «жалезным скарбам» і са-

**браць у 1959 годзе 10 тысяч тон металалому для стварэння новай меліярацыйнай тэхнікі.**

**Цэнтральны Камітэт ЛКСМ Беларусі адобрыў пачын камсамольскіх арганізацый Мінска па збору металічнага лому ў фонд меліярацыйнай тэхнікі і абавязаў абкомы, гаркомы, райкомы ЛКСМБ, пярвічныя камсамольскія арганізацыі актыўна ўключыцца ў работу з тым, каб вярнуць народнай гаспадарцы ў 1959 годзе 40 тысяч тон металу.**

**У дні ўдарнага камсамольскага месячніка, які аб'яўлены ў рэспубліцы ў гонар XXI з'езда КПСС, камсамольцы і моладзь збяруць 5 000 тон лому чорных металаў.**

**Удзел камсамольскіх арганізацый у зборы металалому для стварэння новай меліярацыйнай тэхнікі — штодзённая баявая справа ўсіх камсамольскіх арганізацый у барацьбе за выкананне грандыёзных задач, намечаных у сямігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР.**

**ЦК ЛКСМБ у пастанове «Аб удзеле камсамольскіх арганізацый рэспублікі ў зборы металічнага лому для стварэння меліярацыйнай тэхнікі» лічыць гэтае заданне партыйным даручэннем для камсамольскіх арганізацый.**

## ШЭФЫ ШКОЛЫ

**— Возьмем шэфства над якой-небудзь школай, — прапанавала камсамолка Людміла Кулажанка, — дапаможам вучням авалодаць тэхнічнымі ведамі.**

**Камсамольцы параіліся і рашылі ўзяць шэфства над сярэдняй школай № 7. Неўзабаве маладыя рабочыя-мэблеўікі дапамаглі школьнікам абсталяваць майстэрні, падарылі ім неабходны інструмент. З ліку лепшых камсамольцаў былі вылучаны важатыя для школы.**

**У адным з цэхаў Рэчыцкага мэблевага камбіната будзе вучэбная майстэрня, дзе падшэфнікі будуць авалодваць новымі спецыяльнасцямі.**

бегала, а сёння ўжо халат апранула». Можа то быў папрок, а можа спачуванне — не ведаю, але сцежка, па якой я накіроўвалася ўпершыню на ферму, здалася такой доўгай і цяжкай, што міжвольна ўзнікла неспакойная думка: «А можа вярнуцца?» «Не! — рашыла я цвёрда. — Толькі наперад!»

Тады наш калгас пачынаў набіраць сілы. Асабліва адставала ў нас жывёлагадоўля. І там вунь як патрэбны былі маладыя, працавітыя рукі!

На ферме працавала тады некалькі камсамольцаў. Такіх, хто пайшоў бы ім на дапамогу, было нямала, і ў мяне ўзнікла думка: ці не зрабіць нашу ферму камсамольскай? Пайшла да старшыні калгаса Антона Сяргеевіча Волкава, расказала яму аб сваёй задуме. Той выслухаў мяне ўважліва, параіў, як і што зрабіць. Дапамаглі і работнікі райкома камсамола.

Пачалі гутарыць з моладдзю, і неўзабаве на ферме з'явіліся камсамольцы Соф'я Лёгенькая, Валянціна Кабец, Пятро Бабчонак і іншыя. Так стварылася камсамольская група на ферме. Групоргам выбралі мяне. Мы адразу ўзялі ў свае рукі кантроль за кармамі, навялі чысціню і парадак у памяшканнях, разгарнулі работу з жывёлаводамі. І справы прыкметна палепшыліся.

У мінулым годзе жывёлаводы перавыканалі гадавую сацумову, атрымаўшы ад кожнай каровы больш як па 2 100 кілаграмаў малака. Даяркі Соф'я Лёгенькая і Люба Бабчонак заваявалі першынство — яны атрымалі па 2 500 кілаграмаў.

Мінулы год прынёс нам і яшчэ адну вельмі важную падзею. Мы даведаліся аб патрыятычным пачыне маладых жывёлаводаў калгаса імя Сталіна Уздзенскага раёна, на Міншчыне, якія аб'явілі сваю ферму калектывам камуністычнай працы. Прызнаюся, кожны з нас і раней думаў аб тым, каб унесці ў сваю работу нешта новае, такое, каб стала на душы весялей, каб работа спорылася. Мы неадкладна рашылі пераняць прыклад жывёлаводаў Уздзеншчыны.

На тым сходзе, дзе абмяркоўваліся нашы камуністычныя абавязацельствы, прысутнічалі ўсе жывёлаводы. На сход прыйшоў сакратар партыйнай арганізацыі калгаса Міхаіл Апанасавіч Кіслоў, работнік райкома камсамола тав. Загорскі. Гэта быў незвычайны сход, ён з'явіўся пераломным у нашай рабоце, ва ўсім нашым жыцці.

Пасля прамовы Міхаіла Апанасавіча, які коратка расказаў аб тым, чым быў наш родны калгас у мінулым і якія яго поспехі цяпер, слова папрасіла Люба Бабчонак — яна ў нас заўсёды першая.

— Я гаварыць буду коратка, — заявіла Люба. — Атрымаю ў першым годзе сямігодкі па 3 000 кілаграмаў малака ад кожнай каровы. Можа і больш — але не менш!

Стаяла цішыня. Напэўна, кожны абдумваў, ці зможам адужаць такую лічбу — гэта ж амаль на тысячу літраў больш, чым у 1958 годзе!

— А ці выцягнем? — нехта нясмела падаў голас.

— Выцягнем! — раптам узняўся з месца Павел Кабец, наш падвозчык кармоў. — Я ўпэўнены ў гэтым. Вы толькі падумайце, калі было такое ў нас, каб на кожную карову нарыхтоўвалі па 14 тон сіласу? Ніколі! А сена таксама хапае: як паедзеш на луг, дык заблудзіцца можна сярод стагоў...

А я гляджу на Паўла і думаю: малайчына! І мне адразу прыгадаўся той дзень, калі я сустрэла яго ля калгаснай канторы. Павел скончыў сярэднюю школу, тую ж, што і я раней, і, як часта бывае з выпускнікамі, хадзіў па вуліцы і гадаў, куды падацца.

— Што ж думаеш, Павел, далей рабіць? — спытала тады я ў яго.

— Сам не ведаю,— паціснуў ён плячыма.— Вось стаю на раздарожжы...

— А ты не стой, — кажу яму, — а ідзі вось гэтай дарогай — на ферму. Там хоць і нялёгка, але цікавей, чым без справы хадзіць ды гадаць, што і як...

— Што мне там у вас рабіць, даіць хіба? — засмяяўся тады Павел.

— Работы хопіць — кармы падвозіць, малако вазіць...

А праз некалькі дзён бачу — Павел сена вязе, рукою з воза махае: прывітанне!

Хіба не малайчына Павел! Вось і цяпер ён гаворыць сур'ёзна, як руплівы гаспадар. Да кожнага яго слова прыслухоўваюцца жывёлаводы.

Разам, дружнай сваёй камсамольскай сям'ёй, мы і рашалі, што трэба зрабіць, каб ферма наша стала сапраўдным участкам камуністычнай працы, каб нашы вялікія планы, намечаныя на сямігодку, былі выкананы раней тэрміну. А планы не малыя! Мы дамовіліся атрымаць на 100 гектараў зямлі не менш 450 цэнтнераў малака ўжо ў 1963 годзе — гэта значыць, скараціць сямігодку на два гады.

Каб стрымаць сваё слова — мала яшчэ нястомна працаваць, патрэбны веды. Трэба вучыцца, павышаць сваё майстэрства. Гэта зразумелі многія нашы жывёлаводы, якія не маюць яшчэ сярэдняй адукацыі. І таму ўсе рашылі вучыцца.

Я займаюся завочна на заатэхнічным аддзяленні Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і лічу сваім камсамольскім абавязкам дапамагчы



## КАМСАМОЛКА НАДЗЯ ВАСІЛЬЕВА

**Жыццё камсамолкі Надзі Васільевай, работніцы Мінскага трактарнага завода, склалася не зусім звычайна. Яна прыйшла на завод два з паловай гады таму назад, пасля заканчэння дзесяцігодкі, і была залічана ў першы трактарны цэх**



**вучаніцай. Тады перад ёю стаяла пытанне: якую прафесію выбраць?**

**Цяпер, пасля параўнальна невялікага тэрміну работы ў цэху, абставіны змяніліся. Цяпер Надзя пытае ў сябе: якую яшчэ прафесію асвоіць?**

**За два з паловай гады дапытлівая дзяўчына стала токарам, фрэзероўшчыцай, свідравальшчыцай, навучылася добра працаваць на працяжным станку. Яна таксама і актыўны грамадскі работнік: прафгрупорг і член савета ленінскага кутка. Працоўныя поспехі На-**

дзі Васільевай адзначаны некалькімі каштоўнымі падарункамі.

На здымку: — Надзя Васільева за работай на працяжным станку.

Фота А. Дзітлава.

## САМАДЗЕЙНАСЦЬ ЖЫВЁЛАВОДАЎ

Неяк даярка Валянціна Даўкша з калгаса «Чырвоная зорка» Юрацішкаўскага раёна сказала сваім сяброўкам:

— Працуем мы, дзяўчаты, нядрэнна, а вось пасля работы не ведаем, дзе сябе дзець...

— Што ж ты прапануеш? — усміхнулася Яніна Клінцэвіч. — Артыстаў хіба з горада запрасіць...

— Навошта тыя артысты, — стаяла на сваім Валянціна. — Мы самі можам быць артыстамі. Скажам, ты — спяваеш добра. А чаму б нам не арганізаваць свой мастацкі калектыў...

Прапанова Валянціны спадабалася ўсім. Сакратар камсамольскай арганізацыі Надзежда Быкава падабрала для рэпертуару песні беларускіх кампазітараў, інтэрмедыі, а таксама невялічкую п'еску «Калі ўсё не так».

Неўзабаве пачаліся рэпетыцыі. Жывёлаводы развучвалі песні, рыхтаваліся да свайго першага канцэрта.

Цяпер часта ў калгасны клуб збіраюцца калгаснікі. Адкрываецца заслона, і Надзежда Быкава аб'яўляе:

— Выступаюць жывёлаводы...

падрыхтавацца, паступіць у акадэмію і Паўлу Кабецу. Усе жывёлаводы ў бліжэйшыя гады закончаць сярэднюю школу. Апрача гэтага, мы ўсе павышаем свае спецыяльныя веды ў заатэхнічным гуртку, які ў апошні год значна палепшыў сваю работу. Заняткі ў ім праходзяць цяпер вельмі цікава.

З тых дзён, як мы ўступілі ў спаборніцтва за высокае званне фермы камуністычнай працы, прайшло не багата часу. Але вынікі ўжо відаць. Мы стараемся працаваць і жыць па-камуністычнаму. Усе за аднаго, адзін за ўсіх — стала ў нас правілам. Праўда, часам у нашай рабоце сустракаюцца і недахопы, аднак мы іх хутка выпраўляем. У гэтым нам, маладым, і асабліва тым, хто яшчэ нядаўна прышоў на ферму і не мае пэўнага вопыту, шчыра дапамагае партыйная арганізацыя. Загадчык фермы камуніст Павел Васільевіч Бусел — наш дарадчык. Слова яго заўсёды шчырае, цёплае, ён адразу паправіць, калі дзе што не так.

Аднойчы да мяне падышла цялятніца Марыя Лёгенькая. Яна папрасіла мяне пагутарыць з Паўлам Васільевічам наконт таго, каб стаць даяркай. Я сказала пра гэта загадчыку фермы. Пераканаўшыся, што дзяўчыне гэтая справа па душы, ён даручыў ёй групу кароў. І не памыліўся.

Вось ужо трэці месяц наша ферма працуе па-новаму. І гэтае новае адчуваецца не толькі ў рабоце, але і ва ўзаемаадносінах. У Каці Цітавец некалькі дзён хварэла карова «Кветка». Мы ўсе амаль не адыходзілі ад яе, разам дапамагалі сяброўцы, пакуль «Кветка» не паправілася. Або яшчэ прыклад: не ўправілася, скажам, Люба Кабец прыбраць стойлы сваіх кароў — мы ўсе прышлі ёй на дапамогу. І такіх прыкладаў шмат.

З работы мы заўсёды ідзём усе разам. Адчуваем, як весела рыпіць пад нагамі марозны сняжок, бачым, як пераліваюцца і ззяюць над цаглянымі будынінамі жывёлагадоўчага гарадка электрычныя зоркі, і нашым размовам канца няма.

Вядома, марым і аб будучыні, аб тым, якая будучыня нашага калгаса. Усе мы ўпэўнены, што яна будзе радаснай і прыгожай. Дзеля гэтага хочацца працаваць, не ведаючы стомы.

**Алеся МІКАЛАЙЧЫК,**
**групкамсорг на ферме калгаса «40 год Кастрычніка» Рэчыцкага раёна.**



Уладзімір Новік нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Чырвонадворцы Старобінскага раёна. У 1941 годзе закончыў Крывіцкую сярэднюю школу.
У перыяд Вялікай Айчыннай вайны быў на фронце. Пасля дэмабілізацыі ў 1948 годзе працаваў некаторы час цесляром у калгасе, затым настаўнікам у Цясоўскай сямігодцы.
З 1952 года У. Новік працуе адказным сакратаром рэдакцыі Старобінскай раённай газеты «Савецкі патрыёт». У 1956 годзе ён завочна закончыў аддзяленне журналістыкі Ленінградскага ордэна Леніна дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Жданава. Член КПСС з 1956 года.
У часопісе Уладзімір Новік друкуецца ўпершыню.

**Уладзімір НОВІК**

# ЁН ЗРАБІЎ, ШТО МОГ...

### Апавяданне

*Мал. У. Ляся.*

Зайшло сонца. Над жытнёвым палеткам пачынала астываць напоенае гарачынёй паветра.

І калі ў бяздонным небе ўспыхнула першая няяркая зорка, успыхнула і застыла, салдат убачыў яе і адчуў, што настала ноч.

Апоўначы стала ціха-ціха. Але начная ціша была нядоўгай. Дзесь непадалёку пачуўся глухі поступ цяжкіх ног. Ён павольна набліжаўся, і хутка ўжо можна было ўлавіць, як, цяжка сапучы, тупалі капытамі па зямлі коні. Парыпвалі на каляінах гружаныя фурманкі. Хутка і гэтыя гукі заглухлі ў начной цішы.

Пад раніцу салдат убачыў, як горка плача калоссе, скідаючы на зямлю цяжкія слёзы расы.

Далёка ў балоце драмаў сівы туман, скрозь які ледзь-ледзь праглядвала нізкае і рэдкае кустоўе.

Тут, сярэдзінай імшарыны, як і праз узнёслы да неба бор, што высіўся недалёка адгэтуль на пясчаным узгорку, праходзіла дзяржаўная граніца.

Набліжалася світанне, і Антон чакаў сабе замены. Ён думаў пра сваю старэнькую маці, адшукваў самыя цёплыя словы, якія напіша ёй у лісце, калі вернецца на заставу. Там, дома, маці пакліча чытаць ліст суседку Алену, бо сама ўжо недабачвае, і абедзве будуць рады кожнаму яго слову.

Але што гэта? Глухія выбухі пачуліся ў тым баку, дзе была застава. Услед за імі пачалася бязладная кулямётная страляніна. Антон убачыў, як над заставай распускае ў небе сваю кудлатую грыву густы дым.

Збянтэжаны нечаканым і невядомым здарэннем, Антон толькі мацней прыціснуўся да нізкай купіны і адчуў, як да цела праз адзенне прабіраецца вада.

Толькі трэці раз быў Антон у дазоры. Не абазнаў добра нават гэтую імшарыну. А тут на табе!

Стагнаў ад выбухаў бор. Глухое рэха неслася сюды, у імшарыну, і дзесьці за ёй заціхала. Ён ляжаў і не ведаў, што ўсё гэта значыць.

І раптам ён убачыў, што на тым баку, у высокім купніку, пачалі вырастаць жывыя цені. Яны рухаліся проста на яго.

«Няўжо вораг?..» — разанула страшная думка.

Пярэднім клыпаў нехта тоўсты з закасанымі вышэй локцяў рукавамі, клыпаў, па-бычынаму нагнуўшы ўперад галаву. За ім, гэтак жа сагнуўшыся пад цяжарам, ішлі яшчэ шасцёра.

Грымнуў гулкі стрэл, і першы парушальнік уткнуўся галавой у руды мох. І адразу ж над ціхай імшарынай заляскацела страляніна. Ворагі беспарадкава стралялі з аўтаматаў ва ўсе бакі.

Антон быў добра схаваны. Высокая купіна і густая трава на ёй памагалі скрытна весці трапны агонь. За першым уткнуўся ў імшарнік другі, затым — трэці. Астатнія павярнулі назад. Тады Антон страляў у іх спіны, пакуль ворагі адзін за другім не зніклі з вачэй.

На які момант зноў стала ціха. На сэрцы ў Антона паспакайнела: парушальнік не перайшоў граніцу.

У гэты час страляніна на заставе яшчэ больш узмацнела. Выбухі раз-по-разу сатрасалі бор, і ён стагнаў, як жывы. На кожны выбух зямля адказвала дрыжаннем. Гулкая кулямётная страляніна пачулася і справа, на пясчанай выспе.

Антон стаіўся і чакаў, але больш ніхто не патыкаўся. «Мажліва, яны падаліся ў бок заставы? А можа затаіліся за куп'ём і чакаюць, пакуль падымуся я, каб прашыць аўтаматнай чаргой?» — не пакідала Антона думка.

Так ён праляжаў у пакутлівым чаканні яшчэ некалькі хвілін. Ад нерухомасці дубянела цела, карчанелі ногі і рукі, хацелася ўзняцца. Невядома, колькі яшчэ праляжаў бы ён, каб не пачуў блізка ад сябе прыглушанае шамаценне прэлага лісця. Да яго хутка падпаўзаў Алімаў.







Быў ён увесь мокры. Ягоны зрыты воспай твар густа ўсцілалі кропелькі поту. Алімаў часта соп. «Вайна, братка...» — у самае вуха Антону перасохлымі вуснамі прашаптаў ён.

Над іх галовамі з аглушальным выццём пранесліся тры варожыя самалёты.

«Сволачы! Фашысты!» — вылаяўся Алімаў і, выцершы рукавом гарачы пот з твару, загадаў:

— Пайшлі на выспу! Старшыня казаў быць там і падтрымаць Лубянкова і Афоніна.

Антон ледзь паспяваў за Алімавым. На пясчанай выспе, што пачыналася за імшарынай, рос дробны бярэзнік. Тут было суха, толькі ўнізе мінулагодняе прэлае лісце аддавала яшчэ начной сырасцю. За невялікай прагалінай пачынаўся вузкі глыбокі раўчук, што браў свой пачатак у імшарыне. Раўчук цягнуўся ўздоўж граніцы.

Лубянкоў быў паранены. Левая рука яго вышэй локця была перабінтавана. Афонін ляжаў ніц і, здавалася, не чуў, як да яго падпаўзлі Алімаў і Антон. Толькі вочы яго, убачыўшы сваіх, бліснулі радасцю.

Хутка акапаўшыся, сталі чакаць. Марудна цягнуліся хвіліны. Фашысты не паказваліся.

Углядаючыся цераз палянку ў малады беразняк, дзе хаваўся вораг, Антон успомніў родны Дняпро, сваю хату на крутым высокім беразе і вясковую вуліцу, па якой у гэтую пару аднарукі дзед Макар выганяе кароў на прырэчны луг.

Ад гэтых думак Антона адарваў рэзкі посвіст міны над галавой. Струмень пяску і дробных асколкаў секанух па бярозках, і на дол паляцела збітае лісце. З завываннем пасыпаўся лівень аўтаматных куль. Яны ўзрывалі прэлае лісце, абдзіралі маладую кару на камлях бярозак.

Антон і яго таварышы, прыціснуўшыся да зямлі, пакутліва чакалі.

Цяпер вінтоўка ў руках Антона не дрыжала, як гэта было ў імшарыне. Ён сам дзівіўся такому спакою. І калі на паляну вынырнуў шчыльны ланцуг зялёных мундзіраў, ён, не зважаючы на цвыркание куль, прыладкаваўшыся, страляў, як на вучэнні.

Гітлераўцы, здавалася, не адчувалі страт. Яны падалі, але, страляючы, падыходзілі ўсё бліжэй і бліжэй. Антон добра бачыў ашчэраныя твары ворагаў, якія нешта выкрыквалі, размахвалі аўтаматамі і адзін за другім валіліся на сыры дол. Нарэшце яны, здаецца, змагліся і заleглі, прадаўжаючы страчыць з аўтаматаў. Тады Лубянкоў першы кі-

нуў у іх гранату. За ім — і Алімаў. Калі дым крыху рассеяўся, можна было бачыць, як ворагі паспешліва адпаўзаюць назад.

«Цяпер возьмуць у абхват...» — падумаў Антон.

Праз якіх дзве хвіліны выспа зноў застагнала ад выбухаў мін. Яны былі частымі. Пясок і лісце, перамешаныя з асколкамі, круціліся ў смяртэльнай віхуры. Гуло, скавытала, трашчала. Антон заплюшчыў вочы, і ў тое ж імгненне вогненнае страшыдла дыхнула яму проста ў твар гарачым едкім дымам, падхапіла яго цела, узняло і кінула ў бездань.

Першае, што ён адчуў, апрытомнеўшы, — гэта тупы боль ва ўсім целе. Шумела ў галаве. Ледзь удалося расплюшчыць засыпаныя пяском вочы. Тады ён зноў убачыў залітую сонцам палянку. Абсмаленыя агнём і абшарпаныя асколкамі схіліліся бярозкі. На адной з іх, са ссечаным верхам, раскрывала дзюбу і выпінала валлё птушачка, але Антон нічога не чуў. Усё было нібы ў сне.

Перамагаючы боль, Антон абапёрся на рукі і стаў на калені. Потым узняўся, стаў на ногі і крок за крокам паклыпаў у той бок, дзе павінны былі быць Алімаў, Афонін і Лубянкоў.

Ён ледзь дабраўся да іхніх акопчыкаў. Нідзе нікога не было і нічога нельга было пазнаць. Шалёны смерч зрабіў сваю работу. Цяпер у гэтым лесе Антон быў адзін і не ведаў, што рабіць далей і куды падацца.

Бралася на паўдня. Сонца высока стаяла над палянай і нясцерпна прыпякала, відаць, на дождж. Хацелася піць. Ля раўчука Антон прылёг на грудзі, разгарнуў траву і зачарпнуў далоняй вады. Яна была цёплай і гаркаватай. Але што гэта? Ён выліваў ваду з далоні назад у ручай і не чуў аніякага булькання. Тады, не верачы самому сабе, ён моцна пляснуў далоняю па вадзе, і зноў — ні гуку.

Падняўшыся, Антон у адчаі схапіў сасновую галіну, прыклаў да калена, і яна пераламалася гэтак ціха, як трухліна. Ён закрычаў, але не пачуў свайго голасу... Абапіраючыся на вінтоўку, ён падаўся з гэтага страшнага месца, дзе страціў сяброў, дзе яго напаткала гора.

Лес радзеў, трапляліся палянкі з густым верасам. Антон ведаў, што кіламетры праз тры пачнецца невялікі луг, за якім жытнёвы палетак калгаса «Маяк». Ускрай палетка была вырыта глыбокая канава. Цераз яе быў паслany невялікі масцік. Па ім раней, акрамя пагранічнікаў, рэдка хто праязджаў. Мінуўшы яго, можна было лічыць, што ты ўжо ў вёсцы Азяркі.

Вышаўшы на луг, Антон убачыў высокі ветрарухавік, што стаяў на фермаўскім двары. Зайсці ў вёску вырашыў, калі добра сцямнее, а да ночы можна будзе перачакаць у высокай збажыне.

Было душна, і Антон расшпіліў каўнер гімнасцёркі. Ад спёкі мучыла смага. Доўга, не адрываючыся, ён піў ваду. Затым адышоўся і прылёг у высокім густым жыце.

Доўга ляжаць яму не давялося. Па дарозе да вёскі, пакідаючы за сабой віхрастыя клубы пылу, пранесліся два фашысцкія матацыклісты. Перад масцікам яны рэзка збавілі хуткасць, а пераехаўшы яго, зноў завіхрылі пыл.

Антон колькі хвілін глядзеў на масцік, да якога ад прыдарожнага лазовага куста, што схаваў яго, было не больш дзесяці метраў. Пасля падняўся, зірнуў на дарогу, ці няма на ёй каго, і падаўся да масціка. Насціл быў з тонкага бярвення. Праз шчыліны паміж неабчэсанымі



круглякамі свяцілася пясчанае дно канаўкі, на якім бялеліся каменьчыкі.

Узняць кругляк аднаму было няцяжка. Антон нагнуўся і падужаў яго рукамі. Той лёгка падаўся. Антон сапхнуў у канаву яшчэ два бервяны. Цяпер па насцілу не магла праехаць ні адна машына.

Адсопшыся, ён вярнуўся, падрыхтаваў гранаты і стаў чакаць. Вочы сачылі за дарогай, і вось зноў на ўзлессі закурыўся пыл. На гэты раз, паблісквaючы шклом, імчала легкавая аўтамашына. Перад мостам яна скалыхнулася і спынілася. Адчыніліся дзверцы, і на дарогу вылез высокі і тонкі, як жардзіна, афіцэр у акулярах. Ён ступіў на масцік і пакруціў галавой. Да яго падышлі яшчэ двое.

Антон узняў вінтоўку і прыцэліўся ў высокага, што вылез з аўтамашыны. Гітлеравец здрыгануўся, размахнуў рукамі і ўпаў на мост. За ім асеў у нагрэты пясок і другі. Трэці паспеў выхапіць пісталет, але тут жа зваліўся ад кулі ў канаву.

Антон рынуўся да машыны, схапіў аўтамат, што ляжаў на пярэднім сядзенні, і нырнуў у жыта.

На дарозе зноў з'явіліся фашысты. Штосьці раптоўнае змусіла Антона размахнуцца і шпурнуць гранату ў варожую легкавушку.

Бегучы па высокай збажыне, ён не чуў, як услед яму стралялі з аўтаматаў. Ногі блыталіся ў густым жыце.

Яно хутка пачало радзець, стала ніжэйшым, і Антон у гэты момант адчуў, як штось тупое моцна стукнула яго ў бок. Ён упаў, падмяўшы пад сябе калоссе... Закружылася галава, у ваччу замітусіліся зоркі і раптоўна пагаслі.

Ён апрытомнеў ад холаду намоклай сарочкі. «Гэта ад крыві...»—падумаў ён і, напружыўшы мускулы рук, прасунуўся ўперад. Ногі зусім не слухаліся.

Трэба як найхутчэй, пакуль ёсць сілы, выбрацца з жыта. Там, магчыма, хто-небудзь са сваіх хоць зробіць перавязку.

Але ж там, дзе канчаецца збажына, могуць быць фашысты. Тады, без зброі, што ён можа зрабіць? Не, ён не хацеў, каб яго ўзялі жывым, і не пакінуў аўтамата.

Але чым далей, тым усё павальнейшымі рабіліся рухі: сілы пакідалі яго. Нечакана высунуўшыся з жытнёвай гусцечы, ён убачыў тоўстых, з кароткімі хвастамі коней, што пасвіліся пры дарозе, і некалькі крытых фурманак. Людзей не было відаць. Толькі адзін гітлеравец, з аўтаматам на шыі, стаяў ля крайняй фурманкі і пакурваў люльку. Гэта былі абознікі.

Меркаванні Антона хутка пацвердзіліся: з-за крайніх хат высыпала чалавек трыццаць. Фашысты ішлі спакойна, перавальваючыся з нагі на нагу. Так вяртаюцца качкі, добра пажыраваўшы ў чужым аўсе.

Антон прыцэліўся і націснуў курок аўтамата, паласнуў па ўсіх, па конях і фурманках. Мала каму ўдалося ўратавацца ад смерці. Але патроны скончыліся. Сабраўшы апошнія сілы, салдат шпурнуў гранату ў бліжэйшую фурманку. Высачэзны слуп агню і дыму шугануў у паветра...

Калі гітлераўцы ланцугом абхапілі ўскраек жытнёвага палетка, пачуўся апошні выбух. Ён забраў з сабой таго, хто зрабіў усё, што мог...



Мал. П. Калініна.

Алесь МАХНАЧ

# БАЦЬКАЎ НАКАЗ

*Драма*

*Слаўным мінскім партызанам-падрыўнікам Звераву і Казятнікаву прысвячаю.*
*Аўтар.*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Мікалай Іванавіч — камуніст, гадоў 45.
Васілёк — яго сын, піянер, 12 год.
Міша Дубовіч — камсамолец, 18 год.
} Партызаны дыверсійнага атрада.

Пракоп — былы матрос рускага флоту, гадоў 70—75.

Фульке — капітан.
Фрыц — яфрэйтар.
Вартавы — салдат.
} Фашысты, якія знаходзяцца на ахове чыгункі.

Казяўкін — нямецкі стараста, гадоў 40.

Хвасцецкі — сын белагвардзейскага палкоўніка, на службе ў фашыстаў.

Месца дзеі — адна з галоўных чыгуначных магістралей Беларусі.

Час дзеі — вясна 1943 года.

На пярэднім плане — малады хвойнік. Праз яго відаць насып, па якім праходзіць двухкалейная чыгунка. Па-за чыгункай — стары дрымучы лес.
Раніца. Час-ад-часу даносіцца шчэбет птушак. Дзесьці кукуе зязюля.
Ад куста да куста ў напрамку чыгункі з аўтаматам наўзгатоўку і гранатамі за поясам прабіраецца Мікалай Іванавіч. Услед за ім — Васілёк і Міша Дубовіч. Міша ў адной руцэ нясе аўтамат, а ў другой — узрыўчатку.
Мікалай Іванавіч падае рукою знак прыпыніцца. Міша і Васілёк застываюць на месцы.

Мікалай Іванавіч. *(Ціха).* Адзін... *(Падняўшы ўказальны палец.)* Ці-ш-ш!

Усе хаваюцца за кустамі, толькі відаць дулы аўтаматаў, накіраваных на дарогу.
Праз некаторы час пачуўся шкрэбат каваных ботаў па шпалах і голас фашысцкага вартавога: «Айн, цвай, драй, фір...» Паяўляецца вартавы.

Вартавы *(ідзе па шпалах і прадаўжае лічыць).* ...фюнф, зэкс, зібн... А-а-а... *(Пазяхаючы, прыпыняецца. Пацягваецца, падняўшы рукі з аўтаматам угару.)* ...ах-х-хт!.. *(Праходзіць далей і знікае.)*

З-за куста выходзіць Мікалай Іванавіч.

Мікалай Іванавіч *(ціха).* Сюды...

Да яго падыходзяць Міша і Васілёк.

Мікалай Іванавіч *(бярэ сына за плечы).* Баішся?

Васілёк. Што ты, тата, ніколечкі... А навошта яго выпусцілі?

Мікалай Іванавіч *(падняўшы палец, перапыняе).* Так трэба... *(Паказвае ўбок.)* Не скінешся?

Васілёк *(закінуўшы галаву, глядзіць у той бок, куды паказаў бацька.)* З гэтага вяза?.. На самы вяршочак магу...

Мікалай Іванавіч. На вяршочак не лезь. А глядзі, каб відаць была ўся дарога за паваротам. Пакажацца цягнік — дай знаць, а сам — кулем уніз і ў атрад. Мы можам тут затрымацца хвіліну-другую. *(Працягвае бінокль.)* Бяры...

Васілёк *(схапіўшы бінокль).* А сігнал — па-зязюлінаму ці пакрумкачынаму?..

Мікалай Іванавіч. Давай, як зязюлька...

Васілёк *бяжыць і знікае ў гушчары.*

Міша. Можа пара?

Мікалай Іванавіч. *(глянуў услед вартавому. Падумаўшы).* Я сам.

Міша *(упрошваючы).* Мікалай Іванавіч, паверце! Зраблю чыста, як заўсёды...

Мікалай Іванавіч. Веру, Міша, веру. Ды на сэрцы неспакойна. Гэта не проста эшалон. Сам разумееш: жывая сіла, ды яшчэ якая — афіцар'ё...

Міша. Я разумею... Мне восемнаццаць... Сягоння споўнілася...

Мікалай Іванавіч *(у глыбокім задуменні).* Восемнаццаць... Мяне ў гэты дзень у партыю прымалі. Пад Царыцынам было. Якраз перад наступленнем... Восемнаццаць... *(Да Мішы.)* Што ж, можна і цябе ўжо лічыць камуністам. *(Пасля некаторага роздуму.)* Зазор паміж рэйкай і ўзрывацелем добра разлічы. Не спяшайся... Яны, гады, могуць спачатку паражняк пусціць...



Міша *(з радасцю).* Я ім разлічу...

Мікалай Іванавіч *(бярэ аўтамат, цэліцца).* Ну, Міша, вартавы — на мушцы, а табе — ні пуху, ні пяра.

Міша прыгінаецца і паўзе па насыпу да рэек.
Непадалёку закувала зязюля, і адразу аднекуль з вышыні данёсся прыцішаны голас Васілька: «Гэта не я, тата, не я!»

Мікалай Іванавіч *(у адказ сыну).* Замры! Ведаем, на якім кусце наша зязюля.

Міша фінскім нажом выкопвае пад рэйкай яму. Заклаўшы туды ўзрыўчатку, збянтэжана штосьці шукае ў кішэнях, але нічога не знаходзіць. На нейкі момант застывае ў нерухомасці, а потым, выхапіўшы з-пад рэйкі тол, хутка спускаецца з насыпу. Зноў з вялікай трывогай пачынае шукаць: выварочвае кішэні, трасе адзенне.

Мікалай Іванавіч *(працягвае сачыць за вартавым).* Спакойна, Міша, спакойна. Зазор, зазор разлічы добра... *(Агляну́ўшыся, убачыў Мішу.)*

Міша вінавата апускае рукі і стаіць моўчкі.

Мікалай Іванавіч *(падбягае да Мішы, трывожна).* Што?...

Міша. Ідзіце... Я сам... усё...

Мікалай Іванавіч *(бярэ за руку Мішу. Здзіўлена.)* Ты хвалюешся? *(Глядзіць на ўзрыўчатку. Рухава.)* Пасі немца... *(Хоча ўзяць тол.)*

Міша *(затрымлівае руку Мікалая Іванавіча).* Я вінаваты... І я...

Мікалай Іванавіч. Ты што?

Міша *(вінавата).* Вы ідзіце! Лепш я адзін... Усё зраблю... Не прапушчу...

Мікалай Іванавіч *(глядзіць Мішу ў твар. Перапыняе).* Міша, не разумею... У чым справа?

Міша *(з болем у сэрцы).* Узрывацель...

Мікалай Іванавіч. Што?

Міша. Няма...

Мікалай Іванавіч. Што?.. Што ты гаворыш?! *(Паўза).* Не можа быць!

Міша *(зноў хапаецца за свае кішэні).* Сапраўды! Не можа быць! Я не згубіў! Не мог!.. Тут штосьці... *(Задумваецца.)* Не, Барысік не пойдзе на гэта... *(Паўза. Да Мікалая Іванавіча.)* А вам не здаецца, што Барысік...

Мікалай Іванавіч *(перапыняе. Сурова).* Вінаватых шукаеш?

Міша. Я вінават... Але Барысік стаяў *(Паказвае на кішэнь.)* ля гэтага боку, як закурвалі, а я ў гэты час правяраў у кішэні ўзрывацель... І ён быў...

Мікалай Іванавіч. Дык дзе ж ён?!

Міша *(панікуючы, выварочвае кішэню).* Вось тут ляжаў...

Мікалай Іванавіч *(у прыступе гневу хапае Мішу загрудкі і трасе).* Апраўдацца стараешся?! Разявака! Я цябе за гэта...

Міша *(не аказваючы супраціўлення, спакойна)*. Судзіць пасля будзеце. А цяпер — эшалон... *(Здымае з пляча свой аўтамат і працягвае яго Мікалаю Іванавічу.)* Ён мне больш не спатрэбіцца... Вы мяне ведаеце... Камандзіру можна смела далажыць: «Заданне выканалі»... Гэта мая апошняя просьба... І яшчэ... *(Мяняе тон.)* Тамару... *(Паўза.)* Нашу сувязную з Краснага... Па прозвішчу Соусь... вы ўбачыце... *(Паўза.)* Перадайце... Я яе кахаю...

Мікалай Іванавіч *(стараецца перапыніць)*. Міша!..

Міша *(спакойна)*. На вас не крыўдую. Мне хацелася быць такім, як вы, раўняцца з вамі. Ды не вышла... За сваю памылку мінёр сам расплачваецца... За заданне не хвалюйцеся. Тол, дзве гранаты... ды я... Гэта надзейна. Асечкі не будзе. *(Паўза.)* Бывайце, Мікалай Іванавіч! Прасіць, каб лічылі мяне камуністам, я не маю права... Можа я і сапраўды, як вы назвалі...

Мікалай Іванавіч. Не забывай, што і я камуніст... Твая бяда — мая бяда. *(Сурова)*. Ну, кропка! Загадваю! Забудзь усё, што было. Наглядай за вартавым.

Міша хоча нешта сказаць.

Мікалай Іванавіч. Не час нам вінаватых шукаць... *(Адыходзіць убок.)*

Міша разгублена пазірае ўслед Мікалаю Іванавічу, а потым пачынае сачыць за нямецкім вартавым. Мікалай Іванавіч дастае з кішэні лісток паперы, аловак і, падумаўшы, нешта піша. Згортвае лісток і паціху кліча: «Васілёк!»

У адказ пачуўся салаўіны свіст.

Мікалай Іванавіч. Злазь, сыночак... *(Падыходзіць да Мішы, кладзе яму руку на плячо.)* Назірай, назірай... *(Адыходзіць.)*

Неўзабаве паяўляецца Васілёк. Апрача бінокля, ён трымае ў руках алюмініевы чарпак без ручкі.

Мікалай Іванавіч *(убачыўшы сына, з радасцю, у якой чуецца і трывога)*. Васілёк!..

Васілёк *(перадаючы бацьку бінокль)*. Ой, татачка, каб ты толькі глянуў у бінокль з вяза: вартавыя па ўсёй дарозе на кожным кіламетры стаяць, як слупы. А чарпак... Ён тут валяўся. Я яго повару занясу. Дзядзька Вася ручку даробіць... Глядзі, яшчэ добры...

Мікалай Іванавіч *(мнагазначна)*. Не з чарпаком ты, сынок, сёння ў атрад вернешся... *(Працягвае аўтамат.)* Бяры!..

Васілёк *(здзіўлена)*. Аўтамат?!

Мікалай Іванавіч. Аўтамат.

Васілёк. А вы?

Мікалай Іванавіч. А мы... Нам аднаго хопіць... Беражы!.. Помні, гэта бацькаў...

Васілёк кідае чарпак, бярэ аўтамат, але яшчэ не верачы, што той будзе належаць яму.

Мікалай Іванавіч *(падыходзіць бліжэй да сына і аддае яму згорнуты лісток паперы)*. Пойдзеш, Васілёк, у атрад... Перадай камандзіру.

Васілёк. А што?.. Чаму?

Мікалай Іванавіч. Партызан не пытаецца «што?» і «чаму?»



Васілёк *(выцягнуўшыся па камандзе «смірна»)*. Ёсць перадаць камандзіру!

Мікалай Іванавіч. А цяпер прысядзем...

Васілёк і Мікалай Іванавіч садзяцца побач.

Мікалай Іванавіч *(прытуліўшы сына да грудзей, гладзіць яго па галаве)*. Людзі кажуць, так трэба, перад дарогай на хвілінку прысесці... *(Паўза. Да Мішы.)* Міша, ты нешта хацеў перадаць Тамары. Кажы Васільку, яму пара ісці.

Мікалай Іванавіч і Васілёк устаюць.

Міша *(падыходзіць да Васілька, хвалюючыся)*. Яна сама... памятаеш, учора да нас у зямлянку заходзіла... Косы такія доўгія...

Васілёк *(перабівае)*. А-а-а!.. Тамарка... Тая, што мне цукеркі прыносіць. Я падвучваю яе каб пісталет ці аўтамат у немцаў украла. Ведаю...

Міша *(радасна)*. Яна! Яна!.. *(Ціха.)* Дык скажы ёй: я яе... паважаў...

Мікалай Іванавіч. Не паважаў, а паважае і кахае... Моцна, моцна... Вось так і перадай.

Міша *(збянтэжана)*. Перадай...

Васілёк *(смяецца)*. Хітры! Сам баішся, дык мяне падвучваеш? Я ёй раскажу, які ты трус!

Міша. Раскажы, Васілёк *(цалуе)*, раскажы...

Мікалай Іванавіч *(абняўшы сына, тройчы цалуе)*. Памятай, сынку, гэта было сягоння...

Васілёк. Не хочацца ісці ад вас... А маме што сказаць?

Мікалай Іванавіч. А маме перадай, няхай дранікаў напячэ... *(Яшчэ раз цалуе сына.)*

Васілёк. Мы цябе, тата, чакаць будзем.

Мікалай Іванавіч. Мяне... не чакайце...

Васілёк. Чаму?

Мікалай Іванавіч. Партызан не пытаецца пра гэта. Ідзі, сынку, ідзі!..

Васілёк бяжыць у глыб лесу і знікае.

Мікалай Іванавіч доўга пазірае ўслед сыну. Да яго падыходзіць Міша.

Міша. Ідзіце... За заданне будзьце спакойны...

Мікалай Іванавіч. Я сказаў: кропка! Лезь на вяз! Пастарайся добра агледзець дарогу. *(Працягвае бінокль. Паказваючы на ўзрыўчатку.)* А гэта пакінь тут!

Міша *(хоча запярэчыць)*. Мікалай Іванавіч...

Мікалай Іванавіч. Ні гу-гу! Ты маладзейшы...

Міша *(перадае тол)*. Толькі патрымаць.

Мікалай Іванавіч *(забірае ўзрыўчатку)*. Ну, хутчэй!

Міша знікае ў гушчары. Мікалай Іванавіч занепакоена час-ад-часу наглядае за вартавым, а потым выпадкова наступае на чарпак, бярэ яго ў рукі.

Голас Мішы *(даносіцца з высокага дрэва. Устрывожаны)*. Дрызіна! Сюды імчыць...

Мікалай Іванавіч *(занепакоена)*. Далёка?

Голас Мішы. За паваротам, кіламетраў два з палавінаю... Едуць па другой каляі на малой хуткасці. Тры немцы... Прыглядаюцца да рэек...

Мікалай Іванавіч *(занепакоена паглядае на выбраную з-пад рэйкі зямлю, куды Міша хацеў закласці ўзрыўчатку)*. Заўважаць, гады! Тут нельга. Можна ўсё праваліць... Эх, затрымаць бы на паўгадзінкі! *(Паўза. Раптоўна кідаецца да чыгуначнага палатна, штосьці кладзе пад рэйку і прысыпае пяском. З боку, куды пайшоў вартавы, пачуліся аўтаматныя стрэлы.)*

Мікалай Іванавіч *(схапіўшыся за левае плячо, коціцца пад адхон. Сціснуўшы зубы ад болю)*. Сволач! Папаў... *(Аднімае ад пляча руку, на далоні — кроў.)*

Прыбягае Міша.

Міша *(кідаецца да Мікалая Іванавіча, памагае яму ўстаць)*. Мікалай Іванавіч!..

Мікалай Іванавіч. Нічога...

Міша *(заўважыўшы, што Мікалай Іванавіч паранены, хапаецца за аўтамат)*. Я гэтага гада печанага накрыж разрэжу!

Мікалай Іванавіч *(затрымлівае)*. Ні-ні-ні! У мяне план...

Міша *(прыўзняўшы галаву. Здзіўлена)*. Ракета... Чырвоная...

Мікалай Іванавіч *(радасна)*. Ну, вось тое, што і трэба было нам — эшалон затрыманы!

Міша *(спахапіўшыся)*. Вам перавязку...

Мікалай Іванавіч *(папярэджваючы)*. Не, не! *(Паказвае.)* Пойдзем! Фашыстам і ў галаву не прыдзе, што мы насустрач ім... туды, на ўскраіну лесу... Там зручная мясціна ёсць... З адхону і касцей не збяруць.

Міша і Мікалай Іванавіч ідуць кустамі туды, адкуль павінна паказацца дрызіна, і знікаюць. Неўзабаве адтуль пачулася каманда нямецкага афіцэра Фульке. Час-ад-часу даносяцца аўтаматныя чэргі.
Паяўляецца фашысцкі яфрэйтар Фрыц і капітан Фульке, а за імі староста Казяўкін.

Капітан Фульке *(кідаецца да рэйкі, пад якую нешта паклаў Мікалай Іванавіч. Са злосцю.)* Бандыты! Паспелі! *(З асцярогай аглядае гэтае месца з усіх бакоў. Не разумеючы, у здзіўленні.)* Бомба? Не! Міна?..

Стараста. Пан капітан, а вось той дзед з барадою, што цяпер за вёскай ля дарогі казу пасе...

Капітан Фульке *(перабівае. Абыякава)*. Прычым тут дзед з барадою?

Стараста. Ён у царскім флоце мінёрам служыў. Гэты ж стары недалёка тут... Падскочыць па яго... Ён адразу разбярэцца...

Капітан Фульке *(падае каманду)*. Яфрэйтар! Прыступіць да перадачы.

Фрыц. Яволь, гер гауптман! *(Бяжыць у бок дрызіны.)*

Капітан Фульке *(дыктуе)*. «На сто трынаццатым кіламетры пад рэйкай першай каляі закладзена міна невядомага абразца... Круглая, корпус з каляровага металу, велічынёй з футбольны мяч. На стрэлы вартавога бандыты не адказалі і зніклі ў глыбіні лесу... Размініруем... Эшалон затрымаць да зялёнай ракеты... Капітан Фульке.»



Чутны стук ключа рацыі.

Голас Фрыца. Перададзена, пан капітан.

Капітан Фульке *(да Фрыца)*. Давай у вёску! Прывязі таго старога. І па дарозе перадай вартавому гэтага ўчастка, каб вёў узмоцненаеназіранне за чыгункай ля павароту.

Голас Фрыца. Яволь, гер капітан!

Чуецца шум матора дрызіны, які хутка аддаляецца і заціхае.

Стараста *(баязліва тупае вакол «міны»)*. Адзін бог ведае, што гэта такое... *(Хрысціцца.)* Злітуйся, госпадзі, над намі... *(Адыходзіць далей. Лісліва.)* Пан капітан, адыйдзіце ад гэтай халеры, а то яшчэ, барані бог...

Капітан Фульке *(з іроніяй)*. Можа, пан Казяўкін у кусты параіць схавацца капітану... *(Павышае голас.)* А эшалон?..

Стараста *(апраўдваючыся)*. Што вы, пан капітан? Яфрэйтар Фрыц прывязе спецыяліста, і ўсё. Навошта вам... Людзі ў маёй вёсцы паслухмяныя, як цяляты...

Капітан Фульке *(з іроніяй)*. «Паслухмяныя!» «Як цяляты!» А колькі гэтых «цялят» сёння ноччу ў бандыты падалося? Га?! *(Паўза.)* Маўчыш?

Стараста *(вінавата)*. Не паспеў праверыць, пан капітан.

Капітан Фульке *(з іроніяй)*. «Праверыць» і толькі? А што ты зрабіў, каб палажыць канец *(Паказвае на закладзеную пад рэйку «міну»)* вось гэтаму? Спіш ноччу?.. А ў цябе з-пад носу гэтыя «цяляты» цэлымі сем'ямі ў лес уцякаюць! Што ты зрабіў, я пытаюся?

Стараста. Спісачкі даю вам?.. Даю... І заложнікаў, і каго ў Германію...

Капітан Фульке. «Заложнікаў»...

Стараста. Іх трэба прыціснуць. Нідзе не дзенуцца...

Капітан Фульке. І ты нідзе не дзенешся. Прыціснем і цябе! Усё зробіш!

Стараста. Раблю, пан капітан, усё, стараюся... Ды толькі што я магу зрабіць? Самі бачыце, выганіш раніцаю людзей на гравейку, прабарануюць яе ўздоўж і ўпоперак, дзе, здаецца, там той міне быць, а як пойдуць машыны ці матацыклы, дык і ўзрываюцца. Усё адно як з неба гэтыя міны падаюць. Адкуль яны бяруцца, дык ліха іх ведае...

Капітан Фульке. Днём бандыты дарогі мініруюць! Днём! Я падыму на ногі ўсіх: гестапа, паліцыю, свой гарнізон! Бандыцкія гнёзды знішчу назаўсёды! Мне б нітачку знайсці... І я хутка яе знайду. *(З іроніяй.)* Толькі, пан Казяўкін, не пры дапамозе такіх шкурнікаў, якія раяць схавацца ў кусты. У мяне ёсць надзейныя людзі. Яны вырасліся ў нашым саку *(паказвае жэстам рукі)*, там у Берліне. Іх бацькоў у Расіі білі, адабралі ў іх уласную зямлю, заводы, фабрыкі. Гэтым людзям ёсць за што з бальшавікамі асабістыя рахункі зводзіць.

Капітан Фульке раптоўна змаўкае і пачынае ўглядацца ўздоўж чыгункі. Чуваць, пад'ехала дрызіна, і голас яфрэйтара Фрыца: «Злазь!» Праз некаторы час паказваецца дзед Пракоп, якога пад дулам аўтамата вядзе Фрыц.

Фрыц *(загадвае Пракопу)*. Хальт! Хальт!

Пракоп спакойна прадаўжае ісці.

Стараста *(да Пракопа)*. Стой!

Пракоп спыняецца і з агідай глядзіць на Казяўкіна.

Стараста (*ліслівa*). Добрай раніцы, Пракопе!

Пракоп не адказвае.

Стараста (*да капітана Фульке*). Гэта мой сусед. Я яму растлумачу, што трэба... (*Да Пракопа. Паказвае на «міну», прысыпаную пад рэйкай.*) Ты, Пракопе, глядзі, каля яе (*паказвае жэстамі*) асцярожненька ручкамі вось так, так пясочак разграбі, а затым яе, як гарбузік, і выцягнеш з-пад рэйкі... Ну, не мне цябе вучыць... Сам разбіраешся. Даўней на флоце нездарма мінёрам быў. Цару служыў...

Пракоп (*перапыняе*). Не па таго, каго трэба, ты, Казяўкін, паслаў.

Стараста (*занепакоена*). Ціха, Пракопе, ціха. Усё ад бога. Ён мілуе, ён і карае. Што нам на раду прызначана, таго не мінуць.

Пракоп. А мне не назначана свае рукі запэцкаць. Семдзесят пяты на гэтым свеце дажываю, і яны чыстыя... (*Паказваючы на немцаў, а затым на «міну».*) Цалуеш ім пад хвост, пан Казяўкін, пацалуй і цяпер.

Капітан Фульке (*не разумеючы, аб чым ідзе гутарка. Да Казяўкіна*). У чым затрымка?

Стараста (*баязліва*). Ён згодзен, згодзен! Толькі баіцца крышачку... (*Наставляе на Пракопа рэвальвер і пачынае адступаць назад. Да Фрыца і капітана Фульке.*) Адыходзьце, адыходзьце, ён зробіць... Я яму растлумачыў... Ён сам ведае...

Пракоп (*з агідай да Казяўкіна*). Прадаў сваю душу сатане, а цяпер за цела баішся...

Капітан Фульке (*пагражаючы пісталетам*). Рус, арбайтн!

Фрыц (*заляскаўшы замком аўтамата*). Шнэль!

Стараста. Пракопе, калі хочаш жыць, дык давай, а то з табой доўга цацкацца не будуць.

Усе адыходзяць і хаваюцца за насыпам дарогі, адкуль і чуваць іх пагрозы Пракопу.

Пракоп (*нерухома стаіць на месцы. Спакойна*). Пан афіцэр, я ж казаў: не таго знайшлі, хто вам патрэбен.

Капітан Фульке (*сурова*). Прыступай!

Пракоп (*цвёрда*). Не буду!

Капітан Фульке (*з пагрозай*). Што за адказ? Мы прымусім!

Пракоп. Я салдат. Абараняць сваё ацечаства ад усялякіх знешніх ворагаў я прысягаў двойчы: першы раз — цару, а другі — рэвалюцыі і Леніну.

Стараста. Гм! Святы знайшоўся! Цару прысягаў, а потым цара самога скінуў.

Пракоп. У сваім доме мы самі парадак наводзім. А чужы не сунь свой нос...

Капітан Фульке. Маўчаць! Зробіш! Калі да трох не возьмешся,— страляю! (*Лічыць з невялікімі паўзамі, накіраваўшы на Пракопа пісталет.*) Айн... цвай... драй! (*Над галавою Пракопа страляе, але той стаіць нерухома і смела глядзіць у вочы нямецкаму афіцэру.*)

Капітан Фульке (*у здзіўленні*). Вас іст дас? (*Выскаквае з-за насыпу і падбягае да Пракопа.*) Ты нават і не падумаў схіліцца?!

Пракоп. А мне няма чаго кланяцца перад вамі, пан афіцэр. Чалавек воўку не служыць...



Капітан Фульке (*пагражаючы пісталетам*). Маўчаць! Бальшавік! (*Да салдата.*) Яфрэйтар! (*Паказваючы на Пракопа.*) Расстраляць!

Фрыц (*падбягае да Пракопа і дулам аўтамата штурхае яго да краю насыпу*). Шнэль, ком шнэль!

Пракоп у глыбокім задуменні стаіць на краі насыпу. Фрыц, накіраваўшы аўтамат на Пракопа, чакае загаду капітана.

Стараста (*са страхам пачынае ўпрошваць Пракопа, баючыся, каб цяпер яго самога не заставілі размініраваць*). Міленькі, родненькі, ты што гэта надумаў?.. (*Да капітана Фульке.*) Пане капітан, пачакайце, ён...

Пракоп (*нібы знайшоўшы выхад. Да афіцэра*). Стойце!

Капітан Фульке (*здзіўлена*). Вас іст дас?

Стараста (*радасна*). Ён згодзен, згодзен...

Капітан Фульке (*да старасты*). Маўчаць! (*Да Пракопа.*) Што?

Пракоп. Не хачу паміраць... ад вашай кулі. Не я, дык другі знойдзецца, размініруе, а мне ўсёадно...

Капітан Фульке (*глядзіць на гадзіннік*). Даю тры мінуты — і ўсё!

Пракоп (*у знак згоды ківае галавою*). Добра... Я саслужу службу... апошнюю...

Капітан Фульке (*да старасты і Фрыца*). Цурык!

Усе адыходзяць назад і зноў хаваюцца за насыпам дарогі, накіраваўшы на Пракопа зброю.

Пракоп (*паварочваецца спіною да фашыстаў і садзіцца на рэйку ля таго месца, дзе падкладзена «міна». Цяжка ўздыхнуўшы, паглядзеў наўкола: на неба, на лес, удалячынь, а затым на «міну».*) Вось дзе, Пракопе, канец тваёй дарожцы. А яна была табе пад старасць на гэтай зямельцы лёгкая і светлая! (*З болем у сэрцы.*) Сыночкі мае! Яўген... Косця... (*Паўза.*) І навошта вайна?.. (*Рашуча.*) Вось за гэта трэба давіць, біць праклятых фашыстаў... (*На момант заплюшчвае вочы і націскае рукою на «міну». Пасля некаторай паўзы расплюшчвае вочы і глядзіць у здзіўленні навокал.*) Жывы?! (*Разглядае «міну», абмацвае яе з усіх бакоў.*) Малайцы, хлопцы, малайцы!

Капітан Фульке. Варушыся хутчэй! Што там?

Пракоп (*да афіцэра*). Адну хвілiначку! (*Задумаўшыся, сам сабе.*) Вось яно што так трымае той важны пасажырскі цягнік на станцыі... (*Пачынае прысыпаць «міну» пяском.*) Яны гэтую штуку і пальцам не зачэпяць... (*Закончыўшы, устае. Спакойна.*) Пан афіцэр, паверце мне, старому рускаму мінёру: гэта марская міна па клічцы «каверзніца». Яе, як паставіш, дык размініраваць ужо нельга. Варта толькі дакрануцца, як твайго і духу не застанецца.

Стараста (*спалохана*). Ён абманвае вас, пан капітан!

Пракоп. Не верыце? (*Паказвае на «міну».*) Можаце праверыць, калі ласка! А мне... лепш ад кулі, чым... (*Разрывае кашулю, падстаўляючы грудзі.*) Я вас не баюся! Страляйце, гады! Я сваё пражыў. Шкада, што я не малады цяпер, каб вас, гадаў, давіць...

Раздаецца некалькі залпаў.

Пракоп (*стараецца ўтрымацца на нагах*). Гады!.. (*Апускаецца на шпалы.*)

Да Пракопа падбягаюць капітан, стараста і салдат.

Пракоп *(сабраўшы астатнія сілы, узнімаецца на локці. У вочы фашыстам, гнеўна)*. Гады!..

Капітан Фульке са страхам падаецца назад і страляе некалькі разоў у Пракопа. Пракоп падае мёртвым.

Капітан Фульке *(глядзіць са страхам на мёртвага Пракопа. Пасля паўзы)*. Усё! *(Да Фрыца, паказваючы на цела Пракопа.)* Вэк!

Фрыц сцягвае Пракопа пад адхон дарогі. Капітан Фульке, заклаўшы рукі з пісталетам за спіну, ядавітым позіркам упіваецца ў вочы Казяўкіна і пачынае наступаць на яго. Казяўкін са страхам глядзіць у вочы афіцэра, быццам хоча прасіць літасці.

Капітан Фульке. Хальт!

Стараста прыпыняецца.

Капітан Фульке *(паказваючы на рэвальвер Казяўкіна)*. Здаць! На захаванне... часова...

Стараста *(разгублена)*. Што? Што? Злітуйцеся! Злітуйцеся! Я вам з вёскі прыганю людзей... Яны...

Капітан Фульке *(хапае Казяўкіна за руку і абяззбройвае)*. Маўчаць! Нам дарагая кожная мінута!

Стараста перад афіцэрам калоціцца ад страху.

Капітан Фульке *(адзначае па гадзінніку час)*. Драй мінутэн! Не зробіш *(паказвае на цела Пракопа)* — і табе капут! *(Да салдата.)* Фрыц, цурык!

Афіцэр і салдат зноў адыходзяць і кладуцца за насып дарогі, накіраваўшы зброю на Казяўкіна.

Стараста *(настолькі ахоплены страхам, што спачатку не можа сказаць слова, а затым крычыць не сваім голасам)*. Злі... злі... злітуйцеся!

Афіцэр папярэджвае Казяўкіна стрэлам з пісталета.

Стараста *(са страху прыціскаецца да зямлі)*. Ох! Ой-ой! Ёй-ёй!

Капітан Фульке. Застаецца дзве мінуты!

Стараста быў падаўся да «міны», але яму, відаць, здалося, што яна зашыпела, і ён з крыкам кідаецца да абочыны дарогі. Афіцэр стрэлам з пісталета зноў папярэджвае Казяўкіна. Той непрыкметна цягнецца да каменя, якім пасля кідае ў «міну». Усе прыціскаюцца да зямлі і чакаюць узрыву. Праходзіць мінута-другая, а затым з-за насыпу дарогі паказваецца афіцэр. Ён у вялікім гневе падбягае да Казяўкіна.

Капітан Фульке *(затрымаўшы позірк на «міне», падыходзіць бліжэй да яе. Разглядае. Здзіўлена)*. Умяціна... З месца скранулася... Вас іст дас? *(Спрабуе асцярожна стукаць пазногцем па «міне».)* Гм! Пустая... Дзіўна... *(Пачынае памаленьку разграбаць пясок вакол «міны»)*.

Стараста яшчэ больш прыціскае галаву да зямлі. Афіцэр выцягвае з-пад рэйкі алюмініевы чарпак без ручкі. Падбягае салдат. Усе стаяць у здзіўленні, пераглядаюцца, а потым іх паступова разбірае смех.

Капітан Фульке *(раптоўна абрывае рогат. Да Фрыца)*. Даць зялёную ракету!



Фрыц выконвае загад афіцэра.

Стараста *(задаволены, усхопліваецца на ногі. Да афіцэра, ліслíва)*. Гэта я яе каменьчыкам, пан капітан... Каб не я, дык яшчэ б...

Капітан Фульке *(перапынялае, гнеўна і з агідай)*. Шкура! *(Паказвае ўмяціну на чарпаку.)* Ты разумееш, сабака, што ты мог натварыць, каб гэта была міна? А-а? *(У прыступе гневу наступае на Казяўкіна.)* Падлюга! Твае тры мінуты кончыліся!.. *(Накіроўвае на Казяўкіна пісталет.)*

Стараста *(кідаецца ў ногі афіцэру і хоча цалаваць боты, скавычучы, як сабака)*. Пан гаў-гаў-гаўптман!.. Злітуйцеся!..

Капітан Фульке б'е Казяўкіна нагою і ўслед яму пасылае кулю. Казяўкін, закрычаўшы не сваім голасам, коціцца мёртвы з дарогі.

Капітан Фульке *(кладзе пісталет у кабуру і выціраe з твару пот, нібы пасля цяжкой працы. Падыходзіць да краю насыпу, доўга з таямнічай загадкай глядзіць на мёртвага Пракопа)*. Цела старога прывезці ў вёску... *(Спахапіўшыся.)* Пачакай, яфрэйтар, прапусцім эшалон, тады...

Фрыц *(перапытваючы ў здзіўленні)*. Старога?

Капітан Фульке. Так, старога. Мне хочацца ведаць: ці ён быў п'яны, ці проста чалавек, які страціў розум... ці, нарэшце, такі вялікі герой...

Фрыц *(прыкладае вуха да рэйкі, прыслухоўваецца)*. Пан капітан, рэйкі гудуць, эшалон ідзе...

У гэты час з-за куста з аўтаматам наўзгатоўку паказваецца Васілёк. Ён, відаць, пачуўшы страляніну, бег сюды з усіх сіл.

Васілёк *(з трывогай аглядае кусты. Прыцішана)*. Тата!.. Тата!.. Міша!.. *(Прыпыніўшыся, прыслухоўваецца і прабіраецца бліжэй да дарогі. Убачыўшы на чыгунцы немцаў, падаецца назад. Заўважыўшы на траве кроплі крыві, прыпыняецца.)* Тата!.. *(Хапаецца за аўтамат і хоча кінуцца да дарогі, каб адкрыць па фашыстах агонь. Спахапіўшыся, раптоўна застывае на месцы.)* А данясенне?.. *(Дастае з-за пазухі ліст, які перадаў яму бацька, чытае:)* «Даруйце, дарагія сябры, і бывайце... Мы не маглі інакш... Такое склалася становішча...» *(Паўтарае.)* «Бывайце»... «Такое склалася становішча...» Што гэта значыць?

З кустоў супрацьлеглага боку дарогі паказваецца Хвасцецкі.

Хвасцецкі *(убачыўшы фашыстаў, прыпыняецца ля насыпу дарогі. Задаволена)*. Пан капітан Фульке!..

Капітан Фульке *(уздрыгнуўшы ад нечаканасці. Пазнаўшы Хвасцецкага, радасна кідаецца яму насустрач)*. А-а! Партызан Барысік! Нарэшце! А мы...

Хвасцецкі *(падае руку капітану Фульке. Перапыняючы)*. ...думалі, што паручнік Хвасцецкі даўно загінуў. О! Не! Яго бацькі тут у семнаццатым загінулі, а іх сын не прападзе!..

Капітан Фульке *(занепакоена)*. Ну, дзе яны? Разведаў?

Хвасцецкі. Падымай свой гарнізон! Я павяду!

Капітан Фульке *(перапыняючы)*. Што?.. Мы на брыгаду?

Хвасцецкі. Партызанскую брыгаду не ўдалося выявіць. Разаб'ем цяпер дыверсійную групу. Яна тут кіламетрах у сямі. Трэба спяшацца.

Гэта людзі, якія на адным месцы доўга не сядзяць. Я бег, быў у вас на кватэры... Сказалі, што тут... Хутчэй!

Капітан Фульке. Айн мамэнт! Прапусцім цягнік...

Хвасцецкі (*заўважыўшы, як яфрэйтар Фрыц засыпае варонку пад рэйкай. Здзіўлена*). Што гэта?

Капітан Фульке. Бандыты міну паставілі...

Хвасцецкі (*здзіўлена*). Не можа быць... (*Дастае з кішэні ўзрывацель і паказвае*). Паручнік Хвасцецкі папярэдзіў узрыў... Іх было трое...

Капітан Фульке (*убачыўшы ўзрывацель, усміхнуўся*). Удасца аперацыя — мы вам дадзім крыж. Вы заслужылі...

Хвасцецкі. І вы таксама...

У тым баку, адкуль павінен быў з'явіцца цягнік, раздаецца магутны выбух. Чутно крушэнне эшалона.

Васілёк (*крычыць*). Та-а-а-та!!! (*Голас яго зліваецца з шумам і грукатам вагонаў, якія ідуць пад адхон. Васілёк хапаецца за аўтамат і кідаецца да дарогі, адкуль адкрывае агонь па нямецкаму яфрэйтару, афіцэру і Хвасцецкаму, якія разгублена сталі на чыгунцы. Яны падаюць мёртвымі. Праз хвіліну-другую ўсё заціхае. Васілёк вяртаецца назад. Відаць, яго душыць пякучы боль, яму хочацца заплакаць. Але, падняўшы вышэй галаву, ён глядзіць перад сабою смела, адкрыта і, сціскаючы моцна аўтамат, ідзе ў глыб лесу.*)

Заслона.



Дзмітры Кавалёў нарадзіўся ў 1915 годзе ў Ветцы на Гомельшчыне ў сям'і каваля.

Працаваў малатабойцам у суднарамонтных майстэрнях, вучыўся ў вячэрнім рабфаку ў Гомелі, пасля настаўнічаў.

У гады Айчыннай вайны служыў у Паўночным флоце ў злучэнні падводных лодак.

Цяпер пераехаў у Маскву і працуе ў выдавецтве «Молодая гвардия».

Выйшлі з друку кнігі Кавалёва «Далёкие берега», «Стихи», «Мы не расстаёмся», «Рябиновые ночи», «Тишина» і іншыя.

Дзмітры Кавалёў — член Саюза пісьменнікаў БССР.

**Дзмітры КАВАЛЁЎ**

# СЫНЫ



Мае сыны...
Як дзіўна: я ж сябе —
Яшчэ зусім нядаўна! — гэткім помню...
У цішыні, з маленства мне знаёмай,
Раўкі-маршчыны гладжу на ілбе.
За шырмай — ходзікаў самотны стук.
У вокнах — шэлест маладога лісця...
Мы так хацелі вырасці калісьці!
І што з таго,
Што шлях складаў вярсту?
Здавалася: так ясна ўсё і проста.
Але жыццё не разгадаць да дна.
Нас хлапчукамі згрэбла ўсіх вайна,
Шынелі выдала нам не па росту.
Мы боль сароміліся паказаць,
Храбрыліся
І галавой не ніклі.
Мы гаварылі:
— Нам не прывыкаць...
Як быццам мы і сапраўды прывыклі.
Так,
У абмін юнацтва,
Не парой,
Спазналі сталасць мы.
Нам скроні ўкрыла...
Што скроні?
Вось сыны перада мной:

Румянец яркі,
Ручкі, нібы крылы...
О, птушаняты, колькі вас такіх!
Адных, як я, галубяць вас бацькі —
І вы ўсміхнуліся спрасонку міла;
Другіх —
Вайна сіротамі зрабіла.
Яшчэ у вокнах цёмна.
Толькі дзесьці
За паркам
Цэхі свецяцца агнём...
Растуць ва ўсіх нас дзеці з кожным днём.
Прачнуся —
Думаю да дня аб дзецях.
Не забывай:
Яшчэ увесь цяжар
На плечы гнуткія іх легчы можа.
Ад шкодных думак
Іх засцерагай
І ад спакус
Прыязнасці варожай.
Не забывай:
І іх юнацтва дні,
Магчыма, ўжо хто загубіць намерыў...
Перадсвітальнай гэтай цішыні,
Сказаць па-праўдзе, я не дужа веру.

* * *



Вайна не па расказах нам знаёма.
Уласную зямлю
мы бралі з бою.
У нас не знойдзеш вулкі,
нават дома,
Дзе б не было ўдавы
або героя.
Не меней, чым калосся
ў буйным жыце,
Дзяцей у нас, дзяўчат
ды хлопцаў рослых.
Каму ж, калі не нам,
жадаць, скажыце,
Гаючай цішы
у далінах росных?
Сады вясновыя
дурманяць хмелем,



І каласуюць
у бязмежжы ўсходы.
Хто, хто, а мы
ўсім сэрцам разумеем,
Як ім патрэбна
добрая пагода!

Пераклаў з рускай мовы
Ніл ГІЛЕВІЧ.



Навум Кіслік нарадзіўся ў 1925 годзе ў Маскве ў сям'і рабочага. Пасля жыў і вучыўся ў Віцебску.
У гады Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях.
У 1950 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Некаторы час настаўнічаў, пасля працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».
У 1956 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў з друку яго першы зборнік вершаў «Разговор с друзьями».
Навум Кіслік — член Саюза пісьменнікаў БССР.

**Навум КІСЛІК**

# Я НА ТАКОЙ ЗЯМЛІ ЖЫВУ



Было —
нябёсы ў бляклых хмарах
і неабжытая зямля,
у змрок
нацэлены ліхтарык
ды крок
начнога патруля
ды карабель
з імжы асенняй
глядзіць пагрозна ў цішыню...
І вось —
апошняе імгненне.

Грымяць ствалы:
«Дарогу дню!»
Ляціць з палацавых плафонаў
пыл, што наслойваўся спрадвек...
І вось
гаспадаром законным
у свет
ступае
чалавек.
Пайшоў
на штурм з ахрыплым крыкам,
штыком працяўшы змрок густы...
Як медныя,
ў барвовых бліках —
сківіц няголеных куты.
Пабіла ржа —
ў акопным брудзе—
шынель з казённага сукна...
Яшчэ балюча
паліць грудзі
гнеў,
назапасены здаўна.
На золку першай перамогі,
відаць, не думаў ён зусім,
якія цяжкія дарогі
ляжаць уперадзе прад ім,
якія радасці і слава...
Ён знаў,
што ў роднай старане
зямлёй валодаць
мае права,
а дармаед ніколі,
не!
Ён будзе спаць —
нераспрануты,
перабівацца на пайках;
і ля кастроў сушыць абутак,
і ўлегцы
падавацца ў шлях.
І лес валіць
на раздарожжы,
і ставіць светлае жыллё,
і сеяць збожжа,
сеяць збожжа,
і карчаваць да тла быллё.
І паміраць,
свінцом працяты,
на берагах
вялікіх рэк,
каб толькі жыў
да шчасця ўзняты
навек



раскуты
чалавек.
Яму
я абавязан гэтым,
што я не ў сне, а наяву
не проста так —
жыхар планеты,
а на такой
зямлі
жыву.

# ПАЎДНЁВЫ ПЕЙЗАЖ



Шаша
то паўзе на вяршыню,
то крута пятляе між гор,
і поцягам цягне машыну
самлелы ад спёкі матор.

Праходзім ускраем абрыва,
пад намі — наўскос хмызнякі,
пясчанік,
спластованы крыва,
і ветлівы рокат маркі.

А ўверсе —
святочны парадак,
разявіш, здзівіўшыся, рот:
стаяць акуратным парадам
расліны культурных парод.

Стаяць кіпарысы ў маўчанні,
навыцяжку вецце і ствол,
як быццам бы ты
надзвычайны
заморскай дзяржавы пасол.

Скамандаваць хочацца:
«Вольна!
Спыніце парад паказны!
Раўняйцеся па беластвольных
бярозах
з лясной стараны».
Ды вось,
не шкадуючы сілы, —

я шчыра вітаць яго рад, —
упарта і дружна па схілах
карабкаецца вінаград.

Такі малады
і заўзяты,
ніколі не знае нуды.
Няхай пазайздросцяць сабрату
любыя другія плады.

То ён жа
для радасці нашай
наліўся праменным святлом,
і кроў яго поўнаю чашай
шуміць над святочным сталом.

Здараецца,
п'юць яшчэ з гора —
яго хіба ў гэтым віна?
Я веру,
што скончыцца скора
і горкая доля віна.

Вільнула шаша неслухмяна —
вось-вось паляцім са скалы.
А зверху,
з-пад воблакаў цьмяных,
глядзяць раўнадушна арлы.
Крыніцы,
як вочы,
слязяцца
на спаленым сонцам грудзе,
і ў вечнай,
размеранай працы
нястомнае мора гудзе.

Каменні варочае мора,
шліфуе
патокам вады.
Дымяць
навакольныя горы,
у іх —
перакур,
як заўжды.

Пераклалі з рускай мовы
П. МАКАЛЬ і А. ВОЛЬСКІ.



Іван Бурсаў нарадзіўся ў 1927 годзе ў Клімавічах на Магілёўшчыне ў сям'і служачага.
З 1945 па 1956 год працаваў грузчыкам, счэпшчыкам і слесарам на Чалябінскім металургічным і Мінскім трактарным заводах. Завочна скончыў сярэднюю школу і цяпер займаецца ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага.
Вершы Бурсава публікаваліся ў цэнтральным і рэспубліканскім друку.

**Іван БУРСАЎ**

# СТАРЫ РАБОЧЫ



З далонямі ў парэзах
Сутулы чалавек.
Нямала ён жалеза
Перакаваў за век.

Спачыну старасць просіць.
І хоць не згодзен ён,
Яму дамоў прыносіць
Палучку паштальён.

Такая звычка змалку —
Гудок зарвецца ў сон,
Ён, чыркнуўшы запалку,
Бярэ камбінезон.

Ды ўспомніць —
цяжка стане:
Не тыя ўжо гады.
Яму, у гэткім стане,
Спяшыцца няма куды.

І зробіцца няёмка
І непрыемна так,
Нібыта ён пакоўку
Пусціў знячэўку ў брак.

Пераклаў з рускай мовы
І. КАЛЕСНІК.

## МАЛЕНСТВА



Маё маленства,
дзе твой след глухі?
Заплюшчыў вочы ледзь
парой начною,
І сняцца мне далёкія шляхі,
За дваццаць вёсен змераныя мною.
Мне ўсё чуваць даўно заціхлы гром,
І зноў туды па згубленаму следу,
Дзе бегала маленства за Дняпром,
Па бальшаку ухабістаму еду.
Але дарма шукаю на зямлі
Слядоў, што не маглі тут захавацца...
Бяссмертнікам
акопы параслі
Паміж маім маленствам і юнацтвам.

Пераклалі з рускай мовы
П. МАКАЛЬ і А. ВОЛЬСКІ.



Браніслаў Спрынчан нарадзіўся ў 1928 годзе ў Навамірградскім раёне на Украіне ў сям'і служачага. Скончыў Кіраваградскі машынабудаўнічы тэхнікум.

Працаваў майстрам на Гомсельмашы. Першыя вершы былі надрукаваны ў заводскай шматтыражцы.

Цяпер вучыцца на завочным аддзяленні Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага.

У 1957 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў першы зборнік яго вершаў «Над кручамі Сожа».

Браніслаў Спрынчан — член Саюза пісьменнікаў БССР.

**Браніслаў СПРЫНЧАН**

## ВЫТОКІ



Ёсць рэкі буйныя, славутыя рэкі
У маёй Беларусі, старонцы лясной,
Калісьці варагі ў далёкія грэкі
У чоўнах па іх праплывалі вясной.



Асілкі-дубы каля стром вырасталі,
Лісты ападалі ў крутыя віры,
Як быццам удалеч гады адляталі,
Адвечную кнігу герталі вятры.

Глядзелі дубровы — маўклівыя сведкі —
На шведаў, што ўвосень ля вёскі Лясной
Ішлі на Палтаву, тапталі палеткі,
Ды гібель знайшлі
У Сажы пад вадой.

Таму і да славы Палтавы навекі
Далучана слава палескай ракі.
Усюды вядомы вялікія рэкі,
Не тое, што ў лесе густым ручайкі.

Хоць імя не мае,
Празрысты і звонкі,
Ён сокі зямныя па кроплі сабраў,
І раптам прабіўся ля гонкай сасонкі,
І неба адбіўшы, пабег паміж траў.

Ён голасам свежым, адценнем, нахілам
Да іншых зусім не падобны, а ўсё ж —
Па лесе — ўпотай, адкрыта — са схілу
З усімі навечна ўплятаецца ў Сож.

Пяюць шматгалоса струмені жывыя,
І хвалі на золку ў зіхценні агнёў.
Усе тонкія гукі і фарбы лясныя
Рака ўвабрала з вадой ручаёў.

Ля шэрага камня, пад гронкай каліны —
Усюды звіняць ручайкі на бягу.
Ні Сожа, ні нават дняпроўскае плыні
Без тых ручайкоў уявіць не магу.

Пераклалі з рускай мовы
П. МАКАЛЬ і А. ВОЛЬСКІ.

## НОВЫ ЛЁС



Ад кахецінскага аула
Да украінскага сяла
Прайшла цыганка Марыула
І сына ў табар прывяла.

Хоць сын не лішні, ды з пялёнак
Яму заткнулі рот ражком.

І галапузы цыганёнак
Здаваўся бронзавым бажком.

Ён на кані лятаў, не мыўся,
Спаў у бур'яне па вясне,
Скакаў за хлеб, як цыганы ўсе,
На жываце і на спіне.

Умеў мяняць і красці коней,
Захоўваць звычай свой сівы...
Так і трымаў хлапца ў палоне
Цыганскі табар качавы.

Яго жыццё ў туманных далях...
Было карцёжнаю гульнёй...
І ліўні рускія хвасталі
Хлапчыну пугаю сваёй.

Але пракляўшы гэта, потым
Рашыў ён справу мець і дом...
Бадзягай у стаптаных ботах
Прышоў юнак у наш заўком.

... Гудзе запраўленая печка,
Трапеча водбліск на шчаках,
Лапата лёгкая няспешна
Гуляе ў жылістых руках...

Рашыў з мінулым ён расстацца...
Ён і на ўчастку гаспадар,
І хлопец першы ў рускіх танцах,
І лепшы ў цэху качагар.

І крочачы на змену рана,
Пад родным дахам з сінявы
Ён напявае ўсхвалявана:
«Бывай, мой табар качавы!»

Пераклаў з рускай мовы
М. АЎРАМЧЫК.



Давід Сімановіч нарадзіўся ў 1932 годзе ў Нароўлі. У 1955 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер настаўнічае на Віцебшчыне.

Вершы Сімановіча друкаваліся ў часопісах «Новый мир», «Советская Отчизна», у зборніку «Вершы 1955 года», у газеце «Знамя юности».

**Давід СІМАНОВІЧ**

# ДОМ НА ДАРОЗЕ БЯССМЕРЦЯ

**Адна са школ Бухарэста носіць імя Зоі Касмадзям'янскай.**



Ціха воблакі таюць
Задумныя,
Па-над намі плывуць,
Як гады.
Цераз стэпы
І вуліцы шумныя
Ветрам іх
Занясло і сюды.

І прайшоўшы дарогу
Няблізкую
Ад Пятрышчава, —
Вёрст не злічыць! —
Над братэрскай
Зямлёю румынскаю
Сталі
Ў небе яны —
Адпачыць.
Прыпыніліся
Па-над школаю,
І застылі, маўклівыя, тут,
Дзе пад музыку
Горна вясёлага ,

Аддаюць
піянеры
салют.
Ля партрэта,
Бы сцяга высокага,
У цішы
Заміраюць на міг.
А з яго,
Як сястра чарнавокая,
Узіраецца
Зоя на іх.

Хай яна ў гэты кут
Не залётвала марамі, —
Маладое жыццё
Пражыла не дарма!
Будуць воблакі плыць над зямлёю
Штандарамі,
Бо канца
У дарогі Бяссмерця
Няма.

## ВЯСНОВАЯ КАЗКА

Маляром,
Які творыць дзівосы,
Дзень вясновы ішоў па свеце,
Узнімаючы пад нябёсы
Маладое шумлівае вецце.

Распраўляючы лісцік кожны,
Ён,
Захоплены працай натхнёнай,
Фарбаваў іх усе асцярожна,
Пакуль стала зямля зялёнай.

І яна — ва ўборы святочным —
Нас зіхценнем сваім сляпіла.
Толькі неба было яшчэ змрочным:
Яркіх фарбаў яму нехапіла.

І, каб бачылі людзі вясёлку,
Што піла сёння чыстыя росы,
Памазок абмакнуў ён у Волгу
І нанёс яе на нябёсы.

Паглядзеў на прастор неабдымны,
На сузор'е агнёў будаўнічых



І, туман разганяючы дымны,
Рукі вымыў у водах крынічных.

А пасля, — усё тое, што славіў, —
Раптам ён асвятліў паасобку.
І на самым усходзе паставіў
Ясным сонцам вялізную кропку.

Пераклаў з рускай мовы
С. ГАЎРУСЁЎ.



Мікола Ганчароў нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Заполле на Віцебшчыне.

Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча. Цяпер вучыцца ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце.

Вершы яго друкаваліся ў «Комсомольской правде», «Советской России», «Красной звезде», «Пионерской правде», «Юности», «Крестьянке», «Советской Белоруссии», «Знамени юности», «Зорьке».

**Мікола ГАНЧАРОЎ**

## МАЁЙ БЕЛАРУСІ



Я абышоў
Твае лясы, узгоркі,
Свой лёс
З тваім з'яднаў у барацьбе.
У позірку маім
І нават у гаворцы
Знаходзяць нешта
Блізкае табе.
Прымі ж маю ты песню,
Песню сына,
Хачу быць кропляю
Ў рацэ тваёй.
Хоць я цябе,
Твае лясы, раўніны,
Па-руску слаўлю
Песняю сваёй.

# БАЦЬКАВА ШАПКА



Залаплены
Сляды асколкаў,
Кроў выцвіла
Даўно на ёй.
Яна ўсё тая ж,
Як з іголкі,
Вісіць
Над тумбачкай маёй.

Матуля — ў несуцешным горы...
А зорка чырванню гарыць,
Нібыта
Сонейка над борам
Ўзышло,
Каб хату асвятліць.

Змагаўся
Бацька ў шапцы гэтай.
Цяпер
Я берагу яе.
Калі ж яна
На мне адзета,
Ўсе кажуць:
Бацька мой жыве.

Пераклаў з рускай мовы
Хв. ЖЫЧКА.



Мікола Аўсеенка нарадзіўся ў 1932 годзе ў пасёлку Чырвона-Маскоўскім Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці.
У 1953 годзе скончыў Самацэвіцкую сярэднюю школу. Адразу ж пайшоў на газетную работу. У 1956 годзе паступіў на завочнае аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, дзе займаецца і цяпер. Працуе М. Аўсеенка ў круглянскай раённай газеце.
Друкавацца малады празаік пачаў у 1958 годзе.

Мікола АЎСЕЕНКА

# НЮРА

## Апавяданне

Мал. У. Міхайлоўскага.

1

А нездарма кажуць, што Сёмка, сын конюха Рыгора, употай кахае гарэзніцу Нюру. З вечарынкі ён заўсёды ідзе ўслед за ёй, але ніхто яшчэ не бачыў іх разам. Ціхі, сарамлівы, Сёмка, напэўна, ніяк не адважыцца падысці і ўзяць дзяўчыну пад руку — занадта ж яна бойкая. І трэба было яму закахацца ў Нюру! Не пара яна Сёмку: у Слабодцы Нюра — першая ў танцах і ў рабоце. А Сёмка толькі да працы здатны. Таму, відаць, і жартуюць з яго ўсе, і Нюра — таксама.

Але часам яе адносіны да Сёмкі мяняліся. Яна раптам пераставала жартаваць і часта сур'ёзна размаўляла з хлопцам. Тады Нюру цяжка было пазнаць, яна адразу мянялася: нейкая думка непакоіла дзяўчыну, а якая — цяжка было здагадацца.

— Дзяўчаткі, Сёмка — добры хлопец,— адказвала яна на жарты сяброўак.

... Была нядзеля... Канец мая. Дзяўчаты і хлопцы з вёскі сабраліся на ўскраі сенажаці пад старымі дубамі. Праводзілі вясну. Іграў гармонік, спявалі песні.

Хораша, прыгожа ў лужках! Нюра ўсхопліваецца з месца і бяжыць да раўчука акунуць вянок, каб ён не вянуў. Сёмка заўважае, што яна пабегла адна, адлучаецца і ідзе за ёю. Але вось ён спыніўся і, каб яго

не заўважылі, стаў за шырокі арэхавы куст; з другога берага да раўчука, у тым месцы, дзе была зараз Нюра, падыходзіла група хлопцаў з Букаўца. Аднаго з іх Сёмка бачыў упершыню. Прыгожы, рослы, бялявы, ён ішоў наперадзе і нешта весела расказваў сваім таварышам. Заўважыўшы Нюру, ён неяк бойка, без асаблівай сарамлівасці, прывітаўся, а потым, разбегшыся, скокнуў праз раўчук. Падмыты веснавой паводкай, бераг абваліўся, і хлопец ледзь не плюхнуўся ў ваду, каб яго за руку не падхапіла Нюра. Яна і сама не магла пасля растлумачыць сабе, як гэта здарылася. Заўважыўшы, што хлопец можа апынуцца ў вадзе, хутка працягнула яму руку і памагла выкарабкацца на бераг.

— Дзякую,— прагаварыў ён і адразу ж спытаў: — Як мне клікаць вас, ратавальніца?..

— Нюра.

— А я — Грышка...

І, павярнуўшыся да таварышаў, падаў каманду:

— Скакайце!

— Лаві і нас, Нюра!.. — закрычалі тыя.

Нюра пагардліва павяла галавой і хуценька пабегла да дзяўчат. Сёмка не вытрымаў і, зрабіўшы выгляд, што трапіў сюды незнарок, ступіў з-за арэшніку насустрач дзяўчыне. Тая ўскінула на яго здзіўлены позірк, усміхнулася:

— Сёмка? — і не сказаўшы больш ні слова, пайшла да сябровак.

Вярталіся ў вёску пад вечар. Двое букаўцаў — Грышка і музыкант — пайшлі праводзіць слабадскіх дзяўчат. Сёмка адразу насцярожыўся. Рэўнасць закралася ў яго сэрца. Ён намерыўся падысці да Нюры, але ў гэты ж момант побач з дзяўчынай апынуўся Грышка. Вось ён паспрабаваў узяць яе пад руку, але Нюра вырвалася і схавалася між дзяўчат, што ішлі ўперадзе. Ці не ад гэтага ў Сёмкі павесялела на сэрцы...

Вечарам ён, памогшы бацьку выгнаць на папас коней, завярнуў адтуль напрасткі ў канец вуліцы, дзе жыла Нюра. Можа, яна ўжо сядзіць з сяброўкай каля хаты? А можа... з Грышкам? І сэрца хлопца заныла. Ён успомніў усё, што было сення. Вітаючыся з ім, Грышка знарок (моў, глядзі, які я дужы!) да болю сціснуў Сёмкаву руку. А калі сталі закурваць, то дастаў з кішэні срэбраны партабак і закурыў не як звычайныя курцы, а скамячыў у гармонік муштук папяросы і, заціснуўшы яе губамі ў край рота, задраў галаву. Не, не можа быць, каб гэты задавака заставаўся яшчэ ў Слабодцы. Нюра, мусіць, адразу разгадала яго. Усцешаны гэтымі разважаннямі, Сёмка з хваляваннем набліжаўся да знаёмага кветніка. Сёння ён наважыў прызнацца Нюрцы, што кахае яе. Вось ужо відаць у цемені белая сукенка — Нюрчына, вядома. Але што гэта? Здалося Сёмку, ці сапраўды хто там? Побач з дзяўчынай варушыцца нечая постаць.

— Ого, а вы — занадта смелы,— пачуўся раптам Нюрчын голас.

Сёмка прыпыніўся пад вярбой і заўважыў, як Нюра зняла з свайго пляча Грышкаву руку і ўстала. Грышка пачаў супакойваць дзяўчыну:

— Даруйце, Нюра... Я не ведаў, што магу гэтым пакрыўдзіць вас...

Ён, відаць, хацеў затрымаць Нюру, але яна паспешліва развіталася і знікла за брамкай. На вуліцы зрабілася ціха-ціха. Сёмку здавалася, што ён чуе, як б'ецца ў грудзях яго сэрца, перапоўненае пачуццём злосці і рэўнасці. Хацелася тут жа падысці да Грышкі і сказаць, каб





ён не хадзіў больш сюды. Але навошта выдаваць сябе? Пойдуць пасля плёткі па вёсцы.

Прыхінуўшыся да вярбы, Сёмка бачыў, як Грышка адышоўся ад дома, закурыў і, падаўшыся ў другі канец вуліцы, свіснуў тры разы. Праз некалькі хвілін там паказалася нечая постаць. Грышка чакаў. Постаць хутка наблізілася, і Сёмка пазнаў букаўскага музыканта.

— Ну, як?.. — ціха запытаўся той.

— Не прыручаная яшчэ, брыкаецца, — плюнуў Грышка на дарогу. — Нічога, не такіх бачыў.

У Сёмкі задрыжалі рукі. Ён з усяе моцы сціснуў кулакі і хацеў выйсці, каб даць аплявуху гэтаму фанабэрыстаму нахабніку. Але ці варта падымаць шум? Не, ён лепш аб усім раскажа Нюрцы.

## 2

Сёмка хваляваўся: ужо некалькі разоў Грышка прыходзіў у Слабодку, праводзіў з вечарынак Нюру, а ён усё ніяк не ўлучыў моманту, каб падысці да яе і расказаць пра ўсё, што чуў у той вечар. А што, калі Нюра не паверыць? Падумае яшчэ, што ён з рэўнасці нагаворвае на Грышку.

Аднойчы яны гулялі ў клубе. На двары ішоў дождж, і з Букаўцоў ніхто не прышоў у той вечар у Слабодку. Не было на вечарынцы і Грышкі. А таму, ідучы дамоў, хлопцы жартам падштурхнулі Сёмку:

— Ідзі... Сёння яна адна...

І якое ж было здзіўленне хлопцаў, калі яны ўбачылі, як Сёмка, нічога не адказаўшы на іх жарты, падышоў да Нюры і пакрочыў поруч з ёй.

Дзяўчына ў той момант устрапянулася, хацела адбегчыся, але злосны голас Сёмкі нібы прыкаваў яе да месца.

— Грышка — падлюга! — з абурэннем выпаліў ён.

— Гэта чаму ж? — абарвала яго Нюра.

— Ён гаварыў... — і Сёмка, заікаючыся, расказаў усё, што чуў сам.

— Эх ты!.. А я думала, што ты не такі, як ён...

Яна крута павярнулася і шпарка пайшла ад Сёмкі, а той, разгублены, застаўся на месцы.

— Ну, вось. Я так і думаў, — прамовіў ён ціха сам сабе.

Пасля гэтага Нюра пазбягала сустрэч. Сёмка пакутаваў, але не пераставаў спадзявацца, што рана ці позна, а дзяўчына разгадае Грышку, зразумее сваю памылку. Толькі каб гэта здарылася хутчэй.

У наступную нядзелю моладзь зноў сабралася ў клубе на веча-

рынку. Музыка перш-на-перш зайграў польку, і імкліва закружыліся пары. І якраз у гэты момант у клуб уваліліся букаўцы. Наперадзе няроўна ступаў Грышка. Карычневы касцюм на ім быў расшпілены. Гальштук матляўся на шыі.

Дзяўчаты адразу зашапталіся: «Глядзіце, Грышка п'яны прышоў...» Толькі хлопцы быццам не заўважалі гэтага. Яны яшчэ больш заўзята прытупвалі абцасамі. Але дабром танец не скончыўся. Грышка наблізіўся да музыканта і загадаў яму іграць «барыню».

— Пачакай, кончу агульны, потым табе сыграю,— весела адказаў музыкант.

— А я табе кажу: іграй «барыню»!

Той перастаў іграць, спакойна паставіў гармонік на лаву і звярнуўся да Грышкі:

— Ты чаго?..

— А ну, іграй, табе кажуць!— штурхануў Грышка гарманіста ў плячо. Смуглявы твар хлопца ўмомант наліўся густой чырванню.

А Грышка, азіраючыся па баках, крычаў:

— Я пакажу, як нагаворваць на мяне!.. Дзе той, што казаў...

Вакол яго сабраліся букаўцы. Усе рослыя, дужыя, быццам на падбор. Таму некаторыя слабадскія хлопцы палічылі за лепшае пакінуць клуб. Але большасць моладзі стоўпілася вакол музыкі. Падышоў і Сёмка. Здагадаўшыся, што Грышка выглядае яго, ён рашуча выйшаў яму насустрач.

— Ага, здаецца, вось гэты! — хрыпеў Грышка.

Аднак амаль распачатая ўжо бойка была спынена нечакана для ўсіх. Пачуўшы, што Грышка лезе біцца да Сёмкі, Нюра падскочыла, схапіла Грышку за руку якраз у той момант, калі ён размахнуўся, і ўдарыла яго па шчацэ. Пошчак аплявухі разнёсся па ўсёй хаце. Грышка адразу абмяк і некаторы момант стаяў, як аслупянелы. А Нюра, акінуўшы яго постаць зняважлівым позіркам, раптам павярнулася да гарманіста, і смелыя, гарэзлівыя іскаркі бліснулі ў яе цёмнашэрых вачах:

— Музыкант, іграй «барыню»!

Гарманіст нібы разгадаў намер дзяўчыны, узяў гармонік і адразу зайграў бадзёра, імкліва. Усе здзіўлена глядзелі на Нюру. А яна крута павярнулася да Грышкі і прытупнула нагой:

— Танцуй!

Грышка, разгублены, пачаў адступаць да дзвярэй.

— Танцуй!— наступала дзяўчына на Грышку.

Той, лыпаючы спалохана вачыма, спаткнуўся іываліўся ў калідор. Там яго падхапілі пад рукі букаўцы і пацягнулі на вуліцу. А ўслед ім чуліся насмешлівыя галасы слабадской моладзі.

— Танцор! — пагардліва прагаварыла Нюра, адвярнуўшыся ад дзвярэй.

Сярод хлопцаў яна заўважыла Сёмку. Смуглявы, чарнабровы, ён стаяў на тым самым месцы, дзе толькі што адбылася сутычка. Пачуццё віны перад Сёмкам працяло сэрца дзяўчыны. Доўга не раздумваючы, яна падышла да хлопца і ціха прагаварыла:

— Даруй мне, Сёмка... За ўсё даруй.

Ён ускінуў на дзяўчыну позірк і ўважліва паглядзеў ёй у вочы. Не, праўду гаворыць Нюра, праўду.

...Да раніцы гулялі слабодцы тую вечарынку.



Зміцер **ШАСТАК**

# ПАТУРБАВАЛА ПЕСНЯ

### Апавяданне

*Мал. А. Бурачэўскага.*

— Вось так трэба працаваць,— сказаў солтыс Бруцкі, вярнуўшыся дамоў.— Нябось, падціснулі хвасты, галубочкі... Я навяду парадак. І без паліцыі прышчамлю языкі ўсім. Сёння ні аднаго падазронага з вёскі не выпушчу. Будуць ведаць, з кім маюць справу.

— Памажы, божа,— перахрысцілася жонка.— Мо' ў войты выб'ешся...

— Ну, гэта не твая справа. Вячэраць давай.

Красавіцкі вечар па-веснавому заглядваў у вокны і клікаў выйсці на двор, падыхаць цёплым і мяккім паветрам. Солтыс некалькі разоў прайшоўся па хаце. Ён нават адзін-на-адзін трымаўся фанабэрыста і строга: нездарма ж ён — сіла ў вёсцы.

Жонка была рада за яго. Нарэшце ж і іх не міне шчасце... Будуць, будуць яе зваць пані Бруцкай.

Толькі сын Чэсь быў абыякавым да бацькавых спраў. Апроч свайго сабакі Дзіка, яго нічога не цікавіла. Ён нават пазбягаў сустрэч з бацькам, каб той, божа барані, не прымусіў што-небудзь зрабіць. Таму і ў гэты вечар, як толькі пачуў бацькаў голас, Чэсь непрыкметна шмыгнуў за дзверы.




Вячэра стаяла на стале, Бруцкі задаволена паціраў рукі. Раптам нешта шкрабанула па дзвярах, забрахаў сабака і паўз акно прамільгнула нечая постаць. Солтыс выскачыў з хаты — нікога. Толькі на дзвярах матляўся напалавіну прыклеены ліст паперы. Прынікшы да яго, Бруцкі пачаў чытаць. У вачах скакалі вялізныя чырвоныя літары: «Няхай жыве 1-е Мая!»

— Што?.. Лістоўка?.. зашыпеў солтыс і са злосцю рвануў ліст паперы. Потым кінуўся ў хату і з парога закрычаў:

— Чэ-э-сік!

Хата маўчала.

— Пся крэў, зноў збег, валацуга!

Пастаяўшы з хвіліну ў задуменні, Бруцкі ткнуў сабе пальцам у лоб і пабег да хлява. Хуценька адвязаў сабаку і, прывёўшы да дзвярэй, злосна загадаў:

— Бяры след, Дзік!

Дзік заскуголіў ля ног гаспадара і, нарэшце, абнюхаўшы парог, павёў солтыса на гароды. Бруцкі ледзь паспяваў за сабакам, спатыкаўся, але бег, злосна мармычучы:

— Я вам наклею, я вам наклею, крамольнікі... У пастарунак усіх!

Але тут сабака пабег на двор да адзінокай удавы Ганны.

— Дык вось, дзе вы прытулак знайшлі?! Усіх адразу і накрыем,— абрадаваўся Бруцкі і моцна пастукаў у дзверы.

— Хто там? — пачуўся спалоханы жаночы голас.

— Адчыніць!

Бразнула засаўка, і сабака з солтысам уваліліся ў хату.

— Ні з месца! — грымнуў Бруцкі і раптам аслупянеў: ля печы на ложку сядзеў яго сын Чэсь.

— Што?.. Ты сюды? Марш дамоў!

Назад ішлі моўчкі. Уперадзе Дзік, за ім солтыс, а ззаду плёўся Чэсь і думаў: «Вось, увесь вечар сапсаваў...»

Сцямнела. Апусцела вуліца, толькі пад старым дубам яшчэ гаманіла моладзь. Чуліся жарты, смех.

— Чаго выскаляецеся? Спаць пара,— кінуў солтыс, праходзячы каля хлопцаў: неяк моташна было яму слухаць цяпер вясёлую гамонку.

Вярнуўшыся дахаты, солтыс, не распранаючыся, лёг на ложак і так праспаў да ранку. Разбудзіла яго бадзёрая песня.

— Цьфу ты, сніцца ўсякае...— прамармытаў Бруцкі і павярнуўся на другі бок.



Але песня чулася ўсё мацней і мацней. І вось ля самай хаты загучалі словы:

«Паўстань, пракляццем катаваны»...

Солтыс усхапіўся з ложка, працёр вочы і зірнуў у акно. Што гэта? Па вуліцы крочыла вялізная калона; наперадзе калыхаўся чырвоны сцяг.

Сон адразу прапаў.

— Э-эх!.. Паназбіралася басоты... І хаця б хто людскі, а то парабкі... Пачакай жа, я вас усіх на паперку... І куды трэба падам...

Бруцкі палез у кішэню, але замест алоўка выцягнуў згорнутую напалам адозву.

— Што за трасца? І як яны маглі ўхітрыцца?

А калона цвёрда, упэўнена крочыла па вёсцы. Мацнела і рвалася ўвышыню песня. Ранішняе сонца падымалася над хатамі і кідала на зямлю ясныя і мяккія промні.



Уладзімір Колтун нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Куляшоўка Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці ў сям'і калгасніка.
Закончыўшы Пятровіцкую сярэднюю школу, працаваў у калгасе.
У 1958 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта.
«Аднойчы восенню» — першае апавяданне аўтара.



Уладзімір КОЛТУН

# АДНОЙЧЫ ВОСЕННЮ

### Апавяданне

Мал. Г. Барэйкі.

Алесь памятае, як гэта ўсё здарылася... Ён — уотчык паляводчай брыгады, абрадаваўся, калі пачуў, што ў калгас прыязджаюць студэнты. На долю Алеся выпала турбота знайсці ім кватэры. Знаёміліся. Алесь па чарзе паціскаў усім рукі: то мяккую чыю-небудзь, пяшчотную, то, часам, шурпатую, мазолістую, якая не так даўно, мабыць, трымалася за вілы ці рыдлёўку...

Апошняй знаёмілася тоненькая дзяўчына, яна смела працягнула яму сваю руку і з нейкай гарэзлівасцю выгукнула:

— Вера Паўлаўна!..

Алесь на хвіліну затрымаў на ёй свой позірк, усміхнуўся. Прыгледзеўся, пэўна, проста так, бо нельга было сказаць, што яна чымсьці асаблівым вызначалася сярод сваіх сяброўак. Звычайная дзяўчына, бадай, дзяўчынка, у штапельнай сукенцы; на зграбных ножках — простыя туфелькі. Твар амаль непрыгожы, але ветлівы і прывабны; каштанавыя валасы густымі кудзеркамі спадалі на ўпарты лоб. Толькі вочы, карыя і вялікія, свяціліся, чаравалі.

Алесь крочыў з дзяўчынай па дзірване вясковай вуліцы наперадзе ўсіх.



Вера пытала ў яго бесперастанку:

— А вечарынкі ў вас бываюць? Аж два разы на тыдзень?! Вось слаўна! — шчабятала яна, не хаваючы сваёй радасці.

Ён ахвотна адказваў на пытанні, жартаваў нават. І ў яго з'явілася думка: накіраваць Веру ў самую лепшую хату ў вёсцы, да ўдавы Аўгіні. Хата ў яе прасторная, і жыве жанчына не блага. Але Вера без сваіх дзвюх сяброўак не згаджалася ісці да Аўгіні. Ды ўсё ўладзілася. Аўгіня неяк адразу ўпадабала дзяўчат і прыняла іх усіх на кватэру.

... Вяртаўся Алесь дадому позна. У яго галаве блыталіся розныя думкі. Праз колькі часу ён злавіў сябе на тым, што думае пра Веру.

«Чаго б гэта? На сяле ў нас многа такіх дзяўчат,— пераконваў ён сябе. — А мо' таму, што яшчэ ні разу не быў закаханы?»

Восенню бываюць дні, калі туман ахутвае ўсё наваколле так, што нават удзень машыны не імчацца, як звычайна, а неяк сунуцца, асцярожна, прытармажваючы.

Толькі к поўдню туман знікае, рассейваецца, але не ўсюды, не адразу. То там, то сям у лагчынах ён яшчэ папасваецца доўга і лянiва. Але выплывае сонца, і відаць, як зззяюць, пераліваюцца ад расы на траве танюсенькія, ледзь прыкметныя павуцінкі.

Сёння Алесь усхапіўся яшчэ на досвітку. Наспех паснедаўшы, ён заспяшаўся на брыгадны двор.

Там ужо гаманілі калгаснікі, яны акружылі хлопца-возчыка і кпілі з яго, як той будзе вазіць бульбу, калі скрыня ледзьве ліпіць. Хтосьці раіў замазаць шчыліны глінай, а нехта масціўся затыкаць дзіркі шынялём. Алесь параіў хлопцу падрамантаваць скрыню ля кузні, пакуль ёсць час, бо сёння работа закіпіць не на жарт.

Калі Алесь прыехаў на поле, студэнты былі ўжо там і сустрэлі яго гаманлівым натоўпам, як старога знаёмага.

Убачыўшы Алеся, Вера прывіталася і, усміхнуўшыся, пажартавала з хлопца:

— Заспаў, Алесь. Мусіць, усё нашы дзяўчаты сніліся?

Ранішняе асеннее поле абудзіў вясёлы смех. Алесь неяк сумеўся, паспешліва махнуў рукою:



— Давайце лепш займайце барозны...

І студэнты, бразгаючы вёдрамі, рассыпаліся па полі.

«... Так... Здаецца, усё»,— уздыхнуў з палёгкай Алесь і дзеля прыліку глянуў раз-другі: ці чыста выбіраюць.

І тут жа яго апанаваў другі клопат.

Яшчэ ўчора яго спаткаў на вуліцы сакратар камсамольскай арганізацыі і папрасіў выпусціць заўтра нечарговую насценгазету. (Алесь быў рэдактарам.) Няхай пачытаюць госці.

Каб гэта было ў выхадны дзень, дык сабраў бы Алесь усіх сваіх членаў рэдкалегіі і прыдумалі б што-небудзь цікавае. А так... Не пабяжыш жа ў суседнія брыгады збіраць іх, не кінеш усё без нагляду. А ўзяцца аднаму — дык жа ён маляваць не ўмее...

Пакуль Алесь развражаў, першая скрыня была поўная бульбы. Падышла Вера. Кошык у яе быў цяжкі, і яна ледзь падняла яго на скрыню. Алесь міжволі падумаў: «Трэ' было б памагчы... Кошык жа не лёгкі, а я...»

Непрыкметна для сябе ён думаў пра Веру, сачыў за ёю. Добрая яна, вясёлая, рупная...

У другі раз дзяўчына, быццам жартам, быццам усур'ёз, гукнула Алесю:

— Можа памог бы...

Алесь моўчкі падхапіў кошык, незнарок дакрануўся да Верынай рукі і зачырванеўся. А потым доўга стаяў і думаў, і ў яго думках яе жарт набываў іншы сэнс: «Ты харошы хлопец, Алесь, памажы мне, калі ласка...»

— Вось работнічак!.. На хаду спіць...— вывеў яго з задумення Верын голас.

Зноў жарт! Ды які з'едлівы! Хлопцы рагочуць,— ім што! — а Алесю... Яму раптам здалося, што дзяўчына толькі і цікуе за ім, каб высмеяць.

Дадому ішлі разам.

— Мо' пакрыўдзіўся на мяне? Чаго ўнурыўся?

Алесь пасляшаў аднекнуцца: не, яго турбуе газета. Няма мастака, а выпусціць яе трэба было б, і неадкладна.

Вера здзівілася:

— Дык ты з-за гэтага! Падумаеш, бяда якая!.. Я ж крыху малюю...

Дамовіліся сустрэцца вечарам. Яна папрасіла Алеся зайсці па яе.

Яшчэ завідна Алесь узяў ключ ад канцылярыі і чакаў вечара.

Цямнела, калі ён зайшоў у хату цёткі Аўгіні. Убачыўшы Алеся, Вера хутка сабралася, і яны вышлі з хаты. Услед ім панеслася нейкае, мусіць, добрае пажаданне сяброўак Веры. Алесь не пачуў, што яны сказалі, а Вера, чырванеючы, буркнула:

— От сарокі...

У канторы было цёмна, і Алесь запаліў святло.

Вера была, як заўсёды. Вочы яе гарэзна ўспыхвалі, калі яна бралася за аловак і, нахіліўшыся над сталом, выводзіла літары і звярталася да Алеся, каб спытаць, добра атрымоўваецца ў яе ці не.

Яму хацелася нахіліцца над сталом побач з ёю, прытуліцца плячом да яе пляча. Вера... Яна самая прыгожая...



...Алесь праводзіў Веру дадому. Ішлі не спяшаючыся. У цемені цяжка ўгадвалася дарога.

Алесь не адважваўся ўзяць дзяўчыну пад руку. Але яна даверліва тулілася да яго пляча, калі даводзілася абыходзіць лужыны.

Ішлі моўчкі. Потым зноў разгаварыліся. Вера расказвала пра інстытут, студэнтаў, вучобу, пра ўсё тое, аб чым даўно марыў Алесь.

І ён неяк нясмела запытаўся:

— Ведаеце, пра што я думаю, Вера?

Вера прыцішыла крокі.

— Не, Алесь.

— Мне так хочацца ў ваш інстытут... І я абавязкова паступлю.

Алесь не адчуў як радасна ўздрыгнула дзяўчына; не адчуў, што сам ён згубіў сцежку. Нейкая радасць падхапіла раптам хлопца. Ён нечакана спыніўся і моцна сціснуў Веру за плечы...

Асенняя ноч абівала з таполяў лісце, і яно ціха падала долу.



Мілан ЯРЫШ

# СЫН СВАЕЙ РАДЗІМЫ

Пятнаццаць год назад у Маскве быў падпісаны Савецка-Чэхаславацкі дагавор аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве — дагавор, сцэментаваны адзінай воляй абодвух народаў, змацаваны крывёю іх лепшых сыноў, якія загінулі ў святой барацьбе з фашызмам. «У грозныя дні вайны,— пісаў тады народны паэт Беларусі Якуб Колас,— славянскія народы, супраць якіх у першую чаргу накіравана гітлераўская агрэсія, як ніколі, павінны быць згуртаваны адзінствам агульнага імкнення — сакрушыць лютага ворага... Разам са сваімі рускімі братамі ўкраінскі і беларускі народ, а з нядаўніх пор і чэшскія воіны змагаюцца на савецка-германскім фронце. Нікому не ўдасца расколоць і разбурыць адзінства славян...»

Прароцкімі сталі словы нашага вялікага паэта. Адстаяўшы сваю свабоду і незалежнасць, поплеч цяпер ідуць нашы народы ў першых шарэнгах барацьбітоў за мір, за шчасце людзей усяго свету. І з кожным днём мацнее наша дружба.

Мы друкуем апавяданне вядомага чэшскага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Мілана Ярыша, у творчасці якога знайшла сваё яркае адлюстраванне тэма дружбы чэхаславацкага і савецкіх народаў.



Мал. Б. Льдокава.

Гэта было ў маі 1945 года. Па ўсіх дарогах Усходняй Чэхіі ўцякалі ад Савецкай Арміі ахопленыя панічным страхам гітлераўцы. Усюды іх шлях азначаўся забойствамі, грабяжамі, пажарамі.

У адной вёсачцы на галоўнай шашы ад Чэшска-Мараўскага ўзвышша дарогу фашыстам перагарадзіла жменька людзей. У іх было пяць вінтовак і адзін фаустпатрон. Гэтую зброю яны здабылі з нямецкай аўтамашыны, якая ў мінулую ноч на павароце шашы паляцела пад адхон.

Двое чалавек з вінтоўкамі і фаустпатронам, якія занялі пазіцыю каля павароту з разбітай машынай, мелі заданне пашкодзіць першы танк, які паявіцца на шашы, і загарадзіць дарогу іншым. Астатнія,



узброеныя трыма вінтоўкамі, абасналіся ў самым блізкім да шашы будынку — старой, падобнай на склеп цаглянай кузні.

Стаяў суботні поўдзень. Паветра было напоена пахам бэзу ў квецені і каштанаў. Белыя пялёсткі кветак насіліся па ветры. Шаша пусцела аж да самага павароту, дзе ляжала перавернутая машына, а далей гублялася сярод парослых лесам узгоркаў.

Раптам з альшэўніку з-за павароту шашы выбег, размахваючы шапкай, хлопчык год дванаццаці. Што моцы ён імчаўся да вёскі, і можна было пачуць, як на бягу ён нешта крычаў людзям у драўлянай будцы-вартоўні. Праз хвіліну ён дабег да кузні, ускочыў у скляпеністыя дзверы і выкрыкнуў:

— Ідуць! Ідуць ужо! Я сам бачыў іх каля лесу!

— Добра, таварыш, — сказаў яму высокі, жылісты каваль. — Ты нібы наш галаўны дазор. А цяпер бяжы ў вёску і хавайся. Чый ты?

Хлопчык усміхнуўся і паціснуў плячыма.

Потым ужо ніхто не звяртаў на яго ўвагі, усе позіркі скіраваліся да шэрай брукаванай гранітам шашы. Дзесьці там, за паваротам, бразгалі гусеніцы варожых танкаў. Іх яшчэ не было відаць, але яны былі ўжо недзе тут, набліжаліся.

Раптам паўдзённую цішыню прарэзалі адна за другой кулямётныя чэргі. Усе, хто быў у кузні, паглядзелі на каваля. Ён паківаў галавой.

— Яны, напэўна, заўважылі перакуленую машыну і пачалі страляць. Тым, у будцы, будзе туга.

Пачулася новая чарга стрэлаў, і з драўлянай будкі, хістаючыся, выйшаў чалавек з фаустпатронам на плячы. Ён зрабіў крок, яшчэ адзін, і раптам усе ўбачылі, як на бруку вакол яго пырснуў пыл і абломкі граніту. Гук стрэлаў данёсся да кузні пазней.

Чалавек з фаустпатронам пахіснуўся, павольна споўз на абочыну і нерухома застыў.

— Так, — вымавіў хтосьці. — Вашак... У яго яшчэ не было дзяцей.

— А наш фаустпатрон застаўся там! — азваўся другі голас. — Вінтоўкамі мы не спынім іх.

Усе замоўклі.

— Я дабягу туды, — прамовіў нарэшце нехта ціхім голасам.

— І не думай, — забурчэў каваль. — Ты што, не бачыш? На дарогу зараз ніхто не ўзыйдзе!

Кожны думаў аб тым, што супраць танкаў з вінтоўкай не ткнешся, і ніхто не заўважыў, што хлопчык у блакітнай клятчатай рубашцы, які хвіліну назад абвясціў пра набліжэнне непрыяцеля, стаіць тут жа, у куце кузні, і прыслухоўваецца да кожнага слова.

— З гэтым фаустам мы яшчэ маглі б іх затрымаць, — сказаў каваль, — а цяпер — не ведаю.

Яшчэ з хвіліну ўсе памаўчалі. І там, за паваротам, было ціха.

І тут між мужчын стралой пранёсся хлопчык, і ўсе заўважылі толькі, як мільгаюць яго босыя ногі. Хлопчык бег туды, дзе на дарозе ляжаў забіты Вашак з фаустпатронам. Ён бег па адхону каля шашы. Вось пераскочыў масток і зноў схаваўся за абочынай.

— Стой, малы, куды ты?! — крыкнуў каваль. — Вярніся, чуеш?!

Але хлопчык не слухаўся. Ён бег, падскокваючы, увесь час прыглядваючыся наперад, нібы хацеў упэўніцца, што фаустпатрон — кароткая рукаятка з пукатай грушай на канцы — усё яшчэ ляжыць на сваім месцы. Вось ён дабег да паваротки і прылёг за насыпам шашы. Зброя,



якая была здольна разбіць варожы танк, ляжала на тым баку. Хлопчык хацеў ужо ўсхапіцца і перабегчы цераз дарогу, як паласа куль перарэзала шашу па ўсёй яе шырыні. Кулі распырсквалі асколкі граніту і адляталі з шалёным, ненавісным выццём.

— Вярніся, хлопча! — крычаў каваль.

Адзін з тых, хто быў у кузні, выбег за хлопчыкам. Але хлопчык не бачыў яго. Ён не заўважаў і танкавай вежы, якая паблісквала з альшэўніку за паваротам шашы, ён бачыў толькі тую вялікую грушу, якую трэба было прынесці абаронцам кузні. Ён узняўся і ў некалькі скачкоў перасек дарогу. Прыгнуўшыся, ён пацягнуў за трубку — яна не паддавалася. Рука забітага не хацела адпускаць зброі.

— Пусці, прашу цябе, адпусці! — усклікнуў хлопчык і тузануў да сябе трубку. Пальцы мёртвага расчапіліся, нібы ён зразумеў, што зброю бярэ свой. І тады хлопчык схапіў фаустпатрон у абдымкі і пабег на шашу. Яшчэ некалькі крокаў — і ён будзе за абочынай дарогі.

— Хутчэй, сынок! — крычаў яму той, хто бег ад кузні.

І ў гэты момант новая паласа куль пырснула па граніту, перарэзала цела хлопчыка, і ён мякка асеў на ўскрай шашы, не выпускаючы з рук



зброі. Зноў стала ціха, так ціха, што змоўкла нават песня жаваранка і гудзенне пчалы, якая ляцела на сваю працу і раптам прыпынілася, нібы пытаючыся ў здзіўленні: «Людзі, што ж вы зрабілі? Як вы маглі такое зрабіць?»

Праз хвіліну гэтую цішыню разарваў ураган гарматных стрэлаў. Савецкія танкі, што гналі гітлераўцаў, выкарысталі затрымку, абышлі іх бакавой дарогай і знянацку ўдарылі па ворагу за паваротам шашы. Бой быў кароткі. Неўзабаве першы савецкі танк імчаўся да вёскі. Людзі, якія былі ў кузні, выбеглі яму насустрач, махаючы вінтоўкамі і шашкамі.

Там, дзе над целам хлопчыка схіліўся той, хто бег за ім, прыпыніўся савецкі танк, і з вежы саскочыў афіцэр. Ён апусціўся на калені над хлопчыкам, падняў яго на руках і пайшоў наперадзе танка да вёскі. Мужчыны з кузні з непакрытымі галовамі моўчкі суправаджалі афіцэра. Каля кузні шэсце спынілася

— Чый гэта сын? — спытаў афіцэр, кладучы хлопчыка на пярэдняе крыло танка.

Ніхто не ведаў. Пэўна, раніцай хлопчык уцёк ад гітлераўцаў — фашысты ўвозілі з сабой дзяцей.

Людзі расказалі афіцэру, як загінуў хлопчык. І тады афіцэр зняў скураны шлем, адшпіліў ад гімнасцёркі адну са сваіх узнагарод і прыкалоў яе на клятчастую рубашку хлопчыка.

Адзін з танкістаў падышоў з чырвоным сцягам і пільна паглядзеў на афіцэра. Той акінуў позіркам людзей, якія сабраліся тым часам з усёй вёскі, узяў з рук адной дзяўчыны чырвона-белы сцяг з блакітным клінам і накрыў ім хлопчыка.

— Ён быў сынам сваёй Радзімы, — сказаў афіцэр, — і перш за ўсё яму належыць яе ўшанаванне.

Потым ён узяў сцяг з рук танкіста.

— А цяпер нашым, савецкім сцягам, бо хлопчык быў братам савецкіх герояў.

Афіцэр схіліў галаву і дрыжачым голасам прамовіў:

— Эх, сынок, кароткае было ў цябе жыццё, але слаўную ты выбраў сабе смерць!

Ён зрабіў крок наперад, і шэсце з тымі, хто загінуў каля драўлянай вартоўні, рушыла да вёскі. Наперадзе, пад сцягамі, якія праможна прайшлі паў-Еўропы, ехаў у свой апошні шлях невядомы хлопчык-герой.

*Пераклаў з чэшскай мовы*
*А. МАЖЭЙКА.*

Мал. Г. Паплаўскага.



Нямецкая пісьменніца Берта Ласк нарадзілася ў 1878 годзе. Ужо ў дваццатых гадах Берта Ласк становіцца вядомай. Яна цікавіцца палітыкай і ў час першай сусветнай імперыялістычнай вайны піша антываенныя вершы. У 1923 годзе Берта Ласк становіцца членам камуністычнай партыі Германіі. Палітычныя погляды пісьменніцы адлюстроўваюцца ў яе творах і драмах, напісаных у 1925—1927 гадах. Гэтыя драмы былі забаронены.

Пасля паездкі ў Савецкі Саюз у 1932 годзе пісьменніца выдае сваю кніжку аб савецкай вёсцы — «Калектыўная вёска і саўгас». Пасля захопу ўлады Гітлерам Берта Ласк была арыштавана, але праз некаторы час ёй удалося эмігрыраваць у Савецкі Саюз. Тут, на другой сваёй радзіме, яна пражыла 20 год, большасцю ў Маскве. Яна многа піша ў газетах і працуе над раманам «Цішыня і бура», першыя дзве часткі якога выходзяць у свет пасля звароту аўтара на радзіму ўвосень 1953 года. Раман «Цішыня і бура», а пасля зборнік апавяданняў пад загалоўкам «Ота і Эльза» робяць Берту Ласк на радзіме шырока вядомай і любімай пісьменніцай.

Цяпер Берта Ласк працуе над апавяданнем «Ванда і яе дзеці», урывак з якога надрукаваны ў часопісе «Новая нямецкая літаратура».

**Берта ЛАСК**

# ОТА І ЭЛЬЗА

## АПАВЯДАННЕ З ЖЫЦЦЯ І БАРАЦЬБЫ ПРАЦОЎНАЙ НЯМЕЦКАЙ МОЛАДЗІ

### У парку

Ужо трэці раз праходзіў паліцэйскі паўз лаўку пад разгалістым клёнам, на якой сядзеў хлопец год дваццаці. Каго ён чакае? Чаго ён тут бадзяецца, гэты хлапчына? Выгляд які ў яго... Вядома, беспрацоўны. Пры гэтых думках позірк паліцэйскага крыху памякчэў, і, здавалася, ён спачувае хлопцу. Ці ж яго ўласны сын з таго часу, як скончыў школу, усё яшчэ не беспрацоўны? Бяда ды і толькі!..



Паліцэйскі збочыў з цяністай дарожкі. Сюды спяшалася тоненькая светлавокая дзяўчына. Хлопец падняўся. Ягоны твар ажывіўся, але вочы засталіся сур'ёзнымі. Цяжкімі крокамі адышоў паліцэйскі. Што яму да гэтага.

Яны абодва селі на лаўку.

— Што новага, Эльза? Бачу па табе — нічога добрага.

Ён паклаў руку на плечы дзяўчыне.

— Яны больш не будуць плаціць мне. Я павінна ісці ў вёску і працаваць у сялян.

— Яшчэ і гэта!.. — прагаварыў юнак, прыхінаючы рукою дзяўчыну. Ад гэтай цёплай рукі ў Эльзы крыху паспакайнела на сэрцы. Але што скажа далей Ота? А ён нічога і не сказаў. Тады пачала Эльза.

— Ота, ведаеш, мне ўсю ноч мора снілася.

— Не, не ведаю.

— Ведаеш, водмель на Паўночным моры, і твой дзед, і рыбацкі човен.

— Ах, ты гэта сніла?.. І цюлені, што грэюцца на сонцы, вылезшы на пясок, табе таксама не давалі спакою? — Ён усміхнуўся.

— Так, і цюлені... І ты ідзеш з дзедам у мора лавіць рыбу, а я ладжу сеткі, і вы прывозіце мно-ога рыбы. А сонца якое...

Яна змоўкла і чакала, што Ота скажа яшчэ што-небудзь. Аднак ён прамаўчаў.

— Ота, хто мы тут? Беспрацоўныя, якіх пазбаўляюць дапамогі. Працаваць на гаспадарцы, кажуць, яшчэ цяжэй, чым на біржы. Але паедзем! Дзед жа цябе запрашаў.

— Дзед вельмі бедны. З рыбацтва не шмат будзем мець. І, наогул, рыбачыць мне, кваліфікаванаму слесару і рабочаму прадпрыемства, не па сэрцы!

— Які ты рабочы прадпрыемства! Нікога не возьмуць на работу без працоўнай кніжкі, а яе можна атрымаць толькі пасля адбыцця працоўнай павіннасці.

Яны памаўчалі.

— Так, добра было б, Эльза, — загаварыў потым Ота, — змагацца з морам і штормам, зарабляючы сабе на хлеб, і не хадзіць больш на біржу. Добра было б. І там мы маглі б пажаніцца, Эльза. Гэта нічога, што мы яшчэ маладыя, але мы сур'ёзныя...

— Так, мы разважаем сур'ёзна, — кіўнула Эльза галавою.

Яны зірнулі адзін аднаму ў вочы, і ім здалося, нібы яны праз яснае акенца зазірнулі адзін аднаму ў душу і абрадаваліся гэтаму.

Ота заклаў рукі за патыліцу. Яго вочы глядзелі кудысьці ўдалячынь.

— Там, на старой радзіме, дзе жылі мае продкі — простыя, вольныя людзі, якія не цярпелі ніякага прыгнечання, чыстае паветра, — неяк засмучана пачаў Ота. — Там нават цюлені, што ляжаць на пяску і нагадваюць сабою тоўстых бюргераў, больш чалавечныя за фашыстаў.

— Так, Ота, паветра там чыстае і там мы можам быць разам. Там няма гэтых бандыцкіх шаек, вечных спрэчак і барацьбы, як тут. Там можна жыць.

— Няма, як тут, барацьбы, кажаш? Але я ніколі ад яе не хаваўся. А цяпер наўцёкі?

— Ты ж заўсёды быў наперадзе, пакуль цябе не выгналі з прадпрыемства з-за палітыкі. Стрымай сябе крыху.

— Стрымліваць сябе і ўцякаць да дзеда цяпер, калі зямля гарыць пад нагамі?

— Гэта не ўцёкі, Ота. Але ведай, што яны тут цябе не пакінуць, а пашлюць у рабочы лагер.

— І там, у рабочым лагеры, барацьба будзе прадаўжацца. Там таксама павінен быць свой чалавек.

— Яны цябе прыкончаць у лагеры, а праца ў вёсцы мяне прыкончыць. А мы яшчэ такія маладыя, Ота...

Эльза прыглушыла рыданне, якое нечакана было вырвалася ў яе, але Ота бачыў, як уздрыгвалі яе вузкія, амаль дзіцячыя плечы, і думаў аб той цяжкай працы, якую неўзабаве без усялякага спачування ўзваляць на іх.

— Не плач, Эльза! Ты храбрая дзяўчына! Ты маеш рацыю: мы абодва маладыя і абодва хочам жыць. Я да заўтрашняга дня аб усім памяркую. А цяпер мне пара ісці. Недзе чакаюць.

Эльза спахапілася ад гэтых слоў. Так заўсёды гаварыў і бацька, калі маці хацела яго затрымаць, пакуль аднойчы зусім не вярнуўся дахаты. Узяўшы Эльзу за рукі, Ота моцна-моцна пацiснуў іх. Эльза доўга памятала гэты поціск спакою і сілы.

У тую ноч Ота не мог заснуць, хоць яго меншы брат, з якім прыходзілася спаць на адным ложку, амаль не варушыўся, дыхаючы ціха і спакойна. Будучая работа Эльзы на гаспадарцы мучыла Ота. Ён бачыў яе сагнутыя вузенькія плечы пад цяжарам ношы. Над ёй, безабароннай, будзе здзекавацца там дэспатычны, прагавіты гросбауэр.

У хлопца сціскаліся кулакі. Нарэшце-такі ён заснуў.

Сотнямі рознакаляровых фарбаў пераліваліся мора, шумела наплоенымі хвалямі і білася аб борт рыбацкай лодкі. Прыходзіцца глыбока ўдыхаць салёнае марское паветра, выцягваючы цяжкую сетку. А як утульна вечарам у маленькай рыбацкай хатцы! Эльза чысціць рыбу. Вось Ота вырваў сякеру з калодкі, каб ісці насекчы дроў, а дзед у гэты час расказвае, як іхні продак Дэтмер аднойчы засек высакароднага фогта, калі той пачаў сябе непрыстойна трымаць.

І раптам знік і дзед, і рыбацкая хаціна. Гоман мора змяніўся рокатам матора. Ота стаяў ля станка. Усе напружана нечага чакалі. Напружанасць расла. Ота пакінуў станок, прайшоў паўз рады рабочых і ціха выгукнуў: «Генеральная забастоўка!» І ўсё сціхла — нідзе ні гуку. Цішыня ўстрасанула яго. Ён паспяшаўся наперад. Нічога не здарылася. Толькі цішыня ночы была навокал.

«Усё яшчэ ціха і мёртва, — падумаў Ота. — Не, не ціха і не мёртва. Таварышы змагаюцца. Трэба змагацца, Ота, а не баязліва ўцякаць. Прэч сон аб Паўночным моры».

Праз два дні прыйшло рашэнне: рабочы лагер для яго і праца на гаспадарцы для Эльзы. Абодва ў Лаўзіц. Яны будуць недалёка адзін ад аднаго. Гэта — адзіная ўцеха для іх.

## У лагер

Дзвесце пяцьдзесят юнакоў ехала з Берліна ў Лаўзіц. Адны былі з прадпрыемстваў; яны пакінулі свае рабочыя месцы для старэйшых. Другія — з біржы, бо без рабочага пашпарту ім не давалі работы. Лагер паблізу вёскі Грунэвальд толькі адкрываўся. Начальнік лагера і яго памочнікі ехалі ў гэтым жа самым цягніку.



Апошнія рабочыя казармы і заводскія коміны зніклі за гарызонтам. Хлопцы стаялі ля вокан. Калі яны зноў убачаць горад? Хоць ён нічога добрага і не даў, акрамя цяжкага дзяцінства і пакут беспрацоўя, але ж гэта быў іхні горад. Там яны дыхалі паветрам, у якім развяваліся чырвоныя сцягі, хадзілі па вуліцах, дзе жылі адгалоскі магутнага патоку дэманстрацый і рэвалюцыйных песень. Гэтыя ўспаміны хавалі многія маладыя рабочыя. Як бы далёка не адвёз цягнік, горад моцна трымаў іх. У густых лясах, у гарах і ў балотах яны ўсё будуць чуць голас Берліна. Уначы іх будзе абуджваць гул паравога молата, віск кранаў, свісток лакаматыва або гукі фанфар капелы саюза Рот Фронт.

Кудл, невялікі камлюкаваты хлопец з кірпатым носам, прайшоўся па вагону. У кожным купэ ён крыху затрымліваўся. У адным ён расказаў анекдот, у другім якое-небудзь вясёлае здарэнне або проста кідаў вострыя словы, выклікаючы юнакоў на размову.

Калі Кудл вярнуўся да сваіх сяброў, ён ім хітравата паведаміў:

— Тут ёсць тры групы. Першая — класава свядомыя, поўныя пратэсту і нянавісці супраць гэтага рабства, другая — тупыя, абыякава адносяцца да ўсяго, трэцiя — гітлераўцы.

Кудл, будаўнік па прафесіі, не быў ні ў якой партыі, але спачуваў камуністам і мог іранічнай або трапнай заўвагай збянтэжыць працаўніка.

Ота стаіць ля акна. Міма цягнуцца пясчаныя палі Брандэнбургскай Маркі. Ён думае пра станкабудаўнічы завод ЛКОВ. Ён там вучыўся чатыры гады і паўтара гады працаваў самастойным рабочым. Работа трапілася цяжкая, але ён сумуе па ёй. Ён любіў сваю прафесію і добрых сяброў знайшоў на заводзе. Яны навучылі яго не толькі апрацоўваць сталь. Стары слесар даў яму аднойчы кнігу. Гэтая кніга запаліла сэрца. Потым ён уступіў у Саюз камуністычнай моладзі. Семнаццаць год яму было тады. З гэтага і пачалося яго свядомае жыццё.

Гарачы быў час. Ён нёсся не спыняючыся, як паравоз без машыніста. І ў рабочым лагеры ён не павінен стаяць на месцы. Яшчэ ўчора Ота размаўляў з таварышамі з завода, у дальнім пакоіку закусачнай. На сцяне быў партрэт Гітлера. Раней там віселі партрэты Леніна, Карла Лібкнехта і Розы Люксембург.

— Яны пасылаюць нас у пустэчу, — сказаў ён таварышам. — Яны хочуць нас раз'яднаць. Але нам трэба трымаць сувязь. Вы заўсёды павінны ведаць, як у нас справы ў лагеры, а нам паведамляць аб усім важным на заводзе. Трэба будзе падбадзёрваць хлопцаў, калі яны пачнуць у лесе кіснуць.

Сябры доўга пацiскалі яму руку.

— Бывай здароў і вяртайся назад!

Ота адвярнуўся ад акна і прыслухаўся да шуму вагона. Некаторыя юнакі весяліліся, нібы даўно чакалі гэтага ад'езду.

— Я застануся працаваць на зямлі і стану селянінам. Цяпер, пры Гітлеры, сялянства зноў падымецца. Можа можна будзе атрымаць і ўласную сядзібу.

Гэта гаварыў скуласты юнак з адкрытым тварам. Яго рукі ляжалі на каленях, нібы трымаючы рыдлёўку. Затым ён стаў ціха насвістваць.

— Без грошай не так лёгка стаць уладаром сядзібы, — зазначыў другі, відаць, ягоны знаёмы.

Хлопец засмяяўся і прадаўжаў свістаць, гледзячы на ўзараныя па-

лі, нібы тут жа хацеў адгарадзіць сабе кавалак зямлі і сказаць: гэта маё.

— Я ўжо даўно захапляюся салдацкім жыццём, — прагаварыў невысокі юнак з круглай, як радыска, галавой і не зусім прамымі нагамі. — Потым падамся ў армію. Вядома, хто добра будзе працаваць у рабочым лагеры, таго ў першую чаргу возьмуць у армію.

Ота зацікавіўся. Тут былі зусім іншыя гаворкі, чым на заводзе.

— І я пайду ў армію, — пачуўся басісты голас. — Я зраблю сабе мішэнь. На адным баку намалюю галаву сваёй маці, а на другім — брата і буду вучыцца страляць.

Нехта засмяяўся, відаць, не зразумеўшы сэнсу слоў. Многія адразу змоўклі.

Ота заўважыў у куце і Карла Гейніга, які раней быў у арганізацыі сацыялістычнай рабочай моладзі і працаваў на адным жа заводзе. Гэта быў здаравяк з густымі бялявымі валасамі.

...Першая сутычка з начальствам адбылася праз чатыры гадзіны язды.

Выявілася, што на адным з вагонаў крэйдай былі напісаны словы «Рот фронт!»

Пошукі вінаватага нічога не далі. Начальнік лагера, названы паваеннаму «фельдмайстрам», былы кайзераўскі маёр, а з 1918 года — страхавы агент, звярнуўся да ўсіх, хто сядзеў у «запэцканым» вагоне, з прамовай:

— Паслухайце! Я вам хачу нешта расказаць, хлопцы. Вагон, які быў накіраваны ў гальштынскі рабочы лагер, быў таксама залеплены камуністычнымі лозунгамі. За гэта ўвесь вагон быў зараз жа павешаны. Хлопцы плакалі, лементавалі, але гэта ім не дапамагло. Дык вось, ведайце, вы папярэджаны...

«Тыя, вядома, не плакалі!» — падумаў Ота.

— Вы — нямецкія юнакі, — сівыя вусы фельдмайстра натапырыліся. — Вы павінны вучыцца падпарадкоўвацца. Сёння я яшчэ з вамі размаўляю па-добраму, але другі раз усё будзе па-іншаму. Я не пацярплю камуністычнага свінства. Зразумелі?

Яго чатырохкантовы твар пачырванеў, фельдмайстар нібы захлынуўся сваёй нянавісцю. Пад канец прамовы ён аж захліпнуўся ад шчасця, што зноў можа камандаваць. Усе адчулі, што ўжо цяпер пачынаецца сумнае лагернае жыццё. Барацьба альбо пакорлівасць хутка пакажуць сябе.

Група круглагаловага юнака неяк стулілася, сцішылася. Карл Гейніг яшчэ больш падаўся ў свой кут. Высокі бледны юнак, які, відаць, закончыў вышэйшую школу, бо быў з неяк незвычайна прышпіленым да пінжака значком гітлераўскай моладзі, прамовіў:

— Я не выдам нікога. Давайце станем цяпер і сапраўды іншымі людзьмі.

Колькі хвілін стаяла цішыня. Але спакойны голас раптам узрушыў усіх:

— Што гэта азначае: «іншымі людзьмі»?

— Іншымі людзьмі, гэта азначае не разбівацца на партыі. Мы не хочам знішчаць, а будаваць Германію, — хуценька адказаў член арганізацыі гітлераўскай моладзі. Гэта быў Густаў.

— Будаваць мы ўсе жадаем, аднак жа мы жадаем застацца і чэснымі хлопцамі, — раздаўся голас з групы юнакоў. Ён гучаў спакойна, упэўнена. У ім чулася: я голас рабочай моладзі.



— Куды нас завялі чырвоныя? — гаварыў бледны юнак з хваравітымі тонкімі бяскроўнымі вуснамі. — Мы ўсё глыбей скатваліся ў балота. Цяпер мы павінны забыцца пра ўсё гэта, супакоіцца і навучыцца працаваць. Тады ў нас будзе лепшая будучыня.

— Можа табе і трэба спачатку навучыцца працаваць, а мы ўжо ўмеем. Ты ж, відаць, бюргерскі сынок.

Гэта быў той жа спакойны голас.

— Ён мае рацыю, — ускрыкнуў загарэлы юнак з вострым, як у пацука, тварам. — Я рабочы. Я ўжо быў у арганізацыі сацыялістычнай рабочай моладзі. Яны толькі балбаталі аб свабодзе і больш нічога. Я прынюхаўся і да Рот Фронта. Трэба ж усё ведаць. Нідзе нічога асаблівага, але кожны задаваў тон. Ну, а што ў вас?

— Я мяркую, што так мы не сыйдзем з месца, — прагаварыў Ота і падумаў, што ж цяпер рабіць. Трэба сказаць гэтаму хлопцу, што ён няправільна пачынае. А загарэлы з пацучыным тварам сядзеў усё, нахіліўшыся наперад, нацягнуты, як спружына, і працягваў далей:

— А цяпер мы будзем маршыраваць самкнутым строем, усе па камандзе. Я згодзен. Гэта таксама добра. Ну, а думаць жа не забароняць? Ці...

Карл Гейніг спалохаўся, стаў ля загарэлага і лёгенька штурхнуў яго.

— Мы хочам быць добрымі салдатамі, — крыкнуў Густаў з усяе моцы, радуючыся тону свайго голасу. — Мы хочам вызваліць айчыну ад парабкоўства.

Ён быў усхваляваны і больш не баяўся, як раней у школе. Перад ім стаяла задача — выхаваць гэтых юнакоў з народнай школы ў правільным духу. Ён стаяў вышэй іх, бо хадзіў у рэальнае вучылішча і яго бацька быў чыноўнік. Ён павінен ім цяпер прышчапіць ідэалізм.

— Ад якога парабкоўства вызваліць? — выкрыкнуў усё той жа голас.

Астатнія маладыя рабочыя ціха слухалі. Лепш пакуль што стрымацца, назнаёміцца з настроямі, паглядзець, адкуль вецер. З суседняга вагона прышлі два групенфюрэры. Іх боты цвёрда грукалі па падлозе.

Ота глядзеў на групенфюрэра Мюлера, якога ён знаў. Мюлер быў раней прадаўцом у маленькай прадуктовай лаўцы. Пазней Ота сустрэў на рассылачным пункце гэтага млявага хлопца з тупым выразам твару. Аднойчы ў нядзелю той з'явіўся на вуліцы ў форме СА. На ягоным твары адбіваўся бляск гузікаў формы і бліскучых ботаў.

Цяпер ёсць два класы людзей, здавалася, гаварыў гэты твар. Адны са зброяй, другія без яе. Я належу да тых, хто са зброяй. Раней мы ўсе былі беспрацоўнымі, але цяпер... Рука Фрыдрыха Мюлера на момант ухапілася за клінок — «так, я магу гэта зрабіць, калі пажадаю: пры спробе каго ўцякаць рубануць — і совы не закугаюць».

Ота глядзеў Фрыдрыху Мюлеру ў вочы спакойна і цвёрда. «Раней ты стаяў за прылаўкам і адважваў маёй маці маргарын. Калі ты гэта рабіў не досыць хутка, твой гаспадар лаяў цябе. Я пілаваў і штампаваў жалеза, гэта мне больш падабалася. Мае мускулы ад гэтага сталі моцнымі, мацнейшымі за твае. Потым ты пайшоў на рассылачны пункт, як і я, і будучыня ляжала перад табою, як цёмная прорва. Цяпер ты носіш клінок, я гэта ведаю. А што далей? Не пазірай так на мяне зверху ўніз! З клінком ці без клінка ты ўсёроўна застанешся тым, кім ты ёсць. Не думай, што я паважаю цябе...»

«Ён не баіцца мяне. — злосна падумаў Фрыдрых Мюлер. — На якога ж чорта на мне гэтыя боты і клінок, калі гэта не робіць ніякага ўражання? Я павінен яму паказаць, хто я і што я магу».

Спакойны, горды позірк Ота раззлаваў яго. Гэты позірк з'еў ягоныя боты і клінок, і нічога не засталося, акрамя нікчэмнага Фрыдрыха Мюлера, які адважваў за прылаўкам маргарын. Як абскублены певень, быў Фрыдрых Мюлер без ботаў і клінка.

## У рабочым лагеры

— Увага! Шагам марш! Направа! Налева! Калені сагнуць! Ці ж гэта згінанне каленяў? Матляецеся, як п'яныя пудзілы! Што? Зноў сэрца? Цяпер папрактыкуем прыёмы са стрэльбай. Узяць рыдлёўкі! За тры мінуты выступіць самкнутым строем з рыдлёўкамі!

Юнакі пабеглі па гліністым двары да хлява. Вярнуліся на вучэбную пляцоўку з рыдлёўкамі на плячах, як са стрэльбамі, і пастроіліся.

— Я сёння так дрэнна сябе адчуваю, — прастагнаў Людэрыц, загарэлы хлопец з пацучыным тварам.

— Цяжкая праца і вучэнне, ад гэтага зусім выб'ешся з сіл, — сказаў Густаў, член арганізацыі гітлераўскай моладзі. Яго бледны твар яшчэ больш выцягнуўся. Плечы млява апусціліся. Раптам ён выпрастаўся, бы па камандзе «смірна». З'явіўся фельдмайстар: кругленькі жывот, чырвоны твар, на якім паблісквалі, як гузічкі, вочы, — паблісквалі не лагодна, а ядавіта. 1918 год зламаў яго ваенную кар'еру, ад гэтага аж жоўць ягоная разлілася. Але цяпер ён быў шчаслівы, што нарэшце зможа зноў камандаваць. Ужо здалёк крычыць ён свайму зялёна-карычневаму войску:

— А ну, жвавей! Вы думаеце, што вы сюды толькі будаваць дарогі прыехалі? Салдатамі вы павінны стаць! Трэцяй імперыі патрэбны салдаты для вызваленчай вайны. Вашы бацькі былі лепшымі рэкрутамі. Марш!

Ад радасці, што камандуе, ён крычаў усё гучней, забываючыся на боль печані.

З рыдлёўкамі, бы са стрэльбамі, юнакі маршыравалі, бегалі, кідаліся на зямлю, поўзалі на жываце, ускоквалі, штурмавалі. Той круглагаловы, што хацеў у армію, і яшчэ некалькі сустрэлі гэта з радасцю. Яны б з задавальненнем яшчэ больш бы займаліся, каб хутчэй адукавацца ў ваеннай справе. Фельдмайстар ужо прыкмеціў іх запал і размаўляў з імі на ваенныя тэмы, калі быў у настроі.

Групенфюрэр Фрыдрых Мюлер камандаваў аддзяленнем, у якім быў Ота. Яму вельмі падабалася занішто чапляцца да хлопца. Сёння ён выклікаў Ота і за нейкі непрадпісаны ўставам рух даў яму гадзіну штрафнога вучэння.

— Мяшок! Не можаш сабранымі косці ўтрымаць! — крычаў ён, пераймаючы тон вышэйшага начальства. А ягоныя вочы гаварылі: «Ці ж ты не бачыш, хто я такі? Групенфюрэр у ботах і пры клінку, і ўжо больш не прадавец маргарыну за прылаўкам».

Сярод хлопцаў ён меў сваіх давераных. Круглагаловы належаў да ягонай гвардыі, члены якой іншы раз уначы нападалі на непакорлівых і ў ложках моцна іх збівалі.



Ота і Кудл стаялі ля плота. Яны курылі адну сігарэту і неяк таямніча маўчалі. Груган узляцеў з даху хлява і пашыбаваў у поле. Ота з зайздрасцю пазіраў яму ўслед, пакуль той не знік у вячэрнім небе. Кудл кінуў акурак вобземлю.

— Шэрае баваўнянае неба...— неяк мройна прагаварыў Ота.

— Чаму баваўнянае?

— Так казаў мой дзед, рыбак на водмелях Нямецкага мора, калі неба рабілася цёмна-шэрым і спускалася ўсё ніжэй і ніжэй, нібы хацела прыціснуць усіх да зямлі.

— Праўда. Тут яно нам амаль што ўжо расціснула галовы. Так далей нельга, Ота.

— Ты таксама радзей стаў кідаць вострыя слоўцы, Кудл.

— На хлопцаў ужо нішто не робіць уражання. Трэба што-небудзь думаць, інакш паглыне нас багна, — прамовіў рашуча Кудл.

— Хлопцы запалоханы. Нават самыя дзёрзкія і тыя прымоўклі. — І ціха, нібы самому сабе, Ота паўтарыў: — Шэрае баваўнянае неба, здаецца, хоча нас усіх прыдушыць, каб ніхто не мог пачуць нашага голасу.

— Зірні! — Кудл штурхануў Ота. — Круглагаловы з усёй сваёй гвардыяй. І патрыятычны бледнатвары таксама там.

Круглагаловы праходзіў цераз двор са сваёй світай, не заўважаючы іх абодвух ля плота. Ён важна ступаў страявым крокам.

— На гэтага высокага бландына Ота і дзёрзкага Кудла, я вам кажу, нельга спадзявацца. Ненадзейныя яны.

— Я нічога за імі не заўважаў, — запярэчыў Густаў.

— Ну, фельдмайстру, мусіць, больш вядома. Гэтакім элементам ён не давярае. Але такім людзям, як мы, ён верыць.

— Чым жа мы лепшыя, хацеў бы я ведаць?

— Мы ваенныя хлопцы. І не грэбуем вучэннем. Лепш за ўсё мне зараз жа пачаць вучыцца страляць, чымся заўтра. І фельдмайстар, які раней быў афіцэрам, заўважае, хто яго гатунку.

— Я хачу быць селянінам. Я хачу вывучыць сельскую гаспадарку, — пачуўся раўнадушны голас таго, хто быў побач з круглагаловым.

Круглагаловы зірнуў з нездавальненнем на адкрыты скуласты твар.

— На ўроках дзяржаўнай палітыкі ты, мусіць, спіш?

— Селяніну асабліва трэба цікавіцца ваеннай справай, — умяшаўся Густаў у размову, — бо яму трэба абараняць сваю зямлю.

— Кроў і зямля, гэта святы закон, — адазваўся круглагаловы.

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Нямецкая кроў і нямецкая зямля.

— У яго скулы, як у славяніна, — заўважыў круглагаловы, — таму ён гэтага не разумее. Не чыстай германскай расы.

— Не ганарыся! У цябе таксама не прадаўгаваты чэрап, як у сапраўдных арыйцаў, — сказаў Густаў, які не любіў гаворкі круглагаловага. Цяпер ён заўважыў Ота і адчуў жаданне падысці да яго, стаць побач з ім і прыслухоўвацца да цішыні палёў. Густаў быў яшчэ не сапсаваны хлопец.

Круглагаловы слізгануў па Густаву злосным позіркам. «Каб ён не быў членам арганізацыі гітлераўскай моладзі, — падумаў ён, — гэтай ноччу я яго выцягнуў бы з ложка і ўлажыў бы яму».

— Паслухай толькі! Як хлопцы ўспрынялі ўсю гэтую балбатню пра расы, — штурхануў Кудл Ота.

— ...Каб яны мне далі зямлю, — гаварыў скуласты юнак, — дык я б яе абараняў, калі б гэта спатрэбілася. Мой дзядзька ў 1919 годзе ваяваў у Прыбалтыцы. Там яму таксама абяцалі зямлю, але ён яе ніколі так і не атрымаў.

Стук цяжкіх ботаў заглушыў іх словы.

— Кожны дзень капаюць ім на мазгі, — сказаў Ота, —а мы павінны змагацца з гэтаю атрутаю. Але высокія боты і гэтая праклятая зялёна-карычневая форма... — прадаўжаў ён задумённа і са смуткам пазіраў на свае штаны. — Нашаму брату не будзе горш, як было раней.

— Правільна. Усё заіржавела. Пара падзьмуць свежаму ветру. Сёння ўвечары заняткі дзяржаўнай палітыкі. Зноў старая шарманка: кроў, зямля, айчына, народ — без канца. Аж па горла ўсяго гэтага.

Нахмурыўшы бровы, Кудл глядзеў на Ота.

— Аб гэтым я таксама ўвесь час думаю. Сёння павінна што-небудзь адбыцца. Паспрабуем старому задаць такія пытанні, каб у яго дух захапіла.

— Добра б было, але не так, як гэта зрабілі ў Саюзе камуністычнай моладзі. Трэба не так проста, а крыху па-кітайску.

— Не, гэта павінна быць так, каб кожны зразумеў. Паслухай, Кудл, як ты думаеш: нямецкая гісторыя, Лютер? Тут я добра разбіраюся. Я чытаў у Энгельса пра нямецкую сялянскую вайну.

— Выдатна! Я таксама прайшоў гэта на курсах марксісцкай рабочай школы. І так, сёння мы ім пакажам!

З ілба Кудла зніклі маршчынкі. Ён пачаў насвістваць песню, як раней за работай. «Тут таксама трэба не пакінуць каменя на камені», — прамовіў ён сам сабе.

### Супраціўленне пачынаецца

Вечар. Заняткі па дзяржаўнай палітыцы. У тамбуры старой паркалёвай фабрыкі перад вялізным партрэтам Гітлера чырвоны твар фельдмайстра. Зялёна-карычневыя рады заціхлі. Святло лямпы без абажура слепіць вочы. Гучныя словы дакладчыка аж звіняць у вушах.

«...новы нямецкі салдацкі тып — рабочы-салдат, селянін, рабочы, вучоны, — усе гэтага тыпу...»

Доўгі, як у каня, твар Густава ажывіўся. Словы «рабочы-салдат» яму падабаюцца. «На кроў і зямлю ён сёння забыўся», — прашаптаў Кудл. Хлопцы поблізу засмяяліся.

«Паглядзім на вялікіх нямецкіх людзей мінулага. Лютэр, магутная постаць, сын рабочага, уладар слова, увасабленне вялікай думкі народнай краіны. Немец узнімаецца супраць іншаземнага панавання рымскіх свяшчэннікаў, вернападданы нямецкім правадырам нямецкага народа...»

На працягу трох чвэрцей гадзіны ліліся высакапарныя словы пра кавалак гісторыі ў нацыянал-сацыялістычным разуменні.

— У каго ёсць пытанні?

Фельдмайстар выцер пот з ілба. Паднялася нечая рука. Паволі ўстае Ота.

— Фельдмайстар, як было тады з сялянамі? Яны таксама паўставалі супраць, супраць... — Ён змоўк. Слова «прыгнятальнікі» здалося яму вельмі небяспечным.



— Магчыма, супраць сваіх яўрэяў, — падказаў Кудл.

— Зусім правільна, супраць сваіх яўрэяў і супраць свяшчэннікаў, — заспяшаўся з адказам фельдмайстар.

— Але калі Лютэр быў другам народа, чаму ж ён не паважаў нямецкіх сялян? Чаму ён напісаў, што сялян трэба біць і калоць, як шалёных сабак? — працягваў далей Ота.

— Магчыма, ён меў на ўвазе толькі яўрэяў і ўсіх людзей не чыстай расы, — заўважыў Кудл.

— Не, — запярэчыў Ота. — Лютэр пісаў гэта пра сваіх уласных братоў і сяброў з народа, бо таго хацелі князі. Супраць сялян нямецкай крыві, якія жывуць на нямецкай зямлі, пісаў ён.

У юнакоў знікла з твараў санлівасць. Карычнева-зялёныя плечы падаліся ўперад. Фельдмайстар заўважыў гэта і загаварыў рашуча:

— Сяляне няправільна зразумелі словы Лютэра. Лютэр прынёс ім свабоду душы, але зброд...

— Нямецкія сяляне не зброд! — Густаў, фанатычны гітлеравец, падскочыў і з дакорам зірнуў на фельдмайстра.

— Ты гаворыш, як камуніст!

— Фельдмайстар, я ўжо даўно з'яўляюся членам арганізацыі гітлераўскай моладзі.

— Сяляне былі тады ўведзены ў зман усялякім збродам і падбухторшчыкамі.

І тут Кудл спытаў:

— А што, тады ўжо былі марксісты, фельдмайстар?

— Марксістаў, вядома, не было, але ўсялякай несумленнай сваласты і тады хапала.

— А Томас Мюнцер ці ж быў не сапраўдны і не разумны немец? І ці не ён жа павёў сялян на барацьбу за зямлю?— Ота глыбока ўздыхнуў і зірнуў фельдмайстру ў твар. Той падазрона прыплюшчыў вочы.

— Чаму цябе гэта так зацікавіла?

— Я з Фрысландыі, і сяляне там былі заўсёды свабоднымі. Таму лютэраўскі пасквіль супраць сялян нам прышоўся не да спадобы.

Фельдмайстар, відаць, пайшоў на хітрасць.

— А хто табе пра гэта расказваў?

— Наш пастар у кірсе.

Кудл закусіў губы, каб хаця не засмяяцца ўголас. Энгельс — пастар!

— Пастар... хм. Можа гэта быў тайны камуніст. — І фельдмайстар голасна дадаў: — А цяпер мы праспяваем цудоўную нямецкую баявую песню Лютэра. Устаць!

Фельдмайстар пачаў высокім металічным голасам. Потым падхапілі астатнія. Яны пелі горача, моцна, адважна старую пратэстанцкую баявую песню пра моцную зброю — абарону. Кожны думаў аб СВАЁЙ барацьбе.

Пакінуўшы памяшканне, юнакі абменьваліся ўражаннямі. Яны здорава задалі старому, той ужо не ведаў больш, што адказваць, толькі кешта лепятаў.

Малады сацыял-дэмакрат Карл Гейніг звярнуўся да Кудла:

— Вы абодва маеце галовы, і храбрасці таксама ў вас хапае.

— Калі стары вучыць чаму-небудзь няправільнаму, дык трэба ж гэта высветліць.

— Тут занадта набіваюць галовы ўсялякім глупствам, — сказаў Гейніг.

— Тады мы можам аб гэтым дзе-небудзь пагаманіць, так?

Карл Гейніг хуценька павярнуўся. Яму здалося, што нехта паціху праходзіць тут блізка. Але потым ён рашуча сказаў:

— Я гатоў, таварыш!

Гэта быў пачатак адзінага фронту ў лагеры.

Вілі, які быў у каравуле, прышоў да Ота ў драўляны хлеў. Ён быў дужы і пругкі, як стальная спружына.

— Мне гэта ўчора спадабалася, таварыш. Мой бацька ў ахоўнай паліцыі. Але мы з вёскі. Мае продкі ўсе былі сяляне. Што, уласна кажучы, сялянам ад прамоў аб крыві і зямлі? Гэта ўсё так двухсэнсоўна, нічога пэўнага. Калі сяляне змагаюцца за свае правы, дык іх гразёю закідваюць, як учора стары. Ты ім учора добра даў, гэтым ачкасцікам. Трэба выказацца калі-небудзь, таварыш. Так немагчыма далей. Мне здаецца, што ўсё ідзе наадварот. Жыццё не палепшала.

Ота хапіў Вілі за руку. Іх рукі з'ядналіся ў моцным поціску.

Гэта быў пачатак арганізацыі ячэйкі камуністычнага аб'яднання моладзі ў лагеры, усяго з трох чалавек.

Неба зноў было, як шэрая бавоўна. Сыпаўся дробны дождж. Хлапечыя курткі намоклі. Стомленыя, кашляючы, маршыравалі яны з рыдлёўкамі на плячах да рабочага месца. Сумная аднастайнасць і каманда пачалі крышыць іх энергію. І такое надвор'е асабліва было цяжкім для іх.

— Гэта ўсё ж лепш, чымся цягацца на біржу, — прагаварыў раптам Густаў і павярнуўся да Ота. — Хоць якую-небудзь карысную працу робім.

— Карысную для каго? Па гэтых дарогах, якія мы будуем, будуць ездзіць машыны багачоў, магчыма нас па гэтых дарогах на вайну пашлюць.

Густаў маўчаў. Ён быў вельмі стомлены, каб пярэчыць. Калі б было сухое надвор'е, то ў яго не балелі б усе косці, тады б не калола ў спіну і ў галаву, і можна было б паспрачацца. Але адказаць трэба было. Ён быў патрыётам і Трэцяга рэйха і новага нямецкага народнага грамадства.

Але ці можна гэта называць народным грамадствам: адна і тая ж работа ў холад і ў дождж, дробязныя прыдзіркі, сумныя пустыя вечары? Густаў раней быў вялікім патрыётам. Цяпер ён ледзь мог знайсці ў душы маленькія іскаркі ад таго вялікага полымя патрыятызму. Гэта яшчэ больш павялічвала яго пакуты, бо трэба было верыць, інакш усё разваліцца, інакш наступіць поўная цемра.

Адна група юнакоў вазіла на тачках каменне на будоўлю шашы і драбіла іх, другая расчышчала лес, праз які павінна была быць пракладзена шаша.

Па дарозе снавалі беспрацоўныя з суседніх вёсак і моўчкі пазіралі на юнакоў. У першыя дні іх прышло многа, і яны нават пачалі пагражаць. Але пасля таго, як некаторых арыштавалі, яны прыходзілі толькі маленькімі купкамі. Часта шукалі выпадку пагутарыць з гэтымі юнакамі, што адбывалі працоўную павіннасць. У іх вачах былі голад і нянавісць.

Аднойчы мужчына гадоў пад сорак, са згорбленай спіной, запрасіў





Ота, Густава і яшчэ двух другіх юнакоў да сябе. У нядзелю яны наведалі яго. Крываногія дзеці з хваравітымі, жоўтымі тварамі сядзелі ля дзвярэй. Гаспадар павёў сваіх гасцей у кухню з цаглянай падлогай. На пліце гарэў агонь, і вялізны кацёл стаяў на ёй. Гаспадар зняў накрыўку.

— Бульба з лупінамі, — сказаў ён. — Бульба з лупінамі і з соллю. Гэта не кожны дзень. Соль таксама становіцца раскошай. Як вы тут з'явіліся, крамнік у доўг нічога нам больш не дае. Раней я драбіў каменне. Многія былі ткачамі. Фабрыка, у якой вы жывяце, два гады назад закрылася. Шмат хто з нас думаў, што, калі нацыянал-сацыялісты стануць на чале ўлады, фабрыка зноў пойдзе. Але яны паздымалі і апошнія машыны і засадзілі туды вас, хлопцы. А цяпер вы адбіраеце ў нас апошні кавалак хлеба. Вы павінны ведаць, што ў той час, як вы з песнямі маршыруеце на работу, наша вёска памірае з голаду.

Густаў не мог прамовіць ні слова. Сказы з прамоў фюрэра круціліся ў яго на языку. Аднак немагчыма было гаварыць іх тут. Гэта б гучала фальшыва.

— Трэба толькі верыць у фюрэра і ў нямецкі народ, — прагаварыў нарэшце Густаў. — Мы, нацыянал-сацыялісты, толькі яшчэ прышлі да ўлады. — Але яго словы гучалі нават для яго самога пуста і недарэчна.

— Мае бацькі верылі ў бога, аднак нам прышлося пахаваць бацьку там, дзе хаваюць самагубцаў. Надта вялікая была нястача, — прагаварыў гаспадар.

Ён узяўся іх правесці. Ота адстаў крыху, і, калі яны развіталіся, гаспадар паціснуў яму руку і, выпрастаўшы свае згорбленыя плечы, сказаў:

— Ты мяне падбадзёрыў, таварыш. Мы павінны трымацца разам. Рабочыя і сяляне. Маладыя і старыя.

Яны крочылі па полі. Удалечыні відаць былі горы з аксамітнымі лясамі. Насустрач ім трапляліся нагружаныя сенам вазы. У возеры квакалі жабы. Побач з Ота крочыў Кудл са сваім задраным уверх носам, які, здавалася, задзірліва крычаў: «Не чапайце мяне, я з кожным спраўлюся!» Не менш пагражальна выглядалі і яго вялізныя працоўныя рукі. Кудла нічога не магло вывесці з раўнавагі, і сваім смехам ён мог абяззброіць любога праціўніка.

Ота і Кудла паважалі ўсе ў лагеры і давяралі ім. Упэўненасць і сіла ішлі ад іх. Лагернае начальства вымушана было таксама лічыц-

ца з імі. Толькі іншы раз Кудл гаварыў шалёна рызыкоўныя словы. Ота паводзіў сябе больш разумна і не так лёгка траціў уладу над сабой. Яны ўплывалі адзін на аднаго, і кожны імкнуўся ўтрымаць і абараніць другога. Яны былі моцнымі сябрамі.

## На працы ў вёсцы

Праз тыдзень пасля адпраўкі юнакоў на працоўную павіннасць у Лаўзіцкі лагер у тым самым напрамку ехалі пяцьдзесят берлінскіх дзяўчат. Іх паслалі ў тры вёскі, бо вёскі былі невялікія, і сялянская сям'я не магла сабе дазволіць браць на работу дзяўчыну: яе ж трэба было і карміць.

Эльза і яе школьная сяброўка дамовіліся застацца разам у адной вёсцы, каб не быць на чужыне адным. Гэта ім удалося. Анна трапіла ў мнагадзетную сям'ю, Эльза — да пажылых скупых бауэраў з сумнай гаспадыняй, якая пасля дзённых турбот любіла пачытаць малітоўнік. Іхні адзіны сын Ёзэф працаваў таксама на бацькаўскай гаспадарцы. Гэта быў лёгкадумны паляўнічы за дзявочымі фартухамі, і бацькі як мага хутчэй хацелі ажаніць яго на багатай удаве з тае самай вёскі.

Дзяўчыне, якая вырасла ў вялікім горадзе, нязвыклая праца на гаспадарцы здавалася вельмі цяжкай. Не адну горкую слязу праліла Эльза, пакуль навучылася даіць кароў. Але, мусіць, яшчэ горш было тое, што гаспадарскі сын Ёзэф не кпіў з яе, а прапанаваў дапамогу, а потым стаў і больш чапіцца. Аднойчы нават абярнулася даёнка, калі Эльза баранілася ад яго.

Адзінай радасцю для Эльзы былі свабодныя гадзіны ў нядзелю, калі яна сустракалася з Ота. Ота знарок прыходзіў у вёску, каб нагнаць страху на хлопцаў. Ён пазнаёміў Эльзу з тым беспрацоўным, які жыў у суседняй вёсцы, каб Эльза мела паблізу абарону.

Даглядаць кароў была самая цяжкая праца для Эльзы. Аднойчы ад яе ўцякла ўпартая карова. Са страхам кінулася за ёю Эльза. Але пашчасціла: ёй насустрач ішоў з каровай парабак заможнага бауэра з суседняй сядзібы, якога яна часта сустракала. Ён супакоіў упартую жывёліну, завёў яе ў стойла і даў Эльзе некалькі парад, як абыходзіцца з каровай.

Калі парабак неяк наблізіўся да яе, яна са страхам адхіснулася, але той сказаў:

— Не бойся, дзяўчына. Я не хацеў цябе пакрыўдзіць. Я хацеў табе толькі памагчы.

Эльза паціснула яму руку і сказала:

— Дзякую табе, парабак. Ты добры сябар. А сябры павінны памагаць адзін аднаму, ці не так?

— Яно так. Быць сябрам вельмі добра.— І, пачакаўшы, дадаў: — Раней гаварылі іншае слова. Яно было яшчэ лепш.

— Слова таварыш. Твая праўда.

Ён кіўнуў. Яны яшчэ раз паціснулі адзін аднаму рукі, і ці не ад гэтага ім абодвум стала неяк лёгка і радасна.

Калі яны выходзілі з хлява, цераз двор ішоў гаспадарскі сын Ёзэф. Ён спыніўся і сказаў:



— Што гэта вы рабілі там, у хляве? Ці табе не даволі аднаго кавалера?

— Я злавіў ёй непаслухмяную карову і прывёў назад. Трэба ж памагчы, калі гарадская дзяўчына не ведае, што рабіць.

— Вы абодва непаслухмяныя, чатырохногія і двухногія.— Вусны Ёзэфа іранічна перасмыкнуліся.— Вон са двара! Я адзін спраўлюся з упартымі, ці то з каровай, ці з дзяўчынай.

— Не гавары так дзёрзка, Ёзэф, хоць ты і сын бауэра і маеш свой двор. Маладую работніцу трэба паважаць і пакінуць яе ў спакоі.

— Гэтакі жабрак будзе яшчэ мяне вучыць? Я яшчэ не забыўся, як на вечарынцы ты адбіў у мяне рыжую дзяўчыну. У маёй акрузе не палююць. Запамятай гэта і сцеражыся, дзёрзкае жабрацкае стварэнне!

— Пасаромеўся б гаварыць такія словы перад дзяўчынкай, якая сумленна робіць сваю работу!

— Што яна дзяўчынка, ты мусіць, спытаў у хляве, паскуднік?

— Не заходзь так далёка, Ёзэф, бо кожны ў вёсцы ведае, які ты паляўнічы за дзявочымі фартухамі. Калі ты што-небудзь зробіш гэтай дзяўчыне, дык тады твая нявеста, тая багатая ўдава, аб усім даведаецца і са сваёй зямлёй і грашыма знойдзе каго іншага.

Ёзэф збялеў і наблізіўся да парабка. Здавалася, ён пагражаў усёй постаццю.

— Шкада, што твая морда яшчэ не біта. Вельмі шкада! Не сустрэнься мне трэці раз на маім шляху. Папярэджваю цябе.

Вочы Эльзы напоўніліся слязамі. Перапалох і сорам ахапілі яе ад такіх слоў. Але яна здолела вымавіць:

— Дзякую табе за дапамогу, парабак. Я раскажу Ота, які ты быў да мяне добры.

І яна хуценька пайшла ў сваю каморку.

## Нянавісць перапоўніла сэрцы

Групенфюрэр Фрыдрых Мюлер і Ота стаялі на двары. Пакараны Ота, трымаючы рыдлёўку на плячы, пачынаў вучэнне. Фрыдрых Мюлер быў не ў настроі. Рыдлёўка трывожыла яго. Чаму ён не загадаў Ота займацца без рыдлёўкі?

— Легчы! Устаць, марш, марш! Легчы! — камандаваў Мюлер.

Не спяшаючыся, Ота выконваў каманду. Сэрца білася моцна і нароўна. Чорныя кропкі скакалі перад яго вачыма. Раптам, пасля новай каманды, Ота зрабіў шырокі крок да свайго ката, утыркнуў рыдлёўку ў зямлю і закрычаў:

— Чаго ты, уласна кажучы, хочаш ад мяне, га?

Фрыдрых Мюлер спалохаўся, бы на яго крычаў не Ота, а той гаспадар, у якога Мюлеру давялося служыць. Нягледзячы на боты, на клінок, на сілу загаду, Фрыдрых Мюлер сапраўды спалохаўся і паспешна прагаварыў другім голасам:

— Калі ты больш не можаш, дык мы перастанем.

— Я яшчэ магу. Я магу яшчэ так доўга, пакуль не звалюся. Мы ўсе можам, пакуль у нас языкі не павылазяць.

Ота кпіў.

— Разыйдзіся! — скамандаваў Фрыдрых Мюлер.

Ота ўзяў рыдлёўку і шырокімі крокамі рушыў да плоту.
«Праклятая рыдлёўка, — падумаў Фрыдрых Мюлер, — я паказаў бы гэтай свінні...»
У асноўным Мюлер быў задаволены, што Ота не давёў да крайнасці атмасферу лагера, якая і без таго была напоўнена нянавісцю да начальства.
Ля дзвярэй брамы стаяў, усміхаючыся, Кудл. Ён працягнуў Ота пляшку з кавай. Ота толькі крыху адпіў гэтага нясмачнага варыва.
— Тое, чаму мы тут вучымся, — Ота дыхаў усё яшчэ цяжка, — мы калі-небудзь выкарыстаем зусім інакш, не так, як думаюць там, наверсе.
— А так, калі чырвоны камандзір загадае Ота: вінтоўку на плячо! — тады ў белагвардзейца Фрыдрыха Мюлера сэрца зваліцца ў штаны.
Вочы Ота заблішчалі. Сябры пайшлі на двор. Там усхвалявалася купка хлопцаў.
— Што здарылася? — спытаў Ота.
— Жратва сёння на абед... Раней яна была аднак лепшай...
— А чаму вы елі?
— Ніхто не хацеў першым паскардзіцца.
— Адзін, вядома, і не мог скардзіцца. Але ці павінны мы стаяць, як статак баранаў, і чакаць, пакуль усіх нас не пакоціць крываўка, як у Траўнштэйне? Гэтага мы не можам дапусціць. Калі заўтра будзе тое самае, мы пойдзем на кухню і выльем страву ў памыйку! — аж крыкнуў Ота. — Паведамі ўсім па спальнях! І праз гадзіну скажы мне, ці ўсе згодны зрабіць гэта.
Большасць былі згодны, апроч аднае групкі.
— Чаму вы не жадаеце быць разам з усімі? Справа ж у нашым здароўі, — звярнуўся да іх Густаў.
— Мы сапсуём сабе будучыню. Я хачу ў войска, — адказаў круглагаловы.
— Вы думаеце, што фюрэр хоча, каб мы атрымлівалі дрэнную ежу?
— Не, гэтага мы не думаем.
— Тады мы будзем пратэставаць. Выкінуць у памыйку дрэнную ежу — у гэтым няма нічога варожага для дзяржавы. Гэтым вы сабе не пашкодзіце.
— Мы думалі, што гэта пачалі марксісты.
— Тут, у нас, у лагеры, народнае аб'яднанне. Няма чаго шпіёніць. І зробіце так, як усе!
Праз паўгадзіны было вядома, што ўсе зробяць гэта.
Калі ў наступную раніцу юнакі збіраліся на работу, начальства заўважыла, што нешта тут было не так, як звычайна. Два юнакі, прытым, аб'явіліся хворымі і засталіся ў лагеры. Разнесліся чуткі, што яны захварэлі, крываўкай ад дрэннай ежы. Групенфюрэр далажыў фельдмайстру. Той сказаў:
— Не турбуйцеся! У вайну яшчэ не гэта елі. Раздурана гэтая банда...
Калі ў абед паналівалі ў міскі такую ж самую страву, як і ўчора, падняўся лямант. Хлопцы барабанілі па сталах бляшанымі лыжкамі, галасна рагаталі і крычалі. А калі з'явілася камандаванне, усе паўскоквалі і пайшлі кожны са сваёй міскай у кухню.
— Мы патрабуем добрай стравы! У памыйніцу гэтую дрэнь!
Ежа была выліта ў памыйніцу. Хлопцаў ахапіла пачуццё перамогі.



Яно было мацней за голад. Толькі некаторыя баязліўцы тапталіся збоку. Большасць жа гаманіла і трымала сябе так, нібы захапіла лагер.
Начальства дало загад вярнуцца назад у сталовую — у ранейшы склад паркалёвай фабрыкі. З'явіўся фельдмайстар, злосны, чырвоны, як рак. Яго цяжкія словы страсянулі памяшканне. Хлопцы смела глядзелі на яго. Яны не струсілі. Іх было многа. Ім раптам здалося, што любая змена лёсу будзе лепей, чым пакутлівая безнадзейнасць, якая ахапіла іх у апошнія месяцы.
Нарэшце пагрозы і ўгаворы скончыліся. Фельдмайстар зрабіў паўзу і потым сказаў:
— Страва і сапраўды была не такой, якой павінна быць. У Трэцім рэйху не можа галадаць сумленны працоўны немец і вы атрымаеце зараз хлеб і каву. У наступны раз падбухторшчыкі трапяць, куды трэба. Скаргі павінны накіроўвацца праз стараст пакояў. Але,— зноў яго голас перайшоў на пагрозлівае карканне,— папярэджваю: не шмат скарг. Вы тут не дзеля таго, каб набіваць жываты, а на службе айчыны і фюрэра.
Увечары сабралася тайная камуністычная ячэйка. Да яе належаў і Вілі. Ён рабіў усё вельмі асцярожна і выкарыстоўваў давер'е лагернага начальства. Сёння ён быў дзяжурным па лагеру. Таварышы сустрэліся паміж дрывотнікам і прыбіральняй, дзе за імі нельга было назіраць.
— Цяпер будзем наступаць далей,— першым прагаварыў Кудл.
— І наступаць кожны дзень, пакуль яны зусім не распусцяць лагер і не пашлюць нас назад у Берлін.
Некалькі мінут было ціха. Тады пачаў Ота.
— Распусціць лагер не адзіная наша мэта. Калі б мы гэтага і дамагліся, дык што з таго? Нас толькі 250 юнакоў. Але ў Лаўзіцы ёсць яшчэ шэсць лагераў, і мы ні разу не паспрабавалі звязацца з імі. Два лагеры недалёка ад нас. На тым тыдні павінна быць наладжана з імі сувязь. Ва ўсіх лаўзіцкіх лагерах трэба падняць трывогу.
Яго прапанова была прынята. У наступны дзень яны перагаварылі з Карлам Гейнігам, а ў нядзелю дзве невялікія групы накіраваліся ў суседнія лагеры, дзе іх сустрэлі з запалам. Тут ужо ведалі, што ў Грунэвальдскім лагеры адмовіліся ад ежы...
Тры сябры, Ота, Вілі і Кудл, а з імі і Густаў, які ўсё больш наблізіўся да іх, хоць і не губляў яшчэ веры ў Гітлера, зайшлі да старога селяніна, з якім яны ўжо размаўлялі два разы. Ён жыў недалёка ад лагера. Сёння селянін быў не адзін. У яго хаце сядзелі яшчэ два беднякі з суседняй вёскі.
— Гэта юнакі з рабочага лагера,—прагаварыў стары,—маладыя, але маюць галовы на плячах. З імі можна пагутарыць.
Сяляне гаварылі пра свае клопаты: падаткі, усялякія добраахвотныя зборы.
— Я зусім інакш сабе гэта ўяўляў, калі выбіраў Гітлера, — сказаў адзін з іх. — Па вушы ў даўгах, а сваё малако і яйкі нельга свабодна прадаць. На мне апошнія штаны. Калі яны распаўзуцца, дык я напішу Гітлеру, ці не хадзіць без штаноў...
— Вы ж належыце цяпер да новай сялянскай арыстакратыі,— прагаварыў Кудл сур'ёзна.— За такі гонар варта хадзіць і голым.
— Пляваць мне на гонар,— закрычаў са злосцю стары.— Усё гэта хлусня, якой нам хочуць заляпіць вочы. Але селянін не такі дурны: ён бачыць, што робіцца. Памешчык з кожным днём таўсцее, а мы ўрастаем у зямлю.

— Вы і павінны,— кіўнуў Кудл,— моцна ўрасці ў зямлю.
— Га, урасці! У магілу мы ўрастаем.
— Ах, што вы кажаце!..— працяжна прагаварыў Кудл, нібы толькі цяпер зразумеў, пра што ішла гаворка.
— Мо' было б лепей, каб пан меў крыху менш зямлі, а вы крышку больш?
— Так, гэта было б нядрэнна. Але бог гэтага, мусіць, не пажадаў. Аднаму ўсё, другому нічога.
У першы раз размаўляў так селянін. «Вось каб і надалей ён быў такі», — падумаў Кудл і цяжка ўздыхнуў.
— Бог, вядома, застаўся на свеце той самы. Але ўсё ж у Расіі адабралі зямлю ў памешчыкаў і аддалі яе сялянам...

Усе адчулі, што знік святочны нядзельны настрой. А вочы старога хмура зыркалі з-пад калматых броваў, калі ён гаварыў:
— У нас такога, відаць, не можа быць. Усё ў моцных руках.
Скаргі пачалі цяпер выказвацца смялей. Густаў спрабаваў абараняць палітыку Гітлера, але сяляне нападалі на яго. Пасля гарачай размовы яны разышліся: сяляне ў вёску, а хлопцы ў лагер.
Барацьба і нястача здружылі юнакоў. Ота са сваёй палымянай ініцыятывай стаў кіраўніком руху. Усе яго думкі былі пра змаганне за свабоду, і лёс кожнага таварыша быў блізкі яго сэрцу. І ўсё ж, калі-ні-калі ён марыў аб іншым жыцці з Эльзай на фрызскім беразе ў дзеда, аб рыбнай лоўлі, аб паляванні на цюленяў, аб сонцы і бясконцых марскіх абсягах.

## Ля Чортавага возера

На вузенькім загоне падмокла сена другога ўкосу. Эльза раскідала яго зноў, і яно высахла на ветры і сонцы. І хоць была нядзеля, Эльза хацела скласці яго, каб хаця не падмокла яшчэ раз. Яна прынесла граблі і завіхалася ля сена. Хутка ўжо стаяла капа, і змораная Эльза паклала граблі. Тут яе ўхапілі дзве магутныя рукі і кінулі на сена.
— На гэты раз я цябе не выпушчу, гарадская ты лялька!
Гэта быў Ёзэф. Ад яго пахла гарэлкай.
— Пусці мяне! Зараз прыдзе Ота! Ён табе пакажа!
— Мы дадзім рады гэтаму твайму Ота. Ён жа чырвоны.
І тут яна пачула голас парабка, які з'явіўся невядома адкуль:
— Прэч, падлюга!
Ён схапіў Ёзэфа, падняў і адкінуў убок. Потым памог Эльзе падняцца і сказаў:
— Не бойся, дзяўчына! Ён другі раз не палезе. Інакш я заяўлю ў паліцыю.
Малады баўэр адразу працверазіўся, зірнуў на парабка з нянавісцю і страхам і прагаварыў:
— Жабрак! Няшчасны чырвоны вырадак, я табе яшчэ пакажу...
Эльза і парабак адышліся. Яны чакалі Ота.
— Ёзэф больш не палезе! — паўтарыў парабак.— Ён баіцца паліцыі і багатай бабы, з якой хоча ажаніцца.
— Тады я нічога не скажу Ота, бо яму яшчэ цяжэй будзе там, у лагеры, дзе яны жывуць амаль як арыштанты.





— Так, амаль як арыштанты.
Раптам пачулася радаснае «Гэй!»
На павароце дарогі паказаўся Ота. Хутка яны ўтраіх павярнулі ў лес. Сустракаліся многія жыхары вёскі, а таксама і сын багатага баўэра ў форме СС. Парабак пагаварыў з Ота аб становішчы парабкаў і сельскіх рабочых пры гітлераўскім рэжыме. Потым ён сказаў, што яму трэба карміць коней, і развітаўся.
Ота і Эльза мінулі букавы лес і прыпыніліся на беразе маленькага, але глыбокага возера, якое тут называлі Чортавым. Ота пачаў расказваць пра падзеі ў лагеры. Эльза, затаіўшы дыханне, слухала то радасна, то заклапочана.
— Гэта яшчэ не канец, — сказаў Ота. — Барацьба будзе працягвацца, пакуль не распусцяць наш Грунэвальдскі лагер. Потым нас пашлюць у іншыя лагеры працоўнай павіннасці, а мы і там будзем закваскай, якая настроіць і тых юнакоў. Наша змаганне будзе шырыцца, пакуль не перакінецца на ўсю Германію. Разумееш? Ад моладзі ўсё залежыць. Калі яна супраць Гітлера, ён доўга не зможа ўтрымацца.
Ота стаяў, прыхіліўшыся да бука. Яго позірк быў горды і адважны. Эльза сядзела на зямлі і, наморшчыўшы лоб, старалася ўнікнуць у сэнс Отавых слоў.
— А калі яны вас тады засадзяць не ў рабочы лагер, а ў канцэнтрацыйны?
Ота падумаў крыху, затым адказаў:
— Будзем бачыць, што там будзе. Галоўнае, што мы трымаемся разам і не паддаемся. А ім трэба моладзь, і не могуць жа яны знішчыць нас усіх адразу.

«Па адным вас перабяруць»,— падумала Эльза, але не выказала сваёй думкі. Потым яна сказала:
— Тут недалёка ёсць яшчэ адзін лагер працоўнай павіннасці. Можа яны вас туды запруць.
— Так, можа быць, але хоць будзе і далей, мы павінны падтрым-

ліваць сувязь У цябе больш часу, Эльза, табе зручней будзе прыходзіць да мяне.

— Абавязкова.

Доўга яшчэ сядзелі яны разам. Ота асцярожна паклаў галаву Эльзе на калені. Вяртаючыся назад, яны не пайшлі разам праз вёску, а Ота звярнуў у лагер карацейшай лясной сцежкай. І людзі бачылі, як Эльза вярталася адна.

Парабак, накарміўшы коней, падаўся зноў у лес. Яго вельмі ўзрушыла гутарка з Ота. Так і ішоў ён, задумаўшыся, праз усю вёску да лесу. Ён і не заўважыў, што за таўшчэзным дрэвам захінуўся бауэрскі сын Ёзэф і затым назіркам рушыў за ім.

Ёзэф ужо некалькі гадзін насіўся, як у гарачцы. Ён думаў пра тое, што яму можа не дастацца гаспадарка багатай удавы, варта толькі парабку пра ўсё расказаць. Сапернікаў і без таго да гібелі. Заставаўся толькі адзін ратунак — прыбраць ненавіснага парабка. Гэта павінна адбыцца сёння ж. Таму Ёзэф, засунуўшы кінжал за пояс, не знаходзіў сабе месца, пакуль і сапраўды не сустрэў сваёй ахвяры.

Праз гадзіну Ёзэф вярнуўся з лесу. А труп парабка ляжаў на дне Чортавага возера.

## Герцаг Відукінд

— Увага! Шагам марш! Левай, правай! Кругом! Аддзяленне, стой! Сагнуць калені! Сагнуць калені! Узяць рыдлёўкі для ружэйных прыёмаў!

Вучэнне скончылася. Калі за вячэрай юнакі сёрбалі суп і жавалі хлеб, з'явіўся групенфюрэр Фрыдрых Мюлер і аб'явіў:

— Заўтра вечар адукацыі. Гістарычны даклад пра саксонскага герцага Відукінда. Сам фельдмайстар будзе рабіць.

— Што, у Саксоніі ёсць яшчэ герцагі? — наіўна запытаўся Кудл.

— Не, герцаг Відукінд жыў тысячу год назад і быў карэнным немцам,— паспяшаўся з адказам Фрыдрых Мюлер і, каб пазбегнуць далейшых пытанняў, хуценька выйшаў.

— А гэта цікава, хлопцы! Карэнны немец тысячу гадоў таму назад. І мы павінны стаць такімі ж карэннымі? Але тады ім прыдзецца даваць нам на снеданне таксама пару мядзведжых шынак, як старажытнаму герцагу. Тады мы адразу станем больш чыстакроўнымі.

— Або свіныя шынкі. Або тоўстую італьянскую каўбасу. Таксама добра!..

— Эх, чорт! — выгукнуў Кудл. — Як будзе добра, калі мы заўтра ўвечары пачуем, як пілі мёд, як елі зубраў і мядзведзяў...

Хлопцы смяяліся і жартавалі.

— Можа ёсць яшчэ што-небудзь важнае, аб чым трэба пагаварыць? — спытаў Ота.

Адразу ж ва ўсіх знік настрой гаварыць пра саксонскага герцага. Толькі круглагаловы выпаліў:

— Вы заўсёды блазнуеце. Пра саксонскага герцага таксама цікава паслухаць.

— Гвардзія круглякоў! Свят дух!.. — закрычалі з другога канца стала, і круглагаловы вымушаны быў змоўкнуць, відаць, спалохаўшыся.



Двое маладых берлінскіх рабочых станкабудаўнічага завода ЛКОВ пісалі ліст.

— Так нельга пісаць! Занадта ўжо адкрыта!

Яны закрэслілі палову напісанага, потым спалілі ліст і пачалі пісаць спачатку. Паўз вокны з песняй прамаршыравалі эсэсаўцы ў чорным. Нарэшце хлопцы закончылі.

«Дарагі Ота, як табе ў працоўным лагеры? Маеш свежае паветра і добрую яду? Ты можаш яшчэ доўга яе смакаваць. Ты хочаш ведаць, ці пачалі працаваць Франц і астатнія 49 у такарным і фрэзеравальным цэхах. Не, яны яшчэ не пачыналі. А чаму не, пытаешся ты? Іхні ж паўгадовы тэрмін працоўнай павіннасці скончыўся. Так. Скончыўся. І яны павінны зноў ісці на завод? Так, павінны. Шэф абяцаў ім гэта. Але прышоў толькі адзін Э. Ён стаяў аднойчы вечарам ля прадпрыемства і сказаў: — Я адзін толькі вызваліўся. Астатнія засталіся яшчэ на паўгода ў лагеры, а потым яны пойдуць у вёску на работу да памешчыкаў і да бауэраў на гаспадарцы. Гэта расказваў Э. Потым ён знік. А з астатніх 49 і сапраўды ніводзін не вярнуўся. Яно можа і так, што паветра ў вёсцы лепшае і вучыцца страляць таксама важна. І, нарэшце, ці не ўсёроўна, дзе служыць народу — тут ці там. У нас амаль усё так, як было раней. Я кінуў курыць, бо плачу зімовы падатак. Газету? Навошта чытаць газету? Лепш унесці што-небудзь у зборы нацыянал-сацыялістычных ветэранаў. У футбол я таксама больш не гуляю. Замест гэтага я плачу ахвярам нямецкай рэвалюцыі.

Такія, брат, справы. Вышэй галаву і прамей нос, такі мой дэвіз. Пішы, дарагі дружа. Прывітанне ад Фрыца»,

Раніцай, калі Ота адыходзіў на працу, прышоў стары селянін і тыцнуў яму ліст. У час перапынку ліст хадзіў з рук у рукі. Хлопцы, здавалася, наеліся гэтага пісьма, бо за абедам хлеб перасядаў у горле. У гэты дзень было папсавана шмат начыння: разбіты аб каменні сякеры, паламаны пілы.

Калі юнакі вярталіся ў лагер, жандар вёў нейкага маладога хлопца, які быў вельмі абарваны. На адным боце ў яго не было абцаса, падэшва другога была падвязана шнурком. Юнакі прамаршыравалі паўз яго. Хлопец стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні і прыгнуўшы плечы. Яго схуднелы твар быў упарты. Ён трымаў галаву, крыху схіліўшы на бок, і аглядаў працоўных салдат косым позіркам неяк знізу.

Жандар прывёў хлопца да фельдмайстра. Той хутка выдаў загад змясціць яго ў пятым пакоі, дзе старастам быў Густаў.

Праз гадзіну ўвесь лагер ведаў гісторыю новага таварыша. Яго прозвішча Вернер; ён — будаўнік з Лейпцыга. Пабыўшы беспрацоўным, ён трапіў у лагер працоўнай павіннасці. Калі Вернер адбыў там свой час, яму адмовілі ў выдачы дакументаў і забаранілі вяртацца на радзіму. Ён самавольна пакінуў лагер, два месяцы бадзяўся па дарогах, сядзеў некалькі тыдняў у турме за бадзянне і нарэшце быў накіраваны ў гэты лагер.

— Глядзі, падымі хлопцу настрой, — настаўляў групенфюрэр Густава. — Мы яго адшліфуем, ён больш не будзе сароміць лагера.

Густаў і навічок стаялі насупраць. Густаў памкнуўся быў сказаць яму нешта сяброўскае, нешта пра новае жыццё, але ў яго нічога не атрымалася. Навічок стаяў, як і раніцай, калі яго прывёў жандар, сутулены, упарты, насцярожаны, гатовы абараняцца. На яго твары, які

выглядаў ужо немаладым, было многа зморшчак — адбіткаў цяжкага лёсу.

У час вячэры ў сталовай было неспакойна. Многа кпілі з начальства, некаторыя сядзелі спахмурнелыя і маўчалі. Другія занадта гучна смяяліся, ляскалі посудам і знарок грукалі крэсламі. Кудл сыпаў, як з меха, дасціпнымі жартамі:

— Ну, паслухаем, як саксонскі герцаг Відукінд падпаліў рэйхстаг...

— Канчай, Кудл! — закрычаў Ота ў натоўп, што заліваўся гучным рогатам.

Калі хлопцы, прыбіраючы посуд і падрыхтоўваючы памяшканне, пачалі зноў грукацець, групенфюрэр Мюлер, відаць, не вытрымаў і, уварваўшыся, загарлаў:

— З глузду з'ехалі, ці што?!

Камуністычная ячэйка вырашыла, што даклад пра герцага Відукінда трэба сарваць. На парадак дня, калі магчыма, павінна быць выстаўлена тэма «Будучыня працоўнай моладзі».

Да фельдмайстра пайшла дэлегацыя. Карл Гейніг, Густаў і двое з ячэйкі.

Фельдмайстар баяўся бунту і таму хутка адмяніў даклад. Калі дэлегацыя стаяла перад ім, яго вачаняты, як у сусліка, ветліва пабліскваді.

— Будучыня працоўнай моладзі... Хм... важная тэма. Можам заняцца. Вы цікавіцеся вечарамі адукацыі. Гэта добра... Хм... Разыйдзіцеся!

— Я пачынаю серыю адукацыйных вечароў дакладам пра будучыню моладзі.

Дружныя воплескі, якія раздаліся ў зале, былі кпінамі і трыумфам. Фрыдрых Мюлер устаў і запытальна зірнуў на фельдмайстра: трэба каго-небудзь вывесці? Фельдмайстар мігнуў. Ён агледзеў залу і збялеў. Гэта быў ужо не склад паркалёвай фабрыкі. Гэта былі ўжо не юнакі, што адбываюць працоўную павіннасць. Гэта былі і не запалоханыя, сабраныя ў кучу маладыя рабочыя. Тут быў незнаёмы грунт, які дрыжаў у ціхіх хвалях.

Цэлы феерверк трaскучых слоў сыпаўся з вуснаў фельдмайстра: абнаўленне, народнае аб'яднанне, дысцыпліна, падпарадкаванне, вернасць, фюрэр, айчына, новае супольнае жыццё моладзі, падрыхтоўка да вайсковай службы, і так без канца. Аднак гэта ні на кога не дзейнічала. Нават твары самых пакорлівых заставаліся халоднымі і расчараванымі. Гучнае пакепліванне пакашліванне шмат разоў чулася ў часе дакладу. Фельдмайстар, нарэшце, сеў, задыхаўшыся. Мяшкі пад яго вачыма, здаецца, пажаўцелі за гэты час. Ота падняў руку і ўстаў.

— Фельдмайстар, можна задаваць пытанні?

Той спрабаваў выратаваць становішча і весела адказаў:

— Вядома. Пытайцеся аб чым хочаце. Мне вы заўсёды можаце выказаць усё.

Першым папрасіў слова навічок. Ён выйшаў наперад, трымаючыся так, як тады, калі ўпершыню з'явіўся ў лагеры. Уцягнуўшы галаў крыху ў плечы і пазіраючы спадылба, ён загаварыў горача, усхвалявана, заікаючыся:

— Я толькі хачу запытацца, што мы павінны тут рабіць. Адбываючы працоўную павіннасць, мы вучымся чортведама чаму, вучымся падпарадкоўвацца па-сабачаму і рабіць даносы. І гэта называецца новым народным аб'яднаннем.



Ён пастаяў яшчэ колькі хвілін, нібы хочучы яшчэ штось сказаць, і, нарэшце, адышоў на сваё месца.

— Ота! — паклікаў нехта ўпаўголаса.

Покліч пайшоў па зале. Ота папрасіў слова і выйшаў наперад. Ён стаяў недалёка ад фельдмайстра. Абодва цяжка дыхалі. «Як усё выказаць?» — думаў Ота. Як даўно чакаў ён гэтай часіны, ужо месяцы, як ён цішком рыхтаваўся да яе.

«Аб чым гэты падлюк будзе балбатаць? — падумаў фельдмайстар.— Колькі год чакаю добрага месца камандзіра. І цяпер гэтыя блазнюкі сапсуюць мне кар'еру».

«Не проста ў лоб трэба гаварыць, — думаў Ота, — і аднак заклікаць да барацьбы, каб усе зразумелі, усе ўзняліся і ведалі, як трэба змагацца».

Ён стаяў наверсе і глядзеў на сяброў з вялікім чаканнем. Адны запытальна чакалі, другія чагось рашуча патрабавалі. Гэта падбадзёрыла яго. Ён абедзвюма рукамі ўзяўся за стол і пачаў гаварыць:

— Сябры, чаго мы, працоўная моладзь, можам чакаць ад будучыні? Можна капаць рыдлёўкамі зямлю, можна біць камені. Чаму не? Гэта нікому не шкодзіць. Але што далей? Большасць з нас чаму-небудзь вучылася і з ахвотаю вучылася б яшчэ, але нечаму другому, а не толькі капаць і біць камені.

— Правільна, мы хочам вучыцца чаму-небудзь іншаму, — раздалося шмат галасоў у зале.

Фельдмайстар нервова паправіў сваю партупею. «Пачынаецца», — падумаў ён.

— Вы гаворыце пра зямлю. Так, мы нарадзіліся на гэтай зямлі. На гэтай зямлі мы працуем. Чаму мы павінны быць парабкамі? Людзьмі мы хочам быць.

Ота адняў рукі ад стала і сціснуў кулакі. Яго голас цвёрда каціўся па зале. Усе слухалі, затаіўшы дыханне.

— Бліжэй да справы! — сказаў фельдмайстар, коратка і з загадам. — Задавай пытанні!

— Мы павінны стаць моцнымі! Але як? Мы павінны вучыцца працаваць, але нам адбіваюць ахвоту да працы. Мы павінны любіць айчыну, але айчына дрэнна абыходзіцца з намі. А чаго нас, маладых рабочых, сагналі ў вёску?

— Вёска лепш, чым горад. Сяляне адновяць Германію! — ускрыкнуў фельдмайстар.

— Селяніну мы зусім не патрэбны. Яму самому цяжка пражыць. А ў рабочых мы тут адбіраем кавалак хлеба. Ці не так, Густаў? Схадзіце ў Грунэвальд і паглядзіце, як гібеюць беспрацоўныя.

— Гэта праўда, — крыкнуў Густаў, — мы адбіраем у іх хлеб. Таму яны і касавурацца на нас, і сяляне таксама. Гэта няправільна, фельдмайстар.

Доўгі Густаў устаў. Яго светлыя вочы глядзелі ў твар узлаванага фельдмайстра так шчыра і заклапочана, нібы чакаючы ад яго правільнага адказу. Затым Густаў, не спяшаючыся, сеў, як пасля цяжкага намагання. Навічок, які быў побач з ім, радасна зірнуў на яго і не так,

як раней — спадылба, а шырока раскрытымі вачыма. Ён кіўнуў Густаву і ціха сказаў:

— Так, разлікі ў тых няправільныя. Але тыя гэта заўважаць толькі тады, калі мы закрэслім іх. Тоўста закрэслім. — Ён з сілай правёў рукой у паветры.

Ота гаварыў. Ён разышоўся. Спачатку яму было цяжка. Але цяпер моцны вецер дзьмуў у парус і карабель нёсся. Ота, здавалася, адчуваў, як на палубу адзін за другім паўскоквалі яго сябры. Ён стаяў наперадзе, ён вёў карабель.

— Як мы пабудуем наша будучае жыццё? Усё забываецца, чаму мы навучыліся. Гораду мы не патрэбны, вёсцы — таксама. Усё наша жыццё загублена.

«Цяпер хлопцы памякчэюць, і трэба пусціць у ход усю хітрасць», — падумаў фельдмайстар і крыкнуў звонкім голасам:

— Дайце нам толькі скінуць халопства са зброяй у руках! Тады знойдзецца выйсце таксама і для вас. Цяпер дзьме іншы вецер. Хутка Германія ўзброіцца.

— Акалець у газавай вайне? Не, гэтага мы не хочам.

— Другога выйсця трэба шукаць! — раўла зала.

— А я яшчэ хачу запытацца!.. — гучна ўскрыкнуў Карл Гейніг і, не баючыся, дадаў: — Чаму за працоўную павіннасць плацілі ў 1932 годзе 60 пфенігаў у дзень, у 1933 толькі 40, а цяпер усяго 25 пфенігаў?

— І з гэтага вылічваюць яшчэ палову! — крыкнуў загарэлы.

— Бо Германія бедная, а моладзь вучыць трэба. Трэба чымсьці ахвяраваць.

Пачуўся смех і воклічы: «Выхад?!. Выхад?!.»

— Але не той стары выхад, — прагаварыў нехта даволі моцна, што пачулі нават пярэднія.

Фельдмайстар устаў, усміхнуўся сутаргава пасінеўшымі вуснамі і пачаў:

— Калі вы не хочаце гэтага выйсця, якое я вам толькі што назваў, адзінага выйсця для кожнага прыстойнага немца, які яшчэ не сапсуты марксістамі...

— Кінь, чалавеча, лухту несці! Надакучыла!

Ніхто не мог сказаць, адкуль нёсся гэты нізкі голас. У фельдмайстра паледзянела ў грудзях. Ён хацеў паспрабаваць яшчэ раз паказаць выхаваўчую годнасць лагера, але патрэбных важкіх думак у гэты час не знаходзіў.

Кплівы рогат заглушыў ягоныя словы.

— Вы павінны згадзіцца, — прагаварыў ён нарэшце, і яго голас не быў ужо голасам вайсковага чалавека, — што Германія яшчэ ў ярме. Вам даверыў фюрэр вялікае заданне: падрыхтавацца і зноў вызваліць Германію. Пакажыце сябе вартымі гэтага. Хайль Гітлер!

Сківіцы фельдмайстра трэсліся. Праляцела міма радасць быць камандуючым. Сапсавана жыццё.

Цяпер кінуўся наперад Кудл, ускочыў на авансцэну і дзёрзка задраў нос угору, нібы хацеў прабіць ім дзірку ў столі. Ён павярнуўся да фельдмайстра:

— Рабочыя, што адбываюць працоўную павіннасць, просяць кіраўніцтва лагера сказаць, ці то праўда, што мы пасля сканчэння тэрміну будзем проста накіраваны на работу ў вёску і больш не вернемся да сваёй прафесіі?



— На гэта адказваць я не ўпаўнаважаны, — аж закрычаў фельдмайстар. — *Вечар закончаны. Разысціся па спальнях!*

— Мы не жадаем пакутаваць у акопах і паміраць там, як паміралі нашы бацькі! Мы патрабуем лепшага харчавання, вышэйшай аплаты і мякчэйшага абыходжання. Заўтра мы не выйдзем на работу.

Ота падняў угору руку, як сцяг. Усе паўскаквалі. Раздалося рэха маладых галасоў, упартае і грознае.

— Заўтра мы не выйдзем на работу!

З грукатам паляцела праз акно крэсла. Яго кінуў лейпцыгскі будаўнік. Фельдмайстар падняўся са счарнелым тварам, на якім сівыя вусы блішчалі, як каціная скурка. Ён выцягнуў з ножнаў клінок і паклаў яго перад сабою на стол. Потым падняў руку. У зале крыху сцішыліся.

— Усе па спальнях! Заўтра пачуеце, што будзе далей. Разысціся!

Фельдмайстар і групенфюрэр выйшлі.

Старая паркалёвая фабрыка загула ад шуму, нібы зноў пусцілі ткацкія станкі.

Хлопцы, нібы захмялелыя, кінуліся ў памяшканні. Некаторыя кідалі мэблю. Хлопец з Лейпцыга разбіў яшчэ адну шыбу.

— Пусціце мяне! Пабіць крыху! А то ўсё б'юць *іншыя*, — крычаў ён з нейкай дзівацкай усмешкай на цвёрдых вуснах, калі некаторыя хацелі яго супакоіць.

Члены камуністычнай арганізацыі моладзі сабралі ўсіх у самай большай спальні.

— Трымацца разам! — крыкнуў з запалам Карл Гейніг, ранейшы сацыял-дэмакрат. — Мы павінны трымацца ў адзінстве. Нікога не пакідаць. Адзін за ўсіх, усе за аднаго!

— Брава! — закрычалі многія. — Мы будзем трымацца разам.

Стала зусім ціха, калі Кудл падняўся на стол.

— Цяпер раскрыйце вочы, сябры! Мы не авечкі, якімі гандлююць вакол. Мы павінны ведаць, чаго хочам. Многія хочуць цяпер адправіцца дахаты.

— Вядома, мы гэтага хочам! — раздаліся галасы.

— Зразумейце, сябры. Каму не апрыкрала тутэйшае жыццё? Але падумайце, што будзе далей? Адзін пойдзе бадзяцца па дарогах. Другі забярэцца да маці, на печ, хоць і халодную. Што з гэтага ўсяго будзе? Сябры, нас тут расштурхалі, і мы ведаем, што з усяго будзе. Цяпер мы павінны, як закваска, разысціся ў іншыя лагеры і агітаваць далей.

Раздалося «за» і «супраць».

— Без закваскі не будзе хлеба. Хлебам, які мы цяпер пячом, павінны падавіцца нашы прыгнятальнікі. Ітак, — закваскай у іншыя лагеры!..

Кудл саскочыў са стала. Цяпер узяў слова Ота, папярэдне пагаварыўшы з Вілі на двары.

— Сябры, я толькі што даведаўся, што ў гэтую ноч з'явяцца сюды СС і шупо. І заўтра нас расфарміруюць па іншых лагерах. Кудл мае рацыю. Нашай задачай з'яўляецца растлумачыць сябрам у другіх лагерах, перанесці дух мецяжу ў другія лагеры. І так, сцяўшы зубы, працаваць далей. Але хто хоча ісці адсюль, таму трэба гэта зрабіць зараз жа, пакуль не прыйшлі эсэсаўцы, і пашукаць іншага месца для барацьбы за вызваленне рабочага класа. Усім быць цвёрдымі! Клянёмся нашым пралетарскім гонарам!

Яны ўзнялі высока рукі. Белае святло лямпы плавала па іх тварах.

— Барацьба ідзе за свабодную Германію...

Ота абкружылі. Юнак з пацучыным тварам сказаў:

— Дома таксама параная капуста, і мы ўпяцярох жывём у адным пакойчыку. Я застаюся.

Густаў тлумачыў, што ён не можа цярпець несправядлівасці, што ён хоча паехаць у Берлін і расказаць Гітлеру, як жывецца ў лагерах. Круглагаловы прагаварыў з кутка, дзе была яго група: «Сябры, мы нікога не выдадзім. Але мы будзем трымацца спакойна, каб не сапсаваць сваёй будучыні».

— Размазня! — не выцерпеў адзін юнак і падышоў да Густава.

Каля сарака чалавек падрыхтаваліся ісці. Астатнія вырашылі застацца. У гэты час на вахце ў дзвярах быў Вілі. Адзін з групенфюрэраў падышоў да яго. Ён глядзеў на Вілі, сына шуцмана, як на раўню. Яго твар быў пануры і злосны.

— Не магу абвінавачваць хлопцаў, — пачаў ён. — Што тут за жыццё? Для нас таксама. Яны хочуць, каб я жаніўся, бо я тут служу. А якая гэта служба? Раней уяўлялася ўсё неяк зусім інакш, дружа.

— Так, так, некаторыя думалі пра ўсё гэтае інакш.

— І лагер ліквідуюць?

— Так, ліквідуюць. Стары гаворыць, што лагер ужо заплямлены. Хлопцаў разашлюць па розных лагерах, пакуль яны не разбегліся. А Ота трапіць у канцэнтрацыйны лагер. Я думаю, Кудл таксама.

— Адкуль ты гэта ведаеш?

— Я быў, калі стары гаварыў аб гэтым. Яны з Ота не будуць міндальнічаць.

— Шкада хлопцаў.

— Так, шкада. Нядрэнныя хлопцы.

Калі крокі групенфюрэра заціхлі, Вілі хуценька і ціха пабег да туалета. Праз некаторы час выйшаў даверааны.

— Ота і Кудлу трэба зараз жа ўцякаць. Іх павінны адаслаць у канцэнтрацыйны лагер, — сказаў Вілі сваім халодным моцным голасам. — Збяры зараз жа ячэйку і лепшых хлопцаў. Тыя, хто хоча ўцякаць, павінны ісці да хлява. Кладоўка з прадуктамі адчынена. Яны могуць узяць хлеба і каўбасы.

Шырока крочачы, Вілі пайшоў далей. Праз некалькі мінут восем хлопцаў стаялі за драўляным хлявом.

— Кудлу і Ота трэба зараз жа ўцякаць! Іх павінны адправіць у канцэнтрацыйны лагер, — сказаў Вілі.

Кудл і Ота не рашаліся. Яны заклікалі ўсіх застацца і не хацелі пакінуць сяброў. Карл Гейніг падышоў да Ота і паклаў яму на плячо руку.

— Ты не павінен гінуць, таварыш. Ты патрэбен справе. Вы можаце спакойна ісці. Наша работа не спыніцца.

Ён падкрэсліў слова «наша» і стаяў у сярэдзіне групы моцны і рашучы.

Каля сарака маладых рабочых шукалі дарогі цераз лугі і лясы і праз дзве гадзіны выйшлі на гасцінец, які вёў на поўнач.



**Эльза едзе ў Берлін**

Чуткі пра бунт у лагеры, пра СС і шупо, пра ўцёкі зачыншчыкаў і знікненне парабка разнесліся па Грунэвальду і навакольных вёсках. Толькі баўэрскі сын Ёзэф сцвярджаў, што знікненне парабка звязана з падзеямі ў лагеры. Аднак многім цяжка было ўявіць, што гэтыя дзве падзеі маюць адна да адной якое-небудзь дачыненне.

Эльза пастукала ў акенца да сваёй школьнай сяброўкі Анны. Тая адразу ж выбегла з дому, абняла Эльзу і павяла яе ў маленькую альтанку.

— Гавораць, Ота і Кудла, як зачыншчыкаў, збіраліся адправіць у канцлагер, і таму яны ўцяклі. Я хачу паехаць у Берлін, Анна. Можа я там змагу зрабіць для іх што-небудзь.

— Гавораць таксама, што яны забілі парабка, — дадала Анна.

— Парабка? Гэта быў добры хлопец. Ён заўсёды стаяў за нас. Калі ён і сапраўды забіты, дык гэта маглі зрабіць толькі фашысты.

— Дзяўчаты стаялі, моцна трымаючы адна адну за рукі. Яны былі адны, пакінутыя ў гэтым халодным, варожым свеце.

— Калі ты вяртаешся ў Берлін, Эльза, я паеду з табой. Я не пакіну цябе адну. Мы ж дагаварыліся быць разам.

Эльза задумалася.

— А калі за гэта ў цябе будуць непрыемнасці? Не, я не хачу. Адслужы свой час! Ніхто ж мяне не з'есць па дарозе. І адна дзяўчына не так будзе кідацца ў вочы, як дзве. Спачатку я пару станцый прайду пешшу. У мяне ёсць некалькі марак і крыху хлеба.

— Вазьмі і мае ўсе грошы. І хлеб... І трэба ісці з кошыкам, гэта менш падазрона. Падумаюць, што ты ідзеш на рынак у суседнюю вёску.

— Так, з кошыкам гэта добра. Тады мяне ніхто не будзе распытваць.

— Пасядзі тут. Я прынясу грошы і харчы.

Анна, маленькая, чорнавалосая, з дзіцячым тварыкам, пабегла ў дом і хуценька вярнулася. Сяброўкі абняліся і пацалаваліся. Гэта было цяжкае расстанне. Кожная заставалася адна ў дзікім, цяжкім, як страшны сон, жыцці.

Позна ўвечары, калі ўсе спалі, Эльза выйшла з дому, захапіўшы стары кошык. Яна накіравалася да лесу і пайшла ўзлескам, каб не збіцца з дарогі. Было цёмна. Толькі позна ўзышоў вузенькі месячык і то больш хаваўся за хмары. Не чуваць было ні гуку, толькі калі-ніколі раздаваўся крык савы. Эльза стамілася. Няўжо не скончыцца ноч, гэта цёмная адзінота?

Хутка начную цішу напоўніла лёгкае шчабятанне. На гарызонце з'явілася светлая танюсенькая рысачка, і неўзабаве ўсюды запанавалі галасы і рухі. Стракаталі сінічкі, берасцянкі, канаплянкі. Чырвань раніцы залівала ўсё наваколле. На маленькай палянцы Эльза заўважыла дзікую казу.

Эльзе раптам стала радасна і добра на сэрцы. Навокал жыццё. Яна апусцілася на зямлю і заснула. Заснула доўгім і глыбокім сном. Прачнуўшыся, яна памылася ў блізкім ручаі, падсілкавалася крыху і пай-

шла да наступнай станцыі. Гэта была галоўная лінія на Берлін. Выявілася, што ў Эльзы хапіла грошай да самага Берліна.

Поезд у горад прыбыў ноччу. На апошнім трамваі Эльза даехала дадому. Паднялася па лесвіцы. Маці сустрэла радасна і спалохана.

— Заўтра я ўсё раскажу. Нікому, мама, не гавары, што я тут.

Зморанасць давала сябе адчуць, і Эльза хутка заснула. На другі дзень яна прачытала ў газеце, што за падняцце бунта Ота і Кудл арыштаваны. Ота, акрамя таго, абвінавачваецца ў забойстве парабка. Эльза адчула, як у яе пахаладзела сэрца, і яна ледзь утрымалася за край стала, каб не ўпасці. Утаропіўшыся ў свае загарэлыя ў працы рукі і сціскаючы ўсё мацней і мацней кулакі, яна выйшла з дому.

Яна пойдзе ў паліцыю, яна будзе сведкай.

### Мы пераможам

Ногі яшчэ ў намаляваным крэйдай коле. Ота спрабаваў разгледзець, ці не сцёр ён дзе-небудзь рысы, але нічога не бачыў. Кола скакала перад вачыма. Ота схіліў галаву на плячо. Яму стала дрэнна. Ён схамянуўся. Толькі б не страціць прытомнасць і не зваліцца. Тады гэтыя восемнаццаць гадзін, што ён стаіць у абчэрчаным крэйдай коле, не залічацца і апрануты ў чорнае кат пачне лічыць спачатку. Восемнаццаць гадзін ужо стаіць Ота, а ён павінен выстаяць трыццаць шэсць, калі яны пасля гэтага нічога іншага не выдумаюць. У іх багатая фантазія ў вынаходстве пакут.

Крокі ў калідоры. Ідуць эсэсаўцы вячэрняй змены.

Чутны галасы.

— Дайце агню. Я стомлены, як сабака. Чатыры гадзіны заняткаў на двары і цяпер яшчэ трэба з гэтымі камуністычнымі сабакамі займацца. Знішчаць бы іх адразу...

Расчыняюцца дзверы камеры. Уваходзіць эсэсавец са шрамам на пухлым твары. Ён замахваецца і перацягвае Ота бізуном. Ота хістаецца, але, балансіруючы рукамі, зноў прыходзіць у раўнавагу.

Ён стаіць і стаіць. Мінуты капаюць на яго галаву, як пясчынкі ў пясочным гадзінніку. Мінуты пачынаюць цікаць у галаве. Ён пачынае іх лічыць: адна, дзве, тры, чатыры... пятнаццаць... трыццаць. Лічбы блытаюцца. Ён пачынае зноў і зноў. Так моцна гудуць мухі. Гэта мусіць пчолы. Гудуць усё мацней і мацней. Не, гэта самалёты. На дварэ блакітнае неба. Самалёты слізгаюць у паветры. Паветраная пошта. Масква — Берлін. На граніцы высокая брама з сярпом і молатам. За ёю чырвонаармейцы ў доўгіх шынялях і востраверхіх шлемах з чырвонай зорачкай. Гэта маладыя рабочыя, як я, і сыны сялян. Я таксама буду чырвонаармейцам, нямецкім. Буду вучыцца страляць, каб біць чорных катаў і іх генералаў. Страляць! Страляць!

Яшчэ лепш кінуць гранату ў памяшканне СС, няхай сабе і самому пры гэтым загінуць. Загінуць ці не, гэта ўсёроўна. Толькі трэба стаяць прама да канца. У гэтым усё! Стаяць, стаяць, стаяць... Самалёт не аддаляецца, і прапелеры ракочуць бесперапынна. Што з маторам? Самалёт не можа ляцець далей? Шлях на Маскву зачынен? Галаву тор-



гае ад болю. Што гэта? Адзін у пацёмках? Мёртвая Масква? Не, не. Масква жыве. Мы цвёрда стаім. Мы трымаемся. Мы будзем стаяць.

Зноў расчыняюцца дзверы. Зусім здалёку даносіцца голас:

— Прысядзь на хвілінку. Інакш ты загінеш, а мне з табою яшчэ трэба займацца.

Ота адчувае крэсла. Ён садзіцца. У тумане плавае твар эсэсаўца. Вочы не зусім злосныя. Яны амаль як і чалавечыя вочы. Глядзяць на яго.

— Моцныя вы, чорт пабяры. Вас не сагнеш. Такіх, як вы, можна было б выкарыстаць для нас. Так, цяпер уставай, пакуль ніхто не прышоў! Дваццаць адна гадзіна. Застаецца пятнаццаць. Тады спакой. Чорт ведае, гэта занадта.

Рыпнулі жалезныя дзверы. Гучныя крокі па каменных плітах. Перададзены загад.

— Вон з кола! — скамандаваў эсэсавец. — Маеш шчасце, хлопец, адпраўляешся ў следчую турму, у Маабіт.

— Дай яму спачатку пажэрці, а то ён паваліцца рылам!

Ота садзіцца на крэсла. Ногі як цяжкія клюмпы. У галаве ўсё яшчэ туман. Што гэта? Ён сядзіць. Ці ведаў калі-небудзь хто, як гэта прыемна сядзець? Цудоўна. Ён сядзіць, паклаўшы на калені рукі. На ілбе ў яго глыбокія маршчыны. З вачэй пакрысе знікае пакута, але ён нічога не бачыць, ён адчувае толькі палёгку ад нечага нясцерпнага, што, як жудасны сон, кідае ў цемру. З'явілася жаданне легчы, спаць. Гэта было б найвышэйшай асалодай.

Гарачая міска пастаўлена яму на калені, уціснуты ў руку кавалак хлеба: «Еш!»

Ён пасёрбаў рэдкага гарохавага супу. Жаваць хлеб было цяжка, амаль немагчыма.

— Так яго нельга есці. Кавы!

Натуральная чорная кава...



Туман рассейваецца. Многае становіцца ясна. Значыць, турма. Яны яго ўжо выводзяць. Хутка спраўлены ўсе фармальнасці. Кароткая паездка, новая турэмная брама. Зноў адзін. Зноў смяротная аднастайнасць дня і ночы.

Яго падазраюць у забойстве. У абвінавачванні значыцца, што ён забіў парабка.

Успамінаецца цёмная вада, бераг, парослы чаротам. Эльза сядзіць на траве. Яго галава ляжыць у яе на каленях. У лесе трашчаць галіны. Можа гэта быў забойца?

Эльзу яны таксама арыштавалі, калі яна з'явілася сведчыць невінаватасць Ота. На апошнім допыце яна стаяла супраць яго. Твар яе зрабіўся маленькі, сціснуўся, як кулак. Яе таксама будуць абвінавачваць? І сведчыць будзе бауэрскі сын Ёзэф. Але ж тры юнакі з лагера за яго. Сярод іх Густаў, член арганізацыі гітлераўскай моладзі. Яны бадзёра трымаюцца. Ота ганарыцца імі. Сёння суд.

Яго вядуць па калідоры. Халоднае і вострае жалеза кайданоў, як і халодная вада ў Чортавым возеры. Там яны ўтапілі парабка. Ці яны яго таксама гэтак катавалі? Цяпер трэба сабрацца з думкамі.

Яны правялі яго цераз двор да машыны. І сапраўды, неба такое блакітнае і вялікае, і без кратаў. І сапраўды, у далечыні самалёт. Масква жыве, Данбас, Сталінград, Магнітагорск — усё за граніцай магутнае, створанае рабочымі. І такімі ж самымі былі царскія турмы, як гэты двор, і рускія кайданы, як на ягоных руках. Усмешка ўспыхнула ў яго вачах. І ў нас будзе свабода. Перад машынай ён на момант затрымаўся.

— Не бойся. У машыне нічога з табой не стане. З табой разбяруцца па закону. Кулі шмат каштуюць дзяржаве. Сякера зробіць гэта танней. Яе трэба толькі навастрыць.

Сякера? Ці можа гэта быць? Яго рука цягнецца да галавы. Бразгае ланцуг.

— Сёння яна яшчэ на плячах, — прагаварыў канваір, заўважыўшы гэты рух рукі. Ён закурыў. Яго твар зусім нерухомы.

Сякера. Ота адчуў нешта халоднае на патыліцы. Яго маладое жыццё загіне. Голад, прыніжэнне, упартасць, абурэнне і аднак — як цудоўна дыхаць, жыць!

Вечар у маці. Сухія галінкі трашчаць на агні. Маці стаіць перад ім. Ён трымае шклянку з гарачым малаком у маленькіх, пачырванелых ад холаду руках. Ён п'е павольна, пазірае ў акно і слухае маці.

Свята рэвалюцыйнай моладзі за горадам; луг і лес аж гудуць ад маладых галасоў. Эльза скача праз касцёр. Потым яны сядзяць, прытуліўшыся адно да аднаго. Група сацыялістычнай рабочай моладзі праходзіць паўз іх і спявае: «Мы маладыя, і гэта цудоўна». Горыч ахоплівае Ота. Яны хочуць цешыцца маладосцю без барацьбы. Таму цяпер павінны ісці на эшафот перадавыя байцы. І ён хацеў таксама калісьці цешыцца жыццём у дзеда на беразе. Цюлені на пясчанай касе блішчаць на сонцы, яны жывуць, усё жыве. І старая бабулька там. Чорныя чэрці-эсэсаўцы будуць жыць і далей, толькі ён... Сякера... Прадзед засек фогта сякерай. Таму цяпер хочуць яны яго... Не, не таму. Так, той самы шэраг барацьбітоў — Дзетмер, Тэльман, Дзімітраў. Зноў самалёт. Ота глядзіць угару.

— Што ты глядзіш, малы Дзімітраў? Хочаш таксама на самалёце ўцячы ў Маскву, як вялікі круцель Дзімітраў, га?

Канваір смяецца, перакідвае ў кут рота сігарэту і з прагавітасцю глядзіць Ота ў твар, нібы чытае на ім думкі. — Дзімітраў, Тэльман...



Вочы ў Ота не адрываюцца ад самалёта. Металічныя маскоўскія птушкі лётаюць свабодна ў паветры. Дзімітраў, Тэльман, Ленін. Ленін ужо даўно памёр. Не, жыве, жыве на ўсёй зямлі. Ёсць два жыцці: цюлені на пясчанай касе і здаровыя мужчыны ў чорных мундзірах з бізунамі і рэвальверамі — мяса, кроў, улада. І аднак іх жыццё маленькае і слабае, яны належаць да тых, якія знікаюць. І другія, сапраўдныя людзі... Ленін. Ленін перамог і будзе перамагаць заўсёды. Ён жыве сапраўдным жыццём, яно выстаіць, хоць і галава Ота зляціць пад сякерай.

Машына праз шырокую браму нырнула ў двор суда. У зале суда сядзяць бацькі. Зарыдала маці, калі ўвялі Ота. На лаве падсудных сядзяць ужо Кудл і Эльза. Ходзяць сведкі, нібы лялькі па дроце.

Ідзе суд. Суддзя задае пытанні, гавораць сведкі.

Даказвае групенфюрэр Мюлер.

— Увесь неспакой у лагеры ішоў ад Ота. Гэта ён падняў бунт, яму самому, Мюлеру, ён пагражаў лапатай на вучэнні.

Ота ўстаўляе рэплікі і задае пытанні. Суддзя непакоіцца, устае многа разоў з крэсла.

Бауэрскі сын Ёзэф сведчыць, што хлопцы, адбываючы працоўную павіннасць, зрабілі ненадзейнай вёску. Ота бегаў за дзяўчатамі, прысланымі памагаць у сельскай гаспадарцы. Але гэта, вядома, больш служыла шырмай. Усё гэта ён рабіў з палітычных мэт. Яго бачылі з парабкам яшчэ раней. Ён і зазваў яго да Чортавага возера. А Эльза цягалася з усімі, то з сынамі бауэраў, то з хлопцамі з лагера. Яна была пад уплывам Ота, таму яе сведчанню нельга верыць. Да забойства яна, мусіць, не мае ніякага дачынення.

Эльза адразу ўскочыла.

— Гэты Ёзэф — гвалтаўнік. І ён жа тады, калі дамагаўся мяне на сене, гаварыў: «Ота ты больш не ўбачыш. Мы яго прыбяром. Ён жа чырвоны». А забіты парабак абараніў мяне ад Ёзэфа.

Па радах пранёсся гоман. Суддзя папярэдзіў, што прымусіць усіх пакінуць залу. Маці Ота ўстала. Яна глядзіць на суддзю сваімі яснымі вачыма і ціха кажа:

— Сякерай трэба секчы іх, фашыстаў, як наш прадзед фогта засек.

Эсэсавец і адзін селянін з вёскі сведчылі, што яны бачылі, як Ота, Эльза і забіты пайшлі ў лес. Эльза потым адна вярнулася ў вёску.

— Сведкі падкуплены! Ота зараз жа пайшоў назад у лагер, — ускрыкнула Эльза.

Потым прыйшла чарга Густава. Ён спрабуе выпрастацца. Яго твар зусім бледны.

— Я стары член арганізацыі гітлераўскай моладзі. Ота быў добрым таварышам. Усе яго любілі. У палітыцы іншы раз ён прабаваў дыскусіраваць. Пра тэрор ён нават не заікаўся. Я не магу сабе ўявіць, каб ён забіў чалавека. Ён толькі хадзіў, як заўсёды, да сваёй нявесты. Яны сядзелі ля возера, тады ён вярнуўся ў лагер. Было яшчэ рана, калі ён прыйшоў.

Ён бездапаможна змоўк, пачаў яшчэ раз гаварыць і сказаў мяккім і засмучаным голасам:

— Я думаў, такі можа стаць правадыром. Я думаў, у яго кроў вікінгаў.

— Гэтым вы сведчыце, што абвінавачваемы чалавек задзірысты.

— Задзірысты, але не забойца.

Вочы Густава, шырока расплюшчаныя ад здзіўлення і страху, утаропіліся ў твары Ота і Эльзы.

Слова бярэ дзяржаўны абвінаваўца.

— Сапсаваная, падбухтораная моладзь здольна на ўсякі ганебны ўчынак. Ота быў звольнены з прадпрыемства за марксісцкія погляды. Упарты дзяржаўны вораг, бунтар, зачыншчык, бурная натура, прыраўнаваў маладога парабка. Факты ясныя. Ён адаслаў сваю дзяўчыну, а сваю ахвяру прыкончыў.

Дзяржаўны абвінаваўца патрабуе смяротнай кары для Ота за ўчыненне забойства і турэмнага заключэння для Кудла і Эльзы за мяцеж і валацужніцтва.

Пасля слоў афіцыйнага абаронцы Ота пачаў сваю прамову. Ён ужо больш не знясілены і не слабы. Усё ў ім нацягнута. У зале не шмат рабочых, бо несвоечасова апублікавалі аб часе суда. Аднак Ота ведае, што ён адказны за кожнае слова перад рабочым класам.

— Пан дзяржаўны абвінаваўца патрабуе мне смяротнай кары, хоць і не існуе ніякіх доказаў супраць мяне. Я быў у сваёй нявесты. Мы разам сядзелі ля возера і пад вечар пайшлі дахаты. Я лясной дарогай пайшоў у лагер. Як я мог ноччу заманіць у лес бауэрскага парабка? Мы мала ведалі адзін аднаго, аднак ён мне сказаў, што раней быў у радах барацьбітоў Рот Фронта і ў сэрцы ён і сёння чырвоны. Зусім ясна, тут фашыст употайкі знішчыў яго. Рабочы не заб'е свайго ж сябра, бо ён сумленна адносіцца да працоўнага народа. Калі б я і хацеў каго-небудзь забіць, дык гэта вас, суддзі, — Ота адкінуў назад галаву і падняў кулак. — Я лепш бы забіў тых, хто нас, моладзь, ганьбуе і растоптвае.

— Ота!.. — Гэта спрабавала гаварыць маці, але яе сэрца зайшлося. У яе не было больш голасу.







— Я пазбаўляю вас слова, абвінавачваемы.

— Мы супраць індывідуальнага тэрору. Нам не трэба такіх забойстваў. Гэта робяць прыгнятальнікі, бо яны баяцца свабоднага народа, бо яны з нячыстым сумленнем змагаюцца за брудную справу. Таму вы і забіваеце. Забіўшы аднаго маладога рабочага, вы адсякаеце галаву яшчэ і другому.

Жудасны крык перабівае Ота. Неспакойна ўстае старшыня. Яго цынічны твар зрабіўся бледны, толькі ружавеў шрам на ілбе.

— Я вас пазбаўляю слова, абвінавачваемы!

— Не плач, мама!— крыкнуў Ота, не звяртаючы ўвагі на старшыню.— У цябе многа сыноў. Усе мае таварышы — твае сыны. Ты мяне вучыла стаяць проста, мама. Яны навучылі мяне змагацца. У свабоднай Германіі ў цябе будзе шмат сыноў.

Гаворачы гэта, Ота бачыў, як маці стаіць у кухні. Зайшоў юнак. Маці працягвае яму кавалак хлеба, як гэта яна рабіла раней і яму. Тады Ота, адчуў што ён не памрэ. Ён будзе толькі другім, проста другім юнаком.

— Я пазбаўляю слова, абвінавачваемы!

Яны штурхнулі яго на лаву. Суддзі выйшлі, і праз некалькі мінут вярнуліся. Старшыня чытае прыгавор: смерць праз адсячэнне галавы... Апраўданне Кудлу і Эльзе за недахопам доказаў. Кудл павінен вярнуцца назад, у лагер.

Ота ўстае.

— І пасля смерці мы будзем змагацца. Мы жывём і перамагаем!— Яго словы прагучалі, як песня, запоўнілі ўсё памяшканне.— Ленін жы-

ве, і мы будзем далей жыць. Нашы галовы ператворацца ў гранаты, якія вас паразрываюць. Вы захлынецеся ў нашай крыві...— Ён увесь перасмыкнуўся ад болю, але крыкнуў яшчэ раз:— Мы пераможам!

Цяжкая паліцэйская рука зацiснула яму рот.

Эльза збялела. Застылі яе вялізныя вочы на збялелым твары.

— Мы не дапусцім, каб цябе забілі...— прагаварыла яна асіплым, чужым голасам. Кудл кіўнуў сцвярджальна. Ота ўсміхнуўся. Ён у нейкім захапленні. Недзе пячэ яго востры боль. Над болем гарыць полымем яго натхненне.

У зале суда ціха-ціха. На тварах усіх адзнакі цяжкай сур'ёзнасці.

— У наступны раз не збіраць народ,— сказаў старшыня дзяржаўнаму абвінаваўцу.— Гэты аказаўся дзёрзкім сабакам!

Дзяржаўны абвінаваўца страціў у гэты дзень апетыт да яды. Ён бачыў, як коцяцца галовы і становяцца гранатамі. Прыгавор быў апублікаваны ў газеце. Сэрцы ўсіх рабочых загарэліся абурэннем. Новая кропля капнула ў кубак гневу і нянавісці. На прадпрыемстве ЛКОВ, на якім працаваў Ота, вестка перадавалася з вуснаў у вусны. На другі дзень раптам спыніліся машыны. Быў перарэзаны кабель. Не ведалі, хто гэта зрабіў. У час, калі спынілася праца, была прынята рэзалюцыя пратэсту супраць смяротнага прыгавору і перадана далей. У Берліне на сценах і парканах бялеліся пагражальныя словы.

За невясёлымі малочна-матавымі шыбамі акна камеры свеціць сонца. Ота падсунуў да акна стол і ўзлез на яго. Праз вузенькую шчылінку прыадчыненага акна свежы ветрык абвявае ягоны твар. Ота глыбока ўздыхае. На дахах ляжыць сонейка. Ён бачыць яго сёння апошні раз. Чарада галубоў узнімаецца з даху суседняга дома і пачынае кружыць, то апускаючыся ўніз, то падымаючыся ўверх, як бліскучая пена. На крылах і на іх пушаных грудках — асляпляльнае святло. Гадоў пяцьдзесят ён бы мог яшчэ бачыць сонца, пяцьдзесят разоў па трыста шэсцьдзесят пяць дзён. І гэтага не будзе. Яшчэ раз чарада галубоў прыносіць яму сабранае з усяго свету сонца. Вусны Ота раскрываюцца, вочы блішчаць.

Вось выносяць яны ўжо на двор плаху і сякеру. Кулакі Ота разбіваюць цьмяныя шыбы акенца. Няхай льецца святло! Кулаком па іхняму парадку! Ён саскоквае са стала, глядзіць на кроў, якая струменіць з ягоных кулакоў. Цяпер бы сякеру, зброю, ручную гранату! Знішчыць ворага, як прадзед знішчыў фогта!

Пачынаюць грымець засаўкі. Вось ужо выводзяць частку арыштантаў на двор. Яны павінны бачыць пакаранне смерцю.

Выводзяць з камеры і Ота. Не слухаюцца, супраць волі падымаюцца ногі. Агіда да ворагаў, як атрута, уліваецца ў яго кроў. Стары апальшчык з сівым шчаціннем на жудасным пацучыным твары жыве і будзе жыць. Застаецца толькі дзесяць мінут. Зброю! Сякеру! Страляць, прабіцца!

Ота ідзе па калідоры. Яшчэ два павароты, яшчэ пяць лесвіц, двор... Яшчэ так доўга дыхаць. І потым... Гудзе ў вушах... Туман калышацца перад вачамі. Якія пранізлівыя ягоныя вочы. Яны глядзяць праз мур. Зусім ясна ён бачыць завод ЛКОВ, чуе рокат, лязг і грукат. За кожным станком стаіць рабочы. Толькі адно месца пустуе, яго месца. Яно чакае яго. Не, вось падышоў нехта другі, і яно занята.

Вось уюцца дарогі, усюды бясконцыя групкі моладзі. Яго няма больш сярод іх. Няма ў хлявах у лагерах, няма на месцы сустрэч ячэйкі.



Нідзе яго няма.

А дзе ж прыстасаванне для друкавання нелегальнай газеты? У Курта ў мансардзе. Ён бачыць друкарскі станок зусім ясна. Але чаму ён ужо наладжан? Расчыняюцца дзверы. Уваходзяць двое юнакоў. Яны распакоўваюць рукзак і пачынаюць друкаваць лістоўку. Уверсе мільгаюць тоўстыя літары:

**Таварыш Ота пакараны смерцю. Мы адпомсцім за яго!**

Ота выпростваецца, закідвае назад галаву і роўным пружыністым крокам праходзіць праз дзверы на двор. Ля сцен стаяць арыштанты. Яны адпомсцяць за яго. Лістоўка? Лістоўка будзе заўтра. І Эльза адпомсціць...

Усё свеціць сонца, і кружыцца чарада галубоў. У аднаго галубка цямнейшыя крылцы. Удалечыні віднеецца марская выспа, цюлені. Побач з цюленямі нейкія звяры. Ага. Гэта чорныя эсэсаўцы разлегліся на пясчанай касе. Іхнія бізуны з бегемотавай скуры звісаюць у ваду.

Знікла і гэта. З'яўляецца новы малюнак, блізкі і велічны. З муроў турмы выступаюць постаці Леніна, Карла Лібкнехта, Розы Люксембург, Тэльмана, чырвонаармейцаў, сяброў. Яны вітаюць яго, махаюць рукамі. Яны будуць змагацца. Вось яны ўжо выступаюць. Яны гавораць.

Прарэзлівы голас падае каманду. Вось і ўсё! Як у святле пражэктара, бачыць Ота дзяржаўнага абвінаваўцу ў чырвонай мантыі. Ён бачыць бліскучыя боты, дзікія твары, жудасныя вочы ката, плаху, сякеру. Ён выпростваецца і стаіць горда. Ён узнімае кулак. Яго моцны малады голас гучна выкрыквае пралетарскі заклік да барацьбы, ён гучыць, як гром для забойцаў і як фанфары для зняволеных. З камер нясецца: «Паўстань, пракляццем катаваны...»

Вось ужо бліснула сякера ката...

У галаве звонам раздаюцца слова: «МЫ ПЕРАМОЖАМ!»

У наступную раніцу на шыльдзе вуліцы, на якой жыў Ота, было выпісана яго прозвішча. Вечарам перад вокнамі жыхароў чуліся песні і маршы. Ішлі маладыя дэманстранты. Калону вёў шыракаплечы хлопец. Побач з ім ішла хударлявая дзяўчына. Яе голас гучаў больш высока і чыста, чым астатнія галасы, і прымушаў бляднець тых, хто слухаў яго.

*Пераклала з нямецкай мовы*
*Валянціна ВЫХОТА.*





# ВЫДАТНЫ ПРАЗАІК І ДРАМАТУРГ

**Да 20-годдзя з дня смерці Эдуарда Самуйлёнка**

Толькі восем год працаваў у літаратуры выдатны беларускі празаік і драматург Эдуард Людвігавіч Самуйлёнак, але след, пакінуты ім у ёй, вельмі значны. Творы яго займаюць у скарбніцы беларускай літаратуры адно з самых пачэсных месц. Яны не старэюць і не забываюцца, а, як і пры жыцці пісьменніка, карыстаюцца заслужанай павагай і любоўю чытача.

Эдуард Самуйлёнак прышоў у літаратуру з багатымі жыццёвымі ўражаннямі. Ён працаваў сакратаром камсамольскай ячэйкі Росіцкага сельсавета і адначасова з'яўляўся селькорам акруговай газеты «Чырвоная Полаччына», а потым зусім перайшоў на сталую працу ў рэдакцыю «Чырвонай Полаччыны». Шматлікія камандзіроўкі, блізкае знаёмства з жыццём, з людзьмі, з новымі падзеямі ў вёсцы далі яму багаты матэрыял для нарысаў, апавяданняў, п'ес. Адсюль і бярэ свой пачатак пісьменніцкі шлях Эдуарда Самуйлёнка.

У 1931—1934 гадах з'яўляюцца яго першыя сталыя творы, а з выхадам у свет аповесці «Тэорыя Каленбрун» Эдуард Самуйлёнак робіцца шырока вядомым пісьменнікам. Ён пераязджае ў Мінск і цалкам аддаецца літаратурнай працы.



Ужо з першага свайго апавядання «Русалчыны сцежкі» Э. Самуйлёнак паўстае перад намі як своеасаблівы пісьменнік са сваім уласным голасам, сваім творчым почыркам, як майстар вострага сюжэта і яркай акрэсленай задумы.

Самуйлёнак быў пісьменнікам шырокага дыяпазону. Тэматыка яго твораў самая разнастайная. У іх знайшлі адлюстраванне і рэвалюцыйная барацьба супраць царызму («Цагліна казэмата»), і грамадзянская вайна («Пункт апоры»), і вайна супраць панскай Польшчы ў 1920 годзе («Дачка эскадрона»), і рэвалюцыйная барацьба на захадзе («Тэорыя Каленбрун»), і жыццё на граніцы («Пагібель воўка»), і ўтварэнне Савецкай Грузіі («Будучыня»), і класавая барацьба ў беларускай вёсцы («Русалчыны сцежкі»), і станаўленне новага чалавека ва ўмовах сацыялістычнага ладу («Паляўнічае шчасце»).

Апавяданні Э. Самуйлёнка вызначаюцца цікавым сюжэтам. Палітычная завостранасць, глыбокая ідэйнасць спалучаюцца ў іх з напружанасцю асноўнага канфлікту. Пісьменнік мала гаворыць пра сваіх герояў, ён прымушае іх дзейнічаць, умее паказаць іх у драматычных сутыкненнях, у хвалюючых сітуацыях.

У выдатным апавяданні «Герой нацыі» пісьменнік ярка паказвае і смела выкрывае тыя сілы, што перашкаджаюць народам жыць у міры. Па сваёй эмацыянальнасці і мастацкай выразнасці гэта адно з лепшых антымілітарысцкіх апавяданняў ва ўсёй беларускай літаратуры. Чытаючы яго, яскрава ўяўляеш сабе сучасных падпальшчыкаў сусветнай вайны.

Пачуццё інтэрнацыяналізма яшчэ больш узмацняла ў Самуйлёнка гарачую любоў да сваёй радзімы. Патрыятызм пісьменніка быў пазбаўлены правінцыяльнай вузкасці, нацыянальнай абмежаванасці. Яскравым праяўленнем яго з'явіўся раман «Будучыня», які стаў цудоўным помнікам братняй дружбы беларускага і грузінскага народаў.

Самуйлёнак меў намер напісаць другую кнігу рамана, каб паказаць грандыёзны працэс асушкі Калхідскай нізіны іператварэння Мінгрэліі ў суцэльны квітнеючы сад. Жыццё дапісала за пісьменніка гэтую кнігу. Усё гэта сапраўды ажыццявілася ў Грузіі ў наш час, на нашых вачах...

Творы Эдуарда Самуйлёнка напоўнены вялікай любоўю да сваёй Радзімы, да працоўнага чалавека і гарачай нянавісцю да ворагаў, да ўсіх тых, хто шкодзіць нашаму руху наперад. Яны вучаць маладых чытачоў любіць сваю радзіму і ненавідзець яе ворагаў. Гэтым і дарагая нам творчасць пісьменніка, гэтым і блізкія нам яго творы.

**І. ПАЎЛЮКОЎСКІ.**

# П'ЕСА ЭДУАРДА САМУЙЛЁНКА «СЕРЖАНТ ДРОБ»

Да часу напісання сваёй першай п'есы Эдуард Самуйлёнак ужо быў сталым пісьменнікам са сваёй тэмай, з арыгінальным мастацкім поглядам на жыццё. Ім было напісана шэраг апавяданняў і аповесць. Ужо ў гэтых творах можна было бачыць рысы будучых драматычных твораў пісьменніка: напружаны, цікавы сюжэт, яркія вобразы, драматычнасць развіцця дзеяння.



Сцэна са спектакля «Сержант Дроб».

У 1933 годзе Э. Самуйлёнак напісаў аповесць «Тэорыя Каленбрун». Яна расказвала аб салідарнасці працоўных, аб барацьбе камуністаў супраць прыгнятальнікаў. Праз усю аповесць праходзіла ідэя асуджанасці на пагібель усялякіх, нават самых вынаходлівых планаў фашыстаў, ідэя непазбежнай пагібелі капіталістычнага свету.

У тым жа годзе зімою на гастролі ў Полацк, дзе тады жыў і працаваў Эдуард Самуйлёнак, прыехаў Трэці беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-3). Тут і адбылася першая сустрэча Самуйлёнка з тэатрам.

Навізна тэмы аповесці «Тэорыя Каленбрун», стройны і цікавы сюжэт, напружанасць разгортвання дзеяння прыцягнулі ўвагу тэатра, і Самуйлёнку прапанавалі напісаць паводле сваёй аповесці п'есу. Яму спадабалася гэтая прапанова, але, патрабавальны і сціплы мастак, ён ніяк не мог адважыцца ўзяцца за п'есу, спасылаючыся на няведанне сцэнічных законаў.

Прайшло амаль два гады. У жніўні 1935 года Э. Самуйлёнак прынёс калектыву Трэцяга драматычнага тэатра п'есу «Сержант Дроб». Першы яе варыянт мала чым адрозніваўся ад аповесці: у п'есу была дакладна перанесена большасць эпізодаў аповесці. Гэта рабіла яе мала сцэнічнай. Дастаткова сказаць, што ў ёй было каля шасцідзесяці эпізодаў, і, пастаўленая на сцэне, яна павінна была ісці каля сямі гадзін.

Пачалася ўпартая работа над п'есай. У працэсе гэтай работы былі адкінуты пабочныя эпізоды, падкрэслена асноўная лінія п'есы. Некаторыя эпізоды аповесці былі зведзены ў адну сцэну. Напрыклад, арышт Крамарчыка і падзеі, звязаныя з ім, у аповесці адбываліся ў трох розных месцах. У п'есе Самуйлёнак аб'яднаў іх у адну сцэну на кватэры Крамарчыка.

У працэсе работы з тэатрам над п'есай Самуйлёнак добра зразумеў асноўныя патрабаванні драматургіі — сціслаcць дзеяння, выразнасць вобразаў, дакладная акрэсленасць сюжэта. Праз некалькі год ён так пісаў аб гэтым: «Аказваецца, не так проста напісаць п'есу. У рамане ці аповесці я сам сабе гаспадар. Дзе хачу, там і скончу раздзел і вазьмуся за другі. І дваццаць ці трыццаць лішніх старонак рамана не адаб'юцца на яго якасці. А ў п'есе не тое, учапіўся за нітачку, — цягні да канца, не маеш права абарваць, ды яшчэ думай, каб не было многа, бо рэжысёр стаіць над душой з вялікімі нажніцамі, ужо гатовы крамсаць яе».

Пасля дапрацоўкі п'еса «Сержант Дроб» была прынята тэатрам у якасці юбілейнай пастаноўкі да свайго 15-годдзя.

У п'есе расказвалася аб тым, як азвярэлы фашыст маёр Каленбрун прыдумаў адмысловы план правакацыі, у выніку якой кіруючыя работнікі камуністычнай партыі павінны былі трапіць у рукі контрразведкі, а ў Савецкі Саюз засылаўся добра закансніраваны шпіён. Але камуністы даведаліся аб гэтым плане. Сержант Дроб, просты і мужны чалавек, раскрыў намеры Каленбруна. Ведаючы, што Адам Турчын з'яўляецца правакатарам, што пад гэтым прозвішчам хаваецца афіцэр разведкі Рыдэль, камуністы змаглі перашкодзіць ажыццяўленню плана контрразведкі.

У п'есе і спектаклі на поўны голас гучала тэма камуністычнага падполля, тэма мужнай барацьбы з прадстаўнікамі варожага свету.



Спектакль быў пастаўлены мастацкім кіраўніком БДТ-3 рэжысёрам К. Саннікавым. Цікавае, вобразнае рашэнне знайшоў для пастаноўкі мастак А. Марыкс.

У канцы 1935 года спектакль быў паказаны гледачам. Ён атрымаўся надзвычай цікавым. Гэта быў сапраўдны поспех маладога драматурга і тэатра. «Юбілейная пастаноўка п'есы «Сержант Дроб» захапляе. Зал у няспынным напружанні чакае развязкі. Хочацца, каб хутчэй узнялася заслона, каб хутчэй убачыць наступную карціну: «Мы старыя рабочыя фабрыкі «Праца» прагледзелі пастаноўку п'есы «Сержант Дроб» з вялікім задавальненнем», — так пісалі гледачы аб спектаклі.

Спектакль ішоў звыш месяца кожны дзень і быў паказаны каля 40 разоў падрад.

Поспех спектакля тлумачыўся яго рэалістычным вырашэннем, партыйнай страснасцю, вялікай мастацкай сілай.

Адным з галоўных вобразаў п'есы з'яўляецца вобраз камуніста Крамарчыка. У выкананні артыста У. Дзядзюшкі гэта быў мужны, вялявы чалавек, з моцнай, мэтанакіраванай натурай. У. Дзядзюшка паказваў Крамарчыка чалавекам стрыманым, які добра валодае сваімі пачуццямі, дзеля справы рэвалюцыі гатовы пайсці на смерць.

З асаблівым хваляваннем праводзіў акцёр сцэну з жонкай перад арыштам. У ёй Дзядзюшка імкнуўся раскрыць характар Крамарчыка з розных бакоў, перадаць яго любоў да жонкі і сына, яго ўпэўненасць у сваіх сілах, у сваёй справе. Уся сцэна была прасякнута вялікай унутранай цеплынёй.

Артыст А. Гарэлаў у ролі Каленбруна намаляваў востры, які мяжуе з гратэскам, вобраз азвярэлага фашыста, што з маніякальнай упартасцю дабіваецца выканання сваёй вар'яцкай «тэорыі». У выкананні А. Гарэлава глядач добра бачыў злосць Каленбруна супраць працоўных і яго вялікі страх перад пагібеллю, якую прадчуваў гэты садыст.

Ролю сержанта Дроба іграў акцёр К. Быліч. Гэта быў складаны вобраз. З аднаго боку, Дроб ахоплены жаданнем пазбавіцца тых цяжкасцей, якія ён зведаў у жыцці. Ён марыць аб дыпломе інжынера, а гэта магчыма толькі тады, калі ён выйдзе з вайсковай службы афіцэрам. Толькі гэтая мара прымусіла яго пайсці ў армію.

З другога боку, Дроб — сын слесара, якога забілі ў час забастоўкі, ён звязаны з рабочымі сваім нараджэннем, сваім светапоглядам і не можа пайсці супраць тых, з асяроддзя якіх ён выйшаў.

Артыст К. Быліч вельмі добра і выразна перадаваў унутраную барацьбу чалавека, які вырашыў перайсці на бок камуністаў і разам з імі змагацца супраць Каленбруна.

Сержант Дроб загінуў, бязлітасна забіты Каленбрунам, але загінуў непераможаны, з пачуццём выкананага абавязку перад сваім народам.

Спектакль «Сержант Дроб», як і п'еса, быў увесь прасякнуты мужнай і моцнай рэвалюцыйнай рамантыкай, быў глыбока лірычны. Газета «Советское искусство» ацаніла пастаноўку «Сержанта Дроба» як хвалюючы спектакль вялікага ідэйнага гучання.

Пасля напісання «Сержанта Дроба» Самуйлёнак не выступаў як драматург чатыры гады. За гэты час ён напісаў раман «Будучыня» і шэраг апавяданняў. Яго талент пасталеў і канчаткова акрэсліўся, і ў наступнай п'есе — «Пагібель воўка» — ён ужо выступае як сапраўдны майстар.

**А. АНДРЭЕЎ.**

Дзмітры УКСУСАЎ

# ЗА ВОЛЮ

## Нарыс

Пра сям'ю Шутовічаў з калгаса «Радзіма» я даведаўся яшчэ ў Смаргоні, у райкоме партыі. Характарыстыку Франца Міхайлавіча — рэвалюцыянера-падпольшчыка часоў белапольскай акупацыі — мне дапоўнілі ў калгасе, дзе ён цяпер старшынёю. І тут жа параілі:

— Вы абавязкова пагутарыце і з жонкай Шутовіча... Яна ж разам з ім у камсамольскім падполлі працавала, і ў турме сядзела...

— А цяпер што робіць? — пацікавіўся я.

— Яна ў нас — арганізатар мастацкай самадзейнасці. Душа моладзі!..

... Міма праехаў грузавік з прычэпам, нагружаным доўгімі бярвеннямі. Сакратар партарганізацыі Міхаіл Пятровіч Арэхаў, з якім я гутарыў, кіўнуў у бок прайшоўшай машыны:

— Старшыня прыехаў.

Грузавік спыніўся на ўзгорку, каля жывёлагадоўчага двара.

Мы пазнаёміліся. Франц Міхайлавіч Шутовіч — невысокі чалавек сярэдніх год; на хударлявым загарэлым твары з высокім ілбом — жывыя светлыя вочы.

Я расказаў, чаго прыехаў. Франц Міхайлавіч прапанаваў:

— Спачатку зойдзем на хутары. Заўтра два дамы будуць неравозіць. Вось і хочацца паглядзець, як там...

Разгрузілі машыну. Шутовіч сеў за руль.

— Вы шафёр?

— Аматар, — ён усміхнуўся. — Толькі правоў не даюць...

— Дзіўна...

— Зрок слабаваты.

— Хвароба?

— Турма... — растлумачыў ён, як нешта само сабой зразумелае.

Машына неўзабаве спынілася ля адзінокага доміка. Вакол яго агарожа раскідана, падмурак трымаўся толькі на вуглавых каменнях. З дому выйшлі гаспадары — мужчына і жанчына. Шутовіч пайшоў ім насустрач.

— Усё падрыхтавалі?

— Можна везці, — сказаў гаспадар.

— Значыць, апошнюю ноч начуеце на хутары? — Шутовіч усміхнуўся. — Трактары прыдуць зранку.



— Хутчэй бы ўжо... — гаспадыня ўздыхнула.

Шутовіч абышоў дом, прыгаворваючы: «Добра, добра», і вярнуўся да машыны.

— Ведаеце, — нечакана загаварыў ён, садзячыся за руль, — яшчэ нядаўна калгасніка цяжка было зрушыць з наседжанага месца. Цяпер жа чаргу ўстанавілі, каб толькі хутчэй у сяло, да людзей! Гэта — цудоўна...

Мне карцела пагутарыць з Шутовічам пра яго мінулае, але ўсё неяк не выпадала з-за яго бясконцых клопатаў.

Калі ён трохі вызваліўся ад гэтых клопатаў, ужо змяркалася. У густым вербалозе ціха булькала абмялелая рэчка Татарка. Захад палымнеў. Вершаліны старых таполяў, якія ўзвышаліся паабапал вуліцы, гарэлі, нібы падпаленыя.

На двары новага дома нас сустрэла жонка старшыні Ганна Віктараўна: невысокая дабрадушная жанчына з жывымі карымі вачамі.

Я прыгадаў: «Арганізатар мастацкай самадзейнасці. Душа моладзі!..»

* * *

Маці памёрла, калі самаму малодшаму ў сям'і — Франуку — было два гады. У часе грамадзянскай вайны бацька з трыма малымі сынамі падаўся ў бежанства са сваёй Смаргоншчыны, але далей Браслава праехаць не ўдалося. Як толькі сціхлі баі, ён вярнуўся з сынамі ў родную вёску. Але вяртанне гэтае было сумным: вёску разбурыла, спаліла вайна.

Што было рабіць? Бацька адправіў Франука ў віленскі дзіцячы прытулак. Чатыры гады Франук пражыў у гэтым прытулку, вучыўся ў пачатковай школе і, нарэшце, вярнуўся да бацькі. За гэты час у сям'і амаль нічога не змянілася. Тая ж галеча. Каня не было. Хлеба хапала толькі на палову зімы. А маленькі Франук марыў аб далейшай вучобе.

Дапамог бацькаў брат.



Франц Шутовіч у гады камсамольскага падполля.

У 1930 годзе Франук — зноў у Вільні. Ён паступае на першы курс Беларускай настаўніцкай семінарыі імя Ф. Багушэвіча.

Аднойчы вясной адзін з таварышаў прынёс у інтэрнат савецкую кніжку. Гэта была тоненькая брашурка, яе чыталі ўголас, потым па адным. Франук прагна перачытваў радок за радком, абдумваў прачытанае. Ад пакамечаных і пацёртых старонак веяла нечым казачна новым, хвалюючым... За першай такой кніжкай пайшла другая, трэцяя...

На канікулах Франук прыязджаў дадому і расказваў сваім сябрам-аднагодкам пра цудоўную краіну — Савецкі Саюз, развучваў з імі новыя песні.

У гэты час ён блізка пазнаёміўся з дапытлівай, разумнай дзяўчынай Ганнай Шульжыцкай, якая падзяляла думкі свайго сябра.

Увосень — зноў семінарыя, зноў чытанне забароненай літаратуры. Усё часцей думаў Франук пра камсамол, пра падпольную аргані-

зацыю. Такая арганізацыя ў семінарыі існавала, але яна была засакрэчана.

Камсамольцы, у сваю чаргу, бачылі, што Франц Шутовіч — сур'ёзны, палітычна свядомы студэнт, атэіст. Яму прапанавалі ўступіць у камсамол і, калі ён згадзіўся, запрасілі яго на патаемны сход і прынялі ў свае рады. Ён вельмі здзівіўся, даведаўшыся, што кіраўніком камсамольскага падполля з'яўляецца аднакурсніца Ліда Альхімовіч — ціхая, кволенькая дзяўчына.

У гэтую ноч Франц Шутовіч доўга не мог заснуць. «З гэтага часу тваё жыццё належыць камсамолу, барацьбе за вызваленне народа, і ніякія цяжкасці не павінны цябе палохаць», — так гаварылі таварышы. І хлопец пакляўся:

— Я буду верны!

Потым — тайныя камсамольскія сходы, палітычныя лекцыі, падпольная літаратура, адказныя і небяспечныя даручэнні...

Аднойчы, праходзячы каля «Вострай Брамы», Франц забыў зняць шапку перад «маткай боскай вострабрамскай». Адразу ж да яго падышоў шпік у цывільным адзенні, паказаў свой значок і павёў у дэфензіву.

Паўдня прабыў Шутовіч у памяшканні польскага гестапа. У яго пыталі: ці верыць у бога, ці з'яўляецца камсамольцам, ці ведае каго з камсамольцаў, хто ў семінарыі распаўсюджвае савецкую літаратуру і г. д. Але ні на адно з пытанняў ён не адказаў. Яго білі. Потым зноў дапытвалі, і зноў білі. Але так нічога і не даведаліся.

Вярнуўшыся ў інтэрнат, Франц расказаў таварышам пра ўсё, што з ім здарылася. На другі ж дзень быў скліканы сход падпольшчыкаў. Сурова, але справядліва крытыкавалі камсамольцы Шутовіча. Нельга рызыкаваць, такая «забыўчывасць» магла дорага абысціся ўсёй арганізацыі! А калі б у гэты час у кішэні была недазволеная кніжка?!

Камсамольская арганізацыя семінарыі хутка расла. Амаль усе навучэнцы другога класа і вялікая група першакурснікаў ужо былі звязаны з падполлем. Савецкую і іншую недазволеную літаратуру чыталі амаль адкрыта. Дырэктар семінарыі, заўзяты фашыст Астроўскі, знайшоў нелегальную кніжку нават у сваім кабінеце. Пасля гэтага ён сабраў усіх семінарыстаў, крычаў, лаяўся, застрашваў.

А неўзабаве стала вядома, што ліквідуюцца ўсе школы на мовах няпольскай нацыянальнасці. Значыць, і беларускай настаўніцкай семінарыі, і беларускай гімназіі не будзе...

Па ўказанню ЦК камсамола ў адзін з нядзельных дзён навучэнцы сабраліся на мітынг пратэсту супраць ліквідацыі школ нацыянальных меншасцей.

Мітынг адбыўся ў Бяльмонцкім лесе, непадалёку ад Вільні. Сюды сабраліся сотні юнакоў і дзяўчат: беларусы, украінцы, літоўцы, рускія, яўрэі...

Прамоўцаў перапынялі апладысментамі, воклічамі «ўра» ў гонар Камуністычнай партыі і Савецкага Саюза.

Слова папрасіў Франц Шутовіч. Ён вельмі хваляваўся. Гэта было яго першае выступленне перад такім вялікім сходам. Але хваляванне не пагасіла ў ім жадання гаварыць.

— Урад Пілсудскага спалохаўся рэвалюцыйнага маладзёжнага падполля, — пачаў ён, — і гатовы на ўсякую агіднасць і беззаконне. Нам забараняюць вучыцца на роднай мове! Мы заяўляем свой пратэст. Мы — моладзь розных нацыянальнасцей, але мы адзіныя ў сваім патрабаванні: прэч фашызм! Прэч Пілсудскага! Няхай жыве дружба, свабода і адзінства нацый! Няхай жыве Савецкі Саюз!

На другі дзень Франца Шутовіча і Лідзію Альхімовіч выключылі з семінарыі. Гэтая падзея ўсхвалявала ўсіх навучэнцаў.

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Да Шутовіча з'явіліся двое паліцэйскіх і надзелі наручнікі...



Зноў віленская дэфензіва. Зноў допыты, здзекі, катаванні. Рвалі валасы. Білі гумай. Лілі ў нос ваду. Не давалі спаць. Адно пытанне следавала за другім: хто падказаў выступаць на мітынгу? Хто ў семінарыі вёў палітычную агітацыю? Каго з камсамольцаў ведае ён? Але каты не вырвалі ў Шутовіча ні адзінага слова. Яго адправілі ў «Лукішкі». Камера-адзіночка. Штодзённыя допыты. Следчы ўпарты і надакучлівы. Але Франц прыкінуўся наіўным хлапчуком. Ён адно паўтараў: «Не ведаю», «Не бачыў», «Не разумею»...

З допытаў стала вядома, што арыштаваны і знаходзяцца ў турме Ліда Альхімовіч і яшчэ трое семінарыстаў. Франц пачаў патрабаваць, каб яго перавялі да палітзняволеных. Яго патрабаванне адхіляюць. Тады ён аб'яўляе галадоўку. Следчы шалее ад злосці.

І вось Франц Шутовіч у другой камеры. Тут іх трое. Новыя знаёмыя аказаліся вопытнымі рэвалюцыянерамі. Яны наладзілі сувязь з іншымі зняволенымі, з турэмным камітэтам. У камеры паяўляюцца лісточкі кніжак, напісаных на папяроснай паперы. З раніцы да ночы — чытанне, гутаркі...

Праз паўтара месяца Шутовіча вызвалілі пад залог. Бацька даў распіску, што да суда хлопец будзе пад яго наглядам.

Нядоўга давялося пабыць дома. Хутка прыйшла позва ў суд.

На лаве падсудных ён сядзеў побач з Лідай Альхімовіч і астатнімі таварышамі. Чацвярых з іх прысудзілі да турэмнага зняволення, а Франца вызвалілі: ён быў яшчэ няпоўналетні.

Прыгавор зачытаны. Шутовіч моцна паціснуў рукі таварышам.

— Да новых сустрэч!

Да новых сустрэч... У турме альбо на свабодзе? Гэтага ніхто не ведаў. Апошняй развітвалася Ліда. Яна падала Францу сваю схуднелую руку, і ён пачуў шэпт:

— Едзь дадому, Франук. Вось пароль на сувязь. Паўтары. Так, правільна... Жадаю ўдачы...

Вярнуўшыся дадому, Франц з нецярплівасцю адлічваў дні: серада, чацвер, пятніца... Нарэшце, і нядзеля.

Была ранняя вясна. На дарозе шкліліся халодныя лужыны. У канавах яшчэ ляжаў пачарнелы, наздраваты снег.

Франц спяшаўся да бальшака на Смаргонь. Ужо зусім сцямнела. Раптам ля мосціка праз ручай узнікла жаночая постаць: Франц прыбавіў кроку і стрэўся з дзяўчынай у кароткім кажушку, у цёплай вязанай хустцы. Параўняўшыся, ён спытаў:

— Вы з Сівіцы?

— Так.

— Там прадаецца карова?

— Прадаецца... Цябе цікавяць каровы?

— Так, толькі добрыя...

Дзяўчына працягнула руку.

Ён абедзвюма рукамі схапіў яе халаднаватую далонь.

— Добры вечар... Я — Франц Шутовіч з вёскі Шутовічы. А як завуць цябе?

— Я — Шчасная Шура... — Нечакана яна спынілася, паглядзела на Франца прыязна, пасяброўску. — Дык вось ты які...

— Ты мяне ведаеш?

— Чула...

Франц вярнуўся ў вёску ўсхваляваны. На вуліцы гуляла моладзь. Равеснікі-аднавяскоўцы ведалі, што Франц быў пад следствам, сядзеў у турме. Яго адразу акружылі, пачалі частаваць тытунём і наперабой пыталі аб здароўі, аб тым, як думае жыць далей... Франц жартаваў: кожны, маўляў, жыве як хоча...

Непрыкметна ён застаўся з Ганнай. Яны паціху пайшлі па бязлюднай вуліцы.

— Сапраўды, Франук... — раптам загаварыла яна задумліва. — Як жыць далей?

— Змагацца.

Ганне ён давяраў больш, чым каму іншаму з аднавяскоўцаў. Франц параіў ёй уступіць у камсамол. Яна запытала толькі, ці змогла рабіць усё, што трэба. Зможа! Канешне, давядзецца многа і вучыцца...

Другая сустрэча з Шурай Шчаснай была асаблівай. Франц трапіў на пасяджэнне падпольнага райкома камсамола. Яго ўвялі ў склад райкома. Сакратар райкома сказаў яму:

— Забудзь, што ты Франц Шутовіч... З сённяшняга дня ты — Міша... Калі хто з падпольшчыкаў назаве цябе сапраўдным імем — не прызнавайся...

Неўзабаве ў Шутовічах была створана камсамольская ячэйка. У ліку першых пяці камсамольцаў была і Ганна Шульжыцкая. Сакратаром аднагалосна выбралі Франца.

... У той час у Смаргонскі раён часта прыязджала інструктар ЦК ЛКСМ Заходняй Беларусі таварыш Таня, прафесіянальная рэвалюцыянерка. Яе сапраўднага імя ніхто ў раёне не ведаў, але яе вельмі любілі і паважалі. Гэтая невысокая, зусім маладзенькая чарнавокая дзяўчына была чалавекам вельмі адукаваным і ўмела гаварыць з моладдзю. Яна расказвала вельмі шмат цікавага аб міжнародным становішчы, аб палітычнай абстаноўцы ў Польшчы, аб Савецкім Саюзе.

Кожная сустрэча з «Таняй» узбагачала Франца, надавала ўпэўненасці і сіл.

Па даручэнню райкома Франц усё часцей наведваўся ў суседнія вёскі, збіраў моладзь, развучваў савецкія песні, заводзіў гутаркі пра камсамол... Неўзабаве ў Шапудзьках, Перабновічах, Кеўлях, Рокуцях з дапамогай Шутовіча былі арганізаваны падпольныя камсамольскія арганізацыі.

Прыкметна ажывілася палітычная работа. З хаты ў хату перадаваліся савецкія кніжкі. Усё часцей гучалі рэвалюцыйныя і савецкія песні.

Вечарам на кастрычніцкае свята ў 1933 годзе ў шмат якіх вёсках Смаргоншчыны з'явіліся лістоўкі. На людных месцах у сёлах і ўздоўж дарог былі вывешаны чырвоныя сцягі. Гарадскія падпольшчыкі-камсамольцы вывесілі сцяг ля будынка паліцыі.

* * *

Пасля турмы Франц вярнуўся ў родную вёску ўсё тым жа баявым, хударлявым хлопцам. Здавалася, нічога ў ім не змянілася. Але ж Ганна пасля першай жа гутаркі з ім сказала сама сабе: той Франц і... не той. Было ў ім нешта новае, нейкая дзіўная ў яго ўзросце стрыманасць у словах і ўчынках.

Тое ж, пра што гаварыў Франц, было цікавым і захапляла ўсё больш і больш. Яна здагадвалася, што Франц не спыніў той работы, за якую сядзеў у турме, але не адважвалася пытацца пра гэта. Ды і навошта?

Сама Ганна была цяпер ужо не Ганнай, а «Лёляй» і збірала сродкі для МОПРа, нават днём спрытна і непрыкметна распаўсюджвала лістоўкі, расказвала сялянам пра шчаслівае жыццё ў Савецкай Беларусі.

Аднойчы Ганна і Франц стрэліся ўвечары на вуліцы.

— Што ж са мной будзе, га? — усхвалявана запытала Ганна.

— А што?

— Гутарыў са мной інструктар з Варшавы. Прапанаваў працаваць кур'ерам ЦК, ездзіць па раёнах...

— А ты?

— Згадзілася...

— Правільна. Я так і думаў... — Франц усміхнуўся.

— Значыць... — Ганна пацягнула яго за рукаў, — ты ведаў?

— Вядома. Цябе ж рэкамендавала ячэйка...

— Што я буду рабіць: я ж не ведаю ні людзей, ні горада? Так далёка...

Франц маўчаў, усміхаючыся. Ён ведаў Ганну вельмі добра. Не, «Лёля» не разгубіцца. Проста яна ўсхвалявана тым, што такую адказную і небяспечную работу кур'ера ЦК даручылі іменна ёй, простай сялянскай дзяўчыне.

Інструктар ЦК папярэдзіў Ганну, што ў раёны, сумежныя са Смаргонню, па законах канспірацыі, яна ездзіць не будзе — тут яе могуць пазнаць. Яна сказала



пра гэта Францу. Той спахмурнеў. Значыць, ростань на доўгі час.

Яны гутарылі вельмі доўга. Сіні досвітак напомніў ім аб пачатку новага дня.

Ганна сказала бацькам, што паедзе на заработкі ў Вільню. Стары Шульжыцкі ўздыхнуў. Сям'я вялікая, едакоў многа, а рабіць некаму. Вечная галеча, даўгі і нястача. Хіба гэта жыццё? Едзь, Ганка! У вялікім горадзе, можа, і знойдзецца якая работа.

Інструктар ЦК уручыў Ганне чыгуначны білет да Варшавы і зноў гутарыў з ёю.

У вагоне Ганна бесперастанку паўтарала ў памяці нязвыклыя словы паролю, баючыся забыць іх.

Вось і Варшава. Ганна выйшла на прывакзальную плошчу і міжволі спынілася. У вячэрнім змроку ярка гарэлі агні шматлікіх рэклам. Гарластыя рамізнікі бадзёра заклікалі пасажыраў. І ўсюды — бясконцы людскі паток...

Апамятаўшыся, Ганна заспяшалася. Прайшла ўскрайкам плошчы. Першы, другі завулак... На рагу стаяў адзінокі рамізнік. У шэрых яблыках конь, цёмна-чырвоная дуга са званочкам.

Ганна села ў экіпаж.

— Падвезяце?

— Гледзячы па грашах, — адказаў рамізнік, крыху павярнуўшыся.

— У мяне неразмененыя...

— Значыць, разлічымся...

Нямнога ад'ехалі, і Ганна назвала вуліцу і нумар дома.

Дом той быў пяціпавярховы. Яна паднялася на апошні паверх і, пераканаўшыся, што за ёю не сочаць, спусцілася на трэці. Ля высокіх дзвярэй тройчы націснула на белую кнопку. Адчыніла пажылая жанчына.

— Мне патрэбен Вацлаў, — сказала Ганна.

— Яго няма, — адказала жанчына, кінуўшы на дзяўчыну беглы, пранікілівы позірк. — Але ён хутка прыдзе. Зайдзіце.

Жанчына правяла Ганну ў пакой, асветлены настольнай лямпай, і шчыльна прычыніла за ёю



Ганна Шутовіч у час падпольнай работы ў Варшаве.

дзверы. Не паспела Ганна агледзецца, як увайшоў стройны, чарнавалосы хлопец.

— Я — Вацлаў. Вы — да мяне?

— Цётка прасіла перадаць, што яе здароўе палепшылася.

— Яна ў бальніцы ці дома?

— Урач ходзіць да яе на кватэру.

Ён працягнуў руку, усміхнуўся.

— Будзем знаёмы: «Вацлаў»...

— «Лёля»...

«Вацлаў» дастаў з кішэні маленькі, як карабок запалак, канверцік і працягнуў яго Ганне.

— Паедзеш у Навагрудак, — сказаў ён. — Запомні пароль і месца яўкі. Поезд адыходзіць раніцай у сем дваццаць. Направа, у першым завулку, цябе будзе чакаць знаёмы рамізнік. Начаваць будзеш тут. З кватэры не выходзь... Падумай, як лепш прыхаваць пісьмо.

Ганна ўстала а сёмай гадзіне. Увайшла ўчарашняя жанчына і працягнула канверт.

— Прасілі перадаць вам...

У канверце быў чыгуначны білет і грошы. Яна выпіла кубак кавы, прапанаваны гаспадыняй, і заспяшалася.

Рамізнік давёз яе да бакавой, побач з вакзалам, металічнай брамкі, якая выводзіць проста на перон.

Ганна разумела, што сярод іншых пасажыраў нічым асаблівым яна не вызначаецца. І ўсё ж ёй здавалася, што дзесяткі людзей падазрона пазіраюць на яе.

У Навагрудку яна пайшла ў бліжэйшую вёску. У маладым бярэзніку, за якім чарнеліся саламяныя стрэхі, ля самай дарогі рослы хлопец пасвіў статак авечак. Ганна спынілася, глянула на пастуха.

— Панскія?

— А хіба ў мужыка можа быць столькі авечак?

Яна падышла бліжэй.

— Колькі ж табе плацяць?

— Столькі, каб з голаду не памёр...

— Добры пан!

Хлопец пажвавеў. Ганна таксама ўсміхнулася.

Яна адвярнулася, дастала схаваны канверцік і працягнула хлопцу. Той разарваў яго і выцягнуў некалькі дробна спісаных лісткоў.

— Прачытаю потым. Пойдзем, адпачнеш...

— Не магу. Я павінна ехаць...

Ён правёў Ганну да горада, ідучы назіркам за ёю, аж пакуль яна села ў вагон.

У наступны раз трэба было адвезці ў Пінск даволі вялікі пакунак — нелегальную літаратуру. Давялося закруціць яго ў вату, пакласці ў кошык і зверху насыпаць яблык. У вагоне кошык стаяў на верхняй паліцы, і ўсю дарогу Ганна ні разу не дакранулася да яго, але і не спускала з яго вачэй.

У сакавіку 1936 года Ганна прыехала ў Гродна. Поезд прышоў ноччу. Яна адправілася шукаць патрэбны адрас і раптам заўважыла, што за ёю ідуць двое: адзін у цывільным адзенні, другі — паліцэйскі (серабрыстыя гузікі, такія ж пагоны, у шапцы брыль акаймаваны светлым металічным паскам).

Бегчы? Гэта азначала б адразу выдаць сябе. Непрыкметна шмыгнуць у які-небудзь двор? Але яна ўпершыню была ў гэтым горадзе і ні двароў, ні вуліц не ведала. Што рабіць?

Вырашыла зблытаць сляды, але і гэта не ўдалося. Яе дагналі, абшукалі кішэні і павялі ў паліцыю.

Магчыма, яе прынялі за каго-небудзь іншага? Правераць дакументы, упэўняцца, што памыліліся, і адпусцяць? Гэтая думка была хоць і няпэўнай, але адзінай надзеяй на ратаванне.

Аднак пасля першых жа пытанняў ёй стала зразумела, што лавілі яе, кур'ера ЦК Ганну Шульжыцкую, па клічцы «Лёля». Яна адпіралася. Тады яе правялі ў суседні пакой і загадалі распранацца. Агледзелі кожную складку, кожнае шво на яе адзенні і знайшлі некалькі каштоўных лісткоў папяроснай паперы...

— Дзе змяшчаецца ЦК? — насядаў следчы.

— Я не ведаю, — яна і сапраўды не ведала.

— Адрас явачнай кватэры?

— Не ведаю...

— Хлусіш, падлюга! А хто ж табе перадаў гэтыя паперкі?

— Незнаёмы чалавек... на вакзале...

— Каго ведаеш у Варшаве?

— Нікога.

— А ў Гродна?

— Нікога.

— Да каго цяпер ішла?

— Мяне павінны былі сустрэць ля поезда...

Потым на працягу некалькіх дзён і начэй Ганну білі гумавымі палкамі па пятах, катавалі.

Потым асудзілі на тры гады і адправілі ў Гродзенскую турму.

У турме яна была сярод палітзняволеных. Там многа чытала, дзялілася думкамі з новымі сябрамі... Часта з трывогай думала пра Франука: дзе ён, што з ім?..

У сакавіку 1939 года яе выпусцілі. Паехала дадому, лічачы гадзіны і мінуты. Там, у Шутовічах, Франук!..

Але сустрэча не адбылася: яе сябар сядзеў у турме. Ганна зноў зблізілася з ячэйкай, расказвала камсамольцам аб кнігах, прачытаных у турме. Але гэта працягвалася ўсяго адзін месяц. Аднойчы са Смаргоні прыехаў паліцэйскі і ўручыў Ганне распараджэнне аб выездзе (высылцы) у цэнтральную Польшчу.

Апынуўшыся ў Варшаве, яна пайшла на явачную кватэру. Магчыма, яшчэ не забылі «Лёлю»? Дзверы адчыніў пажылы чалавек, лысы, у акулярах.

— Мне патрэбен Вацлаў.

— Вы памыліліся, дарагая, — растлумачыў ён. — Тут такі не жыве...

Яна выйшла на вуліцу, агледзелася. Так, дом той жа... Значыць, явачная кватэра переменена.

Нічога не заставалася, як шукаць работу. Але варшаўскія вуліцы былі запоўнены беспрацоўнымі. З вялікімі цяжкасцямі, пасля доўгіх вандраванняў ёй удалося наняцца хатняй работніцай.

Аднойчы раніцай у доме узняўся перапалох. Прыслухаўшыся, Ганна дазналася, што Германія напала на Польшчу.

Многа варшавян кінулася на ўсход. Сярод іх была і Ганна. Спынілася яна пад Беластокам.

Праз некалькі месяцаў Чырвоная Армія пачала свой вызваленчы паход у заходнія раёны Беларусі. Ганна пайшла насустрач савецкім воінам і праз некалькі дзён была ўжо ў роднай вёсцы.

У пачатку 1934 года Франца Шутовіча прынялі ў члены КПЗБ, але пакінулі на камсамольскай рабоце, увялі ў склад Маладзечанскага акруговага камітэта. Работы прыбавілася.

У дзень семнаццатай гадавіны Вялікага Кастрычніка Францу даручылі правесці сход-мітынг сялян у вёсцы Гарбачы, выступіць з прамовай і распаўсюдзіць падпольную літаратуру.



У той дзень у Гарбачах якраз гулялі вяселле. Увечары ля вёскі Франца сустрэў мясцовы камсамолец і прывёў яго на гульні. У часе танцаў камсамольцы патушылі ў хаце святло і запрасілі ўсіх у двор, на мітынг.

На вуліцы сабраўся натоўп.

— Таварышы!

Франц, падняўшыся на ганак, павіншаваў сялян з рэвалюцыйным святам, расказаў, як расце рух за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю, супраць самавольства польскіх акупацыйных улад. Сваю кароткую прамову ён закончыў віншаваннямі ў гонар Вялікага Кастрычніка, у гонар Савецкага Саюза, аб'яднанай, сацыялістычнай Беларусі.

Дзесяткі рук пляскалі маладому, смеламу прамоўцу. Шматгалосае «ўра» грымела над вёскай. І, здавалася, хмурае асенняе неба пасвятлела...

Неяк Франц даведаўся, што ў вёсцы Залессе моладзь наладжвае вечарынку. З двума таварышамі-камсамольцамі ён пайшоў туды пагуляць. Але гэта была толькі прычэпка. Камсамольскі важак выкарыстоўваў кожную магчымасць для сустрэч з моладдзю, для гутарак, арганізацыі падпольнай работы.

Аднойчы ноччу ў Шутовічы з'явілася паліцыя і арыштавала ўсіх трох шутовіцкіх падпольшчыкаў. Сяброў Франца патрымалі да раніцы і выпусцілі, а яго трымалі двое сутак. Білі да страты прытомнасці. Гэтым бандыцкім рамяствам займаўся сам камендант маладзечанскай дэфензівы Далінскі. Ён дапытваўся:

— Чаго хадзіў у Залессе?

— На вечарынку...

— Хлусіш!..

Кат не прад'явіў Шутовічу ніякіх абвінавачванняў. І тады хлопцу стала ясна: калі арыштаваны былі толькі яны, трое шутовіцкіх хлапцоў, калі яго таварышаў выпусцілі, а яго б'юць і катуюць за тое, што ён хадзіў у другую вёску, значыць, за ім нехта шпіёніць.

Нічога не дабіўшыся, Далінскі выпусціў Франца.

Франц стаў больш асцярожным. І ўсё ж вясной 1936 года яго надпільнавалі і схапілі. Трое сутак яго катавалі ў маладзечанскай дэфензіве, патрабуючы назваць саўдзельнікаў, але падпольшчык перанёс катаванні і здзекі, не выдаў таварышаў. Яго адправілі ў Вілейку, у турму.

Вілейскі акруговы суд прыгаварыў Франца Шутовіча да пяці год турэмнага зняволення.

Увосень палітзняволеных, закаваных у кайданы, у тым ліку і Шутовіча, перапраўлі ў Вільню, у знаёмыя «Лукішкі».

Цёмная, сырая камера-адзіночка. Паўгадзіны прагулкі ў суткі: адзін за адным па кругу. Рукі назад. Не азірацца. Не размаўляць.

Вясной 1938 года Шутовіча і некаторых іншых палітзняволеных перавезлі ў Гродзенскую турму. Былі кнігі. Палітзняволеныя вывучалі гісторыю ВКП(б), філасофію, бягучую палітыку, палітэканомію. Менш пісьменныя вывучалі геаграфію, вучыліся чытаць. Пісаць не дазвалялася. Катэгарычна забаранялася трымаць у камеры алоўкі і паперу.

Аднак, нягледзячы ні на якую забарону, з камеры ў камеру перадаваліся тэзісы або канспекты лекцый па бягучай палітыцы, напісаныя на лістках папяроснай паперы, дырэктывы ЦК, інфармацыя аб важнейшых падзеях палітычнага жыцця ў краіне і за рубяжом... Вокны з'яўляліся добрым сродкам сувязі паміж камерамі, паміж групамі вязняў.

Усю гэтую работу арганізоўваў і накіроўваў турэмны камітэт. Членаў яго і сакратара ведалі нямногія. Але Шутовіч ведаў арганізатара палітычнага падполля сярод некалькіх сот палітзняволеных гродзенскай турмы, сакратара турэмнага камітэта. Гэта быў Піліп Сямёнавіч Пестрак, зараз вядомы беларускі пісьменнік, аўтар рамана «Сустрэнемся на барыкадах».

Верасень 1939 года. Аднойчы ўсю турму абляцела хвалюючая вестка: Чырвоная Армія перайшла граніцу і вызваляе адзін горад за другім!

Турма загула. Скрозь закратаваныя вокны на вуліцы горада вырваліся песні. Наглядчыкі збівалі зняволеных, але ад гэтага песні не змаўкалі.

Незвычайная раніца: у калідорах — цішыня. Не чуваць ні галасоў, ні крокаў наглядчыкаў. Што здарылася?

І раптам незразумелы, нарастаючы шум, тупат ног. Збіваюцца замкі на дзвярах камер, чуюцца ўзбуджаныя галасы:

— Таварышы, выходзьце, вы вольныя!

У калідорах і камерах крыкі «ўра», моцныя мужчынскія абдымкі, радасныя воклічы, на тварах слёзы...

Праз паўгадзіны турма апусцела, за яе варотамі стыхійна ўзнік мітынг. Жыхары горада віталі вязняў-рэвалюцыянераў, абдымалі іх, давалі ў рукі кветкі.

У той дзень рэгулярная польская армія пад націскам савецкіх войск пакінула ўжо Гродна. Але воіны-вызваліцелі ў горад яшчэ не ўвайшлі.

У самы разгар мітынгу загрымелі стрэлы і на плошчу выбегла вялікая група паліцэйскіх. Яны акружылі ўсіх, хто быў на мітынгу, і пачалі заганяць у турэмныя вароты зняволеных — іх лёгка было пазнаць па адзенню.

Ад варот, праз увесь двор, да дзвярэй турэмнага будынка выстраіліся паліцэйскія двума шчыльнымі радамі. Па гэтаму жывому калідору і вялі палітзняволеных. Іх білі нагамі, кулакамі, рукаяткамі пісталетаў, палкамі. Некаторыя не вытрымлівалі, падалі на паўдарозе, і тады паліцэйскія ўцягвалі іх у турму.

Хістаючыся, абліваючыся крывёю, Франц дацягнуўся да дзвярэй і... упаў на рукі таварышаў.

З надыходам ночы — гэта была ноч з 22 на 23 верасня — засядаў ваенна-палявы суд. Разглядаліся толькі справы «палітычных». Ніхто не спаў.



А чацвёртай гадзіне раніцы паліцэйскі выцягнуў Шутовіча ў калідор. Там ужо знаходзіліся дзесяткі тры такіх жа, як ён, збітых, апухлых, у парванай адзежы людзей. Іх выстраілі ўздоўж сцяны і зачыталі прысуд:

— Расстраляць! Прыгавор прывесці ў выкананне праз дванаццаць гадзін!

Потым развялі па камерах. Франц не адразу зразумеў, што апынуўся за другімі дзвярыма, і людзей тут менш. Усяго сем чалавек. Дык гэта ж камера смяротнікаў!

Двое плакалі, седзячы на падлозе па кутках. Трэці ў істэрыцы біўся галавою аб сцяну. Астатнія стаялі, моцна ўзяўшыся за рукі, і спявалі «Інтэрнацыянал»...

Смерць... Праз дванаццаць гадзін, не, напэўна праз адзінаццаць гадзін...

Ганна... Дзе яна? Што робіць? Яму хацелася быць разам з ёю... Усё жыццё...

Шкада, што мала пражыў. Зрабіў мала... І вось — ужо ўсё.

За кратамі акна ледзь заняўся золак, ціхі, халаднаваты. Франц заплюшчыў вочы... Такі золак бывае на стыку лета і восені, калі на зямлю кладзецца адчувальная перадсвітальная прахалода, ды ў бацькавым садзе даспяваюць абсыпаныя буйнай расой духмяныя антонаўкі...

Недалёка разарваўся снарад, прагучала кулямётная чарга. За сцяной закрычалі:

— Бой каля турмы!

— Няхай жыве Чырвоная Армія!

Франц ударыў нагой у дзверы.

— Слава Чырвонай Арміі!

У адной з камер зняволеным удалося выламаць дзверы, а праз некалькі хвілін расчыніліся многія іншыя... Людзі кінуліся на двор.

У роднай вёсцы быў арганізаваны сельскі Савет. З задавальненнем даведаліся сяляне, што кіраваць гэтым Саветам будзе іх аднавясковец Франц Шутовіч.

Усю сваю энергію Шутовіч аддаваў справе перабудовы жыцця на сацыялістычны лад. Улетку 1940 года ў Шутовічах арганізаваўся калгас — першы ў раёне. І Франца — дваццаціпяцігадовага пасівелага чалавека — выбралі старшынёю.

Нядоўга, аднак, папрацаваў ён у роднай вёсцы. Яго накіравалі на работу ў аблвыканком, і ў Вілейку ён паехаў разам з Ганнай, якая была ўжо яго жонкай.

Тут і застала Шутовічаў Вялікая Айчынная вайна. Спачатку Франц працаваў у савецкім тыле, потым пайшоў на фронт. Быў цяжка паранены. Выпісаўся са шпіталю пасля Дня перамогі і вярнуўся на радзіму. Зноў стаў на чале сельскага Савета, затым быў адкліканы ў Смаргонскі райвыканком на пасаду намесніка старшыні. У 1948 годзе аднавяскоўцы зноў выбралі яго старшынёй калгаса «Радзіма». Пазней у гэтую сельгасарцель уліліся тры суседнія. Цяпер гэта — буйная, моцная гаспадарка.

... Знаёмячыся з калгасам і яго людзьмі, я міжволі звярнуў увагу, што на кіруючых пасадах, на асабліва адказных работах шмат моладзі. Сапраўды: аграном — камсамолка, намеснік старшыні калгаса — малады хлопец, які нядаўна прыняты ў члены КПСС, два кукурузна-ільнаводчыя звяны ўзначальваюць дзяўчаты. Моладзь працуе на фермах, водзіць трактары і аўтамабілі; у ліку членаў праўлення калгаса — дзве дзяўчыны.

Я сказаў пра гэта Шутовічу. Ён усміхнуўся:

— Гэта, мабыць, таму, што ў мяне самога камсамольская душа.

Неяк прайшоўшай вясной на пасяджэнні праўлення калгаса ўзнікла пытанне аб добраўпарадкаванні цэнтральнай сядзібы.

— Няхай гэтай справай займецца моладзь, — параіў старшыня.

Адзін з членаў праўлення паківаў галавой.

— Дык жа нашы хлопцы і дзяўчаты не ўмеюць, толькі сапсуюць

усё... Ды яшчэ на галоўнай сядзібе... Потым сораму не абярэшся!

— Што скажа Мальвіна? — звярнуўся Шутовіч да сакратара камітэта камсамола.

— Зробім, Франц Міхайлавіч...

Прапанову старшыні калгаса абмеркавалі на пасяджэнні камітэта, потым — на камсамольскім сходзе. Ніхто не пярэчыў. Задумаліся над другім: дзе ўзяць саджанцаў? Лесу калгас не мае. Дамовіліся, што частку кустоў можна выкапаць на сваіх дварах, маладыя дрэўцы — папрасіць у суседзяў.

Праз некаторы час каля 300 кустоў і дрэў было выкапана, перавезена і пасаджана маладымі рукамі...

У калгасе наладжаны выраб цэглы. Ёсць і свае муляры. Калі рашылі будаваць новы клуб, у дапамогу спецыялістам Шутовіч паслаў моладзь. Для гэтае мэты з кожнай брыгады вылучылі па двое хлапцоў.

Хутка калгаснікі будуць праводзіць вольны час у новым клубе.

...Як толькі Савецкая Армія выгнала нямецка-фашысцкіх захопнікаў са Смаргонскага раёна. Ганна Віктараўна Шутовіч разам з чатырохгадовым сынам вярнулася на радзіму. Спачатку працавала ў брыгадзе, потым — бібліятэкарам.

Ніхто не даручаў ёй арганізацыю мастацкай самадзейнасці. Непрыкметна для сябе Ганна Віктараўна стала чалавекам, вакол якога пачала групавацца моладзь, якая любіла паспяваць, пагуляць, павесяліцца. Жанчына, заклапочаная сваёй сям'ёю, яна захавала дзявочую няўрымслівасць і весялосць характару. У той час ні калгас, ні сельскі Савет клуба не мелі. За вокнамі бібліятэкі на маленькім зялёным дворыку Ганна Віктараўна развучвала з моладдзю новыя песні. Так нарадзіўся калгасны хор. А следам за ім — і драматычны гурток.

Ганна Віктараўна прышла да цвёрдага перакanання, што галоўнае ў рабоце з моладдзю — гэта захапіць яе жывым, цікавым, карысным. І тады справа пойдзе на лад.

Франца Міхайлавіча Шутовіча, старшыню калгаса «Радзіма» і члена бюро Смаргонскага райкома партыі, добра ведае моладзь раёна. На камсамольскіх канферэнцыях, злётах, нарадах ён не адзін раз выступаў з успамінамі аб падпольнай рабоце, аб тым, як маладыя патрыёты ва ўмовах жорсткіх рэпрэсій, пад кіраўніцтвам КПЗБ вялі актыўную барацьбу за ўз'яднанне беларускіх зямель у адзінай Беларускай сацыялістычнай дзяржаве.

Жыццё і дзейнасць Франца Міхайлавіча Шутовіча, чалавека з простым, шчырым тварам селяніна і палымяным сэрцам бальшавіка, з'яўляецца ўзорам выдатнага служэння Радзіме.

Лявон КУНЬКО

# СТАЛЯВАРЫ

Змена пачалася, як звычайна. Праз гадзіну сталявары выдалі першую плаўку. Як толькі печ была напоўнена зноў, Аляксандр зірнуў на «шыхтарню» — так называецца шыхтавы двор, дзе рыхтуецца метал для пераплаўкі. Але што гэта? Там стаялі вялізныя кашы, нагружаныя металёвымі чуркамі і брыкетамі са стружкі. Гэтага звычайна не было. Шыхтарня заўсёды затрымлівала плавільшчыкаў, нярэдка даводзілася чакаць, пакуль шыхтоўшчыкі разгорнуцца. А сёння яны пастараліся «загнаць» запас.

— Вось каб кожны дзень так, хлопцы! — сказаў Аляксандр, задаволены працай рабочых шыхтарні.

Настрой быў бадзёры. Аляксандр накіраваўся ў кантору, каб крыху адпачыць, але як толькі параўняўся з печчу, спыніўся. Сталявар Аляксей Зуеў сядзеў каля печы злосны і моўчкі глядзеў сабе пад ногі. Калі Аляксандр запытаўся, што здарылася, той коратка кінуў:

— Уся работа прапала, і ўсё з-за гэтых лайдакоў.

Аляксандр зразумеў: падводзяць фармоўшчыкі.

— Што ў вас? — запытаўся ён у фармоўшчыка на суседнім участку.

— Старая гісторыя, шпянёў няма, — адказаў той.

У пралёце паказаўся майстар. Па яго твары бачна было, што размова з начальнікам шпенявога аддзялення не прынесла нічога суцяшальнага.

— Ты што ж гэта, браце, падводзіш? Куды сталь адліваць? Хіба табе ў кішэні? — накінуўся Аляксандр на свайго сябра Міхася Гапонава, які трапіўся яму пад гарачую руку.

— Нічога, Саша! — супакойваў Азарава фармоўшчык. — Падцягнемся. Шпянёўшчыкі — народ свядомы. Да крытыкі прыслухоўваюцца...

— Ведаю я іх, — крыху супакоіўшыся, адказаў Аляксандр і пайшоў у аддзяленне шпянёўшчыкаў.

Праз якой паўгадзіны шпяні, якія былі ўсяму віною, паявіліся, і да канца змены быў парадак ля печаў. Сталявары выдавалі плаўкі адну за другой. Заліўшчыкі ледзь паспявалі заліваць формы, і па канвееры няспынным патокам ішлі будучыя дэталі для трактараў. Вялікі шлях яны павінны прайсці, перш чым ператварацца ў шасцерні і іншыя часткі трактара...

Падлікі ў канцы змены паказалі, што выплаўлена 75 тон сталі.

— Вось дзе нашы рэзервы! — радасна гаварыў на наступны дзень Аляксандр Азараў начальніку цэха. — Ведаеце, Валянцін Мікалаевіч, падцягнуць бы нам усе ўчасткі, і тады б мы маглі быць упэўнены, што планы нашы стануць явай...

— Ведаю, Саша, што цябе турбуе, — гаварыў начальнік цэха.— Я таксама думаю пра гэта. Цяпер мала толькі адной сілы. Нам трэба шырока наладзіць механізацыю. Сам жа ведаеш, які попыт на ліццё будзе. Выпуск трактараў павялічваем, а пастаўкі ліцця іншым заводам, ды розныя там няпланавыя заказы. Ого, колькі работы!..

**Разліў сталі.**



Урэшце, начальнік цэха прапанаваў:

— Падумай, Саша, што можна зрабіць на тваім участку. Потым абмяркуем і разам пойдзем да дырэктара.

Размова з начальнікам цэха прымусіла Аляксандра паглядзець на сённяшні поспех крытычным вокам. Тыя іхнія 75 тон — не што іншае, як рэкорд. А на рэкордах далёка не паедзеш. Сёння 75, а заўтра 40 ледзь наскрабеш. Было ж такое раней, што пасля рэкорду і ў план не ўкладваліся.

З гэтымі думкамі Аляксандр Азараў сеў за падручнікі, а потым адклаў іх і тут жа на сшытку пачаў маляваць эскіз электрапечы і праводзіць лініі пад вуглом. Потым разважаў сам з сабой:

«Сталінградскія трактарабудаўнікі так і зрабілі. Пераабсталявалі звычайныя электрапечы пад конусныя і дабіліся значнага павелічэння выдачы вадкай сталі. А мы хіба не можам гэтага зрабіць?»

Аляксандр вырашыў заўтра ж пагутарыць з начальнікам цэха, які толькі што вярнуўся са Сталінграда, і расказаць яму пра гэту іх навінку, тым больш што і начальнік цэха, напэўна, цікавіўся ўдасканаленнем сталінградскіх сталявараў.

Аляксандр шчыра ўзрадаваўся, дазнаўшыся, што начальнік цэха Бадроў падтрымаў яго думку наконт пераабсталявання печаў. Выслухаўшы майстра, ён сказаў:

— Правільна думаеш. Я чуў аб гэтым, а цяпер сам бачыў, як гэта робіцца ў сталінградцаў. Тут справа не толькі ў павышэнні прадукцыйнасці печаў, — тэрмін іх службы намнога павялічваецца. А гэта значыць, што на рамонце абсталявання мы зберажом не адну тысячу рублёў, фонд эканоміі папоўнім. — Потым жартаўліва дадаў: — А я думаў, што ты кансерватар, новага баішся. А ты сапраўдны энтузіяст сямігодкі. Заплануем тваю прапанову на першы год і разам будзем змагацца.





**Аляксандр Азараў** (справа) **і сталявар Эдуард Ляўко.**

Акрылены падтрымкай і такім удалым зыходам размовы з начальнікам цэха, Аляксандр пайшоў да Міхася Гапонава — майстра-фармоўшчыка.

— Ведаеш, Міша, я скарб знайшоў, ды такі, што толькі чэрпай з яго сталь!

— Дык хадзем у маю канторку, пагутарым, — прапанаваў Міхась. Як толькі зайшлі ў бакоўку, Міхась паказаў на газету, якая ляжала на зашмальцаваным століку, і сказаў:

— Чытаў?

— Дай паглядзець, што там такое? — ухіліўся ад адказу на пытанне Аляксандр і, узяўшы газету, прабег радкі, дзе паведамлялася аб пачыне чыгуначнікаў-масквічоў па разгортванню сацыялістычнага спаборніцтва, а потым загаварыў: — У механічных цэхах справа больш простая. А ў нас крыху цяжэй. Затрымаешся з апокамі, і сталь на пераплаўку пойдзе, там шпянёўшчыкі, а там шыхтарня... На сваіх хлопцаў я спадзяюся, а вось як іншыя ўчасткі? Тут, брат, адзін у полі не воін...

— Мой участак не падвядзе, — коратка адказаў Міхась Гапонаў і ўзняўся з месца. — Слухай, Саша, давай пагутарым з іншымі майстрамі. Створым комплексную змену высокай прадукцыйнасці працы. Вось тады гэта будзе сапраўдны скарб. Давай усё абмяркуем, а потым з рабочымі параімся. Згодзен?

— Згодзен!

Не адзін дзень прайшоў, пакуль у цэху ўсё абдумалі. Знайшліся і такія, што не згаджаліся, гаварылі, што нічога з гэтай задумы не выйдзе. Такім даводзілася доказваць з алоўкам у руках і пераконваць на канкрэтных прыкладах. Козырам у сталявараў быў той рэкордны дзень, калі была дасягнута такая выпрацоўка, што была запланавана для змены на канец сямігодкі.

Аляксандр даводзіў:

— Працуем цяпер мы нядрэнна, а пры комплекснай змене будзе яшчэ лягчэй.

На гэта, звычайна, хто-небудзь з такіх, з кім гаварыў Аляксандр, адказваў:

— У змене каля двухсот чалавек і знойдуцца такія, каму мала справы да калектыву. Трэба, мабыць, людзей пераставіць з іншых змен, тады можа што і выйдзе...

— Не перастаўляць будзем, а вучыць людзей, выхоўваць! — пераконана гаварыў Аляксандр Азараў.

Усе гэтыя спрэчкі, канешне, мелі сяброўскі характар. Кожны з майстроў згаджаўся з прапановай Аляксандра Азарава — уступіць у сямігодку комплекснай зменай высокай прадукцыйнасці і ўключыцца ў спаборніцтва за атрыманне ганаровага звання калектыву камуністычнай працы. Толькі ж лепш цяпер выказаць усё, што хвалюе, абмеркаваць як мае быць, каб потым не давялося чырванець. Мабыць таму майстры Дзмітры Кавалёў і Мартын Лубенскі так прыдзірліва абмяркоўвалі кожны пункт новых абавязацельстваў.

Аляксандр Азараў, які адыгрываў ва ўсім гэтым галоўную ролю, у думках з імі згаджаўся. Будучая сямігодка — гэта частка вялікага плана будаўніцтва камунізма. І тут мала адной добрай работы. Вучыцца, няспынна павышаць сваю кваліфікацыю — вось што павінна быць у цэнтры ўвагі кожнага члена рабочага калектыву.

Заўтрашні дзень краіны сваёй рэспублікі Аляксандр Азараў і яго сябры бачаць не толькі ў лічбах усяго сямігадовага плана, але і ў лічбах свайго плавільнага ўчастка і ўсяго сталеліцейнага цэха.

Глядзіш на гэтага маладога чалавека, які зусім нядаўна быў звычайным сталеварам на заводзе, а цяпер — майстар асноўнага плавільнага ўчастка цэха, і здзіўляешся той заклапочанасці, з якой ён адносіцца да справы. Сямігодка краіны — гэта яго сямігодка, сямігодка яго таварышаў. Яго цікавяць справы не толькі свайго ўчастка, свайго цэха, яго радуе і хвалюе перспектыва роднага завода. Здаецца, што яму да землепрыгатавальнага ўчастка, а майстар пабываў там, пагутарыў з рабочымі, падказаў, як хутчэй механізаваць землепадрыхтоўчы працэс.

Заўсёды Азараву чагосьці не хапае, заўсёды ён ідзе туды, дзе больш цяжка. Працаваў токарам на заводзе, шосты разрад меў, на дошцы гонару партрэт красаваўся, але гэтага яму мала — паехаў у Харкаў вучыцца майстэрству варыць сталь.

— Разумееш, Наташа, трэба! — даводзіў ён жонцы. — Дырэктар так і сказаў: «Вы павінны апраўдаць давер'е калектыву. Вы будзеце ў Беларусі першымі сталяварамі».

Як ты не паслухаешся такога мужа, які на кожны ўчынак знойдзе апраўданне. Вось і цяпер — ён прыдзе з цэха стомлены, адпачне крыху і за падручнікі садзіцца. Вучыцца надумаўся...

Выхаванец Ленінскага камсамола, камуніст, загартаваны ў рабочым калектыве. Аляксандр Азараў не кідае слоў на вецер. Нездарма сярод іншых сталявараў Мінскага трактарнага завода, узнагароджаных ордэнамі і медалямі да Дня металурга, стаіць і яго прозвішча.



Павел АГУЙ

# САЛДАЦКІЯ БУДНІ

Няма нічога мацней за салдацкую дружбу, па-мужчынску грубаватую, але шчырую і верную! Загартаваная ў імклівых атаках, народжаная ля паходных кастроў, яна мацней за браню, ярчэй за бляск сонца.

Не лёгка нараджаецца салдацкая дружба. Не адразу пазнаеш чалавека, з якім табе магчыма давядзецца дзяліць апошнюю кроплю вады. Не адразу пасябруеш з тым, каму можа будзеш абавязаны жыццём. Але тым мацней будзе потым гэтая дружба.

Салдаты доўга прыглядаюцца да навічка, які прыходзіць у іх згуртаваную сям'ю. Чаго варты гэты нязграбны салдат?.. Так было і на гэты раз.

Наводчык танкавай гарматы яфрэйтар Ігнацьеў уважліва разглядаў маладога механіка-вадзіцеля Сцяпана Касьяненку. Салдат маўкліва сядзеў на табурэтцы ля сваёй койкі. Густая навісь брывей, моцна сціснутыя вусны надавалі яму пануры выгляд. «Чаму яго да нас прыслалі, — незадаволена думаў яфрэйтар. — У першай жа яме машыну пасадзіць. А глядзіць як!»

Маўчанне зацягвалася. Яфрэйтар нарэшце зразумеў, што маўчаць далей няёмка, і сказаў:

— Гэта добра, што да нас трапілі. Мы першынство па стральбе трымаем.

Салдат усміхнуўся: у шэрых, глыбока пасаджаных вачах успыхнулі хітрыя агеньчыкі.

«Падумаў, што хвалюся...» — мільганула здагадка, і яфрэйтар паспешліва запытаўся:

— А сам адкуль будзеш?

— У вёсцы Працоўная нарадзіўся.

У салдацкіх вачах зноў заскакалі смяшынкі.

— З Крыма я, — ужо сур'ёзна адказаў Касьяненка.

— А я, браток, з Сібіры прыкаціў. А наш камандзір танка тутэйшы, з Гомельшчыны. У водпуск збіраецца.



Сцэна са спектакля «Дні нашага нараджэння» па п'есе І. Мележа ў пастаноўцы Беларускага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Салдат Дзяцел (народны артыст СССР Г. П. Глебаў) сустрэўся са сваёй жонкай Кацярынай (народная артыстка БССР В. М. Пола), якая знайшла яго на франтавой пазіцыі.

Фота А. Дзятлава.



«Адновім!» — работа скульптара М. Якавенкі, якая паказвалася на мастацкай выстаўцы ў Маскве, прысвечанай 40-годдзю ВЛКСМ.

Фота І. Салавейчыка.

Карціна ленінградскага мастака В. Сокалава «Кастры паходныя». Аўтар уваскрашае героічнае мінулае слаўнай Савецкай Арміі — легендарныя паходы грамадзянскай вайны.

Кароткі прыпынак пасля цяжкага, з жорсткімі баямі пераходу. Стомлены людзі, стомлены коні. Узвіваюцца дымкі кастроў. Вось-вось напружаную цішыню летняга вечара парушыць сігнал гарніста і грознай лавінай паімчыць конніца — насустрач новым баям і перамогам.



Мінскае суворaўскае вучылішча рэгулярна наведваюць удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Палкоўнік запасу, Герой Савецкага Саюза, майстар спорту І. В. Піскароў расказаў суворaўцам цікавыя эпізоды з дэсантных аперацый на Чарнаморскім узбярэжжы.

На здымку: Іван Васільевіч Піскароў і адзін з удзельнікаў сустрэчы старшыня савета піянерскага атрада, суворавец Валерый Смірноў.

Фота А. Дзітлава

Усе гэтыя навіны яфрэйтар выпаліў адразу. Крыху памаўчаўшы, дадаў:

— У нас добра служыць. Рота выдатная. Мяне таксама дамоў пускалі... Да службы вучыўся?

— Спачатку вучыўся, потым трактарыстам быў.

— Гэта ўжо, браток, весялей, — яфрэйтар прысеў побач. — Значыць, да рычагоў не прывыкаць. А я падумаў — зялёны ты...

— Трактар — не танк...

— Усёроўна машына... Наводчык і механік-вадзіцель — гэта, браток, камандзірскія рукі. А ты як думаў? Я — агонь, ты — манеўр...



Камандзір танка старшы сержант А. Дарожкін праводзіць рэкагнасцыроўку на мясцовасці.

Фота Е. Кольчанкі.

Размову перапыніў камандзір танка Мафічэнка. Ён паклікаў навічка прымаць машыну. Яфрэйтар глядзеў услед салдату і думаў: «Добры танкіст будзе!»

... Ішлі прывычныя, знешне аднастайныя салдацкія дні. Разам з другімі танкістамі Сцяпан Касьяненка імгненна ўскокваў з ложка, бег на зарадку, абліваўся халоднай вадой. Потым пачынаўся вучэбны дзень, распісаны па хвілінах. Страявая падрыхтоўка, паліт-заняткі, выхад у поле, заняткі ў агнявым гарадку. Бывала, прыдзе навічок ў казарму — гудуць ногі, ные спіна. Але, як гаворыцца: служба — праца, салдат — не госць. Сцяпан Касьяненка авалодваў тэхнікай ваджэння танка, рыхтаваўся да сур'ёзных залікаў.

Набліжалася стральба. Яфрэйтар Ігнацьеў рабіўся ўсё больш неспакойным. Ён быў славуты стралок. Але ж поспех залежаў не толькі ад яго, а і ад Сцяпана Касьяненкі.

— Ты, Сцёпа, толькі плаўна спыні машыну, а пасля выстрала адразу ж шыбуй наперад. Мішэні я бяру на сябе...

— Ясна, — адказаў вадзіцель.

— Значыць, перамога...

І вось машына на баявой хуткасці імчыць па палігону. Яфрэйтар Ігнацьеў пільна сочыць за наваколлем. Вось-вось паявіцца цэль... Роўна гудзе матор. Ля дальніх кустоў відаць мішэнь. Наводчык вызначыў адлегласць, даў наводку.

— Кароткі!.. — падаў ён каманду вадзіцелю.

Касьяненка плаўна спыніў машыну. Прагрымеў стрэл. Але што гэта? Кароткі перапынак не можа перавышаць некалькі секунд, а машына ўсё яшчэ стаіць. Вадзіцель тры-чатыры секунды пераводзіць рычагі. Нарэшце, танк імчыць далей.

Калі танк вярнуўся на зыходную лінію, па тэлефоне перадалі, што мішэні разбіты, але практыкаванне ўсё ж не выканана. Экіпаж перавысіў вызначаны час.

— Якія ты там малітвы чытаў над рычагамі? — незадаволена запытаў яфрэйтар у вадзіцеля.

— Сам не ведаю, чаму пацягнуў рычаг перадачы на нейтральны стан, потым пакуль выключыў галоўны фракцыён, уключыў другую перадачу, зноў выключыў галоўны фракцыён...



— Эх ты, фракцыён! З-за цябе практыкаванне не выканалі. Зноў давядзецца ўсё спачатку пачынаць.

За першую няўдачу Касьяненку не вельмі лаялі. Але і на паўторных стрэльбішчах была зноў тая ж гісторыя. Правая рука сама зрабіла лішні рух. Час зноў быў упушчаны.

— А яшчэ трактарыстам быў, — бурчэў Ігнацьеў. — Табе на чарапасе ездзіць.

Падышоў камандзір. Яфрэйтар да яго.

— Хіба можна такое цярпець... Другую стральбу сапсаваў. Мішэні на трэсачкі пабіты, а залікаў няма. Аб чым ён думае, запытайцеся ў яго.

Камандзір таксама быў занепакоены памылкамі вадзіцеля. На чарговых занятках ля трэнажора ён праверыў, як Касьяненка пераводзіць рычагі. Салдат усё практыкаванне зрабіў правільна. У чым справа?.. І раптам камандзір здагадаўся.

— Пакажыце, як вы спынялі трактар? — запытаўся ён у вадзіцеля.

— У трактара рычаг перадачы ставіцца на нейтральны стан...

— Вось дзе ваша памылка! Мінулыя навыкі падводзяць: рука мімволі робіць лішні рух. Называецца гэта аўтаматызм. Напэўна, добрым трактарыстам былі.

— Тры гады працаваў, — адказаў Касьяненка.

Трактарыстам ён і сапраўды быў адменным. Яго партрэт заўсёды вісеў на дошцы гонару.

— Давядзецца вам папрацаваць, — сказаў камандзір. — Трэба сотню, тысячу разоў паўтарыць адзін і той жа прыём. Клін выбіваецца клінам. Вось як...

З таго часу амаль кожны вечар хадзіў Касьяненка да трэнажора. Сеўшы за рычагі, шаптаў: «Змяншаю перадачу, выключаю галоўны фракцыён...»

Ігнацьеў усміхаўся:

— Бач, пацеры чытае. Ну як — дапамагае?

— Дапаможа.

На чарговых стрэльбішчах Касьяненка спыніў машыну плаўна, нават не скалыхнуўся ствол гарматы. Як толькі прагучаў стрэл, танк ірвануў з месца.

— Вось цяпер — першы гатунак! — пахваліў вадзіцеля наводчык.

Але Сцяпана Касьяненку падпільноўвала новая няўдача. Калі на танкадроме пачалі вывучаць новае практыкаванне — пераадоленне перашкод, вадзіцелю вельмі доўга не ўдавалася правесці машыну так, каб не закрануць абмежавацеляў. Зноў камандзір дапамог салдату. Ад заняткаў да заняткаў удасканальваў вадзіцель сваё майстэрства. Нарэшце ён правёў машыну, не збіўшы ніводнай перашкоды. Камандзір паставіў яго ў прыклад другім.

Ішоў час. Сцяпан Касьяненка паспяхова здаў экзамен спачатку на другі, потым на першы клас.

— Майстрам будзеш, — гава-

Палітзаняткі ў вайсковай часці.





Камандзір выдатнага экіпажа сяржант Павел Мафічэнка.

рыў яму яфрэйтар Ігнацьеў, ідучы ў запас. — Я, брат, адразу так думаў...

Неўзабаве салдата пусцілі ў водпуск. Адтуль ён прыехаў узрушаны, задаволены. У ахвоту папрацаваў на трактары, на свае вочы ўбачыў, якія вялікія змены адбыліся ў яго роднай вёсцы Працоўная.

— І ў нас па-новаму служба пачалася, — заўважыў сяржант Дарожкін. — Раней мы галоўным чынам пра мішэні думалі ды пра тое, як лепш танк правесці. А цяпер кожны за сваім учынкам сочыць, кожнаму слову справаздачу дае. А як жа! Камунізм — вось ён, побач, а ў нас перажыткі ёсць. Выкараняць іх будзем. Дрэннае слова сказаць: ні-ні. І наогул свята захоўваць камуністычную мараль.

Даведаўся Касьяненка, што многія салдаты кінулі курыць, далі слова не піць спіртных напіткаў. І ён аднойчы аб'явіў усім:

— Кідаю курыць і вам раю.

Так перастаў курыць увесь узвод.

... Вучэбны бой пачаўся на досвітку. За ноч мяцеліца зараўняла канавы. Пільна ўгляdaліся вадзіцелі ў вузкія адтуліны: ледзь зазяваешся — занясе танк убок, у дрыгву, і тады не будзе выканана пастаўленая задача.

Танкісты імчаць наперад. Трэба апярэдзіць праціўніка, не даць яму магчымасці заняць выгадны рубеж. Але вось на шляху калоны рака. Яна не глыбокая, але берагі ў яе дрыгвяністыя. Абхода няма. Сержант Мафічэнка вылез з машыны, агледзеў мясцовасць.

— Паспрабуем фарсіраваць раку з ходу, — сказаў ён малодшаму сержанту Сцяпану Касьяненку.

Выкаціўшы хвалю іржавай вады і гразі, танк пераадолеў перашкоду. Перайшло яшчэ некалькі машын. Танкі зусім размясілі бераг. Прымаецца рашэнне: зрабіць грэблю. Дружна працавалі воіны. Праз дваццаць хвілін усе танкі перайшлі на той бераг.

Машыны зноў пайшлі поўным ходам. Напярэдзе заўважаны «праціўнік». Падраздзяленні разгарнуліся ў баявую лінію. Танкі, ведучы на хаду агонь, пайшлі ў атаку.

На разборы заняткаў старэйшы начальнік аб'явіў воінам падраздзялення падзяку. Танкісты дружна адказалі:

— Служым Савецкаму Саюзу!

---

Н. КРАСНАПОЛЬСКІ

# У ПАХОДАХ І БАЯХ

### З успамінаў байца 27-й Омскай дывізіі

Сорак год назад маладая Рэспубліка Саветаў перажывала цяжкі час. Узброеныя да зубоў імперыялісты напалі на нашу краіну. Сярод іх былі і польскія паны, якія вясной 1920 года пачалі паход на ўсход. Яны хацелі вярнуць свае маёнткі ў Беларусі і на Украіне, адкуль выкінула іх Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Белапалякі ўлетку 1920 года паспелі захапіць вялікую частку Беларусі, спыніўшыся на Бярэзіне, каля Барысава. Яны ж паспелі ўварвацца ў Кіеў. Над нашай краінай зноў навісла небяспека. Трэба было адбіваць націск ворага.

На фронт прыбывалі свежыя сілы Чырвонай Арміі. У Беларусь была перакінута і наша 27-я Омская дывізія, дзе я служыў спачатку палітруком батарэі, а потым — сакратаром палітаддзела. Шлях ад берагоў Енісея да ракі Бярэзіны мы адолелі за восем сутак. Нават ні разу не выводзілі з вагонаў коней, каб даць ім крыху адпачыць.

Дывізія ішла ў Беларусь па той жа трасе, па якой год назад выганяла з савецкай зямлі Калчака. У сібірскіх і ўральскіх стэпах тады засталося шмат раненых і хворых нашых байцоў, якія потым аселі ў мясцовых гарнізонах. Дачуўшыся, што на Заходні фронт рухаецца іх дывізія, яны прабіваліся на вакзалы, хутка знаходзілі старых сяброў і далучаліся да іх.

У Смаленску некаторыя нашы эшалоны агледзеў камандуючы Заходнім фронтам Міхаіл Мікалаевіч Тухачэўскі. Яго мы ведалі яшчэ па Сібіры, дзе ён камандаваў 5-й арміяй, у склад якой уваходзіла і наша дывізія. Тухачэўскаму было тады ўсяго 27 год.

Разгрузіўшыся ў раёне станцый Слаўнае, Бобр і Крупкі, мы трапілі ў рэзерв 16-й арміі. У нас на ўзбраенні было 7 379 штыкоў, 479 шабляў, 260 кулямётаў, 34 гарматы.

На выратаванне братоў-беларусаў з панскай няволі прыйшлі прадстаўнікі ледзь не ўсіх нацыянальнасцей нашай краіны. Камандаваў дывізіяй дваццаціпяцігадовы літоўскі мастак Вітаўт Путна, начальнікам штаба быў беларус Пятро Шаранговіч, камандзірамі брыгад — армянін Хаханьян, латыш Альберт Лапін, рускі Васіль Сцяпанаў. Палкамі камандавалі рускія Вастрацоў, Хабараў, Бера-

зоўскі, Зайцаў, Вянцоў, Гусеў, Фамін.

У нашай батарэі таксама былі людзі розных нацыянальнасцей — рускія, палякі, башкіры, удмурты. Сярод іх нават два байцы-інтэрнацыяналісты: кітаец Ван, якога батарэйцы звалі «Ваня», і чэх Марэк, наш цудоўны запявала.

У дывізіі была і так званая беларуская брыгада, аснову якой склалі салдаты-бальшавікі і спачуваючыя ім яшчэ са старога Заходняга фронта. Яны паспелі павяваць ужо з гайдамакамі ў Кіеве, з белачэхамі ў Пензе і пад Казанню — з белагвардзейцамі.

Нашы камандзіры і байцы былі бясстрашныя, загартаваныя людзі. Больш трохсот чалавек мелі ўзнагароды — ордэны Чырвонага Сцяга. Большасць іх камуністы і камсамольцы. А беспартыйныя падавалі заявы аб прыёме ў рады партыі ў час «партыйнага тыдню», які праводзіўся перад наступленнем.

— Я ваяваў за партыю на Волзе, на Урале, на Іртышы, — гаварыў які-небудзь салдат-сібірак, трымаючы ў руках заяву. — Хачу быць у партыі, не магу без яе.

Вось у гэтым «не магу без яе», без партыі, і заключаўся ўвесь сакрэт высокай баяздольнасці людзей. Яшчэ адной характэрнай рысай тагачасных чырвонаармейцаў была іх неўтаймаваная прага да ведаў. Непісьменных тады было многа. Не дзіўна, што ў кожным палку быў штатны настаўнік. А ў многіх байцоў у рэчавым мяшку ляжаў зашмальцаваны буквар разам з агрызкам алоўка і абрыўкам сшытка.

Ноччу на 7 ліпеня 1920 года дзве брыгады пачалі бой за пераправу цераз раку Бярэзіну. Байцы на падручных сродках фарсіравалі раку, збілі праціўніка і, не даючы яму апамятацца, узялі кірунак на Смалявічы. Нягледзячы на тое, што ў Смалявічах давялося сустрэцца з моцнымі сіламі ворага, нашы з такім імпэтам рынуліся ў штыкі, што белапалякі не стрымаліся і пабеглі. Наша батарэя пад-



**Начальнік 27-й Омскай дывізіі В. К. Путна.**

трымлівала 242-гі Волжскі полк Сцяпана Вастрацова, і з назіральнага пункта гэтая гераічная атака была добра бачна.

Затым разгарэўся бой каля Азярышча. Палкі 80-й брыгады некалькі разоў хадзілі ў атаку, але беспаспяхова. Тады артылерысты прымянілі сваю сібірскую тактыку — суправаджаць пяхоту не толькі агнём, але і трушчыць коламі. Артылерысты выскоквалі на агнявыя пазіцыі і прамой наводкай білі па акопах.

Нам нехапала конніцы. Кавалерыйскі полк быў яшчэ на падступах. Камбрыг Альберт Лапін рашыў для гэтага выкарыстаць конных разведчыкаў са сваіх палкоў. Ён звёў іх у адзін эскадрон і кінуў наўздагон праціўніку, як толькі пехацінцы прарвалі азярышчанскую пазіцыю.

Апоўдні 11 ліпеня коннікі начальніка разведкі 238-га Бранскага палка Рума ўварваліся ў Мінск. За імі паказаліся пехацінцы. Адначасова, вытрымаўшы моцны бой



у раёне чыгуначнага вузла, з поўдня і паўднёвага захаду ў горад увайшлі палкі 81-й брыгады. Яны зрабілі глыбокі абход. З поўначы і паўночнага ўсходу ў горад увайшла наша суседка — 17-я дывізія. І потым, калі мы сустракаліся пазней у вольны час з іх байцамі, у нас заўсёды пачыналася дыскусія аб тым, хто першы ўвайшоў у Мінск: мы ці яны. Праўда, гэтая дыскусія заўсёды заканчвалася кампрамісам: разам вызвалялі горад.

Між іншым, белапалякі не прынялі бой у горадзе. Яны спалохаліся рабочых, якія маглі б ударыць у тыл. Ужо на першы дзень да 14 гадзін дня горад быў поўнасцю ачышчаны ад ворага.

Наша дывізія захапіла 6 гармат, больш 30 кулямётаў і каля 500 палонных. Яшчэ большыя трафеі дасталіся 17-й дывізіі.

Вельмі характэрныя былі першыя сустрэчы з палоннымі. Нашы байцы добра разумелі, што яны ваююць не з польскім народам, а з польскімі панамі, якіх аднолькава не любяць як працоўныя Польшчы, так і нашай краіны. Чырвонаармейцы дзяліліся з палоннымі сваім пайком, частавалі іх махоркай, растлумачвалі ім сэнс вайны. Здзіўляла забітасць і палітычная цемната белапольскіх салдат. Сярод іх было шмат такіх, што ўмелі гаварыць па-руску, і гэта аблягчала работу сярод палонных.

**Камандзір 242-га Волжскага палка С. С. Вастрацоў.**



Баі за Мінск паказалі, што чырвонаармейцы поўнасцю захавалі свае якасці, набытыя ў сібірскім паходзе.

Пачаўся імклівы марш на Варшаву. Паны імкнуліся затармазіць наш рух: падрывалі вадакачкі, разбіралі рэйкі. Але нішто не магло спыніць нашага наступу.

У гэты час добра давялося папрацаваць нашаму дывізійнаму кавалерыйскаму палку, які паспеў нас дагнаць. Кавалерысты былі «стараляныя» хлопцы, звыклыя ў час партызанскай вайны супраць Калчака да смелых налётаў і шырокіх манеўраў. Адчайным быў і іх камандзір, былы кірасірскі афіцэр Міхаіл Аляксандравіч Фогт, які адразу ж перайшоў на бок рэвалюцыі. Камісарам у коннікаў быў піцерскі рабочы Сямён Чыстоў — светлая пралетарская галава, чалавек вялікай волі і вельмі тактоўны.

Белапалякі паспешна адыходзілі да Баранавіч, на лінію старых германскіх акопаў часоў першай сусветнай вайны — за тры гады яны яшчэ не паспелі разбурыцца. Дывізія атрымала загад атакаваць і прарваць гэтыя ўмацаванні на світанні 19 ліпеня. Але праціўнік пачаў адыход, імкнучыся непрыкметна адарвацца ад нас і беспакарана адысці. Гэта заўважыла наша конніца.

Бранскі полк перайшоў у наступленне раней, чым было намечана, і прарваўся ў стан праціўніка. У прарыў пайшлі кавалерысты і каля Буйневічаў накінуліся на іх калоны. Нашай батарэі давялося потым тут праходзіць — усё поле было ўсеяна блакітнаватымі мундзірамі варожых салдат.

Пасля баёў пад Баранавічамі, дзе асабліва вызначыліся коннікі, дывізія пайшла да Слоніма. На горад наступалі суседзі — 17-я ды-

візія. Мы ішлі з паўднёвага боку. Тут таксама коннікі вытрымалі бой з белапалякамі каля Альберціна.

К гэтаму часу падышла і 79-я, Беларуская брыгада. Нашы палкі выбраліся да Свіслачы, у тыл белапалякам. Пачаліся баі, якія даходзілі да штыкавых сутычак. У баях гераічна дзейнічалі і артылерысты 2-й батарэі, дзе было шмат беларусаў. Батарэя пад кулямі праціўніка хутка разгарнулася і адкрыла беглы інтэнсіўны агонь. Наступленне прадаўжалася.

Тады Беларуская брыгада ўзяла шмат трафеяў і палонных. У палон трапіў і белапольскі генерал разам са сваёй легкавой машынай. Ён добра гаварыў па-руску і аказаўся былым царскім генералам.

— Вунь якія певуны ёсць яшчэ ў куратніку пана Пілсудскага! — жартавалі чырвонаармейцы.— А мы думалі, што яшчэ ў Сібіры з усімі скончылі. Зараз і гэтага туды, да бога ў рай. Зараз жа!..

...Ішлі мы ляснымі сцежкамі Белавежскай пушчы. З усіх бакоў шчыльна стаялі векавыя дрэвы, велічна ўзняўшы ў блакіт калматыя вершаліны; месцамі траплялі ся вялікія вырубкі — гэта ў час вайны пагаспадарылі немцы.

Гарачы бой давялося вытрымаць у пушчы, каля былога імператарскага палаца. Бралі яго штыкавой атакай. Артылерысты білі па ім з гармат, па палянах, дзе заселі белапалякі, па ўзлессі пушчы. Доўга разносіла лясное рэха грукат гармат, дробны перастук кулямётаў, пакуль праціўнік не адступіў. І тут зыход рашыла штыкавая атака.

80-я брыгада наступала на Кляшчэлі. Іх батарэя на маршы раптоўна трапіла пад агонь праціўніка. Камандзір батарэі, падмаскоўны рабочы Іван Гардзееў, не разгубіўся. Артылерысты распачалі ўраганны агонь, і нашы стралкі пайшлі ў атаку, хутка і лёгка авалодалі мястэчкам. За гэты бой 1-я батарэя атрымала ганаровы Чырвоны сцяг ВЦВК. Такую ж узнагароду атрымалі і артылерысты 2-й батарэі за бой каля Свіслачы.



**Камандзір 237-га Мінскага стралковага палка Р. І. Сок.**

31 ліпеня наша дывізія падышла да Заходняга Буга. Наперадзе польская зямля, сталіца Варшава. Памятаецца панскі маёнтак адразу ж за ракой. Перад панскім дваром — цэлае поле малінавых кветак. Затое ў вёсках — галеча. Уся зямля зрэзана на палоскі-шнуры, на якіх з канём не завернешся.

У першы дзень жніўня нашы войскі пачалі бой за пераправу. Адразу ж захапілі чыгуначны мост на рацэ і невялікі плацдарм на левым беразе ракі.

Нашай дывізіі выпаў вельмі цяжкі ўчастак. Правы бераг быў нізкі, забалочаны, з глыбокімі брадамі. Ды і брадоў мы не ведалі. А левы бераг, дзе замацаваўся праціўнік, наадварот — высокі, абрывісты. Давялося некалькі разоў прабірацца пад кулямі...

Дасталася там і артылерыстам. На правым беразе не было амаль ніякіх арыенціраў. А тады ў артылерыстаў былі толькі бінокль, буссоль, стэрэатруба ды сваё вока. Нездарма сярод іх хадзіла прагаворка: «Не бачу — не страляю».

Чатыры дні ішлі баі за пераправу. Услед за батальёнам Курскага палка на левы бераг прабраліся валжане, вырваліся наперад, расшырыўшыся ў глыбіню на 8—9 кіламетраў. Праціўнік, сабраўшы вялікія сілы, зайшоў у тыл. Камандзір палка Сцяпан Вастрацоў разгарнуў фронтам некалькі рот і скамандаваў у атаку. Тым часам іншыя батальёны пачалі адыходзіць да ракі. Полк утрымаўся каля самага берага і гэтым даў магчымасць пераправіцца ўсёй брыгадзе.



Фарсіраванне Буга дасталася нам дарагой цаной. Дывізія страціла больш чвэрці наяўнага складу. Забіты быў камандзір палка Фамін, паранены Вастрацоў і Сок. Было забіта і паранена дваццаць сем батальённых камандзіраў.

Выпрашана было папоўніць палкі «абознікамі» — усёроўна ім вазіць не было чаго: тылавыя запасы адсталі. Гэтая мера некалькі паправіла становішча з людзьмі.

Варшаўскую бітву дывізія пачала, маючы 5 600 чалавек, у тым ліку 2 747 штыкоў і 235 шабель. Пілсудскаму давялося напружваць мабілізацыйныя магчымасці: у бой ішлі спешна сфармаваныя палкі, такія, як полк «дзяцей Варшавы», які складаўся з гімназістаў старэйшых класаў і студэнтаў, і жаночыя батальёны.

Сямідзённая, кровапралітная бітва пад Варшавай пачалася 11 жніўня. Першая лінія абароны была прарвана, пачаліся баі за другую лінію. На дарозе быў невялікі гарадок Радзімін. Байцы 81-й брыгады смела пайшлі ў атаку. Секлі калючы дрот рыдлёўкамі, кідалі шынялі і па іх дабіраліся да варожых акопаў. Потым пайшлі гарачыя вулічныя сутычкі.

Баі ішлі днём і ноччу. Страцілася адчуванне часу. Спаць амаль не даводзілася. Байцыірваліся наперад, да Віслы, на Яблонну — вёску з паўночнага боку ад Варшавы. Наперадзе ішлі чырвонаармейцы палка Уварава.

З байцамі пешшу ішоў камбрыг Васіль Сцяпанаў. За дзень пад ім забіла трое коней. Наперадзе балоцістая рэчка — перайшлі яе, яшчэ адна водная перашкода — і яе перайшлі. З ходу захапілі батарэю праціўніка: гарматы, скрынкі снарадаў, людзей. За гэтыя баі 241-ы Сялянскі полк атрымаў ордэн Чырвонага Сцяга.

Лявей наступалі 80-я і 79-я брыгады, проста на Варшаву. Там нашы ўпершыню сустрэліся з танкамі. Іх было штук шэсць — яны ўгразлі на балоце, ператварыўшыся ў нерухомыя агнявыя кропкі. Камісар Санкін узняў батальён, павёў у атаку. А ў батальёне 75 штыкоў — і ўсё. Не ўзялі танкі, адышлі, несучы з сабою забітага камісара. Да Варшавы заставалася якіх-небудзь кіламетраў з дзесяць...

Баі дасягнулі найвышэйшага напружання. Гарадок Радзімін і навакольныя вёскі па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. І мы, і белапалякі раз-по-разу траплялі ў акружэнне, біліся «на ўсе чатыры вятры», вырываліся з акружэння і зноў кідаліся ў атакі і контратакі. У гэтыя дні ў Аршанскім палку адбыўся маляўнічы эпізод. На наш парадзеўшы полк — у ім заставалася чалавек

**Камандзір 79-й брыгады Г. Д. Хаханьян.**



дзвесце — узняліся густыя ланцугі белапалякаў. Камандзір палка Мікалай Сяргеевіч Вянцоў спакойна разуваўся, развешваючы на кусце анучкі.

— Таварыш камандзір, — захваляваўся ардынарац. — Што вы робіце! Вунь жа палякі ідуць...

— А куды мне ісці? Не, я тут і нікуды адсюль не пайду!..

Па ланцужку салдаты перадавалі: камандзір застаецца, прасушвае анучы — значыць, вялікай небяспекі няма. Калі праціўнік падышоў зусім блізка, аршанцы стрэлі яго дружным агнём. Тады Вянцоў узняўся, крыкнуў:

— Камуністы, за мною! — і сам пабег наперад.

Аршанцы з такім парывам кінуліся ў штыкі, следам за сваім босым камандзірам, што праціўнік у паніцы ўцёк.

Цяжка назваць герояў варшаўскіх баёў па імёнах. Гераізм там стаў масавай з'явай. Змагаліся самаадданна ўсе — ад байца да начдыва. У баі за Радзімін з тылу з'явіўся наш адзіны бранявік. Назіраючы, што чырвонаармейцы залеглі і не могуць рухацца, бранявік адкрыў агонь, ідучы наперад. За ім узняліся павесялеўшыя стралкі. Пасля выявілася, што ў браневіку за кулямётчыка быў начальнік дывізіі Путна. Ён аб'язджаў часці, і ўбачыўшы, што пяхота залегла, сам уступіў у бой.

Дывізія несла вялікія страты, а папаўняць іх не было кім. Усе, хто мог біцца, ужо былі ў страі. У 242-м Волжскім палку нават музыканты палкавога аркестра кінулі інструменты на фурманкі і ўзяліся за вінтоўкі.

Асабліва цяжка было ў артылерыі, якая амаль не мела снарадаў. На гармату на суткі нам выдавалі ўсяго па 20—30 штук. А было і так: у самы разгар бою, калі нашы мізэрныя запасы канчаліся, да нашых трохдзюймовых гармат прывезлі двухлінейныя снарады — іншых на складзе не было. Тады артылерысты ішлі ў рукапашную...

Надакучалі нам у тыя дні і самалёты праціўніка — іх вадзілі англійскія і французскія лётчыкі. Праўда, вялікай шкоды яны нам не рабілі, але яны карэктавалі стральбу сваёй артылерыі. Нам даводзілася ўзмоцнена маскіраваць свае агнявыя пазіцыі, рабіць падманныя акопы, макеты гармат, на што траціліся сілы, якіх у нас засталося не багата.

Усё ж парыў байцоў быў незвычайны. Усе чакалі апошняга загаду на ўзяцце горада. І раптам загад: адысці. Апоўначы нашы палкі пачалі адыходзіць да ракі Лівец. Адыходзілі мы ў цяжкіх умовах. Ішлі днём і ноччу, даючы кароткі адпачынак людзям і коням. Адыходзілі, вядома, з баямі. На рацэ Буг праціўнік перахапіў пераправы, і ў Драгічыне на захоп маста цераз Буг пайшлі сувязісты, якімі тады камандаваў Іван Канстанцінавіч Вольскі.

У перыяд адыходу асаблівую аператыўнасць і мужнасць паказаў начальнік штаба 80-й брыгады Іван Фёдаравіч Дашычаў. Ён не раз сам вадзіў чырвонаармейцаў у атаку і забяспечыў арганізаваны адыход палкоў. За подзвігі ў гэты час ён атрымаў два ордэны Чырвонага Сцяга.

28 жніўня 1920 года наша дывізія была выведзена ў армейскі рэзерв і згрупавалася з паўднёвага боку Ліды ў раёне мястэчка Пяскі. Тут, нарэшце, мы стрэліся са сваім папаўненнем. Распачаўся перыяд арганізацыйнай работы — прыём папаўнення, размеркаванне яго, вайсковае навучанне, перападрыхтоўка камандзіраў.

Палітаддзел дывізіі, куды якраз мяне ў гэты час перавялі сакратаром, разгарнуў у часцях вялікую палітычную работу. Армейскія інструктары і прапагандысты абыходзілі палкі, чыталі газеты і лістоўкі, праводзілі мітынгі і сходы.

У Пясках 23-га верасня сабралася 2-я партыйная канферэнцыя. Яна пачалася дакладам начальніка палітаддзела дывізіі Крупскага аб задачах камуністаў. Не паспеў





Камандзір 80-й брыгады А. Я. Лапін.

дакладчык сысці з трыбуны, як яму прынеслі загад: зараз жа дывізіі ў бой.

— Прашу, таварышы дэлегаты, — незвычайна закончыў дакладчык, — разыйдзіцеся па сваіх часцях: наступаем!

За час стаянкі пад Лідай дывізія папоўнілася і ўзмацнела. У нас ужо было 9 тысяч байцоў (у тым ліку 6 500 штыкоў і 235 шабляў). Паспешна нас накіравалі пад Валкавыск, дзе заселі белапалякі. Бой ушчаўся зацяты. Моладзь білася не горш за старых воінаў. Асабліва праявілі сябе піцерскія камуністы. Палітрук адной з рот Цвярскога палка піцерскі рабочы Чарапанаў замяніў загінуўшага камандзіра і сам павёў роты ў атаку. Чырвонаармейцы ўварваліся ў горад на плячах праціўніка.

Між іншым, удалы для нас вынік змагання за Валкавыск не выратаваў становішча: давялося зноў адыходзіць, стрымліваючы праціўніка ўпорнымі баямі. Мы змагаліся за кожны рубеж — біліся на Моўчадзі, Сервечы, Усе, на Нёмане, спрабавалі ўтрымацца на пагорках каля Рудні... Зноў у баях вызначылася чырвонасцяжная 1-я батарэя 79-га артдывізіёна і 2-я батарэя 81-га дывізіёна. Камандаваў гэтай батарэяй беларускі рабочы Мікола Шкор, які праяўляў выключны прыклад бясстрашша і гераізму.

Калі наша 27-я Омская дывізія адышла з койданаўскіх пазіцый, пад Мінскам, то ў Рызе пачаліся мірныя перагаворы. 7 кастрычніка стала вядома, што назаўтра адбудзецца падпісанне пагаднення аб перамір'і, якое набудзе сілу праз дзесяць дзён. Згодна папярэдніх умоў міру, за бакамі застанецца тая тэрыторыя, якую яны будуць займаць к 18-му кастрычніка. Белапалякі, выгадаўшы сабе дзесяць дзён, наважылі адкінуць нашы часці за Бярэзіну — тады б Мінск застаўся па той бок граніцы. Але іх змардаваныя войскі былі адведзены к Нёману для папаўнення і перагрупіроўкі.

Нам было вельмі важна ўтрымаць Мінск і як мага далей прасунуцца на захад. Гэта было ясна і зразумела для кожнага чырвонаармейца. Таму калі дывізія атрымала загад вярнуцца на койданаўскія пазіцыі, усе ўзрадаваліся. Белапалякі пайшлі нам насустрач. 11-га кастрычніка пад Койданавам завязаўся сустрэчны бой, які з пераменным поспехам цягнуўся цэлы тыдзень.

У прызначаны дзень, 18 кастрычніка, пагадненне набыло сілу. Пачалося вызначэнне дэмаркацыйнай лініі, на аснове якой потым была ўстаноўлена дзяржаўная граніца паміж СССР і буржуазнай Польшчай.

* * *

Раён Барысава — наша наступнае месцазнаходжанне. Пачалося мірнае, будзённае жыццё: вайсковыя вучэнні, палітзаняткі, гарнізонная служба...

З Сібіры прышло зноў нам папаўненне. Славуты мінусінскі партызан Краўчанка прывёз і ўручыў омцам ад імя Сібірскага рэўкома ганаровы Чырвоны сцяг. На белым шаўковым палотнішчы зелянелі вышытыя сібірскія лясы,

сінеўся блакіт рэк і азёр, чырвонай істужкай пралягаў баявы шлях дывізіі. Агнём палалі словы: «Слава красным героям, освободившим рабочих и крестьян от Волги до Байкала!»

Варта зазначыць, што армейцы-камуністы былі першымі арганізатарамі савецкай улады ў вызваленых раёнах. Сіламі нашага палітаддзела былі арганізаваны рэўкомы ў Слоніме, Драгічыне, Радзіміне і г. д. У гэтай справе, калі мы перайшлі Буг, нам шмат дапамог Польскі рэўком, на чале якога стаялі Фелікс Дзяржынскі, Юліян Мархлеўскі і Юзэф Уншліхт. Яны забяспечвалі нас матэрыяламі, а часам і людзьмі.

У студзені 1921 года мы перабраліся ў раён Гомеля. Ваенныя дзеянні на франтах к гэтаму часу спыніліся, але барацьба яшчэ не скончылася. У сакавіку ўспыхнуў Кранштадскі мяцеж, і мы хадзілі на яго падаўленне. Потым былі на ніжняй Волзе, на знішчэнні бандытызму.

Праз два гады дывізія зноў вярнулася ў Беларусь, спачатку ў Оршу, а потым у Віцебск. Пасля падзей пад Кранштадтам я ў хуткім часе перайшоў на працу ў акруговую ваенную газету, але сувязі з роднай дывізіяй не губляў.

Омцы зрадніліся з Беларуссю. Яны ўдзельнічалі ў агульнай партыйнай рабоце, дапамагалі ў калектывізацыі беларускай вёскі. У беларускія калгасы ішлі многія дэмабілізаваныя чырвонаармейцы. З ліку іх на Палессі, у Любанскім раёне, быў арганізаваны першы ў Беларусі чырвонаармейскі калгас імя БВА.

Я ведаў, што наша чырвонасцяжная Омская імя Італьянскага пралетарыята дывізія ўвосень 1939 года хадзіла на захад, у вызваленчы паход за ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве. Ведаў, што пасля гэтага яна зноў вярнулася ў Беларусь, спыніўшыся на прыгранічным рубяжы — у раёне Аўгустова — Гродна. Там яе і застала Вялікая Айчынная вайна. Омцы зноў узняліся на барацьбу за свабоду і незалежнасць сваёй сацыялістычнай Айчыны.

* * *

У Мінску ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны захоўваецца сцяг 27-й Омскай Чырвонасцяжнай імя Італьянскага пралетарыята дывізіі, які збераглі беларускія партызаны, сцяг Сібірскага рэўкома. Усенароднае захапленне выклікаюць подзвігі савецкіх воінаў, якія гераічна змагаліся за Савецкую Беларусь, за сацыялістычную Радзіму да апошняга дыхання, да апошняй кроплі крыві.



Бой за Варшаву. Савецкія і польскія салдаты ў перапынку паміж баямі.

**С. САПЕШКА,**
**падпалкоўнік запасу**

# ПА ДАРОЗЕ НА БЕРЛІН

Ішоў 1943 год. Савецкая Армія пасля разгрому гітлераўскіх захопнікаў пад Масквой і Сталінградам вяла наступленне па ўсяму фронту.

У гэтай абстаноўцы Савецкі ўрад дазволіў польскім патрыётам, якія яшчэ ў 1939 годзе эмігрыравалі ў СССР і якія гарэлі жаданнем уключыцца ў змаганне з гітлераўскімі захопнікамі, фарміраванне польскіх часцей на савецкай тэрыторыі, узяўшы на сябе поўнае іх забеспячэнне зброяй і харчаваннем.

Мястэчка Сельцы, непадалёк ад Разані, стала месцам фарміравання польскіх часцей. У лес, на беразе Акі, дзе размясціўся вайсковы лагер, кожны дзень прыбывалі сотні і тысячы польскіх патрыётаў. Гэта былі людзі рознага ўзросту.

Многія з іх удзельнічалі ў барацьбе з фашыстамі яшчэ ў 1939 годзе; былі такія, што змагаліся добраахвотна ў Іспаніі.

З лясных палян даносіліся галасы афіцэраў, якія падавалі каманды на польскай мове; чуўся лязгат затвораў, а з палігонаў — кулямётныя чэргі і ўзрывы снарадаў.

Сярод польскіх воінаў знаходзіліся і савецкія афіцэры. Гэта былі інструктары Савецкай Арміі, якія прыйшлі сюды, каб перадаць баявы вопыт польскім сябрам.

У першай дывізіі быў сфарміраваны і жаночы батальён з добраахвотніц — маладых польскіх дзяўчат. Не зважаючы на цяжкасці вайсковага жыцця, яны паспяхова авалодвалі баявымі і палітычнымі ведамі.

15 ліпеня 1943 года, у гадавіну бітвы пад Грунвальдам, кас-

цюшкаўцы прынялі прысягу і хутка накіраваліся на фронт.

Ехалі цераз Маскву, да Вязьмы. Па дарозе, дзе прайшлі фашысты, віднеліся іх сляды: зямля, зрытая траншэямі і акопамі, спаленыя гарады і вёскі; салдаты бачылі змучаных і закатаваных савецкіх людзей.

Жыхары вызваленых вёсак гасцінна, шчыра сустракалі польскіх сяброў, якія ішлі на падмогу савецкім войскам.

Па абодва бакі Маскоўска-Варшаўскага шасэ, дзе праходзіла дывізія імя Тадэуша Касцюшкі, цяпер стаяць дабротныя дамы. Іх пабудавалі разам з сялянамі польскія салдаты, знаходзячыся пасля пераходу на прывале. З удзячнасцю ўспамінаюць сяляне-вяземцы тых, хто тады, у цяжкую часіну, дапамог ім адбудаваць на папялішчы жыллё.

Мінулі зруйнаваны Смаленск. Касцюшкаўцы падышлі да лініі фронта, дзе і сканцэнтраваліся ў кастрычніку 1943 года. Хутка затым яны атрымалі загад уступіць у бой каля мястэчка Леніна Магілёўскай вобласці, у складзе 33-й арміі, якой камандаваў генерал Гордаў. Польскай дывізіі была прыдана брыгада цяжкай артылерыі і два палкі лёгкай артылерыі, яе падтрымлівала савецкая рэактыўная і зенітная артылерыя. Згодна загаду, дывізіі трэба было прарваць моцную абарону праціўніка.

У ноч на 12 кастрычніка пяхота 1-га і 2-га палка заняла пазіцыі ля ракі Мярэя. Настрой ва ўсіх салдат быў выдатны, бо ўсе ведалі: справа і злева надзейныя суседзі — савецкія воіны.

Настала раніца, ціхая і сонечная. Лёгкі туман плыў па надрэчч. На тым беразе Мярэі — варожыя пазіцыі.

У гэты час ва ўвесь голас загаварыла артылерыя. Пасля паўтарагадзіннай артпадрыхтоўкі ў паветры ўспыхнулі ракеты — сігнал да атакі.

Танкістам давялося з цяжкасцямі пераадольваць Мярэю з яе даволі вялікімі затокамі. Пяхота справілася лягчэй.

Гарачы бой пачаўся каля вёскі Паўзуха на правым фланзе 2-га пяхотнага палка, якім камандаваў падпалкоўнік Чарвінскі.

Салдаты першага батальёна на чале з капітанам Альшэўскім уварваліся ў варожыя траншэі, і пачалася рукапашная бойка. Захапіўшы траншэю, салдаты пайшлі ў глыб абароны. Праціўнік перайшоў у контратаку, але не вытрымаў націску і кінуўся наўцёкі.

У гэтым баі смерцю герояў загінулі капітан Альшэўскі і камандзір кулямётнага ўзвода паручнік Якубовіч.

На другі дзень разгарнуўся жорсткі паветраны бой. Групы фашысцкіх самалётаў, адна за другой, налятал на перадавыя пазіцыі, скідалі бомбы і касілі з кулямётаў. Але польскія зенітчыкі і савецкія авіятары ўступілі з фашыстамі ў бой, і дзесяткі сцярвятнікаў знайшлі там сабе магілу.

Адначасова на нашы пазіцыі накінулася і варожая пяхота. Жорсткасць бою нарастала. Польскія воіны адбілі ўсе іх атакі, хоць і самі неслі вялікія страты. Асабліва праявілі сябе салдаты кулямётнай роты таго ж першага батальёна. Кулямётчыкі ўзвода, якім камандаваў Пшыбылоўскі, абрушылі лівень агню на ворага, падпусціўшы яго блізка да сябе. А потым звязкамі гранат закідалі самаходкі «фердынанд», якія падышлі на гэты ўчастак. Пшыбылоўскі сам ляжаў за кулямётам і бязлітасна касіў ворагаў. За смеласць і стойкасць у гэтым баі Пшыбылоўскі быў узнагароджаны медалем «За адвагу», яму таксама было прысвоена чарговае воінскае званне.

За праяўленае бясстрашша і мужнасць у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі пад Леніна 239 польскіх салдат і афіцэраў былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза.

Уступленне ў бой з фашысцкімі захопнікамі на Усходнім фронце Першай польскай дывізіі з'явілася для фашысцкай Германіі моцным ударам. Працоўныя ўсяго свету ўбачылі, што польскі народ не застаўся ў баку ад барацьбы з нямецкім фашызмам — ворагам свабоды і дэмакратыі — і выбраў самы кароткі шлях вызвалення сваёй радзімы, дзейнічаючы сумесна са слаўнай Савецкай Арміяй.



На беларускай зямлі, ля мястэчка Леніна, дзе аддалі сваё жыццё ў змаганні з фашызмам лепшыя сыны і дочкі польскага народа, ідучы ў баях поплеч з савецкімі воінамі, цяпер узвышаецца помнік. Мясцовыя жыхары з году ў год прыносяць сюды кветкі, ушаноўваюць памяць загінуўшых польскіх патрыётаў.

Кожны год, 12 кастрычніка, у Леніна прыязджаюць польскія дэлегацыі, каб ушанаваць памяць сваіх братоў. Летась там пабывала ваенная дэлегацыя на чале з брыгадным генералам Ежы Фанковічам. Потым польскія таварышы былі ў Мінску, на сустрэчы з працоўнымі. Яны падаравалі нашаму Беларускаму музею гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прыгожы альбом, дзе адлюстраваны эпізоды заснавання і баявой дзейнасці Войска Польскага. Гэты альбом — каштоўны падарунак, які выражае братэрскую дружбу двух народаў-суседзяў.

У пачатку сакавіка 1944 года толькі што створаны польскі корпус, у складзе якога знаходзілася і слаўная Першая польская дывізія, перабазіраваўся ў раён Жытоміра.

Цёпла прынялі польскіх салдат і афіцэраў украінцы. На ўкраінскай зямлі першы корпус быў ператвораны ў 1-ю польскую армію. Польскія воіны хутка перабраліся ў раён Луцка і Ківерц, падышоўшы шчыльна да лініі фронта.

Тут, у луцкіх лясах, касцюшкаўцы хутка рыхтаваліся да переможнага наступлення.

Камандзір 2-га пяхотнага палка падпалкоўнік Сініцкі, правяраючы гатоўнасць сваіх падраздзяленняў, гаварыў воінам:

— Таварышы салдаты і афіцэры! Хутка вы сустрэнецеся са сваімі маткамі, жонкамі і дзецьмі, якія яшчэ пакутуюць пад фашысцкім ботам. Вышэй баявую арганізаванасць і дысцыпліну. Перад вамі, таварышы, зямля польская!..

І салдаты хутчэй ірваліся ў бой.

Савецкая армія ў чэрвені 1944 года пачала грандыёзнае наступленне. Разам з савецкімі войскамі, фарсіраваўшы Буг, польскія воіны ўступілі на сваю родную зямлю.

Вызваліўшы гарады Холм і Люблін, савецкія і польскія войскі падышлі да Віслы. На ўсім шляху працоўныя Польшчы ўзрадавана, з кветкамі ў руках сустракалі сваіх вызваліцеляў — воінаў Савецкай Арміі і сваіх сыноў і братоў — воінаў польскага войска.

Цяжка словамі перадаць радасць людзей на польскай зямлі. Людзі захапляліся першакласнай зброяй, якую мела Польская армія, мужнасцю польскіх салдат і афіцэраў.

**Воіны Першай польскай дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі прымаюць прысягу на вернасць Радзіме.**





«Бітва пад Леніна». З карціны польскага мастака М. Быліны.

У Любліне быў цікавы выпадак. Да легкавой машыны, з якой выйшаў польскі палкоўнік, падышла старая жанчына і са слязамі на вачах ціха спытала:

— Можа пан палкоўнік дзенебудзь страчаў майго сына?

У некаторых бацькоў гэта мара ажыццявілася. Я не памятаю прозвішча таго маёра, які быў намеснікам па палітчастцы камандзіра артылерыйскага палка. Калі яго полк праходзіў па Люблiншчыне, на шляху трапілася вёска, дзе жылі яго бацькі. Маёр заехаў ў родную вёску. Нечаканае з'яўленне сына ў такі час усхвалявала не толькі яго родных, але і ўсіх вяскоўцаў. На двары сабраліся ўсе: мужчыны, жанчыны, дзеці. Стыхійна ўзнік мітынг, на якім выступіў з гарачай прамовай слаўны сын польскай арміі.

Насельніцтва вызваленага польскага краю цікавілася, якім будзе лад у Польшчы, як будзе наладжана жыццё. На ўсе гэтыя пытанні давалі адказы польскія і савецкія воіны.

У тыя дні часта выступаў перад народам намеснік камандуючага Польскай арміі генерал Аляксандр Завадскі, выступленні якога карысталіся вялікай папулярнасцю.

«Польскі народ, — гаварылася ў Маніфесце, які выдаў Камітэт нацыянальнага вызвалення, — вітае часці Арміі Людовай, якая аб'ядналася з часцямі Польскай арміі, створанай у СССР. У іх адзін вораг, адна барацьба, адны штандары. Салдаты Адзінага войска польскага разам з Чырвонай Арміяй будуць працягваць баі за вызваленне Айчыны».

Польскія войскі, вышаўшы да ракі Віслы, зрабілі спробу фарсіраваць яе. У раёне Дэмбліна рашуча дзейнічалі касцюшкаўцы. Пераправіўшыся цераз раку, яны захапілі плацдарм і расшырылі яго. Тут разгарнулася жорсткая бітва.

Старажытная крэпасць над Віслай — Дэмблін была захоплена касцюшкаўцамі. Вораг пакінуў у крэпасці вялікія запасы мукі, буйную хлебапякарню. На вачах праціўніка, пад варожымі кулямі і снарадамі, польскія салдаты разгарнулі работу па забеспячэнню сваіх часцей хлебам.

Савецкія войскі, працягваючы наступленне, выйшлі да Нарвы. На нашым напрамку — Варшава. Войскі 1-га Беларускага фронта, якім камандаваў маршал Ракасоўскі, рыхтаваліся да наступлення. У складзе яго і Першая дывізія імя Тадэуша Касцюшкі.

Падступы да Прагі — прадмесця Варшавы — былі ўмацаваны шматлікімі траншэямі з бетоннымі і землянымі перакрыццямі, супрацьтанкавымі рвамі і супрацьпяхотнымі загародамі.

Касцюшкаўцам была прыдана савецкая артылерыя. Напярэдадні наступлення ішла вялікая падрыхтоўчая работа. Начная цемра дрыжала ад гулу матораў. Да перадавых пазіцый падцягваліся гарматы, «кацюшы», танкі. Баявы настрой польскіх салдат рос, бо сярод іх падраздзяленняў знаходзіліся савецкія артылерыйскія батарэі. Цяжка перадаць, якой высокай была баявая садружнасць польскіх і савецкіх салдат. Прыемна было бачыць, як яны частавалі адзін аднаго папяросамі, прыгадвалі нядаўнія сумесныя баі... З радасцю глядзелі на ўсё гэта польскія людзі. Яны поўнасцю ўпэўніліся, што Савецкая Армія з'яўляецца іх вызваліцельніцай.



...10-га верасня 1944 года пасля двухгадзіннай артылерыйскай падрыхтоўкі польская пяхота рушыла наперад. Нягледзячы на танкавыя контратакі праціўніка і дзеянні фашысцкай авіяцыі, касцюшкаўцы адно за другім ламалі варожыя ўмацаванні.

У паветры таксама ішлі жорсткія баі. Савецкія знішчальнікі няспынна атакавалі фашысцкіх бамбардыроўшчыкаў, якія вязлі смертаносны груз на польскія пазіцыі. Адзін наш знішчальнік тараніў фашысцкага бамбардыроўшчыка, і ён разляцеўся на часткі. Тры лётчыкі згарэлі, а чацвёрты выкінуўся з парашутам. Нашы салдаты сустрэлі яго крыкамі: «Хутчэй! Хутчэй!»

Быў пашкоджаны і наш знішчальнік. Ахоплены полымем, ён хутка пачаў зніжацца. Лётчык выскачыў, але парашут яго не раскрыўся. З групай салдат мы падбеглі да героя, але ён ужо быў мёртвы. Імкнучыся выявіць, чаму не раскрыўся парашут, мы ўбачылі на грудзях лётчыка кулявыя прабоіны, і ўсё стала зразумела.

З кішэні гімнасцёркі мы дасталі пасведчанне, у якім было напісана: «Гвардыі маёр Лукін Пётр Пятровіч. Скончыў ваенна-паветраную акадэмію, ураджэнец г. Ленінграда».

Так загінуў смерцю героя савецкі лётчык у баі з фашыстамі, прыкрываючы ад налёту ворага сваіх баявых сяброў — польскіх салдат.

Савецкія і польскія войскі ўварваліся ў Прагу. Тры дні ішлі тут жорсткія вулічныя баі. На чацвёрты дзень — часці выйшлі да ракі Віслы.

Маршал Ракасоўскі даў высокую ацэнку касцюшкаўцам. На імя камандзіра дывізіі ён прыслаў падзяку, у якой гаварылася: «Першая дывізія паказала ўзор стойкасці і мужнасці ў наступленні. Выказваю яе салдатам, унцер-афіцэрам і афіцэрам падзяку за баявыя поспехі і жадаю далейшых перамог над агульным ворагам — нямецкімі захопнікамі».

Пасля пяцідзённых жорсткіх баёў Прага была вызвалена поўнасцю.

У студзені 1945 года савецкія войскі, зламаўшы супраціўленне ворага на Віслe, зноў рушылі ў наступленне. Ведучы ўпартыя баі, нашы часці абыходзілі Варшаву з флангаў, а 1-я Польская армія пад камандаваннем генерала Станіслава Паплаўскага 16 студзеня пачала наступ на цэнтральным участку і разгарнула баі ў Варшаве. 2-я пяхотная дывізія фарсіравала Віслу па ільду і павяла наступленне на Бяляны. Тры пяхотныя дывізіі прабіраліся цераз раку ў раёне сяла гары Кальварыі.

Генерал Кароль Сярчэўскі перад уступленнем на польскую зямлю гутарыць з афіцэрамі.



Варшава была вызвалена. Гэты цудоўны горад з выдатнымі гістарычнымі помнікамі, якія ад-

люструоўваюць шматвяковую культуру польскага народа, ляжаў у руінах. К вечару 17 студзеня ў горад пачалі вяртацца яго жыхары. Многія не маглі нават знайсці тое месца, дзе стаялі іх дамы.

У гонар вызвалення Варшавы 19 студзеня ў горадзе адбыўся парад 1-й і 2-й дывізій. Парад прымаў прэзідэнт Краёвай Рады Народовай Балеслаў Берут і галоўнакамандуючы Войскам Польскім генерал Жымерскі. Перад вачамі варшавян прайшла чоткім крокам праслаўленая ў баях польская пяхота, а за ёй — артылерыя і танкі. Польскі народ святкаваў вызваленне.

Сталіца Савецкага Саюза Масква ў гонар войск 1-га Беларускага фронта і 1-й арміі Войска Польскага, якія вызвалілі Варшаву, салютавала дваццаццю чатырма артылерыйскімі залпамі.

Неўзабаве польскія дывізіі, якія дзейнічалі ў цесным кантакце з савецкімі часцямі, па тэрыторыі Заходняй Памераніі вышлі к Балтыйскаму мору, дзе асабліва ўпартыя баі адбыліся за партовы горад Калобжэг.

У красавіку 1945 года Савецкая Армія займала лінію фронта па рэках Одэр і Нейсе, рыхтуючыся да рашучага ўдару па Берліну. На заходнім беразе гэтых рэк гітлераўцы стварылі моцную сістэму абароны і сканцэнтравалі шмат войск.

16 красавіка пасля дружнай артылерыйскай падрыхтоўкі і пад прыкрыццем артылерыйскага агню польскія дывізіі пачалі пераправуляцца цераз Одэр. Сапёры хутка навялі пантонны мост, па ім прайшлі артылерыя і лёгкія танкі. Цяжкія танкі пераправуляліся на паромах. Фашысты спрабавалі спыніць наступ, яны з паветра разбурылі мост, але ён хутка быў наладжаны зноў, і войскі рушылі далей...

Фарсіраваўшы Одэр, польская пяхота, артылерыя і танкі з баямі рухаліся наперад, крышачы варожыя ўмацаванні. На адным з участкаў удоўж пазіцый праходзіла чыгунка. Схаваўшыся за насыпам, фашысты шалёна супраціўляліся. Але вось падышлі магутныя танкі палкоўніка Янчылеўскага, і пяхота хутка зламала супраціўленне праціўніка.

Савецкія войскі, а разам з імі і 1-я Польская армія імкліва набліжалася да Берліна.

У апошнія дні красавіка савецкія войскі акружылі сталіцу Германіі. Разгарнулася вялікая бітва за горад, які быў ператвораны фашыстамі ў магутную крэпасць з падземнымі збудаваннямі, вулічнымі барыкадамі, замініраванымі дамамі.

Баі ішлі за кожны квартал, за кожны дом. Прасунуўшыся наперад, савецкія войскі захапілі аэрадром Тэмпельгоф і рушылі да рэйхстага...

У бітве за Берлін удзельнічала і Войска Польскае: 1-я пяхотная дывізія імя Тадэуша Касцюшкі, 1-я асобная мінамётная брыгада, 2-я брыгада лёгкіх гаубіц, 1-ы Пражскі пяхотны полк і іншыя.

Слаўныя касцюшкаўцы адважна змагаліся на вуліцах Берлінерштрасе, Бісмаркштрасе, Гётэштрасе і іншых. Яны захапілі політэхнічны інстытут, падземны завод і іншыя аб'екты.

2-га мая Берлін быў узяты. Савецкія і польскія арміі прадаўжалі імклівае наступленне да Эльбы...

Салдаты дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі, якія пачалі свой баявы шлях на беларускай зямлі, на ўсім сваім баявым шляху ваявалі поплеч са сваімі баявымі таварышамі па зброі — воінамі слаўнай Савецкай Арміі.

Заўсёды ўспамінаю са шчырай павагай сваіх баявых сяброў-палякаў Ластоўскіх (браты, абодва афіцэры), Клоса, Опалка, Вайтовіча, Майхровіча, Губерта і многіх другіх, з якімі поплеч ваявалі, ішлі па цяжкай дарозе на Берлін.

Дружба савецкага і польскага народаў асабліва ўмацавалася і загартавалася ў векапомныя гады супольнай барацьбы супраць гітлераўскіх захопнікаў.



Самалёт Паўла Галавачова.

В. ШАЦКІ

# ГЕРОЙ ПАВЕТРАНЫХ БАЁЎ

Наш зямляк, колішні камсамолец з вёскі Кашалёва на Гомельшчыне Павел Якаўлевіч Галавачоў праславіўся ў гады Вялікай Айчыннай вайны як герой паветраных баёў. Пад Сталінградам, у Крыму, на Кубані, у Прыбалтыцы, ва Усходняй Прусіі, у Берліне адважна граміў ён ворага. Чатырыста пяцьдзесят баявых вылетаў, сто дваццаць пяць паветраных баёў, трыццаць адзін збіты самалёт — на рахунку Паўла Якаўлевіча.

За гераізм і бясстрашша П. Я. Галавачоў узнагароджаны некалькімі ордэнамі і медалямі і двойчы ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

Ніжэй расказваецца аб некаторых баявых эпізодах з яго ўдзелам.

Штаб авіяпалка. У вокны свеціць сонца, і на шырокі дубовы стол падае шмат святла. Палкоўнік Шастакоў вось ужо колькі мінут стаіць над картай Сталінграда і робіць паметкі чырвоным алоўкам. Побач з ім — два старшыя лейтэнанты.

— Прашу, — сказаў палкоўнік і кіўком галавы запрасіў афіцэраў да сябе. — Фашысты не чакаюць начных баёў, гэта вы правільна заўважылі. У дваццаць адну гадзіну пойдзеце насустрач ворагу вось у гэтым напрамку.

...Павел Якаўлевіч Галавачоў і татарын Амет-Хан Султан вылецелі насустрач вялікай групе варожых бамбардыроўшчыкаў. Іх было каля трыццаці. «Юнкерсы» з водбліскамі матавых навігацыйных агнёў ішлі крыху лявей.

Амет-Хан Султан і Павел Галавачоў апускаюцца ніжэй «юнкерсаў» метраў на дзвесце і пачы-

наюць атаку. Першым адкрыў агонь Галавачоў. Чырвонай строчкай вырвалася траса. Калі ён вышаў з атакі, каб узяць на прыцэл чарговы самалёт, то ўбачыў: дзесьці ўнізе гарэў «юнкерс». «Нядрэнна», — падумаў Галавачоў.

Амет-Хан дакладваў:

— «Граза»! Я — «Прамень». Збіў двух. Атакуюць мяне.

— Я — «Граза». Зразумеў. — Галавачоў накіраваў свой знішчальнік на выручку таварышу.

Белыя навігацыйныя агні нашых самалётаў выдавалі іх. Суправаджаючыя «юнкерсаў» «месеры» з кожнай мінутай усё больш насядалі на нашых лётчыкаў.

— «Прамень»! «Прамень»! Хамелеон!

— Я — «Прамень». Зразумела.

Слова «хамелеон» азначала змяніць белыя агні на матавыя, — для гэтага раней усё было падрыхтавана. Гэты ж умоўны сігнал азначаў, што Амет-Хану неабходна выйсці з бою і на вялікай хуткасці ісці на свой бок.

Застаўшыся адзін, Павел Галавачоў запаліў матавы сігнал і завёў у заблуджэнне гітлераўскіх пілатаў. Яны спынілі агонь. Павел Галавачоў пачаў расстрэльваць варожыя машыны.

...Самалёт Паўла Галавачова сустракаў сам палкоўнік Шастакоў.

* * *

Аднойчы ў паветраным баі Галавачоў зноў застаўся адзін сярод ворагаў. Збіты яшчэ адзін «юнкерс». Вось ён стырчком пайшоў уніз. І ў гэты ж час самалёт Галавачова кінула ўбок. Здалося, што нехта вялізным молатам ударыў па кабіне.

Трацячы прытомнасць, Галавачоў падумаў: «Хутчэй вывесці самалёт».

Толькі на другі дзень ён апрытомнеў у шпіталі. Твар і галава былі туга забінтаваны, губы з цяжкасцю варушыліся. Галавачоў, правёўшы языком па дзяснах, адчуў — зубоў нехапае. Рука міжволі пацягнулася да твару.

— Як адчуваеце сябе, хворы? — пытаўся мужчына хрыплаватым, густым басам.

— Што з маімі вачыма? — запытаў Галавачоў.

— Усё будзе добра...

Ішлі дні.

Кожны раз, калі ён пытаў, ці хутка з вачэй знімуць павязку, яму адказвалі адно і тое ж: «Усё будзе добра».

На Галавачова напала бяссонніца. Вось ён ляжыць і ўспамінае дзень за днём усё сваё жыццё.

Раптам думкі яго перабівае гучная размова:

— Філатаў нікога не дазволіў пускаць.

— Калі ласка, прашу вас...

— Ліза, прапусціце яго, — папрасіў медсястру Галавачоў.

— Толькі на мінуту, не больш, — згадзілася тая.

Амет-Хан прысеў побач. Ён распытваў аб здароўі, расказаў, як падбілі Паўла.

— У той час я быў на НП, — гаварыў Амет-Хан. — Твая «кобра» ішла ўніз. Я не вытрымаў, заплюшчыў вочы. А калі паглядзеў — хвост дагараў ля самага Дона, а фюзеляж каціўся па беразе. Адтуль мы і забралі цябе...

— А што з маімі вачыма было?

— Нічога, — спакойна адказаў Амет-Хан.

— Скажы праўду...

— Акулярамі крыху параніў... А што ўрачы кажуць?

Галавачоў маўчаў.

І вось, нарэшце, прышоў доўгачаканы дзень. Прафесар пачаў разбінтоўваць вочы. Ніколі не было так трывожна на сэрцы, як у тыя хвіліны.

— З якога вы года?

— З семнаццатага, — адказаў Галавачоў, не разумеючы, навошта гэта спатрэбілася хірургу. А потым мільганула здагадка: адцягвае ўвагу.

— Што вы бачыце?

Вейкі падняліся, і перад вачыма — густая з сівізною барада.

— Што вы бачыце?

— Сівая барада. Гарыць святло... Белая столь, — хутка, баючыся, што зноў не ўбачыць усяго гэтага, гаварыў Галавачоў.





**Двойчы Герой Савецкага Саюза Павел Галавачоў (1945 г.).**

— Ну вось, галубок, вы і бачыце.

— А лётаць?

— І лётаць будзеце, галубок.

* * *

Ішоў сорак трэці год. Савецкая Армія ўжо вызваліла Сальскія стэпы і рухалася на захад. Вораг жорстка супраціўляўся, трымаючыся на правым беразе Дона.

Нашы лётчыкі, прымяняючы «этажэрку», — новую тактыку паветранага бою, — трымалі пад кантролем лінію фронта; фашысты спрабавалі рабіць масавыя налёты на нашы аб'екты.

У адзін з такіх дзён чатыры савецкія знішчальнікі пад камандай гвардыі старшага лейтэнанта Паўла Галавачова дзяжурылі ў небе на вышыні пяці тысяч метраў. Зверху здавалася, што воблакі быццам застылі на адным месцы і нагадвалі гурбы снегу.

Лётчыкі Бераснёў, Стопа і Кароўкін час-ад-часу дакладвалі свайму камандзіру аб становішчы ў зоне. І вось амаль перад заканчэннем дзяжурства Павел пачуў даклад Стопы:

— «Граза»! «Граза»! Я — «Ураган». З захаду — самалёты.

— Я — «Граза». Зразумеў. «Ураган», «Радзіма», «Ястраб», атакуйце ворага! — загадаў камандзір. Сам набраў вышыню і пайшоў у лабавую атаку на флагманскую машыну.

З зямлі паведамілі: «У паветры — сто нямецкіх бамбардыроўшчыкаў у суправаджэнні шасцідзесяці «месершмітаў». Ідуць на вашай вышыні».

Павел міжволі падумаў: «Учатырох супраць такой сілы». Яго «як» на вялікай хуткасці панёсся насустрач ворагу. Павел націснуў гашэтку. Снарад трапна лёг у цэль. Флагманская машына загарэлася і ткнулася ў свой жа бамбардыроўшчык. Баявы строй нямецкіх самалётаў быў парушаны. У паніцы фашысты скідалі бомбы на сваіх.

— «Граза»! Я — «Радзіма». Выбыў са строю матор.

— Ідзі на свой аэрадром. «Ястраб», прыкрывай «Радзіму».

Хутка з боку Растова з'явілася буйнае злучэнне нашых самалётаў.

— «Ураган»! «Ураган»! Я — «Граза». Да нас ідзе падмацаванне.

— «Граза»! Я — «Ураган». Скончыліся боепрыпасы. Іду на таран.

Павел убачыў злева ад сябе два самалёты, якія пайшлі да зямлі. Праз некаторы час там, дзе прайшоў палаючы «як», з'явіўся белы купал парашута. Гэта лейтэнант Стопа выкінуўся над зонай варожай тэрыторыі.

Павел вырашыў выратаваць таварыша. Зрабіўшы некалькі разваротаў над месцам прызямлення Стопы, ён пайшоў на пасадку.

Фашысцкія матацыклісты ўжо імчалі сюды. Брэх сабак даносіўся ўсё бліжэй. Пад крылом самалёта замільгалі кусты, шырокая светла-блакітная паласа Дона.

— Пацярпі, браток, хутка будзем дома, — шаптаў Павел Галавачоў, саджаючы таварыша ў самалёт.

*Давайце пагаворым...*

# ЯК ВЫ ЎЯЎЛЯЕЦЕ ВОБЛІК МАЛАДОГА ЧАЛАВЕКА ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ГОД?

**Няспынным поступам ідзе наш народ да камунізма. Нязломнай воляй і нястомнымі рукамі чалавека пераўтвараецца зямля. Нам пашчаслівіла быць удзельнікамі найвялікшых падзей, якія толькі ведала гісторыя. Блякне нават самая яркая фантазія летуценнікаў усіх мінулых стагоддзяў перад тым, што адбываецца сёння перад нашымі вачыма... Энергія расшчэпленага атама ў нашай краіне асвятляе дамы і прыводзіць у рух машыны; вакол Сонца лётае першая штучная планета, створаная савецкімі людзьмі; на нядаўняй цаліне, дзе спрадвеку драмалі дзірваны, шумяць калоссем небывалыя ўраджаі... Але змяняецца не толькі навакольны свет. Змяняюцца і самі людзі — творцы ўсяго прыгожага на зямлі. Няспынна расце іх свядомасць, культура; шырэе кругагляд, харашэюць душы... Чым бліжэй падыходзім мы да нашай запаветнай мэты, тым яскравей вырысоўваецца перад намі грамадзянскі і маральны воблік чалавека камуністычнага грамадства. Наша сонечнае заўтра нараджаецца сёння. Хіба не аб гэтым сведчыць такая цудоўная з'ява нашых дзён, як усенародны рух у нашай краіне за стварэнне брыгад камуністычнай працы! З кожным годам гэты рух будзе набываць усё шырэйшы размах, аб'ядноўваючы новыя і новыя атрады маладых будаўнікоў камунізма.**

**Давайце перанясемся ў думках у недалёкую будучыню — праз дзесяць год — і паспрабуем сабе ўявіць маральны воблік маладога жыхара нашай краіны гэтага часу. Якімі будуць яго адносіны да працы, да сваіх таварышаў, сяброў і блізкіх! Як ён павінен паводзіць сябе ў сям'і, у быце. Якім павінен быць яго маральны воблік!**

**Рэдакцыя спадзяецца, што на ўсе гэтыя пытанні чытачы прышлюць у часопіс свае адказы.**

**Чакаем вашых пісьмаў, сябры!**

**М. ЛЯВІЦКІ,**
**кандыдат педагагічных навук,**
**заг. кафедры педагогікі Брэсцкага педагагічнага інстытута**

# АБ ТЫХ, ХТО ПАВІНЕН ВЫХОЎВАЦЬ

Праца педагога ў нашай краіне — вельмі складаная. І гэта зразумела. Сацыялістычнае грамадства патрабуе ад яго выхоўваць наша маладое пакаленне гарманічна развітым, усебакова адукаваным, здольным да барацьбы за камуністычныя ідэалы.

Складаныя задачы ў выхаванні моладзі ўзніклі з першых жа дзён савецкай улады, калі ўпершыню ў сусветнай гісторыі былі закладзены асновы новай, савецкай школы. Савецкая школа, яе педагогіка маюць сусветна-гістарычнае значэнне. Савецкая педагагічная думка аказвае вялікі ўплыў на перадавую педагагічную думку за мяжою, асабліва ў краінах народнай дэмакратыі.

Цяпер савецкая школа, а разам з ёю і наша педагогіка, робяць новы крок уперад.

У сувязі з новымі задачамі, якія стаяць перад школай, хочацца выказаць свае меркаванні і перш за ўсё аб падрыхтоўцы настаўнікаў. Побач з многім добрым у рабоце педагагічных інстытутаў ёсць нямала недахопаў. І калі ад іх не пазбавіцца зараз, пасля яны створаць шмат перашкод на шляху далейшага развіцця школы.

Педагагічныя інстытуты сваёю галоўнаю мэтаю лічаць выхаванне людзей, якія валодаюць адпаведным запасам ведаў, але мала ўдзяляюць увагі выхаванню, калі можна так сказаць, творчай стрункі будучага настаўніка. І вінавата ў гэтым, галоўным чынам, празмерная перагрузка студэнтаў і рэгламентацыя іх абавязковай працы, якая дасягнула недапушчальных памераў. Пры гэтых умовах у студэнта не застаецца ні часу, ні магчымасцей для развіцця творчых здольнасцей, для павышэння агульнага культурнага ўзроўню. А выхаваць педагога-творцу вельмі складана і цяжка.

У першую чаргу хочацца адзначыць, што нярэдка ў пэдінстытуты прымаюцца людзі, якія ні па сваіх здольнасцях, ні па прызванню не могуць быць сапраўднымі настаўнікамі. А правілы прыёму ў ВНУ настолькі фармальныя, што не даюць магчымасці рабіць папярэдні адбор сапраўды вартых для гэтай спецыяльнасці людзей. Часам коска ў сачыненні вырашае лёс чалавека і пазбаўляе магчымасці сапраўды здольнаму да педагагічнай працы юнаку ці дзяўчыне стаць педагогам. Сотні такіх людзей-педагогаў па прызванню застаюцца па-за сценамі педагагічных інстытутаў.

Камплектаванне студэнцкага складу педагагічных інстытутаў не павінна быць справай толькі адных прыёмных камісій. Год дзесяць таму назад прыёмам будучых студэнтаў у ВНУ з педагагічным профілем займаліся, — і займаліся сур'ёзна, — камсамольскія арганізацыі на месцах. Ці не варта аднавіць гэтую добрую традыцыю? Камсамол жа мае добрыя кадры піянерскіх работнікаў, якія з вялікаю ахвотаю пойдуць вучыцца ў пэдінстытут. Нам здаецца, што ўжо з наступнага лета трэба прымаць заявы аб жаданні вучыцца ў педагагічных ВНУ толькі ад тых, хто побач з іншымі дакументамі мае рэкамендацыю педагагічнага савета школы і характарыстыку камсамольскай арганізацыі з месца работы. А што ж рабіць з некамсамольскай моладдзю? Трэба, каб яна звярталася за рэкамендацыяй у камсамольскую арганізацыю. А далей на працягу ўсіх пяці год навучання камсамольская арганізацыя павінна несці адказнасць за рэкамендаванага ёю юнака ці дзяўчыну.

Цяпер звыш 80 працэнтаў усіх студэнтаў педагагічных ВНУ складаюць дзяўчаты. Жанчыны-настаўніцы, безумоў-

на, патрэбны для нашай школы. Але трэба павялічыць у сетцы педагагічных кадраў колькасць мужчын. Асабліва пажадана павелічэнне мужчын-педагогаў у старэйшых класах школы, дзе іх уплыў на юнакоў значна большы. Гэта таксама павінна стаць справай клопату камсамола.

Пры такіх абмежаваннях для паступлення ў педагагічныя ВНУ экзаменацыйныя адзнакі не будуць адзіным крытэрыем адбору ў інстытуты. Прыёмныя камісіі павінны атрымаць права ўлічваць гэты агульны комплекс патрабаванняў пры залічэнні ў інстытуты.

Але вось малады чалавек паступіў у вышэйшую навучальную ўстанову. І тут ён яшчэ вельмі доўга адчувае сябе *школьнікам*. Увесь свой час ён траціць на пісанне канспектаў і падрыхтоўку да семінараў і практычных заняткаў (што вельмі нагадвае тыя ж урокі). Вядома, яму гавораць, і нямала, пра самастойную працу. Спачатку ён спасылаецца на тое, што нехапае часу, а потым прывыкае да такіх напамінкаў і *проста адмоўчваецца*.

Нам здаецца, што ў першую чаргу трэба скараціць колькасць вучэбных прадметаў у педагагічных ВНУ. Зусім слушна гаворыць акадэмік А. Н. Несмяянаў, што вышэйшая адукацыя — гэта не скарбонка, якая дазваляе збіраць веды безадносна да таго, якім шляхам гэтыя веды набыты. *Калі веды набываюцца* шляхам механічнага завучвання і не садзейнічаюць развіццю творчых здольнасцей будучага педагога, дык яны застаюцца мёртвым грузам у яго памяці і вельмі мала дапамогуць потым у рабоце.

Павінна быць асуджана з гэтага пункту погляду тое, што ў педагагічных інстытутах залішне многа ільгот даецца тым студэнтам, якія на экзаменах адказваюць па ўсіх прадметах выдатна, але недастаткова ўдзяляецца ўвагі студэнтам, якія выяўляюць свае творчыя здольнасці ў якой-небудзь адной галіне навукі, хоць па другіх прадметах вучацца сярэдне.

І да гэтага часу ў нашых педагагічных ВНУ лекцыя лічыцца асноўнай формай навучання студэнтаў. Лектары ў сваёй большасці лічаць сваім абавязкам выкладанне ўсёй *праграмы* цалкам. Пры такім становішчы прафесару або дацэнту няма ніякай магчымасці рабіць свае лекцыі творчымі, уключаць у іх вынікі самастойнага даследавання. Не да гэтага ім. Добра, калі ўдасца закрануць усе пытанні падручніка. К канцу курса ў студэнта на руках — тоўстыя *фаліянты канспектаў*, якія трэба да экзаменаў абавязкова і дакладна засвоіць. Сярэдні студэнт так і вучыцца ўсе пяць год па канспектах. Калі ён пасядзіць адну-дзве ночы над падручнікам, дык гэта ўжо вельмі добра. Так будучы настаўнік адвыкае ад самастойнай работы, прывыкае карыстацца гатовым, разжаваным.

Шматгадовы вопыт работы ў ВНУ сведчыць, што па вельмі многіх прадметах можна лёгка скараціць амаль удвая колькасць лекцый. У лекцыі павінны ўключацца *вынікі навуковых даследаванняў* лектара, той матэрыял, які яшчэ не апублікаваны ў друку, або раскрывацца асабліва складаныя праблемы данага курса. І толькі. Увесь асноўны аб'ём ведаў па кожнай дысцыпліне студэнт павінен набываць самастойна пад кіраўніцтвам педагога. З гэтай мэтай добра было б зрабіць традыцыяй абмен высокакваліфікаванымі лектарамі паміж ВНУ рэспублікі і, магчыма, нават паміж рэспублікамі.

Пры такой перабудове вучэбнай работы зменіцца характар семінарскіх заняткаў. У вельмі многіх выпадках, асабліва па гуманітарных дысцыплінах, на семінарскіх занятках цяпер развучваюць лекцыйны матэрыял. Шкалярства — вось што нярэдка характарызуе методыку семінарскіх заняткаў. А на семінарах павінны абагульняцца вынікі самастойнай работы студэнтаў. Часцей трэба практыкаваць студэнцкія даклады і рэфераты, і ў многіх выпадках даваць права самім студэнтам выбіраць тэмы для семінарскіх заняткаў.

Канешне, са змяненнем форм вучэбнай работы зменіцца і характар экзаменаў. Нам здаецца, варта адмовіцца ад экзаменацыйных білетаў. Недапушчальна тое, што студэнт мае права на атрыманне дадатнай адзнакі незалежна ад таго, як ён набыў веды—у выніку механічнага завучвання ці самастойнай творчай работы. Формай экзаменаў *павінна быць непасрэдная творчая гутарка* паміж педагогам і студэнтам, і, вядома, не 15—20-мінутная. Час гэты павінен займаць столькі, колькі патрабуецца педагогу на высвятленне сапраўдных ведаў студэнта. На наш погляд, студэнтам трэба даць права здаваць экзамены на працягу ўсяго года. Арыентацыя на экзаменацыйную сесію прыводзіць да таго, што студэнты на працягу семестра займаюцца не ў поўную сілу, пераносячы асноўную працу на дні перад экзаменамі. З іроніяй студэнты распяваюць цяпер:

> «Студент бывает весел от сессии до сессии,
> *А сессии всего два раза в год».*

Вядома, што ў перанапружаныя дні сесіі не да весялосці!

Час таксама перагледзець многае і ў характары дзяржаўных экзаменаў. Месяца, які атрымлівае студэнт на падрыхтоўку да дзяржаўных экзаменаў па чатырох прадметах хапае, у лепшым выпадку, толькі на тое, каб паспешліва і абы-як узнавіць у памяці тое, што забыта. Нам здаецца, што мэтазгодна рабіць дзяржаўныя экзамены па двух прадметах. Напрыклад, рабіць экзамен па педагогіцы для выпускнікоў нам здаецца непатрэбным. Правільным было б замяніць гэты экзамен дыпломнай работай з наступнай абаронай яе. Над дыпломнай работай па педагогіцы студэнт пачынае працаваць з IV курса. Такі шлях будзе стымулам для творчай работы студэнта над якой-небудзь педагагічнай праблемаю і дасць магчымасць высветліць ступень педагагічнай сталасці будучага настаўніка.



Час таксама ўзаконіць такое становішча, пры якім студэнт, пачынаючы з першага курса і да заканчэння інстытута, падтрымлівае сталую сувязь са школай. Мы маем на ўвазе наступны парадак: на першым курсе ўсе студэнты выконваюць абавязкі кіраўнікоў акцябрацкіх груп, на другім — важатых піянерскіх атрадаў, на трэцім — памочнікаў класных кіраўнікоў, а педагагічная практыка вядзецца на чацвёртым і пятым курсах і размяркоўваецца на ўвесь вучэбны год. Вопыт паказвае, што правядзенне педпрактыкі ў тэрмін за некалькі тыдняў наносіць шкоду перш за ўсё сістэме выхаваўчай работы.

Можна чакаць, што пры такой перабудове вучэбнага працэсу ў педагагічных інстытутах да заканчэння тэрміну вучобы частка студэнтаў адсеецца. Але гэта не бяда. Савецкай школе патрэбны не абы-якія настаўнікі. Толькі людзі, здольныя творча падыходзіць да выхавання моладзі, людзі з высокім узроўнем разумовага развіцця, палітычна сталыя змогуць ажыццявіць грандыёзную задачу камуністычнага выхавання моладзі, якую паставіла партыя.

Не трэба забываць таксама, што настаўніцкая праца ў новай школе, заснаванай на ўсебаковым развіцці творчых сіл нашай моладзі, на сувязі яе з жыццём, на спалучэнні навучання з вытворчай працай — усё гэта будзе справай вельмі складанай, якая патрабуе высокакваліфікаваных педагогаў. Таму перабудова методыкі навучання ў педагагічных інстытутах павінна папярэднічаць па часу перабудове школы, быць ажыццёўленай у больш сціслыя тэрміны.

*На антырэлігійныя тэмы*

**Т. ШЧАРБАКОВА,**
**кандыдат біялагічных навук**

# ЯК УЗНІКЛА ЖЫЦЦЁ НА ЗЯМЛІ

Наша планета населена вялікай колькасцю жывых істот. Біёлагі падлічылі, што на Зямлі жыве каля двух мільёнаў розных жывёл, больш чатырохсот тысяч відаў раслін. Калі ж сюды дадаць яшчэ прадстаўнікоў свету нябачных істот — мікробаў, дык гэтыя лічбы стануць сапраўды астранамічнымі.

Адкуль жа з'явілася гэтая велізарная разнастайнасць жывых істот, якія насяляюць Зямлю? Як узнікла само жыццё?

Паводле рэлігійных уяўленняў, усё жывое на зямлі ад бога. У біблії сказана, што свет створаны богам за шэсць дзён. Вянцом боскага тварэння быў чалавек. Першага чалавека, Адама, бог стварыў на шосты дзень — вылепіў з гліны і ўдыхнуў у яго душу...

Але дапытлівую чалавечую думку не задавальнялі біблейскія казкі. Таямніца паходжання жыцця з незапомных часоў прыцягвала да сябе ўвагу вучоных. Здаўна ішла жорсткая барацьба паміж навуковымі і рэлігійнымі меркаваннямі аб узнікненні жыцця.

Перанясемся ў думках да ранняй пары еўрапейскай культуры, у старажытную Грэцыю. Антычныя філосафы Дэмакрыт, Эпікур, Лукрэцый упершыню паставілі пад сумненне біблейскія казкі аб утварэнні свету богам, выказаўшы думку, што жывыя істоты з'явіліся на Зямлі не па волі бога, а паводле натуральных, прыродных прычын. Але не маючы дадзеных, якія атрымала сучасная навука, яны не маглі правільна вырашыць пытанне аб узнікненні жыцця. Яны прыходзілі да думкі, што жывыя арганізмы самазараджаюцца з мёртвай прыроды. Шмат стагоддзяў панавала ідэя самазараджэння. Так, Арыстотэль лічыў, што ў прыродзе ёсць два спосабы з'яўлення жывых істот. Першы спосаб заключаецца ў тым, што арганізмы нараджаюцца ад сабе падобных. Але ёсць яшчэ і адвольнае зараджэнне. Вясновы дождж увільготніць кучу гною, гарачае сонца сагрэе рачны глей — у гэтых нежывых рэчывах узнікае жыццё. З гною развіваюцца чэрві, з глею зараджаюцца ракі, слізнякі, рыбы...

Арыстотэль глыбока памыляўся, ствараючы сваё вучэнне аб адвольным зараджэнні. І здавалася, няцяжка было ўбачыць памылку Арыстотэля: варта было толькі зрабіць дакладныя нагляданні. Але аўтарытэт Арыстотэля быў настолькі вялікі, што праходзілі стагоддзі, адны пакаленні людзей змяняліся другімі, а яго вучэнне жыло побач з верай у бога і ў стварэнне свету па боскай волі.

У XVII стагоддзі было зроблена адно з найвялікшых адкрыццяў навукі: адкрыццё галандцам Левенгукам свету мікраскапічных істот — «дробных звяркоў», як іх называў Левенгук. Адкрыццё Левенгука скалыхнула тагачасны адукаваны свет. Вучоныя пры дапамозе мікраскопаў пачалі знаходзіць мікраарганізмы ўсюды: у гнілым мясе, у кіслым малацэ, у сыры. Варта было толькі пакінуць на дзень-два рэчыва, якое можа загнісці,



як у ім з'яўляліся мільёны жывых істот. Левенгук лічыў, што гэтыя жывыя істоты трапляюць у гнілыя прадукты з паветра, разам з пылам. Але адкуль яны бяруцца ў паветры?

Спатрэбілася яшчэ сто з лішнім год, каб даказаць, што мікробы, як і іншыя жывыя істоты, развіваюцца толькі ад сябе падобных. Гэта было зроблена вялікім французскім вучоным Пастэрам.

Пастэр напаўняў шкляныя колбы праваранным спажыўным бульёнам, выцягваў гарлавінкі колбаў у доўгія гнутыя трубкі і пакідаў канцы трубак незапаянымі. Паветра свабодна пранікала праз трубку ў колбу, але пылінкі, і разам з імі споры мікраарганізмаў асядалі на яе выгнутых сценках. На працягу доўгага часу бульён у колбах заставаўся празрыстым — ніякага жыцця ў ім не ўзнікала. Сваімі вопытамі Пастэр канчаткова ўстанавіў, што адвольнага зараджэння мікробаў не адбываецца. Ідэя адвольнага зараджэння была ім канчаткова абвергнута.

Але па-ранейшаму заставалася адкрытым пытанне: як жа ўзніклі першыя жывыя істоты, адкуль яны ўзяліся на Зямлі?

Думкі вучоных па гэтаму пытанню разышліся. Адны сцвярджалі, што жыццё ніколі і не ўзнікала, што яно існуе вечна. Другія лічылі, што жыццё атрымала свой пачатак не на Зямлі, а недзе ў сусветнай прасторы. Адтуль зародкі жыцця пранікнілі на Зямлю і тут размножыліся.

Як жа вырашаецца гэтае пытанне цяпер? Сучасная навука не адмаўляе магчымасці існавання жыцця на іншых планетах. У свой час Ф. Энгельс пісаў, што жыццё на розных нябесных целах павінна ўзнікаць нанова кожны раз, як толькі складуцца адпаведныя ўмовы. Работамі савецкага прафесара Г. А. Ціхава даказана, што на Марсе ёсць расліннасць. Але сучасныя веды аб фізічных умовах міжпланетнай прасторы гавораць за тое, што ніякія зародкі жыцця не маглі быць занесены на Зямлю з іншых планет. Моцнае ўльтрафіялетавае выпрамяненне, якое існуе па-за межамі зямной атмасферы, згубнае для ўсяго жывога. Значыць, гіпотэза аб занясенні на Зямлю зародкаў з іншых планет павінна быць абвергнута. Застаецца, такім чынам, толькі адно меркаванне: жыццё на Зямлі ўзнікла з неарганічнай прыроды на пэўным этапе яе развіцця.

Арганічныя рэчывы, з якіх складаюцца целы жывёл і раслін, утвораны з тых жа хімічных элементаў, што і неарганічная прырода. Жыццё — толькі асобая форма руху гэтых элементаў. Каб уявіць сабе ўзнікненне жыцця, трэба толькі звярнуцца да вывучэння гісторыі хімічных рэчываў, якія ўваходзяць у склад целаў жывых істот, звярнуцца да гісторыі ўзнікнення нашай планеты.

Сучасная навука мае велізарны фактычны матэрыял, які датычыць гісторыі развіцця Зямлі. Узровень развіцця навукі ў сучасны момант настолькі высокі і магчымасці раскрыцця таямніц прыроды настолькі вялікія, што можна з упэўненасцю сказаць: вырашэнне праблемы ўзнікнення жыцця, якая шмат стагоддзяў хвалявала дапытлівыя розумы чалавецтва,— справа недалёкай будучыні.

У 1957 годзе мы былі сведкамі надзвычай знамянальнай падзеі: у Маскве па ініцыятыве Акадэміі навук сабраўся Міжнародны сімпозіум па праблеме паходжання жыцця. Гэта сведчыць аб тым, што вучоныя розных краін і розных спецыяльнасцей аб'ядналі свае намаганні ў барацьбе за вырашэнне гэтай найвялікшай праблемы сучаснага прыродазнаўства.

Згодна сучасным навуковым дадзеным, Зямля, як і іншыя планеты сонечнай сістэмы, узнікла з халоднага газа-пылавога воблака, якое было ў экватарыяльнай плоскасці Сонца. Рэчыва Зямлі цесна звязана з рэчывам Сонца, і ўзрост яго вызначаецца, прыкладна, у 5—7 мільярдаў год. Вобразна гаворачы, Зямля — гэта кропля Сонца, якая згусцілася. Газавае воблака паступова дыферэнцыравалася, утварылася больш шчыльнае і цяжкае ядро нашай планеты і больш лёгкая газавая абалонка — пярвічная атмасфера. У яе склад уваходзілі спачатку толькі вадарод і гелій, але паступова яна ўзбагачалася іншымі газамі.

Паводле тэорыі О. Ю. Шмідта, у складзе газава-пылавой матэрыі, з якой утварылася наша планета, былі прасцейшыя арганічныя злучэнні: вуглявадароды, якія складаліся з вугляроду і вадароду, газ аміяк, які ўяўляе сабою злучэнне азоту і вадароду, і вада ў выглядзе крышталяў ільду. Колькасць гэтых арганічных злучэнняў, якія ўтварыліся без удзелу жывых арганізмаў, магла быць вельмі вялікай.

Паступова зямныя нетры разаграваліся, таму што пры распадзе радыёактыўных рэчываў, якія ўваходзілі ў іх склад, вылучалася шмат цяпла. Тэмпература паверхні Зямлі ў той

перыяд была вышэй 100 градусаў. Пры павышэнні тэмпературы Зямлі вуглявадародныя злучэнні сталі прасочвацца да паверхні і вылучацца ў атмасферу.

Далейшая эвалюцыя Зямлі суправаджалася паступовым зніжэннем тэмпературы яе паверхні (цяпер сярэдняя тэмпература зямной паверхні — каля 0 градусаў). У працэсе астывання Зямлі з яе нетраў, у выніку бурных вулканічных вывяржэнняў, выдзялялася велізарная колькасць вадзяной пары, за кошт якой і стваралася вада сучасных акіянаў. З прычыны няспыннага кругавароту вады адбывалася ўзбагачэнне яе мінеральнымі солямі. Рэкі размывалі мацерыкі і прыносілі прадукты размыву ў акіян. Узбагачэнне вады адбывалася і за кошт размыву дна акіяна. Так паступова стваралася багатае рознымі хімічнымі, у тым ліку і арганічнымі, злучэннямі воднае асяроддзе, без якога жыццё не магло б узнікнуць. Фізіка-хімічныя ўмовы старажытных акіянаў садзейнічалі ўзнікненню больш складаных арганічных злучэнняў, тыпу цукру, тлушчаў, прасцейшых бялкоў, з раствораных у вадзе пярвічных форм вуглародных і азотных злучэнняў. Магчымасць ажыццяўлення падобных рэакцый была навукова даказана.

Вядомы рускі хімік А. М. Бутлераў выявіў, што раствор фармаліну ў вапнавай вадзе набывае салодкі смак, калі сасуд з растворам на працягу некаторага часу трымаць у цяпле. Салодкі смак раствору абумоўлены ўтварэннем у ім цукру. Адзін з буйнейшых савецкіх біяхімікаў акадэмік А. Н. Бах атрымаў бялковападобнае рэчыва, калі ён захоўваў на працягу доўгага часу раствор сумесі фармаліну з цыяністым каліем. Такія бялковападобныя рэчывы маглі ўтварацца ў водах старажытных акіянаў.

Малекулы бялковападобных рэчываў валодаюць дзіўнай здольнасцю аб'ядноўвацца. У выніку ўтвараюцца комплексныя бялковыя сістэмы, а затым адасобленыя камячкі бялку, або як іх называюць — каацарваты. Каацарвацыя, на думку акадэміка А. І. Апарына, з'яўляецца самым магутным сродкам канцэнтравання высокамалекулярных злучэнняў з іх разбаўленых раствораў. Утварэнне такіх каацарватаў і павінна было адбывацца ў водах старажытных акіянаў, багатых рознымі арганічнымі рэчывамі.

Далейшая эвалюцыя каацарватаў адбывалася ў цесным узаемадзеянні з акаляючым асяроддзем. Бялковыя кроплі з самага пачатку свайго ўзнікнення мелі характар адкрытых сістэм: рэчывы, раствораныя ў акаляючым кроплю асяроддзі, маглі свабодна пранікаць у яго і ўзаемадзейнічаць з арганічнымі злучэннямі, якія складалі гэтае асяроддзе. Асаблівасці фізіка-хімічнай арганізацыі кожнай асобнай бялковай кроплі ўплывалі на хімічныя працэсы, якія адбываліся ў ёй. Адны з іх садзейнічалі стварэнню большай дынамічнай ўстойлівасці кроплі, другія, наадварот, прыводзілі да яе знікнення. Такім чынам, ужо на гэтай ранняй стадыі эвалюцыі матэрыі ўзнік адбор каацарватных сістэм.

Пад кантролем узнікшага адбору эвалюцыя бялкоў набыла пэўную накіраванасць, таму што развіваліся толькі тыя каацарватныя сістэмы, якія валодалі здольнасцю захоўваць сваю ўстойлівасць ў непарыўным працэсе ўзаемадзеяння з асяроддзем. Аднак здольнасць каацарватнай сістэмы захоўваць сваю ўстойлівасць яшчэ не з'яўляецца характэрнай асаблівасцю жывых сістэм. Аб узнікненні жыцця мы можам гаварыць толькі з таго моманту, калі каацарват набывае здольнасць да самаўзнаўлення. Гэтая здольнасць і ўзнікла на пэўнай ступені эвалюцыі каацарватных сістэм.

Паступова каацарваты ўскладнялі сваю арганізацыю і паклалі пачатак развіццю пярвічных аднаклетачных арганізмаў.

Што ж адбывалася далей? Як з прасцейшых аднаклеткавых арганізмаў узнікла ўся разнастайнасць жыцця? Пытанні гэтыя былі бліскуча вырашаны вялікім англійскім біёлагам Чарльзам Дарвінам задоўга да стварэння сучаснай навукова абгрунтаванай тэорыі аб паходжанні жыцця. Як узнікла жыццё, Дарвін не ведаў, але, стварыўшы тэорыю паходжання відаў жывёл і раслін шляхам натуральнага адбору, бясспрэчна даказаў, што ўсе сучасныя жывёлы і расліны ўтварыліся ад пярвічных арганізмаў, дзякуючы паступоваму змяненню і развіццю на працягу соцень мільёнаў год. Пад кантролем натуральнага адбору паступова выпрацоўвалася ўсё больш і больш высокая прыстасаванасць жывых арганізмаў да ўмоў існавання.

Вучэнне Дарвіна разбіла довады царкоўнікаў, а створаная савецкімі вучонымі навукова абгрунтаваная тэорыя ўзнікнення жыцця не пакінула ў гэтым пытанні нават маленькага месца «богу-творцу».

# Бібліяграфія

## КНІГА ПРА МАЙСТЭРСТВА

Раскрыць майстэрства пісьменніка ва ўсёй яго складанасці — справа нялёгкая. Трэба ўмець глянуць на свет яго вачамі, убачыць і адчуць у жыцці тое, што ўбачыў і адчуў ён, перамучыцца яго пакутамі, нарадавацца яго радасцю, выхадзіць усе тыя нялёгкія дарогі пошукаў свайго, запаветнага, якія выхадзіў ён,— каб пісьменнік даверыўся свайму крытыку і насцеж адчыніў перад ім дзверы свае творчае лабараторыі, не баючыся таго, што тут будзе што-небудзь пераставўляна, пераварочвана або ненарокам разбіта.

Гэтая думка аб добрым узаемаразуменні і ўзаемным давер'і пісьменніка і крытыка ўзнікае неяк сама па сабе, калі чытаеш кнігу А. Адамовіча «Шлях да майстэрства» *.

Складаны, шматгранны, глыбокі талент Кузьмы Чорнага прыцягваў увагу многіх даследчыкаў. Пра Чорнага напісана амаль столькі ж, як пра Якуба Коласа, і можна назваць не адзін артыкул, не адну работу, у якіх правільна раскрываліся асобныя бакі таленту і выказвалася многа добрых думак і заўваг пра творчасць выдатнага майстра нашай беларускай прозы.

Аднак жа **ўвесь** Чорны нашым крытыкам неяк «не раскрываўся». І «не раскрываўся» таму, што адны з іх у ацэнцы яго творчасці мала ўлічвалі час, той час, у які адбывалася фармаванне светапогляду Кузьмы Чорнага, яго мастацкага стылю. Другім неставала цэласнага погляду на творчасць пісьменніка. Творы Чорнага часам механічна дзяліліся на «памылковыя» і высокамастацкія, зусім не ўлічвалася тое, што ў гэтага своеасаблівага пісьменніка высокая мастацкасць часам вырастала іменна з яго недахопаў.

І нарэшце, амаль для ўсіх ранейшых работ пра Чорнага быў уласцівы яшчэ і той недахоп, што творчасць пісьменніка механічна выключалася з агульнага літаратурнага працэсу фармавання ўсёй маладой савецкай прозы. А Чорны, як ні адзін з беларускіх празаікаў, быў моцна звязаны з гэтым агульным літаратурным працэсам, убіраючы ў сябе ўсе крупінкі вопыту, здабытага маладою савецкаю прозаю, — і, прытым, вопыту не толькі станоўчага.

А. Адамовічу першаму з даследчыкаў і крытыкаў Чорны «адкрыўся» ўвесь, ва ўсёй страснасці сваіх пошукаў, з усімі сваімі заблуджэннямі і памылкамі, ва ўсім багацці свайго таленту.

Адзін з выдатнейшых майстроў слова, Кузьма Чорны, літаральна, выпакутаваў сваё майстэрства. Ён прыйшоў у літаратуру ў першай палове 20-х гадоў,— у самым пачатку новай эры, небывалае ў гісторыі чалавецтва. Прыйшоў як пасланец беларускай вёскі, абуджанай подыхам новага часу. Гэты подых новага часу і неслі ў сабе апавяданні маладога пісьменніка. Героі яго твораў — простыя сяляне, выведзеныя рэвалюцыяй з цемры на святло, вызваленыя ад путаў «радавітага парабкоўства». Яны яшчэ не ўсведамляюць усёй велічы таго, што адбываецца на іх вачах, але вялікая радасць жыць, быць людзьмі поўніць іх сэрцы.

«Радасць жыцця» — гэта не тэма, а сам пафас ранняй творчасці К. Чорнага 20-х гадоў,— зусім слушна адзначае А. Адамовіч.— Яна — выражэнне парыву чалавека працы ў той

* А. М. Адамовіч. Шлях да майстэрства. Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1958.

шырокі вольны свет, які раскрыла перад ім рэвалюцыя».

Такім чынам, у сваіх першых творах малады Кузьма Чорны ўспрыймаў падзеі свайго часу з іх эмацыянальнага боку, не заўсёды ўмеючы пранікнуць за іх вонкавую, эмацыянальную абалонку.

Такое ўспрыняцце жыцця знайшло сваё мастацкае выражэнне ў паэтычнасці, узнёсласці стылю маладога празаіка, у эмацыянальна-паэтычнай вобразнасці, якою вызначаюцца яго першыя апавяданні.

Але не толькі гэтай асаблівасцю светаўспрымання Чорнага тлумачыць даследчык «паэтычны» лад яго ранняе прозы. Немалаважную ролю ў выпрацоўцы іменна такога стылю адыграла тое, што Кузьма Чорны прыйшоў у літаратуру якраз тады калі беларуская проза толькі пачынала складвацца, запазычваючы ў даволі сталае паэзіі яе метад падыходу да адлюстравання жыцця і яе выяўленчыя сродкі. «Паэтычнасць» прозы была тою дзіцячаю хваробаю, на якую «перахварэў» не толькі Кузьма Чорны, але і многія іншыя маладыя пісьменнікі 20-х гадоў.

Што ж датычыць «Маладняка», з якім быў цесна звязаны пачатак пісьменніцкага шляху Кузьмы Чорнага, то эмацыянальная проза тут лічылася ледзь не адзіным стылем, здольным адлюстраваць дух часу, рытм абуджанага і акрыленага рэвалюцыяй жыцця. Адсюль — імкненне пісьменнікаў-маладнякоўцаў да яркасці, метафарычнасці мовы ў шкоду натуральнасці і дакладнасці, да пачуццёвасці ў абмалёўцы чалавечых характараў у шкоду глыбіні іх раскрыцця. Іменна гэтымі сваімі рысамі «Маладняк» з цягам часу стаў папярок дарогі маладой беларускай прозе.

Усё гэта, разам узятае,— і своеасаблівасць светаадчування Чорнага, і адсутнасць «празаічнай» традыцыі ў маладой беларускай прозе, і, нарэшце, прыналежнасць пісьменніка да бадзёрага духам, жыццерадаснага, але неглыбокага ў сваіх творчых шуканнях «Маладняка»—і абумовіла сабою мастацкі стыль Кузьмы Чорнага перыяду 1923—1925 гадоў.

Мы знарок так падрабязна спыніліся на адным з момантаў даследавання творчага шляху пісьменніка, каб даць уяўленне аб самім метадзе даследавання. З такою ж лагічнаю паслядоўнасцю прасочвае Адамовіч увесь той складаны шлях пошукаў, які прайшоў Кузьма Чорны ў 20—30-х гадах, калі ў яго толькі пачынае складвацца светапогляд і ў сувязі з гэтым выпрацоўвацца, фармавацца мастацкі метад адлюстравання жыцця.

Хацелася б асабліва падкрэсліць, што даследчык шырока ставіць праблему мастацкага стылю пісьменніка. Зусім нядаўна,— ды яшчэ часам і цяпер,— у нашых літаратуразнаўчых працах разважанні пра стыль пісьменніка не выходзілі за рамкі агульных заўваг пра «каларытнасць», «яркасць» або «народнасць» мовы, пра «жывасць» дыялагаў, «дынамічнасць» сюжэту і «няўдаласць» асобных сказаў у тым ці іншым творы. Такое вузкае разуменне стылю перашкаджае адчуць і да канца зразумець пісьменніка.

Мастацкі стыль — паняцце вельмі шырокае. «Індывідуальны мастацкі стыль у шырокім літаратуразнаўчым сэнсе гэтага слова,—гаворыць А. Адамовіч,— не зводзіцца да своеасаблівасці мастацкай мовы, «слога». Мастацкі стыль — гэта чалавек, увесь чалавек, з усім багаццем яго думак аб жыцці, яго пачуццяў, яго складам вобразнага бачання свету, з яго моўнай манерай».

Такім чынам, даследчык цесна звязвае мастацкі стыль пісьменніка з сістэмай яго поглядаў на жыццё, з асаблівасцямі яго светаадчування. Пры такім разуменні стыль перастае быць вынікам адвольнага густу пісьменніка або вынікам «набітасці» яго рукі, становячыся тым сродкам, тою формаю, праз якую выяўляецца ўвесь змест пісьменніцкага роздуму над жыццём.

Правільнасць гэтай зыходнай пазіцыі даследчыка і вырашыла пасяховы ход даследавання адной з асноўных праблем мастацкага майстэрства, вельмі важных для нашага літаратуразнаўства і яшчэ ў большай ступені — для крытыкі.

Адным са складаных этапаў у творчасці Чорнага з'явіліся 1926—1928 гады. З твораў пісьменніка гэтага часу знікае сучаснасць у шырокім разуменні гэтага слова. Героі яго апавяданняў і рамана «Сястра», адвярнуўшыся ад усяго свету, глядзяць толькі ў сваю душу, пацвельваючыся са сваімі дробнымі пачуццямі.

А. Адамовіч правільна раскрывае абумоўленасць такога светаўспрымання пісьменніка з аднаго боку, — вузкасцю яго светапогляду, няўменнем бачыць вядучыя тэндэнцыі свайго часу, а з другога — агульным працэсам, што адбываўся ў маладой савецкай прозе, на якую аказвала ў той час вялікі ўплыў «тэорыя» індывідуальнага псіхалагізму.



Цікавыя назіранні даследчыка над мовою і наогул над мастацкай стылістыкай Чорнага гэтага перыяду. Асноўным мастацкім сродкам раскрыцця характару ў той час становіцца падрабязны, скрупулёзны псіхааналіз, які губляецца часам недзе ў глыбінях падсвядомага. Адпаведна з гэтым і само моўнае выяўленне ледзь улоўных, няясных адчуванняў было расплывучатым, няпэўным, туманным. Чорны, напрыклад, піcaў: «Не веяла, значыцца, палявою воляй, а мінуўшчыны для адчуванняў не было, была моцная мяжа ў іх паміж тым, што ёсць, і тым, што было. Па адзін бок мяжы ўсё было запоўнена тым, што ёсць, а па другі бок, там, дзе павінна было быць тое, што было, — было пуста».

Даследчык у сваіх разважаннях далёкі ад прасталінейнасці. Нельга не згадзіцца з яго думкаю аб тым, што якою б памылкаю на творчым шляху пісьменніка ні быў перыяд працы над зборнікам «Пачуцці», іменна тады Чорны пачаў вучыцца нялёгкаму майстэрству пранікаць у самую глыбіню чалавечае душы.

Кузьма Чорны праклаў першыя сцежкі новаму для нашай нацыянальнай літаратуры жанру — раману. Гэтага ён не зрабіў бы, не абапёршыся на вопыт майстроў слова сусветнай літаратуры. Так заканамерна і абгрунтавана А. Адамовіч ставіць пытанне аб творчай вучобе Чорнага ў класікаў рускай і замежнай літаратуры.

Пытанне творчага ўплыву аднаго пісьменніка на другога ў нашых літаратуразнаўчых, а часцей — у крытычных працах часам разумелася вельмі прасталінейна. Калі, скажам, выяўлялася, што ў таго ці іншага пісьменніка апавяданне або верш былі напісаны на адну і тую ж тэму, як і ў Горкага або Маякоўскага, гэтага было дастаткова, каб сцвярджаць, што дадзены пісьменнік вучыўся ў Горкага або Маякоўскага.

У аповесці Кузьмы Чорнага «Лявон Бушмар» мы не знойдзем ніякага фармальнага падабенства з творамі Горкага. Аднак, даследчык зусім правільна гаворыць, што ў гэтым творы горкаўскі ўплыў на Чорнага праяўляецца ў імкненні да філасофска-гуманістычнага асэнсавання праблемы знішчэння ўласніцкіх перажыткаў. Чорны па-горкаўску ўбачыў і пашкадаваў «таго чалавека, якога ў Бушмару задушыў уласнік».

Якраз у гэтым трэба бачыць прычыну тае адчувальнае цеплыні, з якою намаляваны вобраз Лявона Бушмара.

А. Адамовіч не абмяжоўваецца агульнымі заўвагамі пра літаратурных настаўнікаў К. Чорнага — Горкага, Дастаеўскага, Талстога, — ён імкнецца высветліць, якімі бакамі свайго таленту ўплывалі яны на беларускага празаіка, абумовіць гэты ўплыў тымі зменамі, што адбываліся ў светаадчуванні пісьменніка ў пэўны час. А гэта ўжо — размова канкрэтная.

Ад твора да твора сталеў талент Кузьмы Чорнага. Крытык вельмі ўважліва прасочвае рост мастацкага майстэрства пісьменніка, ставячы гэты рост у простую і непасрэдную залежнасць ад працэсу фармавання яго светапогляду. Мастацкасць твораў Чорнага разглядаецца не толькі з пункту гледжання таго, наколькі яскрава праявілася ў іх аўтарская думка, ідэя, але і з пункту гледжання таго, як ад аднаго твору да другога пашыраўся і паглыбляўся погляд пісьменніка на жыццё, як гэтаму погляду раскрываліся ўсё новыя і новыя сувязі паміж рознымі бакамі рэчаіснасці. І гэта зусім заканамерна, бо па меры адкрыцця гэтых сувязей пісьменнік падымаўся да адкрыцця гістарычнага сэнсу падзей, да шырокага філасофскага асэнсавання жыцця і месца ў ім чалавека.

Чорны станавіўся эпікам.

Кніга А. Адамовіча прысвечана ідэйна-мастацкаму фармаванню К. Чорнага 20—30 гадоў. Нягледзячы на тое, што ў ёй даследуецца толькі невялікі перыяд творчасці Чорнага, яна дае ўяўленне аб усім пісьменніку, настолькі старанна пазбіраў крытык у працэсе даследавання ўсе рысы будучага, ужо сфармаванага таленту Кузьмы Чорнага. А гэта і ёсць тое найбольшае, да чаго імкнецца кожны крытык, кожны даследчык, калі бярэцца прасачыць працэс **станаўлення** пісьменніка.

У кнізе ёсць новыя думкі, многа цікавых разважанняў, трапных назіранняў над мовою пісьменніка, якія, на жаль, нельга прывесці ў кароткай рэцэнзіі. І тым не менш, нельга не спыніцца на мове самога даследчыка, хаця б нават таму, што пра вобразную, жывую, бясконца багатую мову К. Чорнага А. Адамовіч піша таксама жывою, і таксама вобразнаю мовою, — а гэта пакуль што з'ява рэдкая ў нашай крытыцы.

Ёсць у Чорнага сярод ранніх твораў апавяданне «Жалезны крык». У ім расказваецца, як цягнік — увасабленне новага жыцця — імчыць між саламяных вёсак, абуджаючы іх сваім «жалезным крыкам».

І вось, вызначаючы адносіны Чорнага да жыцця, Адамовіч піша:

«Адчуваецца, што пісьменнік з цягніка глядзіць на саламяныя вёскі, на блізкіх яму «ціхіх» «палявых людзей». Карціны бедных, саламяных вёсак не перашкаджаюць К. Чорнаму ўлаўліваць пафас новага жыцця, і якраз таму, што ён сам імчыцца «на цягніку», захоплен яго «жалезным маршам» шыбкага ходу.

Але ў 1926—1927 гадах пісьменнік як бы сыйшоў на адным з глухіх пераездаў «з цягніка», адстаў ад яго і застаўся сярод сваіх «ціхамірных», прыдаўленых мінуўшчынай герояў».

Такая вобразнасць ідзе ад глыбокага пранікнення ў вобразны свет пісьменніка, ад арганічнага засваення самога духу яго творчасці.

Крытык у кнізе так блізка стаіць да пісьменніка, што часам здаецца: гэта «спавядаецца» перад чытачом сам Чорны, — «спавядаецца» гэтак жа шчыра і горача, як «спавядаліся» ва ўсіх пакутах свае душы яго трапяткія, нястомныя ў пошуках героі.

«Шлях да майстэрства» — першая кніга маладога крытыка. Гэтую яе «першасць» выдае не нясталасць разважанняў, думкі, як гэта часта бывае ў першых кнігах. У Адамовіча якраз і разважанні вельмі сталыя, і думкі вынашаныя.

Тое, што гэта першая кніга, можна пазнаць па частых паўтарэннях аднае думкі. Даследчык яшчэ не навучыўся верыць чытачу, і яму ўсё здаецца, што яго яшчэ не зразумелі і таму не шкодзіць яшчэ раз паўтарыць сказанае. На стар. 156, дзе гутарка ідзе пра раман К. Чорнага «Бацькаўшчына», гаворыцца: «Усё гэта аднак не павінна перашкаджаць бачыць... пэўную ілюстрацыйнасць вобразаў і карцін твора». На стар. 157 ізноў пра «Бацькаўшчыну»: «Праўда, і ў раскрыцці жывых вобразаў і ў паказе шляху беларускага селяніна да рэвалюцыі Чорны не пазбег ілюстрацыйнасці».

Хоць і рэдка, але бывае, што крытык пярэчыць сам сабе. «Як і многія савецкія пісьменнікі, К. Чорны пачынаў з некалькі абстрактнага ўслаўлення ў паэтычных замалёўках рамантыкі новых дзён», — гаворыць ён на стар. 8. А на стар. 14 сцвярджае ўжо нешта другое: «Не схільны паказваць знешнюю рамантыку падзей, К. Чорны ўсю ўвагу канцэнтруе на паказе таго, якой суровай неабходнасцю для чалавека працы з'яўляецца рэвалюцыйная перапрацоўка жыцця».

Пры ўсёй самастойнасці свае даследчыцкае пазіцыі крытык часам падпадае пад уплыў пісьменніка і пачынае «не заўважаць» яго недахопаў. Вось як сказана ў А. Адамовіча пра «Верасьнёвыя ночы» К. Чорнага:

«Амаль на кожнай старонцы сустракаюцца такія выразы, як: «Агата пачухала левы локаць, сціснулася каля сцяны»... «Паставіўшы каля закарузлага карыта ражку з свіным цестам, чухаючы вуха аб голую руку вышэй локця, Агата злосна крыкнула»...

«Выпісаныя тут прыклады, — прадаўжае даследчык, — могуць здавацца празмерна натуралістычнымі. Але, чытаючы твор, мы нават не заўважаем такія мясціны, а толькі адчуваем як бы разліты ў творы моцны водар жыцця».

Крыху суб'ектыўнаю здаецца гэтая думка. Выпісаныя, — і падобныя да іх не выпісаныя, — выразы не «здаецца», а на самай справе натуралістычныя, і нават празмерна. А большы водар жыцця разліты якраз у тых творах, дзе пісьменнік пазбавіўся ад гэтага натуралізма.

Кніга Адамовіча мае не адзін адрас. Яе з цікавасцю прачытаюць крытыкі, даследчыкі, якія шукаюць у кнігах новае думкі; яна будзе цікавай для ўсіх тых, хто захоча глыбей адчуць і зразумець выдатнага майстра слова Чорнага; яе хочацца параіць і тым, хто думае ў будучым стаць на нялёгкую пісьменніцкую сцежку: яна навучыць самаму галоўнаму, што трэба маладому пісьменніку на самым пачатку шляху, — адчуваць мастацкае слова.

**В. ПАЛТАРАН.**



# НА ПАЧАТКУ ШЛЯХУ

Першая кніжка маладога празаіка Вячаслава Адамчыка выйшла ў 1958 годзе ў серыі «Бібліятэчка беларускага апавядання і нарыса».*

Адкрываецца яна апавяданнем «Зоня».

На першы погляд, гэта звычайная гісторыя аб трагічным лёсе маладога хлопца, які ў цяжкіх умовах даверасьнёўскай Заходняй Беларусі быў вымушаны пайсці ў парабкі, закахаўся ў дачку свайго гаспадара, а той выдаў яе за багатага «кавалера» з суседніх хутароў. Але Вячаслаў Адамчык здолеў асэнсаваць жыццёвыя падзеі, выбраць з іх найбольш характэрныя, тыповыя, і перадаць іх так, што апавяданне набыло ўсе рысы сапраўднага мастацкага твора.

Пачатак апавядання (яно вядзецца ад першай асобы) адразу падкрэслівае, што яго герой Уладак будзе гаварыць пра тое, як ён «спазнаў сябе, спазнаў пачатак свайго жыцця».

А далей у двух-трох абзацах аўтар коратка знаёміць чытача з тым, як склалася жыццё Уладака. І тут жа, у самым пачатку апавядання, пачынаюць завязвацца дачыненні паміж героямі, акрэсліваецца характар будучых канфліктаў. Аўтар не расказвае пра сваіх герояў, а малюе іх, і прытым вельмі жывымі, выразнымі фарбамі.

Уладак прыйшоў да багацея Сіўтука згоджвацца на малацьбу. Пасля невялікага дыялагу паміж Уладакам і Сіўтуком аўтар трапнай мастацкай дэталлю здолеў амаль вычарпальна ахарактарызаваць гаспадара:

«Каля печы шнырыў памаўзлівы кот. У прыцемках вочы яго блішчэлі. Ён палез у памялешнік, нешта адтуль выцягнуў і, мармычучы, пачаў есці.

— Ых, каб ты здох, няма на цябе смерці!.. Гэта ж жуе зноў нешта...

Сіўтук схапіў з акна мокрую анучу і шпурнуў у ката».

Нямнагаслоўна, але выразна. Уяўляецца не толькі скупасць Сіўтука,— чытач бачыць яго рухі, чуе, як ён вымаўляе сваё «Ых» з прыдыхам, і адразу настройваецца адмоўна да гэтай агіднай, мярзотнай фігуры.

З'яўляецца яна, Зоня. Дзяўчына не знайшла адразу клямкі сваіх дзвярэй і засмяялася ад душы. Гэтая дэталь уносіць у апавяданне новы настрой — жартаўліва-лірычны. Вобраз Зоні на працягу ўсяго апавядання кантрастуе з вобразам Сіўтука, аўтар падкрэслівае гэта з першага знаёмства з героямі. Гаворачы аб прыгажосці Зоні, пісьменнік праз уяўленне Уладака перадае і пэўныя рысы яе характару:

«Яе вочы з дзіцячай неразважнасцю і неяк ужо з дарослай строгасцю глядзелі на мяне».

З таго, што адбывалася ў гэты вечар, В. Адамчык адбірае і паказвае самае неабходнае. Гаспадар патушыў лямпу, пасунуўся на печ і забубніў малітву. Усе пакладзіся спаць. Тут аўтар спецыяльна зацягвае дзеянне, каб перадаць выразней душэўныя перажыванні героя. Разам з героем чытач прыслухоўваецца да таго, як на дварэ патрэсквае частакол ад марозу, а ў хаце мерна і зычна цікае гадзіннік, «куплены дзеля фасону», як свішча носам і бубніць стары Сіўтук, як уклалася на ложку Зоня, як шамаціць салома на падлозе, калі Уладак варочаецца. Зоня баязліва пытае: «Уладак, ты не спіш?» «Ага, не сплю», — адказвае ён. Гутарка абрываецца, але чытачу ясна, што героі думаюць адзін аб адным, што тут нараджаецца шчырае, вялікае пачуццё. Яно яшчэ такое ж нясмелае, як і гэты дыялаг, яго гэтак жа лёгка парушыць, як гэтую цішыню ў хаце...

У абмалёўцы вобраза Зоні пісьменнік дасягнуў своеасаблівай рамантычнай узнёсласці. Ён спыняецца на такіх рысах характару Зоні, якія некалькі ідэалізуюць яе, і ў гэтым праяўляецца яе своеасаблівае хараство. Выдатны савецкі пісьменнік А. А. Фадзееў гаварыў у сваіх «Суб'ектыўных нататках», што часам наша літаратура празмерна натуралістычная, празмерна «прыземленая», у прыватнасці, у абмалёўцы жаночых вобразаў.

Нарэшце пісьменнік уводзіць апошнюю дзеючую асобу. Гэта той, хто разам з Сіўтуком супрацьпастаўлены Уладаку і Зоні. Гэта — Васіль, які сватаецца да Зоні. Яго аблічча намалявана рэзка адмоўна:

«Васіль меў трыццаць сем год, а Зоня была нават на год маладзейшая за мяне. Я прыглядзеўся да яго носа.

* Вячаслаў Адамчык. Свой чалавек. Апавяданні. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1958.

Праўду кажуць: каб зачапіўся за парог ды на нос не абапёрся, то, пэўна, упаў бы».

Ізноў, апусціўшы значны адрэзак часу, малады пісьменнік паказвае эпізод, у якім сустракаюцца ўсе дзеючыя асобы апавядання і ў якім сюжэтна перакрыжоўваюцца іх лініі. Гэта — сцэна вечарынкі ў хаце Сіўтука. Дзеянне дасягае найвышэйшага напружання. Зоня і Уладак быццам бы шчаслівыя — яны разам танцуюць. Але побач, за сцяной, у кухні, сядзяць Сіўтук і Васіль, які падрахоўвае свае багатыя выдаткі на вяселле. В. Адамчык правільна раскрывае класавую сутнасць канфлікту, яго сацыяльнае абгрунтаванне. Падкрэсліваецца трагізм становішча героя — Уладак не ведае, што рабіць, бо яго становішча безвыходнае. Ён адчувае, што Сіўтук аддасць Зоню за Васіля, бо Васіль — багаты.

Да свядомасці Уладака паступова даходзіць, што змяніць што-небудзь ён не здолее. У яго душы нараджаецца стыхійны, яшчэ не акрэслены пратэст. Адразу пасля думак аб безвыходнасці свайго становішча, Уладак усклікае:

«Не, я не ўпушчу свайго шчасця!»

Ён няўпэўнена заве Зоню пайсці адсюль. «Куды?» — пытаецца яна. Уладак і сам не ведае. Апісваючы ў гэты час перажыванні Зоні, аўтар дае адчуць, як цяжка жывецца Зоні ў бацькоўскай хаце.

Развязка дадзена хутка і скупа. Уладак вырашыў пайсці з Бярозаўкі, Зоня праводзіць яго. Уладаку здаецца, што Зоня спяшаецца, нібы стараючыся хутчэй звесці яго з вачэй. Зоня забягае наперад, яна просіць хлопца застацца. У яе таксама з'яўляюцца ноткі пратэсту, але даволі пасіўныя: Зоня сцвярджае, што ўсе нягоды і няшчасці ў яе таму, што так яе пакарала доля.

Уладак пайшоў у свет. І толькі праз два гады вяртаецца ён у Бярозаўку.

За гэты час вёска амаль не змянілася, толькі хата Сіўтука ўжо абгароджана з усіх чатырох бакоў плотам сажняў у чатыры вышынёю. Той жа Сіўтук, які сядзіць на печы ў споднім бялізне, падкурчыўшы пад сябе ногі, той жа дзюбаты нос Васіля. Зоня — Васілёва жонка, яна ходзіць дзіцем. Вонкава — перамагло адмоўнае, цёмныя сілы ўзялі верх. Але тут жа пісьменнік паказвае, як у душы Уладака нараджаецца нянавісць да ўсяго гэтага свету, заснаванага на прыватнай уласнасці, на эксплуатацыі. У яго паднялося полымя нянавісці нават да Зоні за яе пакорлівыя адносіны да ўсяго, і ён вырашае бегчы з Бярозаўкі, бегчы далёка-далёка ў пошуках шчасця...

На гэтым заканчваецца апавяданне. Але чытач упэўнены, што Уладак знойдзе сапраўдную дарогу ў жыцці і абавязкова будзе сярод слаўнага камсамольскага падполля, сярод тых, хто сваёй барацьбой дапамог Савецкай Арміі вызваліць Заходнюю Беларусь ад белапалякаў. Асабістая драма героя ўзнімаецца ў апавяданні да мастацкага абагульнення. Усё апавяданне прасякнута аптымістычным настроем, вялікай любоўю аўтара да людзей, да ўсяго чалавечага, страшэннай нянавісцю да эксплуататараў.

У апавяданні «Зоня» праявілася добрае адчуванне кампазіцыі. В. Адамчык глядзіць на жыццё ўдумлівым позіркам, выбірае з усяго багацця жыццёвых фактаў, эпізодаў, падзей, назіранняў самае істотнае, самае неабходнае, самае тыповае і перадае гэта з добрым пачуццём меры. Паслядоўна, сюжэтна цікава.

Не бедная і моўная палітра пісьменніка. Яго ўменне карыстацца словам выяўляецца не ў знешніх упрыгожаннях фразы, а ў своеасаблівай рытміцы ўсяе прозы, стрыманай, павольнай, месцамі энергічнай. Да таго ж, у В. Адамчыка сустракаюцца надзвычай свежыя і вобразныя метафарычныя канструкцыі, скупое, важкае, выразнае слова.

«З кухні на хату Зоня перанесла лямпу, і хатняя шырыня ўвабрала яе скупое святло. У далёкіх кутках густа асеў змрок. На беленую столь, на сцены, на шэрую нефарбаваную падлогу лягла скупая відната».

Або:

«Ля берага забулькала, зашыпела бросня, праламалася адпаліраваная бязветраным сухім днём роўная паверхня сажалкі, і загойдаліся шырокія зялёныя лісты плавукоў і доўгія стаўбункі іх кветак».

Калі падыходзіць з тых жа пазіцый і з тою ж патрабавальнасцю (а да твораў Вячаслава Адамчыка можна ставіцца з усёй сур'ёзнасцю), то неабходна адзначыць, што другое апавяданне кніжкі — «Свой чалавек» — не зусім удалося аўтару. Хоць у ім аўтар гэтак жа сур'ёзна спрабуе глядзець на людзей, ставіцца да іх учынкаў, але ён не прадумаў як след жыццёвы матэрыял, пакладзены ў аснову твора. У падзеях, сцэнах, эпізодах, якія складаюць аснову апавядання, у выніку іх недастатковай тыповасці, не да канца раскрываюцца характары герояў.



Сюжэт апавядання разгортваецца вакол вобраза старога Язэпа, селяніна-аднаасобніка, які пражыў складанае і цяжкае жыццё. В. Адамчык расказвае пра тое, як Язэп спачатку не хацеў пайсці ў калгас, а потым стаў калгаснікам.

Зразумела, што ў пачатку такога апавядання трэба было б пэўнымі сцэнамі, дэталямі, падзеямі даць псіхалагічнае абгрунтаванне: чаму Язэп староніцца калгаса? Але гэтага ў апавяданні няма. Пісьменнік расказвае пра тое, як немцы спалілі ў вайну Язэпаву хату, як памерла яго жонка, як ён не спіць уночы, усё варочаецца, думае аб нечым, успамінае пра тое, як загінулі яго сыны, як калісьці бацька яго падзяліў сем дзесяцін зямлі на трох сыноў... І ўсё гэта ніяк не тлумачыць, чаму Язэп староніцца калгаса. Наадварот, такім ходам думак падкрэсліваецца яго страшэнная адзінота, а яна павінна лагічна наводзіць на думку аб неабходнасці быць бліжэй да людзей. Інакш кажучы, псіхалагічна аўтар вядзе Язэпа ў калгас, а не ад яго.

Далей у апавяданні расказваецца аб тым, як Язэп усё ж такі адважыўся пайсці ў калгас. Ізноў пісьменнік выбірае не тыя сцэны, не тыя эпізоды, не тыя дэталі. Сам працэс псіхалагічнага пералому ў душы Язэпа перадаецца неяк вельмі проста і невыразна.

«Язэп слухаў, як хрумсцела ў моцных конскіх зубах сакаўная трава, і да яго зноў прышла весялосць, і нейкая таемная радасць працяла ўсю яго істоту».

Наогул, трэба адзначыць пэўную кампазіцыйную рыхласць апавядання «Свой чалавек». У ім многа лішняга. Так, зусім непатрэбным здаецца эпізод, дзе Язэп успамінае, як ён ледзь не пабіўся з малодшым братам, калі дзялілі зямлю. Ды і стылістычна гэтая сцэна неяк выпадае з апавядання, бо няўжо Язэп мог так дакладна прыпомніць, хто і што казаў у той далёкі час? Стылістычна выпадае і дакладнае апісанне думак Цімоха аб Язэпу, бо ўсё апавяданне вядзецца вакол думак толькі Язэпа, нібы праз яго ўспрыняцце навакольнага. Вобраз жа Цімоха дадзены бегла, схематычна. Жадаючы, напэўна, узмацніць сродкі псіхалагічнага аналізу, В. Адамчык вымушаны звярнуцца да пейзажных замалёвак, якія таксама выглядаюць лішнімі і часта аднастайнымі.

Заканчваючы разгляд першай кнігі хочацца далучыцца да думкі тых, хто раіў маладому пісьменніку больш звяртацца да сучаснай тэматыкі, да вобразаў сучаснікаў, равеснікаў.

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

# ГОЛАС СЭРЦА

Мабыць у кожным паэтычным зборніку ёсць такі верш, які неяк адразу вызначае аўтарскі почырк, лірычнае светаўспрыйманне паэта, урэшце — назву самога зборніка. У новай кніжцы Сяргея Грахоўскага такім творам з'яўляецца верш «Дзень нараджэння».

Новы свет, народжаны Кастрычнікам, гады змагання, радасць перамог, веліч жыцця нашых людзей — вось тэмы, якія натхнілі паэта.

Тэма Радзімы, рэвалюцыі, паэтычнае адлюстраванне заваёў Кастрычніка, багацце пачуццяў савецкага чалавека — усё гэта займае асноўнае месца ў творчасці кожнага майстра нашай літаратуры.

Вядома, што ад доўгага ўжывання старэюць і зношваюцца не толькі тэмы, але і вобразы, сродкі выразнасці, словы, фразы, рытм, інтанацыя. Але ў літаратуры ёсць сродак аднаўлення першароднай свежасці слова, вобраза, выяўленчых сродкаў. Шляхам бясконцай канкрэтызацыі, удасканалення, праз умела знойдзеныя свежыя жыццёвыя падрабязнасці можна сказаць новае, значнае, сваё аб тым, аб чым тысячы разоў гаварылася і пісалася. Сяргей Грахоўскі разумее гэта і ў вершы «Вечны салдат» знаходзіць гэтыя свежыя, жыццёва-перакананальныя дэталі.

Такіх добрых паэтычных вершаў нямала ў яго новым зборніку («Чацвёртая вясна», «Не пойдзеш сёння ні ў кіно, ні ў госці», «Я цябе прыгадаў», «Народная настаўніца» і інш.).

У вершы «Першая песня», прысвечаным беларускаму паэту-песенніку Адаму Русаку, умела ўлоўлены пакуты творчасці, хвіліны мастацкага азарэння, калі паэту адкрываюцца таямніцы паэзіі.

У вершы «Чацвёртая вясна» паэт ні адным словам не абмовіўся аб пе-

раможным руху калгаснага ладу, але ў чытача з кожным радком мацнее гэтая ўпэўненасць. Робіць гэта ўдала знойдзеная ўскосная жыццёвая падрабязнасць.

Верш, напісаны ў 1934 годзе, пачынаецца з таго, што ў калгасе, які робіць першыя няўпэўненыя крокі, палеткі залівае дождж. Старэнькая бабулька прадракае калгасу пагібель:

Пойдзе дождж на аголены лес,
Будзе голад і будзе няўрод.

Далей паэт вельмі дакладна, адчувальна перадае веснавую пару росту і квецені зямлі:

А у гэтую ноч туманом закурэлі папары:
Уздымалася рунь, наліваліся мёдам сады;
Адплывалі на захад барвовыя хмары.

А пад восень тая ж старэнькая бабулька не магла надзівіцца на буйны калгасны ўраджай і толькі моўчкі, вінаватая, гладзіла рукою шапаткія каласы.

Такой свежай падрабязнасці, якая ствaрыла б адчуванне жыццёвасці, не хапае вершам «Дарога да шчасця», «Дыплом на годнасць чалавека», «Гледзячы ў мора». Успамінаеш, што тое ж самае аб рэвалюцыі, штурме старога свету, аб поспехах нашага будаўніцтва, але значна большае, свяжэйшае некалі чытаў у іншых паэтаў.

Адчуванне незавершанасці застаецца, калі знаёмішся з вершам «Млечны шлях». Сэнс яго наступны:

У зорным небе — Млечны шлях,
Пад ім ляцяць у вырай гусі.
. . . . . . . . . . . . .
А вось да роднае зямлі
І Млечны шлях ім непатрэбен.

Глыбока, у народным духу задуманы паралелізм не атрымаўся, таму што паміж супастаўленымі паняццямі амаль няма ніякай паралелі, тым больш, што гусі ноччу адпачываюць, а ляцяць удзень, калі Млечны шлях наогул гасне.

У вершы «Дыплом на годнасць чалавека» лірычны герой яшчэ ў школе марыць аб подзвігах, заіздросцячы старэйшаму пакаленню. Настае час, ён атрымлівае атэстат сталасці і едзе на Усход. З акна вагона бачыць рыштаванні, квітнеючую краіну — недзе тут, на пярэднім краі жыцця, яму трэба абараніць дыплом на годнасць чалавека.

Усё гэта так. Але нам хацелася б бачыць героя верша не толькі ў акне вагона, а ў жыцці, у сутыкненні з цяжкасцямі, у пераадоленні іх. У гэтым сэнсе хочацца параіць паэту смялей заглядваць у глыбіню жыцця, не задавальняцца вонкавай рэгістрацыяй фактаў.

Дарэчы, не так даўно на аналагічную тэму быў надрукаваны ў часопісе «Юность», а потым вышаў у «Раман-газеце» першы твор Анатоля Кузняцова «Прадаўжэнне легенды». У многім недасканалы твор маладога пісьменніка атрымаў гарачае прызнанне чытачоў. Аказалася, што не так ужо ўсё падрыхтавана і расчышчана ў жыцці семнаццацігадовых, як гэта часам здаецца. «Зялёнай» і непрактычнай моладзі ў пачатку самастойнага жыццёвага шляху прыходзіцца вырашаць такія складаныя жыццёвыя праблемы, якія ледзь пад сілу даросламу.

Сяргей Грахоўскі ў лепшых сваіх вершах — «Мары ў нас і надзеі адны», «Я цябе прыгадаў», «Першая песня» і іншыя — дасягае выразнасці радка і багацця інтанацый, хоць у многіх яго вершах яшчэ сустракаецца часам заквалыхваючая, аднастайная рытміка, малавыразнае слова.

Загортваеш апошнюю старонку кніжкі вершаў Сяргея Грахоўскага, і цябе ахоплівае радаснае хваляванне, што выдаўся выпадак шчыра пагаварыць з сумленным, гарачым чалавекам, які глыбока разумее, далёка бачыць, сэрцам адчувае жыццё.

**А. ЯСКЕВІЧ.**

# *Хроніка нашых дзён*

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

Амаль тысяча буйных палотнаў, скульптур, акварэльных малюнкаў, графічных прац, эскізаў, тэатральных дэкарацый, плакатаў экспанавалі беларускія мастакі ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея ў двух выставачных залах Мастацкага фонду БССР у гонар вялікага нацыянальнага свята — 40-годдзя рэспублікі. Побач з працамі вядомых беларускіх майстроў, на юбілейнай выстаўцы сваю творчасць дэманстравала і наша моладзь, прычым малюнкі і скульптуры маладых мастакоў выклікалі не меншае ўхваленне грамадскасці, чым работы іх старэйшых таварышаў.



«Хопіць каланіялізму!» Скульптура П. Івонцьева.

Разам з такімі добра вядомымі ў рэспубліцы буйнымі палотнамі, як «Ёсць такая партыя!» і «Палонных вядуць» А. Шыбнёва, «Напярэдадні» К. Касмачова, «Кастусь Каліноўскі» Р. Кудрэвіч і А. Гугеля, «Па даручэнню Ленінскага ЦК РКП(б)» Н. Воранава, «Мінск, 3 ліпеня 1944 года» В. Волкава, «За родную Беларусь» В. Сухаверхава, «Непакораныя» В. Цвірко, «З мінулага» А. Гугеля і іншымі на выстаўцы прыцягваюць вялікую ўвагу гледачоў яркія палотны і малюнкі А. Стасевіча, В. Стальмашонка, М. Данцыга, А. Паслядовіч і іншых маладых майстроў. Гэта зацікаўленасць да творчасці моладзі зусім зразумелая. Не можа не выклікаць захаплення майстэрства, з якім А. Стасевіч паказаў рашучасць савецкіх людзей не пакарыцца ворагу ў сваёй карціне «У беларускіх балотах». Вабіць да сябе сваёй рамантычнай узнёсласцю карціна «Насустрач жыццю» М. Дан-



«Насустрач жыццю». Карціна мастака М. Данцыга.

цыга, дзе малады мастак паказвае эпізод з жыцця савецкай моладзі. Радасць вольнай працы, імклівасць маладых будаўнікоў новага свету ўдала паказаў В. Стальмашонак у карціне «Маладыя будаўнікі Мінска». Выдатнае адчуванне беларускага пейзажу праявіла А. Паслядовіч у сваёй лірычнай серыі малюнкаў «Поры году».

Радуюць на юбілейнай выстаўцы і нашы скульптары. Даўно ўжо глядач палюбіў такія творы, як «Ленін і дзяўчынка» З. Азгура, скульптурныя партрэты і кампазіцыі А. Бембеля, А. Глебава, С. Селіханава, братоў М. і Л. Роберманаў і г. д. Зараз на выстаўцы мы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з экспрэсіўнай працай маладога майстра Н. Якавенкі «Адновім» — аб ліквідацыі вынікаў разбурэнняў вайны, з таленавітымі скульптурнымі партрэтамі юнака і дзяўчыны, што выляпіў Мурамцаў, з летуценнай «Святланай» І. Місько.

Вялікі поспех маюць і маладыя графікі. Тут трэба адзначыць добрае партрэтнае падабенства кампазітара Я. Цікоцкага і А. Волкава на гравюрах, створаных С. Герусам. Удалым малюнкам вызначаюцца і такія гравюры маладога графіка, як «Даярка», «Муляр», «Будаўнік», «Камсорг».

Шмат цікавага можна яшчэ адзначыць на юбілейнай выстаўцы беларускіх мастакоў, але галоўнае, што радуе нашу грамадскасць у іх творчасці, гэта тое, што ўсе яны ідуць па адзінаму вернаму шляху творчага метаду сацыялістычнага рэалізма.

**В. БАРХАТАВА.**

## «ПАДСТАЎНАЯ НЯВЕСТА»

У дні святкавання 40-годдзя БССР Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балету паставіў лірыка-камедыйны балет маладога кампазітара Генрыха Вагнера на лібрэта Яўгена Рамановіча.

Падзеі ў спектаклі адбываюцца ў самым пачатку нашага стагоддзя ў невялічкім правінцыяльным гарадку, дзе стары халасцяк пан Гонар-Гнюсевіч з'яўляецца цэнтрам увагі ўсіх мясцовых паненак, бо ён вельмі багаты. Але стары пан на кірмашы закахаўся

**Сцэна са спектакля «Падстаўная нявеста»: Насця — засл. арт. БССР Н. Давідзенка і Андрэй—артыст М. Шэхаў.**

ў сялянскую дзяўчыну Насцю, якая прынесла на продаж кветкі. Ён нават згодны ажаніцца з ёю.

Намеры пана не цікавяць Насцю, яна любіць каваля Андрэя і чакае вяселля з ім. І тут над шчасцем Насці і Андрэя ўзнікае пагроза: пан абвінавачвае каваля, быццам той выкраў у яго з кішэні гадзіннік. Парушылася б вяселле закаханых, калі б не разумны і вясёлы селянін Мацей, які здолеў не толькі вызваліць Андрэя з-пад арышту, але і, падманіўшы пана, ажаніць яго з паненкай Рузяй.

Кампазітар выкарыстаў багата ўзораў народнай музыкі. Тут і беларускія танцавальныя мелодыі: «Журавель», «Кола», «Табалькаўская полька» (з Полаччыны), і песенныя мелодыі: «Добры вечар, гаспадынька мая», «Вяснянка», цыганская мелодыя «Ліле», інтанацыі і рытмы польскіх «Абэркаў». Выдатна гучыць у спектаклі аркестр (дырыжор Т. Каламійцава). Вялікае ўражанне ў пастаноўцы (балетмайстар К. Мулер) пакідаюць сцэны кірмашу, балю ў пана, на плошчы перад царквой і ў самой царкве і іншыя. Са значным майстэрствам выконваюць партыю Насці — Н. Давідзенка, Андрэя — В. Давыдаў, пана — Э. Піно, Мацея — Г. Мартынаў. У маладых артыстаў радуе не толькі добрая танцавальная тэхніка, але і яркасць сцэнічных вобразаў.

Задавальняе гледачоў і добры ансамбль астатніх выканаўцаў: Рузі — Б. Карпілавай, пані Ядвігі — І. Даронінай, пані Мерзавецкай — Н. Малахавай, пакаёўкі—Я. Зюванавай, танцмайстра — В. Ахрэма і г. д. Выдатна танцуюць на балю танга А. Карзянкова і С. Дрэчын. З сапраўдным пранікненнем у дух эпохі аформілі дэкаратыўна спектакль мастакі І. Пешкур і Н. Пульваноўскі.

**І. НІСНЕВІЧ.**

## АМАТАРАМ МУЗЫКІ

Трохгадовы музычны ўніверсітэт арганізаваны камітэтам камсамола Беларускага політэхнічнага інстытута. Слухачы яго знаёмяцца з творчасцю рускіх і замежных класікаў, вывучаюць музыку народаў СССР. Вялікая ўвага аддаецца папулярызацыі сімфанічнай музыкі, найбольш цяжкай для ўспрыняцця непадрыхтаванымі слухачамі.

Студэнты з цікавасцю аднесліся да гэтай простай формы развіцця сваёй музычнай культуры. Трэба адзначыць, што арганізатары ўніверсітэта дабіліся зусім невысокай платы за наведванне заняткаў. Абанемент для слухання 12 лекцый, якія суправаджаюцца вялікімі канцэртамі, каштуе ўсяго 18 рублёў.

**П. ЖУКАЎ.**

## СПЕКТАКЛЬ АБ ВЕРНАСЦІ, МУЖНАСЦІ І КАХАННІ

Ва ўсе часы народы свету выказвалі свае імкненні, мары, веру ў светлую будучыню ў казках, легендах, былінах. І ў кожнай краіне народ — вялікі аптыміст— у гэтых казках і легендах апавядаў аб тым, як праўда аказвалася мацней за крыўду, як светлыя сілы перамагалі цёмныя, як дабро перасільвала зло. І колькі б народныя творцы казак ні ўносілі ў сюжэт фантастыкі, рэалістычная накіраванасць, ідэйная сутнасць казак ніколі не гублялася з-за спецыфічнасці формы. Вось чаму зусім апраўдана творчая задума беларускіх паэтаў А. Вольскага і П. Макаля напісаць п'есу-казку «За лясамі дрымучымі», дзе яны ўвасобілі вобразы далёкага мінулага нашага народа, паказалі мужнасць яго сыноў у барацьбе супраць ворагаў, вернасць дадзенаму слову, сілу кахання.

Паэтычная казка маладых аўтараў знайшла рамантычна-ўзнёслае вырашэнне ў паказаным у дні святкавання 40-годдзя БССР спектаклі Беларускага дзяржаўнага тэатра юнага гледача. Натхнёнасці спектакля «За лясамі дрымучымі» спрыяе і вершаваная форма тэксту п'есы, і яркая музыка маладога кампазітара Яўгена Глебава, які выступае ў пастаноўцы і як дырыжор, і цікавае рэжысёрскае вырашэнне Л. Мазалеўскай, і выдатна зробленае мастацкае афармленне І. Пешкура, і прывабнасць непасрэдных пачуццяў маладых выканаўцаў роляў, якім прышлося тут выступіць у якасці артыстаў-спевакоў, што намнога ўскладніла іх сцэнічную нагрузку.

Гаворачы аб выканаўцах роляў у спектаклі, трэба сказаць: нягледзячы на тое, што не ўсе яны атрымалі аднолькава ўдала выпісаныя рысы сваіх герояў, у п'есе кожны з артыстаў знайшоў пэўны малюнак для вобраза, і агульны акцёрскі ансамбль у пастаноўцы задавальняе цалкам. Сярод лепшых акцёрскіх удач у спектаклі трэба адзначыць В. Говар-Бандарэнку ў ролі Гусляра, В. Лебедзева ў ролі злога чараўніка-прыгнятальніка Смока, П. Ротар — названую маці асілка Жадана. Усе гэтыя выканаўцы вельмі паслядоўныя і лагічныя ў сваіх сцэнічных паводзінах. Абаяльны ў ролі Жадана студэнт-выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Э. Шаміёнка. Гэта першая яго роля на сцэне прафесійнага тэатра, і ёсць усе падставы лічыць, што, калі ён яшчэ добра авалодае вакальным бокам сваёй ролі, Шаміёнка — Жадан узбагаціць узровень спектакля.

Пры ўсёй яе прывабнасці, дзявочай непасрэднасці Га-

**Эма Зайцава ў ролі Бяглянкі.**



лінцы — Л. Цімафеевай таксама нестае добрага валодання вакальным бокам ролі.

Каларытныя вобразы верных сяброў Жадана стварылі А. Беляеў (Алесь) і П. Дубашынскі (Адась), прыемная сваёй непасрэднасцю С. Мацюкевіч (Параска), добрыя галасавыя магчымасці ў Э. Зайцавай (Бяглянка), шмат прыемнага хочацца сказаць пра выкананне ролі Смокавага прыхвасня артыстам К. Пельтцэрам.

**І. НІГІН.**

## ПРЭМ'ЕРЫ Ў БРЭСЦЕ

Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі паспяхова ажыццявіў пастаноўку некалькіх новых спектакляў. Да XXI з'езда КПСС пастаўлена п'еса М. Зараднага «Вясёлка» на сучасную калгасную тэматыку. Аб прыгодах разведчыкаў расказвае спектакль «Небяспечная прафесія». З цікавасцю аднесліся гледачы да пастаноўкі «Джэні Герхардт» (інсцэніроўка рамана Т. Драйзера).

На здымку: **сцэна з 3-га акта «Джэні Герхардт». Ролі выконваюць: Джэні Герхардт — арт. Н. Камінская, Веста — Таня Волкава і Лестэр Кейн — заслужаны артыст БССР Б. Уксусаў.**

**Б. ЛОЕЎ.**



**Кампазітар М. І. Аладаў і малады паэт Ніл Гілевіч.**

## ТВОРЧАЯ САДРУЖНАСЦЬ

Добры плён дала творчая садружнасць старэйшага беларускага кампазітара Мікалая Ільіча Аладава і маладога паэта Ніла Гілевіча. Яны выйшлі пераможцамі рэспубліканскага конкурсу на лепшую песню, які праводзіўся Міністэрствам культуры БССР у гонар 40-годдзя Беларускай рэспублікі. Створаная імі песня *«Зорка»* атрымала высокую ацэнку журы конкурсу. Ёй прысуджана другая прэмія (на першую прэмію прэтэндэнтаў не аказалася).

«Зорка» — лірычная песня для сольнага выканання. Мелодыя яе простая, выразная, задушэўная. Песню ўключылі ў рэпертуар многія мастацкія калектывы.

Творчая садружнасць кампазітара і паэта працягваецца. Зараз М. І. Аладаў працуе над новымі песнямі на тэксты Ніла Гілевіча.

**Хв. ГАЛУШКА.**

## СТО КАНЦЭРТАЎ

Па глухой прасёлкавай дарозе трактар цягне грузавую машыну. На платформе грузавіка ўстаноўлена самаробная дашчаная будка. Але гэта не *перасоўная майстэрня* тэхнічнай дапамогі. На сценах будкі — яркія палотнішчы з лозунгамі і афішы, якія абвяшчаюць аб канцэртах. Гэта ў далёкі калгас прабіраецца агітбрыгада Віцебскага гарадскога Дома культуры.

Слесар паравознага дэпо Леанід Барадулька, студэнты педагагічнага інстытута Анатоль Арэшчанка і Міхаіл Неменаў, работніца





хлебазавода Франя Крылова і іх таварышы па калектыву мастацкай самадзейнасці, якім кіруе нястомны аматар сцэны Ванда Аляксандраўна Алейнікава, зрабілі за год больш ста выездаў у раёны вобласці. Ім даводзілася выступаць і ў такіх вёсках, дзе да гэтага ніколі не бывала ніякіх артыстычных брыгад.

Новы год самадзейныя артысты пачалі з вялікай паездкі з праграмай, прысвечанай XXI з'езду КПСС.

На здымку: **выступленне віцяблян у клубе саўгаса «Полата» Полацкага раёна.**

**С. ШНЫК.**

## ПУНКТЫ АБМЕНУ КНІГ

Неяк на агітпункце ў сталярным цэху Бабруйскага лесакамбіната зайшла размова аб тым, што не дрэнна было б прадоўжыць яго работу і пасля выбараў. Агітатары — моладзь з калектыву цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М. Горкага—задумаліся над гэтай прапановай. Ім і самім не хацелася расставацца з новымі сябрамі, рабочымі цэха. Маладыя столяры аказаліся вялікімі аматарамі кніг. Так узнікла думка аб адкрыцці ў цэху пункта абмену кніг.

Цяпер бібліятэка імя Горкага адкрыла таксама пункты ўжо на сямі прадпрыемствах. Яны працуюць паводле дакладнага распарадку некалькі разоў на тыдні і абслугоўваюцца работнікамі абанемента.

Многія з чытачоў, якія карыстаюцца кнігамі праз абменныя пункты, сумяшчаюць работу з вучобай. Ім асабліва дарагі час. Заказы на кнігі ад гэтых чытачоў бібліятэкары выконваюць з асаблівай стараннасцю. Рабочы наборнага цэха друкарні імя Непагодзіна Іван Мельнікаў, сакратар камсамольскай арганізацыі рамонтна-механічнага завода Аляксандр Пашук і іншыя студэнты-завочнікі, якія бяруць кнігі на абменных пунктах, з вялікай удзячнасцю гавораць аб каштоўнай ініцыятыве бібліятэкі.

У мінулым годзе праз абменныя пункты было выдадзена каля 2 000 кніг.

**А. БЯРЭЗІН.**

## ЭНТУЗІЯСТКА

У Каці Рабок — асаблівы характар. Калі ўжо надумае што-небудзь, не адступіцца, пакуль не зробіць. Яна стала працаваць у калгаснай бібліятэцы і рашыла наладзіць там узорны парадак. Свае думкі выказала старшыні калгаса Васілю Емельянавічу Петручэнку.

— Ну што ж, бярыся, — падтрымаў яе старшыня.

Каця дамаглася, што ў бібліятэку прывезлі адразу некалькі сот кніг, выдзелілі памяшканне.

І ў бібліятэку пайшлі людзі. Каця ўмее выбраць кожнаму калгасніку ці вучню кнігу па яго густу, параіць, што чытаць.

Цяпер у бібліятэцы больш за трыста чытачоў. І пажылыя калгаснікі, як, напрыклад, Мікалай Бінецкі, і дзеці, як вучаніца Марыя Шапец...

На ўсё жыццё звязала свой лёс з кнігамі камсамолка Каця Рабок, дзяўчына з калгаса імя Дзяржынскага Рэчыцкага раёна.

**Выдача кніг на абменным пункце рамонтна-механічнага завода ў Бабруйску.**



Яна і сама вучыцца: пасля задзесяцігодкі паступіла завочна ў бібліятэчны тэхнікум.

Да позняй ночы свецяцца вокны калгаснай бібліятэкі, і на яе прывабны агеньчык ідуць вясковыя людзі, ведаючы, што там іх чакае цікавая размова пра кнігу і новая захапляючая сустрэча з ёю.

**В. ХОРСУН.**

## ВЫСТАЎКА Ў ЦЭХУ

У зборачным цэху Мінскага радыёзавода працуе многа дзяўчат. Дома большасць з іх захапляецца вышываннем. Гатовыя вышыўкі дзяўчаты часта прыносяць на завод, каб паказаць іх сяброўкам, падзяліцца радасцю ўдачы, параіцца аб выбары новай тэмы. Гэта не прайшло міма ўвагі актывістаў камсамольскай арганізацыі. Яны прапанавалі правесці агульную вялікую гутарку аб мастацкай вышыўцы. Вырашылі пачаць з выстаўкі.

Знайшлі свабодны куток, абсталявалі самаробны стэнд, абвясцілі аб тым, што лепшыя работы атрымаюць прэміі. Спачатку дзяўчаты саромеліся, але не прайшло і тыдня, як стэнд запоўніўся. Для ўсеагульнага абмеркавання было выстаўлена 26 лепшых вышывак. Пераможцам аднадушна была прызнана нарміроўшчыца Валянціна Уласава. Яе пано «Коні на вадапоі» ўдастоена дыплома першай ступені, які выдадзены ад імя цэхавага камітэта прафсаюза і камсамольскай арганізацыі. Дыпломамі былі ўзнагароджаны таксама яшчэ пяць дзяўчат.

**А. ГАНЬКОЎ.**

На здымку: **прызёр выстаўкі В. Уласава.**



## НА РАЦЭ ДЗВІНАСЕ

На поўначы Мінскай вобласці, сярод густых забалочаных лясоў, набірае свае сілы рэчка Дзвінаса. Неглыбокая яна і, з выгляду, не плыткая. Вось чаму доўгі час заставалася Дзвінаса без асаблівай справы. І толькі пасля ўтварэння тут буйных калгасаў, калі з'явілася вострая патрэба ў энергіі, нарадзілася ў людзей смелая думка: а што, калі пабудаваць тут плаціну, зрабіць штучнае возера?.. Выклікалі спецыялістаў. Зрабілі першыя разлікі. Аказалася, што пабудаваць на Дзвінасе ГЭС можна. Але каштаваць яна будзе каля двух мільёнаў рублёў. Некалькі год назад пра такія выдаткі тутэйшыя калгасы і думаць не маглі. А цяпер адразу вырашылі: будзем будаваць усе разам!

Так у калгасе імя Сталіна Плешчаніцкага раёна паявілася ўласная гідраэлектрастанцыя. Электрычнае святло гарыць ва ўсіх дамах дзевяці вёсак калгаса, на фермах. Асветлены і вясковыя вуліцы. Запрацавалі першыя матооры — на пілараме, на млыне, ля зерneaчышчальнай машыны, на жывёлагадоўчых фермах. На Дзвінасе атрымаўся вадаём плошчаю 9 квадратных кіламетраў. Гэта дае магчымасць развіць новыя галіны гаспадаркі: будаваць пры рэчцы птушнікі, заняцца развядзеннем рыбы. Маленькая Дзвінаса шчодра вяртае гаспадарлівым людзям іх выдаткі.



На здымку: **у турбіннай зале калгаснай ГЭС; дзяжурыць старшы электраманцёр Мікалай Атрашкевіч.**

**Б. НОВІК.**

# *Так яны жывуць*

## ЗНОЎ ПРЫВІД!

Падпалкоўнік Гартэр з англійскага горада Петэрсфілда мае вялікі дом. Гэты дом прыносіць яму немалы даход ад здачы кватэр у наём. Дзяржава атрымлівае ад падпалкоўніка адпаведны падаходны падатак. Але вось Гартэру здалося, што сума падатку не адпавядае прыходу. І ён падае ў суд. Суд выносіць рашэнне — знізіць падатак на дзесяць працэнтаў, таму што, як дакладна сказана ў пастанове суда, «даказана, што ў доме, які належыць Гартэру, кожную ноч з'яўляецца прывід і палохае жыхароў. У сувязі з гэтым частка кватэр свабодная, што скарачае даход гаспадара».

Такім чынам, існаванне прывідаў з гэтага часу даказана судом!

## ПАВОДЗІНЫ ГУБЕРНАТАРА

Губернатар амерыканскага штата Мэн Мускі зноў вылучыў сваю кандыдатуру пры выбарах на гэтую пасаду. Журналісты звярнуліся да яго з пытаннем аб метадах, якімі Мускі праводзіць сваю перадвыбарчую кампанію. Адказ быў вельмі кароткі:

— Я вырашыў,—сказаў Мускі,— як мага больш падаваць руку выбаршчыкам. За апошнія чатыры тыдні я паціснуў рукі трыццаці тысячам чалавек!

З гэтай прычыны каментатары аднадушна заявілі, што губернатар цягне сваіх выбаршчыкаў да урнаў літаральна за руку.

## З ВЯЛІКІМ ШУМАМ

На вуліцах шэрагу амерыканскіх гарадоў, у суправаджэнні дзесяці духавых аркестраў, прадэфілíравалі шматтысячныя натоўпы бурна настроеных людзей. У гэты ж час у паветры пралятала рэактыўныя самалёты. З якой прычыны гэта адбывалася? Аказваецца, так, з вялікім шумам, праводзіўся «Тыдзень па барацьбе з шумам». Калі, нарэшце, «барацьба» была закончана і вуліцы гарадоў напоўніліся звычайнымі гукамі, насельніцтва іх радасна ўздыхнула:

— Нарэшце, настала цішыня!

## ПАТРЭБА Ў ПАСТАРАХ

Для таго, каб уявіць сабе ўсю цяжкасць становішча, у якім знаходзяцца заходнегерманскія царкоўнікі, дастаткова прачытаць наступную аб'яву з гамбургскай газеты «Зонтагблат»:

«Патрэбны веруючы свяшчэннік»...

## ЛЁС ДЫКТАРА

Дыктар чыкагскага тэлебачання Кэці Макдугал была звольнена з работы. Прычына вельмі важная, — яна, ведучы начныя перадачы, часта пазяхала. Кэці Макдугал была папулярным дыктарам, і вестка аб яе звальненні хутка абляцела шырокія колы насельніцтва. Гэта неадкладна выкарыстала адна гандлёвая фірма, якая выпускала хімічныя прадукты. Фірма прапанавала міс Макдугал работу па рэкламаванню... новага снатворнага сродку.

## ПРЫЗНАННІ БАКСЁРА

Баксёр Роджэр де ла Перт у інтэрв'ю для парыжскай газеты «Фігаро» сказаў:

— Самае небяспечнае, гэта не схватка на рынгу, а сустрэча пасля паражэння з разлютаванымі жанчынамі-«балельшчыцамі», якія сядзяць звычайна ў першых радах. Мяне ніко-

лі ніхто так не біў, як гэтыя глядачкі, якія такім чынам выказваюць сваё нездавальненне.

## ЗАБЯСПЕЧАНЫЯ КОШКІ

У гадавым бюджэце заходнегерманскага горада Карлсруэ з'явіўся новы артыкул выдаткаў. Сума яго невялікая: усяго пяцьсот марак. Калі рэпарцёр з мясцовай газеты звярнуўся да ўлады з просьбай растлумачыць прызначэнне гэтай сумы, ён атрымаў такі адказ:

— Гэтыя грошы пойдуць на ўтрыманне дзесяці кошак, якія павінны лавіць мышэй у памяшканні ратушы.

## ПРАПАВЕДЗЬ ПАД ДЖАЗ

Французскі свяшчэннік Дзюваль стаў прыкмячаць, што слухачоў на яго пропаведзях становіцца ўсё менш і менш. І ён, як чалавек аднолькава дасціпны і музычны, вырашыў надалей весці свае пасрэдніцкія гутаркі паміж «усявышнім» і веруючымі пад акампанемент гітары. Справы яго пачалі папраўляцца і нават знайшлі водгук па той бок Ла Манша. Яго калега, пастар адной з лонданскіх цэркваў Джэфры Бюмонт, стаў праводзіць багаслужэнні пад джаз. Помнячы, што паводле старой біблейскай формулы, бог адзіны ў трох асобах, Джэфры Бюмонт таксама ўзяў на сябе адразу тры абавязкі: прапаведніка, спевака і піяніста.

## НАВІНЫ З ВАТЫКАНА

У цэнтры ваяўнічага каталіцызму, Ватыкане, афіцыйна абвешчана, што «святая Клара з Асізі» з'ўляецца апякуншай тэлебачання. Гэта значыць, што пры ўсіх непрыемнасцях работнікі тэлебачання павінны шукаць перад богам абароны праз пасрэдніцтва «святой Клары». У дэкрэце аб гэтым «прызначэнні» гаворыцца, што ў 1252 годзе Клара, ляжачы хворая ў пасцелі, бачыла з акна свайго манастыра цырымонію царкоўнага свята, якое адбывалася далёка адтуль, у манастыры святога Францыска.

## ЗЛАЧЫНСТВЫ АКЦЁРА

Амерыканскі кінаакцёр Дан Дзюры, падводзячы вынікі сваёй дзейнасці на экране, прыйшоў да вельмі невясёлых лічбаў:

— Уявіце, — сказаў ён сябрам, — я па-зверску скалечыў ужо больш ста чалавек і 37 жанчын забіў самымі рознымі спосабамі... Калі не лічыць гэтых злачынстваў, я чалавек з выключна мяккім характарам. Спытайце ў жонкі.

## З ЗЯМЛІ НА НЕБА

У Філадэльфіі (ЗША) раптам з'явілася шмат афіш, перад якімі спыняліся нават самыя заклапочаныя прахожыя. На самай справе, прапанова была спакуслівай:

«Неверагодна, але факт! З Зямлі на неба амаль за 100 долараў!»

Гэта было надрукавана вялікімі літарамі. А ніжэй паведамлялася з усімі падрабязнасцямі аб паслугах адной пахавальнай фірмы.

## ХАЧУ ЗА КРАТЫ!

Газета «Нэйе Рэйн цэйтунг» расказвае, што дваццацісямігадовы Ганс Труп з Франкфурта-на-Майне (ФРГ) добраахвотна ўзяўся адседзець за свайго сябра, прыгаворанага да 14 месяцаў турмы.

— Я хачу хоць на некаторы час пазбавіцца клопату па здабычы хлеба надзённага, — заявіў уладам бядак Ганс.

# СМЯЮЦЦА НАШЫ СЯБРЫ

**Па старонках часопісаў ГДР «Нэйе Берлінер Ілюстрыртэ» і «Цайт Ім Більд»**

Адзін юнак паслаў у рэдакцыю верш пад назвай «Чаму я жыву?». У адказе рэдакцыі пісалася: «Мы шкадуем, што не можам выкарыстаць Ваш твор, але на Ваша пытанне мы адказваем: «Вы жывяце таму, што паслалі Ваш верш па пошце, а не прынеслі яго асабіста ў рэдакцыю».

У невялікім перасоўным цырку паказвалі нумар з удзелам старога змучанага ільва. Пасля прадстаўлення адзін з гледачоў спытаўся ў дырэктара:

— І вы не баіцеся, што леў з'есць вас?

— Ніколькі. Калі справы пойдуць так, як зараз, дык хутка я з'ем яго, — адказаў дырэктар.

— Цяпер я ведаю, калі чалавек становіцца дарослым, — сказаў хлопчык, глянуўшы на вялікі бацькаў жывот.

— Ну і калі ж? — спытаў бацька.

— Тады, калі ён ужо не расце зверху і знізу, а толькі ў сярэдзіне.

— Калі, нарэшце, ад мяне адчэпяцца гэтыя адвакаты! — сказала дама, апранутая ў жалобнае адзенне. — Яны так надакучылі мне размовамі пра спадчыну, пакінутую мужам, што мне часам хочацца, каб ён не паміраў.

Прагульваюцца двое мужчын.

— Уявіце сабе, — гаворыць адзін, — маёй жонцы сёння ноччу прыснілася, што я мільянер.

— Ваша шчасце, што ёй гэта толькі прыснілася, — адказаў яму спадарожнік. — А мая жонка ўяўляе гэта кожны дзень, робячы сабе пакупкі.

У тэатры ў апошнія хвіліны опера «Лаэнгрын» была заменена операй «Кармэн». Пасля першага акта адзін глядач спытаўся ў суседа:

— Прабачце, калі ласка, ці не скажаце вы, калі мы ўбачым лебедзя?

— Што вы, яго ж сёння не будзе: ставяць жа «Кармэн».

— Як «Кармэн»? Ну, тады я іду дахаты — гэтую оперу я добра ведаю.

Сялянка гоніць па тратуары карову на базар. Яе даганяе паліцэйскі.

— Хіба вы не ведаеце, што тратуар толькі для пешаходаў?

Жанчына:

— А хіба мая карова едзе на калёсах?

Жонка аднаго мюнхенскага прамыслоўца вырашыла зрабіць у сябе літаратурны салон. На адным з вечароў быў і Томас Ман. Дадому ён вяртаўся разам са сваім сябрам. Той спытаў у Мана, як яму спадабаўся вечар.

Томас Ман адказаў:

— Дама хоча зрабіць з свайго дома салон, але пакуль яна зрабіла толькі рэстаран.

Старонкі гісторыі

# ПЕРШЫЯ КРОКІ ВЕЛАСПОРТУ Ў БЕЛАРУСІ

Доўгі час вынаходцам веласіпеда лічылі француза Мішо. У 1869 годзе ён зрабіў веласіпед з дыяметрам пярэдняга кола ў 160 сантыметраў, задняга—40 сантыметраў. Педалі без перадачы жорстка прымацоўваліся да пярэдняй восі, а сядло знаходзілася над вялікім колам. Нават друк таго часу лічыў, што гэты веласіпед не толькі нязручны, але і небяспечны для жыцця: на кожным узгорку ці крутым павароце веласіпедыст мог перакінуцца ўніз галавою. Апрача таго, веласіпед Мішо быў цяжкі, непрыгодны для язды на вялікія адлегласці.

У сапраўднасці радзімай веласіпеда была Расія. У 1800 годзе прыгонны майстар Артамонаў з сяла Верхатур'е Пермскай губерні зрабіў двухколавы веласіпед і назваў яго «самакатам». «Самакат» Артамонава, у адрозненне ад веласіпеда Мішо, меў металічную раму, быў дастаткова ўстойлівы і трывалы, прыгодны для вялікіх адлегласцей. Улетку 1801 года Артамонаў на сваім веласіпедзе зрабіў бяспрыкладны ў тыя часы велапрабег з Верхатур'я ў Маскву, праехаўшы 2 000 кіламетраў.

Першыя веласіпеды (у тым ліку і трохколавыя крыперы, якія мелі ў сярэдзіне XIX стагоддзя шырокае распаўсюджанне) наогул былі без якіх-небудзь амартызацыйных прыстасаванняў. Замест пакрышкі з камерай на вобадзе кола прымацоўвалася па некалькі дзесяткаў металічных шыпоў для лепшага шчаплення з грунтам. Затое пры яздзе па бруку трэсла так, што цяжка было вытрымаць. Потым сядло пачалі рабіць з вельмі пругкімі спружынамі, а абады колаў абцягваць пяньковым канатам, які з часам быў заменены гумавымі шынамі з некалькімі поласцямі ўнутры для большай амартызацыі. Потым шыны пачалі напаўняць вадою, і толькі ў канцы XIX стагоддзя яны набылі сучасны выгляд. Так спачатку небяспечны для жыцця веласіпед зрабіўся зручным сродкам перамяшчэння і цікавейшым відам спорту.

У Беларусі веласіпедам пачалі карыстацца ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Вось як пра гэта расказвае на старонках часопіса «Самакат» за 1894 год энтузіяст веласпорту віцяблянін К. Шалепін:

«Першы веласіпед з'явіўся ў Віцебску ў канцы семідзесятых гадоў. Гэта быў няўклюдны трохколавы экіпаж, які важыў больш васьмідзесяці фунтаў. Натуральна, што такая машына прымушала веласіпедыста напружваць апошнія сілы».

Віцебскае шасэ. Спаборніцтвы першых веласіпедыстаў.





У 1890 годзе ў Віцебску было ўжо 12 веласіпедаў, а да 1894 года колькасць іх узрасла да 70. Цікава, што веласіпедам у той час шырока карысталіся ў якасці «лячэбнага» сродка. Пра гэта сведчаць многія карэспандэнцыі ў часопісах «Самакат» і «Веласіпед». Так, аўтар з Віцебска паведамляе, што ў сезоне 1893 года «побач са шматлікімі выпадкамі лячэння самакатнай яздой задышкі, застоя крыві і іншых хвароб, займаюць у нас выдатнае месца два новыя выпадкі вылечвання ад страўнікавага катару і галаўнога болю».

Параўнаўча невялікае карыстанне веласіпедам у іншых гарадах Беларусі (у 1894 г. у Магілёве — 1 веласіпед, у 1895 г. у Гродна — 2, у Брэсце — 4 і г. д.) можна вытлумачыць вялікім коштам машыны (150—160 рублёў пры сярэднім заробку дробнага чыноўніка ў 15—20 рублёў у месяц). Энтузіясты ж веласпорту з народа карысталіся пракатам веласіпедаў, які таксама быў вельмі дарагі.

1894 год знамянальны для Беларусі, як пачатак «дамскай язды» на веласіпедзе. На фатаграфіі мы бачым М. А. Серафімовіч— першую жанчыну ў Беларусі, якая села на веласіпед. Яна ж была і першай чэмпіёнкай Віцебска па «ціхай яздзе». Не здзіўляйцеся!.. У канцы XIX стагоддзя шырокае распаўсюджанне мелі «гонкі» па ціхай яздзе. Пераможцам быў той, хто за большы час праязджаў адпаведную дыстанцыю. Упершыню такія спаборніцтвы ў Беларусі былі ў Віцебску ў 1894 годзе ў садзе «Ялагі». Тады ж быў разыграны і залаты прыз *«Першага ездака»* Віцебска. Гонкі былі на дыстанцыі *7,5 вярсты і складаліся з 25 кругоў па непрыстасаваных алеях парку.* Пераможца быў нейкі Пржэсецкі, *які прайшоў гэтую адлегласць за 19 мінут 59 секунд.* Рэдакцыя пецярбургскага часопіса «Веласіпедыст» у *свой час так пісала пра гэты* вынік: «*7,5 вярсты ў 20 мінут, або 22,5 вярсты ў гадзіну, пры прамавугольных заваротах, якіх было 15 на вярсту, на нятрэкавым грунце, без касцюма (удзельнікі выступалі ў крухмальных сарочках, з гальштукамі), без трэніроўкі і г. д., — гэта хуткасць абяцаючая*».

У далейшым веласіпедысты адмовіліся ад саду «Ялагі» і наладжвалі спаборніцтвы на шашы Пецярбург — Кіеў. На другім фота мы бачым адзін з момантаў такой гонкі.

Сталі ўзнікаць аддзяленні пецярбургскага таварыства веласіпедыстаў - турыстаў, але з-за высокіх членскіх узносаў доступ у іх быў вельмі абмежаваны. Асноўнай дзейнасцю гэтых таварыстваў была арганізацыя турысцкіх вандровак, напрыклад, па маршруту Брэст — Кобрын — Верхалессе — Вялікая Рыта — Брэст. З вялікіх турыстычных маршрутаў можна адзначыць паездку віцебскіх веласіпедыстаў у 1896 годзе на Усерасійскую мастацка-прамысловую выстаўку ў Ніжні Ноўгарад. Калі ўлічыць стан шляхоў у той час і якасць веласіпедаў, дык трэба сказаць, што піянеры веласіпеднага спорту ў Беларусі вызначаліся вялікай вытрымкай, спартыўным майстэрствам і настойлівасцю. Гаворачы пра першых беларускіх веласіпедыстаў, нельга не сказаць пра тое, што з іх выйшаў вядомы велагоншчык Міхаіл Дзевачка — шматразовы пераможца міжнародных спаборніцтваў.



М. А. Серафімовіч.

**М. МАГІЛЬНЫ.**

## ЗМЕСТ

### Гары, камсамольскі аганёк!



### Давайце пагаворым...



### На антырэлігійныя тэмы



### Бібліяграфія



Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак **«У дапамогу мастацкай самадзейнасці».**





**Група афіцэраў Н-скай часці Беларускай Ваеннай Акругі арганізавала самадзейную кінастудыю пры гарнізонным доме афіцэраў. Паспяховая работа самадзейнай студыі дала ёй права ўдзельнічаць у першым Усесаюзным конкурсе кінааматараў.**

На здымку: **студыйцы за работай.**

Фота А. Дзітлава.